# слоўнік свабоды

## XX стагодзьдзе ў беларускай мове

Слова на дзень
для памяці і для роздуму

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

# Зьмест

# Радыё «Скарына»

Нельга быць беларусам, жыць у Празе і не выдаваць кніг.

Беларуская служба — адзіная з трох дзясяткаў рэдакцыяў Радыё Свабода, што мае сваю бібліятэку.

Першая кніга «Бібліятэкі Свабоды» пабачыла сьвет у 2002 годзе. «**Верш на Свабоду**» склалі 365 твораў. Напісаныя слухачамі радыё, яны гучалі ў этэры штодня ўвесь 2001 год. Сярод аўтараў былі нобэлеўскія ляўрэаты і паэты-выгнаньнікі, самаму маладому было 10 гадоў, найстарэйшаму — 92. Валянціна Аксак, якая апекавалася паэтамі і праграмай, рыхтавала гэтую кнігу разам з Аляксандрай Макавік. Затым да іх далучылася незабыўная Вера Рыч зь Лёндану, і гэты збор выйшаў у бліскучым ангельскім перакладзе. Камэртон «Бібліятэкі».

Пасьля зьявіліся новыя арыгінальныя выданьні, якія грунтаваліся на журналісцкай працы, на праграмах, падрыхтаваных аўтарамі для радыё.

«**Дарога праз Курапаты**» — гісторыя безагляднай абароны месца масавых пахаваньняў ахвяраў камунізму падчас будаўніцтва Менскай кальцавой дарогі. Унікальны ў гісторыі журналістыкі дакумэнт штодзённага рэпартажу з аднаго месца на працягу васьмі месяцаў. Больш за дзьвесьце разоў выходзіла ў этэр з Курапатаў Ганна Соўсь. Звычайныя героі.

«**Быкаў на Свабодзе**» — двума выданьнямі выйшла гэтая калекцыя інтэрвію і выступаў

беларускага клясыка на Радыё Свабода ў 1991—2003 гадах. Новае выданьне, якое рыхтаваў Сяргей Навумчык, было дапоўненае невядомымі раней аўтарскімі тэкстамі, інтэрвію, лістамі, малюнкамі, фота і ўспамінамі. Брама скарбаў.

«**Дуліна ад Барадуліна**» — кнігу склалі показкі, эпіграмы, міні-оды «Свабодзе» ды іншыя бессаромныя жэсты самага вясёлага беларускага паэта, у тым ліку эсэ «Як беларусы сэксам займаюцца». Бо праўды не заглушыш.

«**Прыгоды АРА ў Беларусі**» — авантурная гісторыя самай забытай у XX стагодзьдзі акцыі амэрыканскай гуманітарнай дапамогі ў 1920—23 гадах. (Я ня мог не напісаць яе пасьля таго, як знайшоў сваё прозьвішча сярод атрымальнікаў дапамогі. Шэсьць разоў!)

«**Вострая Брама**» — легендарная перадача Сяргея Дубаўца зь Вільні штотыдзень гадамі стварала амаль немагчымае — фэерыю беларускага культурнага кантэксту на мяжы стагодзьдзяў. Інтэлектуальны фэст.

«**Беларуская Атлянтыда**» — кніга, у якой суседзяць Бог, сэкс, магія, сны, гарэлка, інтрыгі, бойкі, улада — жыцьцё і сьмерць па-беларуску і па-эўрапейску. Пасьля першага пабачыў сьвет другі том «Атлянтыды», прысьвечаны мітам і брэндам калянізаванай нацыі. Так, як Вячаслаў Ракіцкі і яго госьці, пра айчынную гісторыю яшчэ не гаварыў ніхто. Не адарвацца.

«**Плошча. 19.03—25.03.2006**» — хроніка масавых пратэстаў сакавіка 2006 году, калі ў адказ на абвешчаныя вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у цэнтры Менску паўстаў намётавы лягер. Кругласуткавыя рэпартажы, каляровыя фота, званкі на «Свабоду» — нацыянальная акустыка менскага цуду.

«**Альбом сямейны**» — страшныя, сьмешныя, забытыя словы савецкага часу ад палёту Гагарына да выбуху ў Чарнобылі згадвае Вінцэсь Мудроў. Плюс экзістэнцыйная рэакцыя слухачоў. Іскры сыплюцца.

«**Імёны Свабоды**» — 261 партрэт герояў беларускай свабоды. Кніга Ўладзімера Арлова можа служыць дапаможнікам для напісаньня раманаў, здыманьня фільмаў, абароны дысэртацыяў, зьмены назваў плошчаў ды іншага. Таксама выйшаў дапоўнены аўдыёварыянт на дыску. Заслухаецеся.

«**Дарога**» Івонкі Сурвілы пачалася ў Стоўпцах і вяла праз Капэнгаген, Парыж, Мадрыд, Атаву да Беларусі — ад «члена сям'і ворага народу» да старшыні Рады БНР. Прыгожая кніга.

«**Мой шыбалет**» дэпутата незалежнасьці і першага амбасадара Беларусі ў Нямеччыне Пётры Садоўскага стаў першымі беларускімі ўспамінамі пра шлях ад Фройда да Майсея. Філялягічны вырай.

«**Адзін дзень палітвязьня**» выходзіў у двух тамах — у першай кнізе партрэты беларускіх «палітычных» ад 1995 да 2009 году, у другой — ад 2009-га да 2012-га. Нельга забыць.

«**Акцэнты Свабоды**» — Юры Дракахруст абмяркоўваў з айчыннымі і замежнымі экспэртамі і палітыкамі парадоксы станаўленьня беларускай нацыі і дзяржаўнасьці, аўтарытарызм і змаганьне за дэмакратыю, геапалітыку і палітэканомію паміж Усходам і Захадам. Інтэлектуальная карыда.

«**Як? Азбука паводзінаў**» — мадэлі сучаснай этыкі ад «А» да «Я» Сяргей Дубавец сабраў у практычную энцыкляпэдыю: як бараніцца і як галасаваць, як даравваць, як сябраваць, як хітраваць… І як любіць.

«**Вольная студыя**» Міхася Скоблы — сапраўды вольныя гутаркі пра свабоду думаць, ствараць і памятаць у сучаснай Беларусі, выбраныя старонкі дзесяцігадовага радыёцыклю аўтарскіх штотыднёвых дыялёгаў з выдатнымі сучасьнікамі. Вяршыня айсбэргу.

«**Птушкі пералётныя**» — успаміны вэтэрана «Свабоды» Галіны Руднік. Даваеннае дзяцінства ў Бабруйску, арышт энкавэдыстамі бацькоў, потым юнацтва ў нямецкіх лягерах уцекачоў, Амэрыка і ўсё астатняе жыцьцё — з Радыё Свабода. Першапачатковая назва кнігі «Дачка Сталіна выбрала мой голас» — аўтарка чытала ў этэры ўспаміны Сьвятланы Алілуевай, якая ўцякла на Захад. Іронія лёсу.

«**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча**» — «антынавуковае выданьне для дактароў-самавучак», як вызначыў жанр сваіх эсэ на тэму свабоды і цела Альгерд Бахарэвіч. Сам аўтар пакуль у добрым здароўі і рыхтуе другую кнігу для «Бібліятэкі». Сьмех і сьлёзы.

«**Сто адрасоў Свабоды**» — з глыбінь вякоў Вячаслаў Ракіцкі вярнуўся у 1980-я і зрабіў экскурсію па мясьцінах, дзе цягам апошніх трыццаці гадоў у Беларусі перамагала свабода. Ня можа ня ўразіць.

«**Сьлед матылька**» — гісторыя двух гадоў жыцьця ў беларускай сталіцы Лі Гарві Освальда — амэрыканскага грамадзяніна, які стаў забойцам прэзыдэнта ЗША Джона Кенэдзі. (Час ад часу абставіны падводзілі мяне да гэтай тэмы на працягу дваццаці апошніх гадоў. Нарэшце напісаў.)

«**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду**» — Сяргей Дубавец аднавіў гісторыю, бадай, самай шчасьлівай беларускай супольнасьці, якая насуперак усякай лёгіцы ўзьнікла ў дашчэнту

зрусіфікаваным Менску ў 1980-м і дала парасткі незалежнасьці краіны. Беларускі «Аватар».

«Бібліятэка Свабоды» мае і сваю мультымэдыйную залю. На кампакт-дысках выйшлі ўспаміны Васіля Быкава «**Доўгая дарога дадому**» — шэсьць гадзінаў незабыўнага аўтарскага чытаньня, аўдыёкніга «**Імёны Свабоды**» Ўладзімера Арлова, «**Начная чытанка**» — галасы ста маладых і сталых літаратараў. На дыску «**Сто бардаў Свабоды**» зьмясьцілася паўтысячы песень і гутарак з асамі гітарнай паэзіі, а Лявон Вольскі сьпяваў адразу двума галасамі ў сатырычным дуэце «**Саўка ды Грышка**». Хто мае вушы — пачуе.

Самая незвычайная перадача ў гісторыі Радыё Свабода — «**Галасы салідарнасьці**» — таксама заняла месца на палічцы «Бібліятэкі» — можна паслухаць, як былыя прэзыдэнты ЗША і Чэхіі Джордж Буш і Вацлаў Гавэл, усясьветна вядомыя дысыдэнты, філёзафы, парлямэнтары, міністры, пісьменьнікі, праваабаронцы чытаюць імёны людзей, якія пацярпелі за дэмакратыю ў Беларусі пасьля 19 сьнежня 2010 году. Усясьветнае рэха.

Кнігі «Свабоды» зьбіралі шматсоценныя аўдыторыі ў сталічных і несталічных залях, абмяркоўваліся ў інтымных гутарках на кватэрніках, атрымлівалі літаратурныя прэміі, іх чыталі ў турмах і перакладалі на замежныя мовы.

Вось толькі адзін з тысячаў лістоў у рэдакцыю, які прыйшоў ад юнай чытачкі з гарадзенскай вёскі:

«Паважаная «Свабода»!

Хачу атрымаць кнігу С. Дубаўца «Як?», каб зь яе дапамогай выхоўваць сваіх бацькоў і

асабліва — дзядоў. Яе тэксты з маіх вуснаў яны ўжо будуць слухаць напэўна!

Аўгуль Водарына».

Тры дзясяткі выданьняў «Свабоды» захоўваюцца ў бібліятэцы Кангрэсу ЗША, Чэскай нацыянальнай бібліятэцы, у бібліятэках Беларусі. Усе кнігі рассылаюцца слухачам на заказ, іх можна атрымаць на прэзэнтацыях, а калі каму не хапіла асобнікаў — яны даступныя на сайце svaboda.org. Часам чытачы раздрукоўвалі тэксты, пераплятані і такім чынам нараджаўся самвыдат эпохі інтэрнэту. А цяпер усе могуць загрузіць кнігі ў электронным фармаце на свае кампутары, чытальнікі ці мабільныя тэлефоны: гэта сьвята, якое заўсёды з вамі.

«Бібліятэка» — плён працы выдатных рэдактараў, карэктараў, друкароў і, вядома, кніжнага дызайнэра Генадзя Мацура, дзякуючы якому сэрыя мае непаўторнае аблічча. Выдавецкая дзейнасьць была б немагчымая без спрыяньня кіраўніцтва Радыё Свабода, дапамогі Нацыянальнага фонду падтрымкі дэмакратыі ЗША.

**«Слоўнік Свабоды»** — 35-я назва на нашай кніжнай палічцы, але яе можна лічыць і першым выданьнем: спэцыяльны выпуск часопісу «ARCHE» апярэдзіў «Бібліятэку» на год з паловай. Як сьведчылі рэдактары Андрэй Дынько і Валер Булгакаў, якія рыхтавалі выпуск, ён стаў вельмі папулярным. Той нумар часопісу выкарыстоўваўся на ўнівэрсытэцкіх занятках, пра яго пісалі ў дысэртацыях у Беларусі і за мяжой, і сёньня ён — бібліяграфічная рэдкасьць.

Да дзесяцігодзьдзя «Бібліятэкі» мы выпускаем «Слоўнік» асобнай кнігай; аўтары дапісалі па адным слове, якое падаецца ім істотным ужо ў XXI стагодзьдзі.

«Надвячоркам кожнага дня я ўключаю прымач і шукаю «Свабоду». Тое сталася звычкай і патрэбай душы», — так шчодра казаў некалі Васіль Быкаў. «Слоўнік Свабоды» выходзіць зь яго ўступным словам, напісаным у 2000 годзе.

...А тым, хто пытаецца, навошта радыё выдае кнігі, мы адказваем словамі Францыска Скарыны, якімі амаль 500 гадоў таму тут у Празе ён адкрываў свой легендарны першадрук:

«Бібліятэка Свабоды» выкладзеная беларускай службай «са слаўнага места Праскага Богу на славу і людзям паспалітым на добрае навучаньне».

Лепей ня скажаш.

*Аляксандар Лукашук*,
*бібліятэкар «Свабоды»*

# Сакральная мова свабоды*

Відаць па ўсім, яшчэ на зары свайго існаваньня чалавецтва пазнала магічную сілу слова. Слова стала магутным сродкам у спрадвечнай барацьбе дабра і зла, праўды і маны. Менавіта словам-заклікам, словам-камандай перамагалі ў войнах і рэвалюцыях, асабліва калі людзі яшчэ не навучыліся дыфэрэнцыяваць таемны сэнс словаў, разьбірацца ў іхных часам звыродлівых камбінацыях. Калі расейскія бальшавікі абрынулі на галовы падданых імпэрыі ўзрушлівыя словы-лёзунгі (фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам, мір — народам), дык тыя так іх і зразумелі — у іх празрыстым канкрэтным сэнсе. І фатальным чынам былі ашуканыя.

Ашуканства тое паўтаралася безьліч разоў, і процістаяць яму магло толькі праўдзівае слова.

З пачаткам халоднай вайны камуністычнае кіраўніцтва «ўмацавала» ўласнае слова татальнай хлусьнёй, да якой дадало жалеза дэспатыі, спарадзіўшы знакамітую жалезную заслону. Ды слова праўды праявіла дзівосную здольнасьць — яно рабілася няўлоўным і перасягала ўсялякія заслоны. Нарадзілася вялікая ідэя вольнага радыё, якая ў 1949 годзе набыла форму карпарацыі «Свабодная Эўропа». Менавіта радыё прычынілася да разбурэньня ўсялякіх муроў-заслонаў, у тым ліку і жалезных. А таксама самай удасканаленай

---

* Прадмова В. Быкава да выданьня «Слоўніка» ў часопісе «ARCHE» (7-2000).

за XX стагодзьдзе маны, якой зьяўляецца камуністычная ідэя.

Дасягнуць таго, мабыць, было няпроста, але дужа важна. Уся Ўсходняя Эўропа гібела ў вязьніцы атрутнага дурману, які пасьля перамогі над нямецкім нацызмам памацнеў шматкроць.

Разбураная вайной, распалавіненая Эўропа няшмат магла зрабіць, каб вызваліцца ад яго, затое шмат зрабіла Амэрыка. Штаты каторы раз засьведчылі перад чалавецтвам трывалую дэмакратычную прынцыповасьць, адданасьць ідэям свабоды. Эфэкт аказаўся вялікі, і злачынная мана рассыпалася. Не зважаючы на дасканалую сыстэму глушылак, на перасьлед за слуханьне, на тэрор да вольных перадатчыкаў і тамтэйшых журналістых, на шпіянаж у іх шэрагах.

Зьняволеныя народы прагнулі праўды, і тая праўда зь дзівоснай рэгулярнасьцю мкнула праз радыё «Свабода». Беларусы разам з астатнімі народамі Ўсходняй Эўропы будуць заўсёды ўдзячныя гэтаму радыё. Цэлыя пакаленьні слухачоў шэраг гадоў мелі адзіную крыніцу незалежнай інфармацыі, аб'ектыўных ведаў менавіта праз радыё «Свабода — Свабодная Эўропа».

Штодня ў пэўны час праз траскоцьце глушылак ішла інфармацыя пра шматлікія нягоды зьняволенага жыцьця, хроніка прыдушанай культуры, скрадзенай беларускай гісторыі. Голас Язэпа Барэйкі пераконваў беларусаў, што яны маюць годнае мінулае, Ларыса Верас штодня распавядала пра задушаныя ў Беларусі дэмакратычныя каштоўнасьці.

З пачаткам абвяшчэньня сурагатнай незалежнасьці рэспублікі праца беларускай службы радыё «Свабода» яшчэ больш актывізавалася, у яе рэдакцыю прыйшло новае пакаленьне таленавітых і самаадданых беларускіх журналістых. Не цураючыся традыцыйных палітычных і культуралягічных тэмаў, яны галоўным зацікаўленьнем зрабілі балючую праблему незалежнасьці Беларусі ды растаптаных у краіне правоў чалавека. І тое было правільна, бо няма сёньня для нас больш важных, лёсавызначальных каштоўнасьцяў, чым названыя каштоўнасьці чалавечага і грамадзкага існаваньня. Тое выразна прызнае сусьветная супольнасьць, краіны якой прыязна дапамагаюць радыёстанцыі ў ажыцьцяўленьні яе пачэснай місіі. Толькі аўтарытарныя рэжымы, сярод якіх і Беларусь, адмаўляюцца ад такога супрацоўніцтва, забараняюць рэтрансьляваць «Свабоду» на сваіх тэрыторыях.

Тым ня менш, як і раней, ролю «Свабоды» ў палітычным жыцьці Беларусі пераацаніць немагчыма, яе слухаюць у гарадох і вёсках, слухаюць рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя. Слухаюць беларусы і небеларусы — усе грамадзяне краіны.

«Адзіная радасьць для мяне — сустрэча з вамі на «Свабодзе», а таксама з «Нашай Нівай», — піша ў рэдакцыю слухачка Марыя Кіркевіч. Мабыць, да яе словаў маглі б далучыцца тысячы беларускіх слухачоў «Свабоды».

Так, значэньне «Свабоды» ў беларускім жыцьці і беларускай палітыцы велізарнае. Нялішне будзе нагадаць беларускую мову, укараненьне якой у беларускі побыт «Свабода» робіць штодзень практычна. У вуснах яе журналістых і асабліва журналістак яна набывае

надзвычай выкшталцонае гучаньне, што на тле сучаснага беларускага бязмоўя дае сакральную надзею: гэткая мова ня можа зьнікнуць, гэта было б злачынствам перад гісторыяй. Можна толькі парадавацца, што гэта разумеюць і слухачы.

«Даўно слухаю вашае радыё. Дзякуючы яму я палюбіў сваю мову, нашу радзіму і ўсіх людзей», — піша на «Свабоду» слухач Мікола Вештарт зь Менску.

Неацэнная заслуга беларускай «Свабоды» яшчэ і ў тым, што яна вярнула беларускай гісторыі шмат якія імёны яе найлепшых сыноў — палітыкаў, пісьменьнікаў, мастакоў, рэлігійных дзеячоў. І зрабіла гэта ў час, калі беларускія ўлады ўважалі іх адно за ворагаў народу, а некаторых, дарэчы, уважаюць за такіх дасюль. Яна ж дала сказаць пра сябе сумленнае слова беларускай эміграцыі, якую шмат год бальшавіцкі рэжым бэсьціў як здраднікаў і фашыстоўцаў, і раскрыла сапраўдныя абліччы катаў народу, тых, чыімі высілкамі ў Беларусі былі закапаныя дзясяткі Курапатаў.

У апошнія гады наша «Свабода» набыла значны досьвед у асьвятленьні складанага, часам заблытанага палітычнага жыцьця Беларусі, у дасьледаваньні яе культурнай спадчыны. Маладыя журналісты «Свабоды», якія нядаўна вырваліся з падцэнзурнай дыктатарскай прасторы, зазналі сапраўдны росквіт свайго таленту, прынесьлі на «Свабоду» нялёгкі, драматычны досьвед барацьбы за свабоду інфармацыі, супраць усёмагутнага ўціску спэцслужбаў.

Цікава і важна, што ўсё гэта робіцца здабыткам самых шырокіх масаў Беларусі, якія ўжо ня могуць сабе ўявіць жыцьця бяз вольнай

інфармацыі, якую нястомна штодзень нясе ім «Свабода».

«Свабода», «Свабодная Эўропа» даўно сталі надзейнымі апірышчамі сучаснай эўрапейскай дэмакратыі. Вядома, як высока ацаніў іх прэзыдэнт Эстоніі Ленарт Мэры, вылучыўшы на Нобэлеўскую прэмію.

Беларусы горача падтрымліваюць ягоную ініцыятыву і будуць шчыра віншаваць нашую «Свабоду», калі тая ініцыятыва спраўдзіцца. «Свабода» таго заслугоўвае.

*Васіль Быкаў,*
*Віпэрсдорф, Нямеччына*

# Слова Слова*

За пару тыдняў да сьмерці Алеся Адамовіча мы гаварылі зь ім пра словы. На месцы таталітарнай шклаваты, дзе слова глухла і мерла, ужо было разрэджанае паветра, і словы насіла ветрам, як апалую лістоту, цудоўную і бескарысную. Навошта ён піша цяпер?

— А навошта «Свабода» кожны дзень выходзіць у этэр?..

«Каб не забыцца хаця б пра некаторыя словы», — толькі і знайшлося ў адказ. Спадзяюся, дасьціпны аўтар «Вандэі» ацаніў бы ідэю «Слоўніка» і паўдзельнічаў у яго стварэньні. Восеньню 1998-га раптам адчулася, што стагодзьдзе на сконе. У Лёндане тэрмінова дабудоўвалі Палац тысячагодзьдзя, прадбачлівыя нью-ёркцы сьпешна рэзэрвавалі столікі ў рэстаранах на год наперад, хітрыя кампутарнікі дурылі галовы ўсяму сьвету страшнымі нулямі, якія быццам перакінуць чалавецтва ў 1900 год. Мы на «Свабодзе» вырашылі, што нішто агульналюдзкое нам не чужое, і пастанавілі зрабіць свой унёсак у агульную сумятню.

Тэрміналягічныя баталіі, спрэчкі з акадэмічнымі слоўнікамі і афіцыйнымі энцыкляпэдыямі, апэляцыі да Насовіча, Ластоўскага і Станкевіча складаюць улюбёны занятак любой групы пісьменных беларусаў за мяжой колькасьцю, большай за два чалавекі. У Празе такіх было крыху больш, і моўных ідэяў,

* Прадмова А. Лукашука да выданьня «Слоўніка» ў часопісе «ARCHE» (7-2000).

якія генэраваліся з раніцы за кавай, а ўвечары за півам, хапіла б на ўсе папярэднія стагодзьдзі таксама. Не адставалі і слухачы. Бясспрэчнае лідэрства трымала прапанова перайменаваць краіну.

Здаецца, Сяргей Шупа першым выказаў памылковую думку, быццам рамкі аднаго слова здольныя ўтрымаць ядравую энэргію народных філёлягаў у мірным рэчышчы. У выніку гэтай неабачлівасьці і нарадзіўся «Слоўнік Свабоды», першы з трох нашых праектаў беларускага fin de siècle (другі — «Галасы стагодзьдзя» — гучаў штодня ў 2000 годзе, трыяду ў 2001-м завяршыла перадача «Верш на Свабоду»).

1 студзеня 1999 году прагучала слова «Бог»; 31 сьнежня — слова «Слова». Адна старая кніжка сьцьвярджае, што гэта тоесныя рэчы.

Праграмы кшталту «Слова дня» досыць папулярныя ў тэлевіктарынах, іх можна пачуць праз радыё, прачытаць у інтэрнэце. Як правіла, яны носяць лінгвістычны характар і маюць на мэце пашырэньне моўных навыкаў. Ідэя нашага слоўніка — у падзагалоўку: «XX стагодзьдзе ў беларускай мове».

Гадавая штодзённая перадача паводле тэхналёгіі падобная да пчалінага вульля. Паэты, настаўнікі, сьвятары, празаікі, філёзафы, гісторыкі, археолягі, барды, перакладчыкі, мастакі, журналісты, беларусы, габрэі, расейцы, украінцы, цыганы, палякі, палітычныя ўцекачы, асобы без грамадзянства, дацэнты, дырэктары, беспрацоўныя, вернікі, агностыкі, атэісты, судзімыя і не, сябры партыяў, беспартыйныя, 20-ці і 70-цігадовыя, аптымісты, рэалісты, натуральныя бляндынкі, фарбаваныя брунэткі і нават двое цалкам лысых аўтараў дзень пры дні, не зважаючы на надвор’е, настрой

і перашкоды на тэлефоннай лініі, поўнілі чым Бог даў моўныя соты «Свабоды».

Ня ўсе ячэі запоўненыя да краёў. Часам да этэру заставалася гадзіна, а слова не прыходзіла. Часам мы мелі некалькі варыянтаў аднаго слова. Некаторыя словы былі блізка, але спырхвалі, пакідаючы на мікрафоне толькі крохкі пылок сэнсу; іншыя прагучалі глуха і невыразна; яшчэ больш ўвогуле не патрапілі ў сьпіс. Нярэдка смак аддае горыччу — але ў каго павернецца язык назваць салодкім беларускае жыцьцё ХХ стагодзьдзя?

Тэкст вызначае кантэкст. «Слоўнік» завяршаў гадзіну жорсткага інфармацыйнага этэру. Перад гэтым гучалі рэпартажы з дэманстрацыяў, мітынгаў, судоў, паведамленьні пра галадоўкі, страйкі, звальненьні, зьбіцьці. З праграмы зьніклі інтэрвію Генадзя Карпенкі, заявы Юр’я Захаранкі, тлумачэньні Віктара Ганчара — замест іх пачалі гаварыць маці і жонкі. Ці ўдовы? Словы вытанчыліся да свайго ценю. Кожны пэнсіянэр атрымліваў мільёны, але ніхто ня стаў мільянэрам; раскалолася найбуйнейшае імя апазыцыі — бэнээф; 21 ліпеня страціла сэнс слова «прэзыдэнт».

У апошні дзень году мы прачыталі ў этэры ўсе 365 словаў запар, гэта заняло менш за шэсьць хвілін — сэкунда на слова. Чэскі гукаапэратар пытаўся, адкуль мы так добра ведаем гісторыю яго шматпакутнай радзімы. Нельга жыць ува Ўсходняй Эўропе і ня быць крыху нападпітку, няўлад адказвалі мы.

Кожны выпуск «Слоўніка» пачынаўся фразай «слова на дзень, для памяці і для роздуму». Ня ведаю, што да гэтага можна дадаць.

*Аляксандар Лукашук*

# Бог

*Сяргей Шупа*

«Слоўнік Свабоды» пачнем з *Бога*.

*Бог* — слова сваё, спрадвечнае, з тых часоў, калі людзі ў нас пачалі адчуваць сябе людзьмі — стварэньнямі *Божымі*. Амаль аднолькава гучыць гэтае слова ўва ўсіх славянскіх мовах. Але расейцы так і ня здолелі яго прызвычаіць да сваёй мовы і дагэтуль вымаўляюць яго па-беларуску, зь невыбухным «г».

*Божа, Божухна, Божанька, Божачка* — зьвярталіся да Яго спрадвеку нашыя людзі.

*Бог бацька* — казалі з пашанай.

*Бог даў* — калі шчасьціла ў жыцьці.

*Бог дасьць* — калі спадзяваліся на ўдачу.

*Дай Божа* — просячы ласкі.

*Памажы Божа* — зычылі працаўнікам.

*Сыць Божа* — каб смачна елася.

*Радзі Божа* — як сеялі жыта.

*Барані Божа* — каб адвёў бяду.

*Дзякуй Богу* — славячы ўладара Неба й зямлі.

На *Божай пасьцелі* ляжыць той, хто канчае дні свае, аж пакуль ня скажуць: *«Бог узяў»*.

У XX стагодзьдзі Беларусь разышлася з *Богам*, пачаўшы нават пісаць гэтае слова з малой літары. За гэта даводзіцца дорага плаціць. *«На Беларусі Бог жыве»*, — сказаў Караткевіч. Нам яшчэ давядзецца дарастаць да гэтай надзеі паэта.

На канец нагадаю амаль забытае ў Беларусі сьветлае й шчырае разьвітаньне: *з Богам!*

# А

## Аблігацыя

*Антаніна Хатэнка*

Тонкія паперыны ўшыркі з даланю бабуля загортвала ў бялюткі кужэльны лахман і клала на дно куфра. Туды, дзе яна хавала фатакарткі сыноў, што згінулі ў войнах, і хатулёк з апранкаю, якую звала «сьмяртэльнай».

Да куфра не дступіцца — там жывуць лёс і надзея. Ключ ад маленькага кулачка-замочка, нанізаны на адну ніціну з крыжыкам, бабуля носіць за пазухай.

Час ад часу яна адмыкае ў цішыні сваю скарбніцу, дастае пацьмянелыя здымкі й невідушча ўглядаецца ў мінуласьць. Затым, быццам для раўнавагі, выцягвае зь цёмнага закутка перацяты паўразом скрутак і замілавана разгладжвае зеленавата-шэрыя паперы, падобныя да грошай. Усьміхаецца, распавядае, як будзе хораша, калі нехта добры й праўдзівы верне ёй пазыкі, ды яшчэ й зь ліхвою.

Зьберагліся ў хаце *аблігацыі* і тады, калі бабуля ўжо была высока, над сваімі спадзевамі.

Ейная праўнучка дала скурчаным у трубачку паперам сваё найменьне — *абылгацыі*. І пусьціла

іх аднойчы на вецер — палётаць. Вырваўшыся на волю, яны ўздымаліся й павольна падалі.

Няспраўджаныя мары, нязбытная вера. Недачаканая адплата. Папяровае пазычаньне людзкога даверу.

*Абылгацыі.*

## Авітаміноз

*Антаніна Хатэнка*

«*Вітаю*!» — усьміхаецца мне прыязьнік. «*Вітаю*!» — шапоча лістотаю мая зямля. *Прывітаньнем* поўныя прастора й час. Поўныя жыцьцём, бо *vita* — з прадалёкіх вякоў лацінян і ёсьць жыцьцё, сьвет-*вітамін*, які мы спажываем штохвільна.

Але ўсё часьцей паперадзе гэтага нягаснага *віта*- паўстае недарэчнае неразумнае *а*-. *Авітаміноз*.

Бач, якое адважнае гэтае *а*! Адпрэчвае самое красаваньне-наліваньне — жыцьцё. І мы паволі зьмірваемся, мы дазваляем упартай часьціцы адмаўленьня выракаць нас на пакуты, на балючую нястачу жыцьця. Ці згадваем калі, што самі творым жыцьцё? І што самі мы — ягоная ладная часьціна? Ці жывімся ратавальнай энэргіяй *віта*? Не!

Здаецца, нам, дзівакам, зручней жыць у бядноцьці, чымся адказна распараджацца заможным жыцьцём. І пануе ў пахмурным краі *авітаміноз*, недахоп жыцьцёвае сілы, прыгоства й веры.

А чаму паддаемся *авітамінозу*? Чаму не выбіраем чыстае, першароднае *віта*? Яно вядома, жаліцца прасьцей, чым выбіраць, а вінаватыя заўжды знойдуцца.

Пасьміхаецца зьдзекліва *авітаміноз*: «Якія ж вы, чалавекі, хісткія, няўклюдныя здані, зьбялелыя безь *вітаміну* шчасьця».

Задрыгвела нашае беларускае шчасьце, *віта*-жыцьцё. І мы, як баязьлівыя зайцы на купінах, азіраемся — хто *а*дымае *вітаміны*? Таго ж ня хочам прызнаць, што самі лянуемся скінуць зь сябе прычэпістую часьцінку *а*- ды чэрпаць нагбом *віта*-жыцьцё.

## Агмень

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Агмень* — слова, адроджанае досыць нядаўна. Калі Анатоль Сыс назваў ім свой паэтычны зборнік, гэта адразу было заўважана беларусамі на Захадзе, а радыё «Свабода» адразу пракамэнтавала яго зьяўленьне. Аўтар камэнтару казаў, што *агменю* не фіксуе ніводзін слоўнік беларускай мовы, апрача «Расейска-крыўскага слоўніка» Вацлава Ластоўскага.

Адраджэнцы пачалі ўжываць слова *агмень* за некалькі гадоў да выхаду Сысавага зборніка. Перадусім таму, што былі ня згодныя з увядзеньнем у афіцыйны ўжытак немілагучнага *ачаг*. Хіба «*ачах*» можна было асацыяваць з агнём? *Агмень* быў адным з нашых гонараў, адной малой перамогай над палітыкай зрасейваньня беларускай

мовы, якая вялася пры дапамозе савецкіх сродкаў масавай інфармацыі і «навукоўцаў», што ўводзілі ў нашую мову ўсялякія карандашы, бацінкі ці сьпічкі.

*Агмень* паўстаньня, сямейны *агмень*, *агмяні* й паходні, *агмень* душы — гэтыя выразы напоўнілі літаратуру. *Агменны*, *агмянёвы*, *агмяністы* — гэтыя словы сталі магчымыя і вабныя. І цяжка цяпер уявіць нашую мову бязь іх.

## Агітацыя

*Віталь Цыганкоў*

Ці не выклікае ў вас слова *агітацыя* асацыяцыю са словам *агіда*?

Беларуская *агітацыя* паходзіць з лацінскага *agitatio*, што азначае «прывядзеньне ў рух». У жыцьцё і мову гэтае слова шырока ўвайшло толькі ў савецкі час, калі паняцьце *агітацыя* набыло нэгатыўна-ідэалягічны сэнс. Камуністычная *агітацыя*, масавая *агітацыя*, наглядная *агітацыя*. Гэткае самае адмоўнае стаўленьне знайшло сваё адлюстраваньне і ў гутарковай мове: «Што ты мяне *агітуеш*?», «Яшчэ тут *агітатар* знайшоўся...» і нават «*Агітуй не агітуй...*».

А новаўтварэньні якія красамоўныя! *Агіткалектыў*, *агітплякат*, *агітка*, *агітпрап*. Калі нехта забыўся на значэньне апошняга слова, нагадаем, што гэта «*агітацыя і прапаганда*». Тыя, каму выпаў гонар альбо няшчасьце вучыцца на факультэце журналістыкі ў савецкі час, на ўсё жыцьцё запомнілі цытату зь Леніна: «Газэта

— ня толькі калектыўны прапагандыст і калектыўны *агітатар*, але таксама і калектыўны арганізатар».

*Агітатар* — чалавек, перад якім ня хочацца адчыняць дзьвярэй свайго дому.

## Адгазьнік

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Слова *адгазьнік* нарадзілася ў 1990-я ў нашай рэдакцыі як адпаведнік слову *процівагаз*, якое ў беларускай мове мае яшчэ адпаведнікі *процігаз* і *супрацьгаз*.

Апошняе фігуравала на старонках беларускіх раёнак у 1920—40-я гады, калі папярэднік ДОСААФу — ОСОАВІАХІМ (Таварыства спрыяньня абароне, авіяцыі і хімічнаму будаўніцтву) вяло сярод насельніцтва актыўную працу ў справе абароны ад магчымага вонкавага агрэсара. Менавіта тады модна было рапартаваць, што ў такім і такім калгасе працоўная брыгада і конь паўгадзіны завіхаліся на полі ў *супрацьгазах*.

Першы вугальны *адгазьнік* быў створаны ў 1916 годзе акадэмікам Мікалаем Зялінскім. Адкрыцьцё было выклікане тым, што 24 красавіка 1915 году ў бітве пры Іпры ў Бэльгіі нямецкае войска ўпершыню ў гісторыі ўжыло *атрутны газ* у якасьці зброі. У часе першай сусьветнай вайны *газавыя атакі* былі і на тэрыторыі Беларусі.

Недзе ў 1970-х у горадзе вялікай нафтахіміі Наваполацку хадзілі чуткі, што насельніцтву

— на ўсялякі выпадак — раздадуць *адгазьнікі*. Чуткі хадзілі — *адгазьнікаў* не давалі. Напэўна, баяліся, што «народныя ўмельцы» прыстасуюць гэтую рэч пад іншыя патрэбы, скажам, будуць у іх апырскваць сад альбо бяліць хату. Зрабілі ж тамтэйшыя вудалі з *адгазьніцкай* торбы валізку для ежы і сваіх рыбацкіх прыладаў. Прыдумала ж міліцыя форму катаваньняў — «слонік», калі *адгазьнік* надзяваюць на твар затрыманага і перацiскаюць кіслародную трубку.

*Адгазьнік* — адзін з элемэнтаў экіпіроўкі вайскоўцаў. Каманда «*газы*», пры якой кожны шараговец павінен адразу нацягнуць на сябе маску, гучала ў войску дзе заўгодна: у сталоўцы, у клюбе і нават у прыбіральні.

## Адліга

*Натальля Ўлан*

У XX стагодзьдзі рамантычныя адчуваньні, зьвязаныя з *адлігай* і яе спадарожнікамі — празрыстымі велізарнымі ледзякамі на стрэхах, капяжом і першым подыхам вясновага паветра — набываюць новы палітычны сэнс. Зьяўляецца палітычны тэрмін *адліга*, які зьвязалі са зьменамі ў савецкім грамадзтве пасьля сьмерці Сталіна, калі засталіся ў мінулым гучныя палітычныя справы, арышты і лягеры. Стала лягчэй дыхаць грамадзянам Савецкага Саюзу, дыхнула воляй.

# Азярод

*Вінцэсь Мудроў*

Дзіўнае слова *азярод*. Гэтыя *а*, і *я*, і *о* зьбегліся ў адно і цьвеляць слых, нараджаючы ў сьвядомасьці штосьці няўцямнае, патаемнае, старажытнае. У гэтым слове чутны і царкоўнаславянскі *аз*, і протаславянскі *род*, і беларускае *азяро*. А ў сярэдзіне яго пусьціў карэньне пракаветны *яр* — аснова жыцьцядайнасьці, сьвятла і жару. Менавіта з гэтага кораня паўсталі тры словы, на якіх трымаўся крывіцкі сьвет і мацаваўся крывіцкі дух — *Ярыла*, *ярына* і *ярасьць*.

А між тым *азярод* — гэта ня што іншае, як немудрагелістае прыстасаваньне з слупоў і жэрдак дзеля дасушваньня збажыны. Калісьці яны стаялі за кожнай хатай, і ўвосень іх танклявыя жэрдкі-рэбры гнуліся пад цяжарам снапоў. Цяпер жа *азярод* рэдка дзе ўбачыш, і сушыцца на ім не збажына, а ў найлепшым выпадку канюшына. І наагул слова гэтае ўжо мала каму знаёмае з навачасных беларусаў.

І бог наш Ярыла мёртвы, і ярына, што пачала была прабівацца на ніве, здратаваная палкоўніцкім ботам, і, як збажына на *азяродах*, у душах нашых дасьпявае хмельная ярасьць.

# Аквітызм

*Уладзімер Конан*

*Аквітызм* — ад лацінскіх словаў *aqua vitae*: «*жывая вада*» або «*вада жыцьця*» — *узвышэнскі* кірунак у беларускай літаратуры 1920-х гадоў. Яго назва ўтвораная ад унівэрсальнага архетыпу сусьветнае культуры — «*жывой вады*».

Спачатку будучы тэарэтык *узвышэнства* Адам Бабарэка ў лістападзе 1923 году прапанаваў самабытны назоў для літаратурнага кірунку — *вітаізм* ад слова *vita* — «*жыцьцё*». Ідэя *вітаізму* апярэдзіла *маладнякізм* — кірунак афіцыёзны, клясавы, з ідэалам усясьветнай камуны, хоць рэальная творчасьць таленавітых маладнякоўцаў аказалася бліжэйшай да *вітаізму*.

Пазьней, у 1927—30-х гадох, узвышэнцы — стваральнікі літаратурнага аб'яднаньня «Ўзвышша», перш за ўсё Бабарэка й Дубоўка, у праграмных дакумэнтах, у артыкулах Бабарэкі «*Аквітызм* у творчасьці Ўладзімера Дубоўкі», «Узвышэнская паэзія — аналіз паняцьця», «Паэзія як уяўленьне» абгрунтавалі *аквітызм* — новую плынь беларускае літаратуры, альтэрнатыву афіцыёзнаму «сацыялістычнаму рэалізму».

*Аквітызм* уяўляўся ўзвышэнцам як сынтэз нацыянальнае традыцыі й новаэўрапейскага мастацкага наватарства.

У паэме «І пурпуровых ветразей узьвівы» Ўладзімер Дубоўка, карыстаючыся скарочаным беларускім варыянтам гэтага паняцьця, пісаў:

А дух трымаем на галоднай норме,
а дух скарынкай эпігоннай сыты.

Яго суседзі, мабыць, не накормяць,
затым патрэбна духу *акавіта*.

Вось такі кірунак у нашай літаратуры пачаўся, але ня зьдзейсьніўся, не зрэалізаваўся да канца ў зьвязку зь ліквідацыяй «Узвышша» й ліквідацыяй *узвышэнства* ў беларускай літаратуры наагул у эпоху бальшавіцкае дыктатуры.

## Акцябронак

*Рыгор Барадулін*

*Акцябронак* — слова-адгалосак кастрычніцкага перавароту 1917 году. Сам пераварот дазвалялася перакладаць як «кастрычніцкая рэвалюцыя», з эпітэтам «вялікая». А ўсе вытворныя словы бязглузда калькаваліся. Адсюль — і *акцябронак*.

Шануючы мову, трэ было б, каб хоць «акцябраня» ўжывалі. Яно й праўда, «кастрычаня» нечым з «кастратам» перагукаецца. Але бальшавікам закон быў ня пісаны. У іх і прыгожае мястэчка Рудабелка стала пасёлкам Акцябрскім.

Хто такія *акцябраты*? Гэта вучні малодшых клясаў, якія рыхтаваліся стаць *чырванагальштучнымі*, а пакуль насілі пяцікутную зорку з выяваю херувімчыка-Леніна ў маленстве.

*Акцябратаў* называлі ўнучанятамі Леніна, хоць сам правадыр сусьветных пралетароў ніколі дзяцей ня меў.

Дзіцячы часопіс, сёньняшняя «Бярозка»,

называўся «Іскры Ільліча». Гэтак гарэў Ільліч, што толькі іскры сыпаліся.

Зноў жа, форма Ільліч — не беларуская, і на слых чуецца — «і лыч», «і лыча». Але партыйнае, хай сабе і беларускае, вуха не магло і ў жахотным сьне пачуць такое.

*Акцябратаў* выхоўвалі ў прасавецкім духу, абагаўляючы Леніна. Неяк мая маленькая дачушка Ілона прыйшла са школы (а ў школах у *акцябраты* заганялі статкам), маці ёй падае есьці, яна — «Ня буду! Ленін нічога ня еў! Ён дзецям усё аддаваў! Так нам настаўніца казала».

У Беларусі, як у запаведнай савецкай зоне, піянэрская арганізацыя захавалася да XXI стагодзьдзя.

## Алергія

*Валянцін Акудовіч*

Некалі ў мяне быў сябар — карачаевец Махці. Сталін выселіў ягоны народ у Казахстан. Махці нарадзіўся і рос сярод стэпавых прастораў.

Калі карачаеўцам было дазволена вярнуцца на радзіму, хлопец ня змог застацца з суайчыньнікамі — пасярод гор і далінаў ён пакутаваў на *алергію*. «У мяне *алергія* на Бацькаўшчыну», — неяк з сорамам прызнаўся Махці.

Я кожны раз згадваю сябра, калі бачу, як блага робіцца якому чалавеку ад пачутага беларускага слова, ад пабачанага бел-чырвона-белага сьцяга ці герба «Пагоня». Я гляджу, як ён смыкае вуснамі, шчэрыць зубы, курчыцца целам, і з жа-

лем думаю — гэты чалавек хворы, у яго *алергія* на Бацькаўшчыну.

Хворы на *алергію* варты жалю ня менш, чым які іншы хворы. І было б залішне жорстка ганіць чалавека за нянавісьць да беларушчыны, калі яна чыніць яму адны пакуты. Таму я зусім ня маю намеру кагосьці ўпікаць.

Мяне ў гісторыі гэтай адмысловай немачы хвалюе іншае. Калі Махці казаў пра сваю хваробу, дык ягоныя вочы поўніліся сорамам. Чаму тады ў нашых людзей, якія маюць *алергію* на Бацькаўшчыну, вочы поўняцца нянавісьцю?

## Альфабэт

*Юрась Бушлякоў*

Каб назваць мноства, у гэтым выпадку хапіла дзьвюх зь яго адзінак — дзьвюх першых паводле парадку грэцкіх літар — *альфы* й *бэты*. Некалі ў фінікійцаў, ад якіх пабагаціліся грэкі, *альфа* выглядала галавою быка, а *бэта* — домам. Таму, ясна, зусім нездарма скопішча літар назвалі *альфабэтам* — там яны ўсе, ад пачатку й да канца, ды яшчэ й пры парадку. Зрэшты, парадак тут умоўны, і яго, як пацьвердзяць беларускія настаўніцы, далёка ня кожны ў нас ведае.

Як ня кожны ведае й пра тры нашыя *альфабэты* — кірыліцу, лацінку ды арабіцу. Самі беларусы парупіліся найбольш пра кірыліцу — за часы расейскага цара Пятра І новы шрыфт для яе стварыў амсьціславец Гальляш Капіевіч — нат называлі раней тыя літары беларускаю

*азбукаю*, а ў XX стагодзьдзі мовазнаўца Янка Станкевіч назваў *капіеўкаю*. І карыстаюцца гэтаю капіеўкаю расейцы й баўгары, украінцы й сэрбы, дый усе іншыя народы, якім за *альфабэт* ці, іначай кажучы, *азбуку* кірылічныя літары.

Грымоты XX стагодзьдзя скаланалі й беларускі альфабэт — давалі прастор і накідалі рамкі. Ня сталася ўсіхнаю літара **ґ** — на *ґанак, ґузік, ґарсэт*; пільнуючы пралетарскае еднасьці, апекуны адпрэчылі на ўзьлёце **j**, пакасавалі пазычаныя ў пабрацімцаў-сэрбаў літары для [дз'] і [дж]; нават **ў** нашае нескладовае згарнулі ў правах — зьвялі да аднае малое формы. Пераймаючы ад іншых, наказалі забыцца на *альфабэт* і ўзяліся вучыць *алфавіту*. Прыцьмелае *алфа* — зусім не бесканкурэнцыйная *альфа*, а ў позьнім *віце* — ужо пачужэлы ў замкнёным савецкім жыцьці родны дом. Адзін Янка Станкевіч, які ўсюдых жыў у беларускім часе, ня траціў надзеяў на наш ідэальны альфабэт: зважаючы на пераходы гукаў, ён кіраваўся беларускаю дамэтнасьцю. О, А, Э — так пачынаецца Станкевічава *абэцада* — прэцэдэнт, які дазволіў спадзявацца, што ў будучыні мы такі патрапім уладзіць наш *альфабэт* па-беларуску.

## Амністыя

*Сяргей Навумчык*

Слова *амністыя* паходзіць са старагрэцкай мовы, дзе яно азначала «дараваньне».

У юрыдычным сэнсе *амністыя* ўжываецца да пэўных групаў асуджаных і абвяшчаецца, як

правіла, найвышэйшаю ўладаю — манархам, прэзыдэнтам, парлямэнтам.

Звычайна *амністыя* прымяркоўваецца да нейкай падзеі ці да юбілею — у краінах з манархічным ладам гэта можа быць нараджэньне нашчадка трону альбо ягонае вясельле. У Злучаных Штатах, да прыкладу, — юбілей прыняцьця канстытуцыі. У Савецкім Саюзе *амністыя* гэтаксама абвяшчалася з нагоды юбілеяў — 50-, 60- або 70-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Напярэдадні гэтых сьвятаў родныя зьняволеных уважліва праглядалі газэты — інфармацыя пра *амністыю* зьмяшчалася ў самым непрыкметным месцы.

Самая масавая *амністыя* савецкага часу зьвязаная зь імем Берыі — пасьля сьмерці Сталіна ён выпусьціў на волю дзясяткі тысячаў крымінальных злачынцаў, большасьць зь якіх адразу ж вярнулася на свае «маліны». Пры гэтым мільёны палітычных зьняволеных засталіся паміраць у ГУЛАГу.

У сучасную беларускую гісторыю слова *амністыя* ўвайшло ў сувязі са зьняволеньнем Аляксея Шыдлоўскага — пасьля знаходжаньня за кратамі яго *амніставалі* за два дні да сканчэньня паўтарагадовага тэрміну. Тым самым улада пакінула за сабой права на працягу 10 гадоў зноў кінуць яго за краты.

У Беларусі канца XX стагодзьдзя рэпрэсіўны зьмест укладаецца нават у словы, якія ў сьвеце атаясамліваюцца з гуманнасьцю.

# АМОН

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Абрэвіятуры — справа няўдзячная і нясмачная. Ад пачатку году была ў нашых плянах абрэвіятура *АМОН*, і ніводзін аўтар не пагадзіўся пра яе напісаць. Пра БНР напісалі, нават пра ЦК напісалі, а вось пра *АМОН* — не.

Гэта, відаць, таму, што скарачэньне ня толькі чужое, а й ненавіснае.

*Атрад міліцыі «особого назначения»*, які меў бы выклікаць у народу пачуцьці абароненасьці, упэўненасьці і спакою, выклікае нешта наўпрост процілеглае.

Асацыятыўна *АМОН* зьвязаны са словамі *манкурт*, *зомбі*, *дубінка*, *разгон*, *зачыстка*, *катаваньне*, *зьдзек*.

Спробы перакласьці *АМОН* на беларускую мову як *АМАП* да канца не прыжыліся.

Безаблічны, схаваны за шчытамі й маскамі *АМОН* усё ж складаецца з канкрэтных людзей. Як дзіўна, што ў іх ёсьць бацькі, каханыя і сябры. І як дзіўна, што ў некага ёсьць сын, каханы ці сябра — *АМОНавец*.

Мой сын — *АМОНавец*, мой каханы — *АМОНавец*. Гучыць зусім не па-беларуску.

Паэта, які наважыцца шукаць да слова *АМОН* дакладнай рыфмы, найперш сутыкнецца ня толькі з сугучнымі, а і з цалкам адпаведнымі *АМОНу* словамі: *шмон* і *гамон*.

## Анахранізм

*Вінцэсь Мудроў*

Тлумачальны слоўнік беларускае мовы так тлумачыць слова *анахранізм* — «зьявы, погляды, думкі, якія зьяўляюцца састарэлымі для пэўнай эпохі».

Мовазнаўцы зьвязваюць яго этымалёгію з грэцкімі словамі *ана* (назад) ды *хронас* (час). І... відавочна ж, памыляюцца!

*Анахранізм* у нашым, беларускім, разуменьні паходзіць без усякага сумневу ад народнага выразу «*а на храна?*». Няма патрэбы казаць пра папулярнасьць гэтага моўнага звароту.

«*А на храна* нам гэтая мова?» — гукаюць, узяўшыся ў бакі. Тое ж самае кажуць пра незалежную дзяржаву, дэмакратыю, беларускую школу, рынак, нацыянальныя сымбалі й прэзыдэнцкія выбары...

*Анахранізм* стаўся ня толькі ідэалягічным падмуркам улады, але й падставовым элемэнтам мэнтальнасьці электарату, арбітаю ягонага, пазбаўленага прыцягненьня роднае Зямлі, касьмічнага руху.

І хаця суседзі называюць такое жыцьцё «*савецкім анахранізмам*», яно тым ня менш ідзе сваім ладам.

*Анахраністы* падчэпваюць відэльцам тлушчапырскую скварку, куляюць поўную чарку, паволі развальваюць народную гаспадарку, а ўсіх незадаволеных б'юць гумовым дручком па карку.

# Анэкдот

*Уладзімер Арлоў*

*Анэкдот* у сучасным разуменьні — гэта кароткі аповед пра сьмешнае або незвычайнае здарэньне. Слова паходзіць ад грэцкага ἀνέκδοτος (*anekdotos*), што значыць «нявыдадзены». *Анэкдот* жыве, пакуль яго расказваюць, пераказваюць, кажуць. Адсюль беларускі сынонім гэтага слова — *показка*.

*Анэкдоты* суправаджаюць нас з маленства да скону. Мы сталеем, і разам з намі сталеюць нашыя *анэкдоты*. Некалі ў іх дзейнічалі хлопчык Вовачка і герой грамадзянскай вайны Васіль Іванавіч Чапаеў. Потым гэтых збольшага бяскрыўдных пэрсанажаў зьмянілі вусьцішны Сталін, кукурузьнік Хрушчоў, маразматык Брэжнеў ды іхныя пляшывыя ці вусатыя папярэднікі і наступнікі.

*Анэкдот* заўсёды меў свой кошт — ад рогату прысутных да тэрмінаў ГУЛАГу. *Анэкдоты* заўсёды ўтульна пачуваліся ў сэрыях — палітычныя, мэдычныя, армейскія, габрэйскія.

У герояў большасьці *анэкдотаў* ёсьць славуты пяты пункт — нацыянальнасьць. Хто ня чуў *анэкдотаў* пра Рабіновіча, пра Гогі ды Гіві або пра чукчу, які на зьезьдзе КПСС нарэшце даведаўся, што Маркс і Энгельс — зусім ня муж з жонкай, а Слава КПСС і ўвогуле не чалавек.

Беларус у *анэкдотах-показках* паўстае ў розных іпастасях. То ён шчыра цешыцца, што старэйшыя браты-расейцы займаюцца сэксам сем разоў у нядзелю, але ня можа ўцяміць, што

яны робяць у будныя дні. То на жартоўнае пытаньне кіраўніка дзяржавы: «Как жывёцца?» — беларус гэтаксама жартам адказвае: «Спасіба, харашо».

Але найчасьцей беларус вылучаецца сваёй паталягічнай цярплівасьцю. Беларуса вядуць расстрэльваць, а ён прапануе свайму кату паднесьці стрэльбу, каб той не стаміўся. Беларуса прысуджаюць да шыбеніцы, а ён клапатліва пытаецца, ці ня трэба браць сваёй вяроўкі. Каб апрача гэткай ідыёцкай цярплівасьці ў беларуса не было пачуцьця гумару, яму б сапраўды заставалася адно павесіцца. Але, на шчасьце, пачуцьцё гумару ў беларуса ёсьць. Пра гэта сьведчаць новыя *анэкдоты*.

Едзе Лукашэнка на свае ўлюбёныя дажынкі, а беларусы ўсьцяж дарогі крычаць яму: «Да жынкі! Да жынкі!»

## Апазыцыя

*Сяргей Навумчык*

У сьвядомасьці апошніх пакаленьняў беларусаў слова гэтае — *апазыцыя* — трывала замацавалася побач з такімі выказваньнямі, як «бухарынска-зіноўеўскі блёк», «суровы, але справядлівы прысуд працоўнага народу», «як шалёных сабакаў», «расстраляць».

Крамлёўская крывавая бойка паміж колішнімі натхняльнікамі і арганізатарамі кастрычніцкага перавароту 1917 году адгукнулася ў Беларусі зьнішчэньнем ці ня ўсёй эліты, у тым

ліку і эліты палітычнай. З адкрытым вальнадумствам было надоўга скончана. Палітычная лексыка фармавалася Масквой, і вось што цікава: да тых, хто выступаў супроць «генэральнай лініі» партыі, ужываліся якія заўгодна тэрміны — «антыпартыйная групоўка», «палітычныя памылкі», «валюнтарызм», нават «шпіянаж» — але толькі не «*апазыцыя*». Бо савецкі чалавек не павінен быў нават на хвіліну ўявіць магчымасьць арганізавана выступіць супроць існуючага парадку. Палітычная эліта трансфармавалася ў намэнклятуру і станавіла адзіны арганізм, які сілкаваўся страхам. Было неверагодна, каб нехта з партыйных сакратароў выступіў з крытыкай Машэрава — хоць бы самай дробязнай.

Але грамадзтва не магло жыць па законах казармы бясконца. Узначаленая Зянонам Пазьняком у 1990 годзе *Апазыцыя БНФ* складала толькі дзясятую частку дэпутацкага корпусу, але дамаглася незалежнасьці Беларусі і аднаўленьня яе дзяржаўных інстытуцыяў, — выключны выпадак у практыцы парлямэнтарызму. Праўда, гісторыя зрабіла яшчэ адно выключэньне: насуперак клясычным канонам, паводле якіх *апазыцыя* ўрэшце бярэ ўладу, — Народны фронт да ўлады не прыйшоў. Стаўленьне ж лукашэнкаўскай улады да *апазыцыі* выявілася, калі дзевятнаццаць *апазыцыйных* дэпутатаў былі жорстка зьбітыя ў парлямэнцкай залі за імкненьне адстаяць беларускую мову, бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню».

Затое існуе заканамернасьць, дзе Беларусь выняткам не зьяўляецца: чым больш жорсткі рэжым у краіне — тым меней магчымасьцяў у *апазыцыі*. Існуюць краіны, дзе гэтыя магчы-

масьці абмежаваныя сьценамі вязьніцы, ёсьць рэжымы, якія загналі *апазыцыянэраў* у магілы, а іншыя дыктатары апускаюць сваіх апанэнтаў у басэйны з салянай кіслатой. Ёсьць і адваротныя прыклады: у Канадзе ценявы кабінэт фінансуецца зь бюджэту, а ў Вялікабрытаніі лідэр *апазыцыі* суправаджае каралеву на ўрачыстых цырымоніях.

Вольнае грамадзтва зацікаўленае ў існаваньні *апазыцыі* — таму што безь яе можна згубіць волю.

## Армія

*Сяргей Навумчык*

Гістарычна рэгулярнае ўзброенае фармаваньне ў Беларусі называлася *войскам*. Гэтае слова сустракаем і ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага, прынятым у XVI стагодзьдзі.

Што ж да слова *армія*, дык яно ў XVII стагодзьдзі выкарыстоўвалася ў польскай мове, адтуль перайшло ў расейскую і толькі потым прыжылося ў нас. Этымалягічны слоўнік пацьвярджае, што расейскі ўплыў у XIX стагодзьдзі спрыяў замацаваньню гэтага слова ў беларускай мове. Але ці ня больш спрыялі гэтаму палітычныя рэаліі XX стагодзьдзя.

*Савецкая армія* была аўтаномным асяродкам з уласным побытам, звычкамі ды фальклёрам. *Армія* лічылася школай жыцьця, прычым яе ўрокі былі далёкія ад ідэалаў гуманізму. Квітне-

ла «дзедаўшчына» — зьнявага маладых салдатаў тымі, хто ўжо адслужыў адзін год.

«Дзяды» ў сваім навучаньні «салагаў» кіраваліся прынцыпам, які можна мякка пераказаць гэтак: «Служы, сынок, як дзед служыў, а дзед на службу палажыў». Адвільнуць ад фіззарадкі, баявой падрыхтоўкі ці працы ў сталоўцы лічылася ў *Савецкай арміі* верхам адвагі. Але яшчэ большую зайздрасьць выклікалі тыя, каму ўдалося *«закасіць» ад арміі* — гэта значыць, з дапамогаю мэдычнай даведкі пазьбегчы прызыву.

Цікава, што ў сучаснай Беларусі слова *армія* ўжо страціла сваё значэньне як назоў буйнога вайсковага фармаваньня — замест *арміяў* ды дывізіяў уведзены карпусы і брыгады. Відаць, спрацавала калгасна-брыгадзірская мэнтальнасьць вярхоўнага галоўнакамандуючага.

## Археляг

*Уладзімер Арлоў*

Слова *археляг* паходзіць ад грэцкага ἀρχαῖος (*arkhaios*), што значыць «старажытны». Слоўнікі сьцьвярджаюць, што *археляг* — гэта навуковец, які вывучае быт і культуру старажытных народаў паводле матэрыяльных помнікаў, знойдзеных падчас раскопак.

Магчыма, для ўсяго астатняга сьвету такое азначэньне й можа лічыцца вычарпальным, але толькі не для Беларусі.

З часоў заснавальнікаў айчыннае навуковае *археалёгіі* братоў Яўстаха ды Канстанціна Тыш-

кевічаў беларускія *археолягі* ня толькі займаліся раскопкамі ды друкавалі сухія акадэмічныя справаздачы... Яны адчынялі музэі, засноўвалі грамадзкія камітэты, стваралі мастацкія творы, цярпелі ад рэпрэсіяў.

Пасіянарнасьць нашых *археолягаў* яскрава выявілася ў найноўшы пэрыяд гісторыі Беларусі. Дый сам гэты пэрыяд адкрылі *археолягі*. Праўда, гэтае адкрыцьцё цяжка залічыць у разрад чыста *археалягічных*... Бо Зянон Пазьняк знайшоў у Курапатах не старажытную цывілізацыю, а матэрыяльныя помнікі эпохі, якая на беларускім абшары ня канула ў Лету, а небясьпечна агрызаецца, як недабіты зьвер.

Непараўнальна болей, чым на раскопках, беларускія *археолягі* зрабілі й робяць для краіны па-за межамі археалёгіі. Напрыканцы XX стагодзьдзя *археолягі* ствараюць палітычныя партыі, парлямэнцкія фракцыі — як Зянон Пазьняк і Міхась Ткачоў, пішуць школьныя падручнікі й гістарычныя аповесьці — як Георгі Штыхаў і Міхась Чарняўскі, узначальваюць Таварыства беларускае мовы — як Алег Трусаў, і засноўваюць незалежныя часопісы — як Генадзь Сагановіч.

Ня дзіва, што сёньняшнім уладам штосьці крамольнае чуецца ўжо ў самім слове *археоляг*. Ці не таму ніяк ня можа пабачыць сьвет кніга аднаго вядомага беларускага паэта, якую ён неабачліва вырашыў назваць «*Археалёгія* душы»?

У *археалёгіі* ёсьць такое паняцьце — культурны пласт. Стварэньне культурнага пласту незалежнае Беларусі немагчыма ўявіць бяз нашых *археолягаў*.

# Архіпэляг

*Валянцін Акудовіч*

Раней слова *архіпэляг* для беларусаў нічым не адрозьнівалася ад іншых экзатычных словаў. Больш свойскім яно зрабілася пасьля выхаду кнігі Аляксандра Салжаніцына «*Архіпэляг* ГУЛАГ», бо ў канцэнтрацыйных лягерах, раскіданых па ўсёй бальшавіцкай імпэрыі, адпакутавалі і загінулі дзясяткі, калі ня сотні, тысяч нашых землякоў.

Але апошнім часам мэтафара *архіпэлягу* ўсё часьцей ужываецца для абазначэньня Беларусі як цэлага. І не бяз дай прычыны.

На палітычнай мапе Эўропы Рэспубліка Беларусь замаляваная аднастайнай фарбаю. Аднак калі б нехта паспрабаваў на агульным полі нашай дзяржавы пазначыць адметным колерам тыя месцы, дзе заўважна прысутнічаюць беларуская мова, беларуская культура, урэшце, проста любоў да краіны Беларусі, то мы мелі б зусім іншы малюнак. Тады б мы ўбачылі нешта накшталт *архіпэлягу*.

Унутры дзяржаўных межаў паасобку ці групамі раскіданы астравы і астраўкі беларушчыны. А ўсё астатняе — неабсяжнае мора расейшчыны.

Насамрэч мы, быццам якія палінэзійцы, жывем на выспах *архіпэлягу* і самотна выглядваем адзін аднаго на даляглядзе.

Бадай, адзінае, што рэальна зьвязвае нас між сабой — дык гэта беларуская кніга, часопіс, газэта. Толькі на прасторы беларускага тэксту мы

можам сустрэцца разам. І тым самым пераадолець усё, што нас разьяднала — ад каляніяльнай спадчыны да зрусіфікаванай гісторыі. Але ў эпоху сродкаў электроннае камунікацыі для архаічнага тэксту ўжо амаль не засталося месца. А хвалі расейшчыны ўздымаюцца ўсё вышэй і вышэй... І пакрысе становіцца зразумела, што беларушчыну калі што й выратуе, то гэта магутны землятрус. Бо толькі тэктанічным зрухам пад сілу зьяднаць *архіпэляг* у мацярык.

## Архіў

*Аляксандар Лукашук*

Які юнак ці чалавек сталы, што любіць жыцьцё, змагаецца зь сёньняшнімі праблемамі ці марыць пра будучыню, не папярхнецца ад быццам неядомага, сухога, шурпата-мярцьвячага слова *архіў*?

Сэрца якога чалавека, што цікавіцца загадкамі жыцьця, думае пра будучыню, не адгукнецца ўсхваляваным бурным стукам, чые вочы не загарацца, у чыіх жылах не ўскіпіць кроў паляўнічага-продка пры ўрачыста-ганаровым, падобным да храму слове *архіў*!

Салодка-салёны арахісавы смак, пах закансэрвованага часу, даўгія паліцы, поўныя тайнаў, сховішча спрасаваных гадоў, дзе сьпіць, як зачараваная царэўна, наша мінуўшчына.

*Архівы БНР* сталіся першай ахвярай бальшавіцкай палітыкі ў Беларусі: засакрэчаная дзяржава, украдзеная памяць, замкнёнае ў

вязьніцы спэцсховішчаў мінулае, якое ня стала будучыняй — пакуль ня стала.

У *архівах* захаваная ня толькі мінуўшчына, але і прышласьць.

Беларускія *архівы* раскіданыя па сталіцах суседніх дзяржаваў і недаступныя ў сваёй сталіцы: хто бачыў калі-небудзь поўны вопіс *архіву* ЧК—ГПУ—НКВД—КГБ?

Нават у XX стагодзьдзі зь яго сродкамі зьнішчэньня спаленае і разьвеянае, пахаванае і перапахаванае мінулае ўсё ж хоць адным атамам, ды не зьнікае.

Напісанае застаецца.

*Архівы* бесьсьмяротныя.

Вечная памяць.

Памяць — вечная.

## Асаднік

*Кастусь Бандарук*

*Асаднік* — імя, утворанае ад дзеяслова *асаджвацца*, які ў паўночна-славянскім арэале мае значэньне «пасяляцца». У польскай, чэскай, славацкай, украінскай мовах *асада* азначае пасяленьне, сядзібу, калёнію. Менавіта як каланізацыя *асадніцтва* мае нэгатыўнае адценьне, паколькі яно заўсёды зьвязана з асыміляцыяй чужога, калі не захопам, дык, прынамсі, прыўлашчэньнем.

У гісторыі Беларусі вядомае паняцьце «*асадных*», або «чыншавых» сялян, у свой час за ваенныя заслугі зямлю і шляхецкую годнасьць атрымоўвалі нават татары. Але не яны засталі-

ся ў народнай памяці беларусаў *асаднікамі*. *Асаднікі* — адметны фэномэн XX стагодзьдзя. Гэта вайсковыя і цывільныя каляністы, якіх у міжваенны пэрыяд польскі ўрад перасяляў з цэнтральных раёнаў дзяржавы ў заходнія Беларусь і Ўкраіну.

*Асадніцтва* пачалося на аснове закону са сьнежня 1920 году аб надзяленьні зямлёю жаўнераў, якія асабліва вызначыліся ў вайне супраць бальшавікоў. *Асаднікаў* надзялялі ўчасткамі зямлі па некалькі дзясяткаў гектараў і сялілі пераважна ўздоўж савецка-польскай мяжы. Яны ў асноўным мелі зброю, аб'ядноўваліся ў «Саюз былых абаронцаў усходніх ускраін», выконвалі паліцэйскія, адміністрацыйныя і антыдывэрсійныя функцыі. Усяго ў Заходняй Беларусі было «*асаджана*» каля дзевяці тысяч такіх каляністаў разам зь сем'ямі. Мэтай гэтай акцыі былі зьмена этнічнага складу насельніцтва ў памежных раёнах, палянізацыя мясцовых беларусаў і адгароджваньне ад Савецкага Саюзу надзейнай сьцяной карэнных палякаў.

Для беларуса *асаднік* нагадвае *расаднік*, і прытым не блакітнавокай роднай валошкі, але калючага пустазельля-чартапалоху.

## Асфальт

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Усё новае — добра забытае старое.

Слова *асфальт* нашыя продкі маглі ведаць яшчэ ў XII стагодзьдзі. Яно прыйшло з грэцкай

мовы і тады азначала ў прадметным сэнсе рэчыва, якое зьвязвае будаўнічы матэрыял. Тады слова *асфальт* у нашай мове не прыжылося. На ягоным месцы цьвёрда трымалася знаёмая і зразумелая будаўнічая рошчына. *Асфальт* вярнуўся да нас у XX стагодзьдзі як тып дарожнага пакрыцьця. Ён так прыйшоўся да спадобы савецкім кіраўнікам, што тыя пачалі зьнішчаць калярытныя брукаваныя вуліцы практычна па ўсёй Беларусі. Там, дзе езьдзілі ўрадавыя машыны, мусіў ляжаць *асфальт*. Кажуць, калі кіраўнік беларускіх камуністых Пётра Машэраў вырашыў наведаць месцы свайго партызанскага мінулага — Расоншчыну, туды *заасфальтавалі* дарогу, а народ ад гэткага падарунка яшчэ больш пачаў шанаваць свайго правадыра.

Доўгі час *асфальт* быў прывілеем вялікіх местаў. Зборнік апавяданьняў Міхася Стральцова «Сена на *асфальце*», які выйшаў у 1966 годзе, паказваў, як вясковец зжываецца з новай для яго стыхіяй. Вясковец перабіраўся ў места, а места цягнула свае *асфальтавыя* рукі да вёскі.

*Асфальтавымі аналітыкамі* называюць тых, хто разважае пра вёску, але зусім яе ня ведае. *Пысай аб асфальт* — пра ўжываньне грубай сілы. *Асфальтавая хвароба* — слэнгавая назва сінякоў, атрыманых пры падзеньні ў нецьвярозым стане.

Некалі замежныя госьці былі ў захапленьні ад беларускіх *асфальтавых* трасаў...

# Аўталаўка

*Сяргей Харэўскі*

*Аўталаўка* — стары жалезны фургон, у якім развозяць спажывецкія тавары паўсядзённага попыту: хлеб, гарэлку й мыла. Часам да гэтага набору дадаюцца мацаваныя пладова-ягадныя віны, цукар, соль, крупы, печыва й цукеркі (чамусьці заўсёды нясьвежыя)... *Аўталаўка* — надзея на хлеб. Жалезны фургон імкне туды, дзе ўжо не пякуць свайго... Цёплы хлеб, цёплыя цукеркі, цёплая гарэлка. Горш зімою. *Аўталаўка* не ўсюдыход, з-за сьнегу можа й не прыехаць.

Гэтае слова паходзіць з расейшчыны. *Аўтамабіль* плюс *лаўка*. Ня блытаць з лаваю! *Лавка* — па-расейску крама. Аднак назваць *аўталаўку* крамай альбо хоць магазынам беларускі язык не паварочваецца. Крама — слова паважнае. А *аўталаўка* — гэта прыкрая непазьбежнасьць. Паўмашына, паўгандаль, паўтавар... *Аўталаўка* — элемэнт сацыяльнага разьмеркаваньня. Адна з падпорак калгаснае сыстэмы. Прыедзе — будзе хлеб, не прыедзе... Як і ў тайзе. Аднак у адрозьненьне ад жыхароў тайгі ў беларусаў была альтэрнатыва. Млыны, крамы, корчмы...

Раней *аўталаўка* была часткаю савецкае сыстэмы нарыхтовак сыравіны. Сяляне нарыхтоўвалі сала, масла, воўну, атрымоўваючы наўзамен з *аўталаўкі* сякую-такую савецкую ежу. У 1950-я можна было прыдбаць кітовага мяса, а ў 1980-я — канцэнтраваных супоў. Пазьней нарыхтоўцы зьбіралі анучы і косткі. Пазьней — жалезьзе, якое тонамі ўжо ржавела на нашых палетках. Пазьней — садавіну, зь якое гналі

мацаваныя напоі і... прывозілі садаводам назад у *аўталаўцы*. Цяпер даўно няма тае сыстэмы. Нікому не здасі лішкаў воўны ці яблыкаў. Затое засталася *аўталаўка*.

Будуць каціцца па вясковых дарогах мурзатыя фургоны. *Аўталаўкі*. Бязь іх ніяк. Пакуль няма млыноў, крамаў ды корчмаў...

## Аўтобус

*Сяргей Харэўскі*

Зьявіліся *аўтобусы* ў Беларусі разам зь беларусізацыяй у 1924 годзе. Іх было тады 15. Тых першых, ня новых, ангельскіх ды нямецкіх, размаляваных бальшавіцкімі лёзунгамі ды буржуйскімі рэклямамі. І езьдзілі яны толькі ў Менску. Колькі гадоў пазьней зьявіліся *аўтобусы* і ў Заходняй Беларусі. Але гэта былі навюткія швайцарскія машыны фірмы *Arbonne*, і ў народзе іх звалі папросту *арбонамі*. На мяжы 1980-х і 1990-х гэтае слоўца ўвайшло было ў лексыкон нэафіцкае беларушчыны — сваё ж слова. Але не прыжылося. *Аўтобус* застаўся *аўтобусам*.

Па вайне *аўтобус* перамог усё, што рухалася. Пераважная колькасьць беларускага люду толькі ім перамяшчаецца па сваёй зямельцы. На працу і на адпачынак, у госьці і дахаты. Па ягоных раскладах жыве цяпер беларус. *Аўтобусных* шляхоў у Беларусі больш за 120 тысяч кілямэтраў. Яны злучылі ўсё. Гэта, пэўна, і ёсьць наш беларускі экватар, які ў тры разы большы за экватар усёй зямлі.

# Б

## База

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Пазычанага расейцамі ад французаў слова *база* не прызнаваў яшчэ Ластоўскі і перакладаў яго цэлым шэрагам сынонімаў: *аснова*, *апора*, *спод*, *астоя*. Няма гэтага слова ні ў слоўніку Яна Станкевіча, ні ў слоўніку Некрашэвіча і Байкова. І ўсё ж *база* нейкім чынам уплішчылася ў нашую мову, а з часам нават пачала адыгрываць у ёй не абы-якую ролю.

«Трэба будзе вырашыць грандыёзныя задачы стварэньня *матэрыяльна-тэхнічнай базы* камунізму», — сказаў некалі галоўны беларускі камуніст Пётра Машэраў і павёў за сабой народ на рэалізацыю гэтай ідэі. Як грыбы пасьля дажджу, пачалі ўзьнікаць у Беларусі, так бы мовіць, «*падбазкі*» той матэрыяльна-тэхнічнай *базы*: *сыравінная*, *кармавая*, *эксперымэнтальная*, *паліграфічная*, *кніжная*. Нават *артыкуляцыйная база* была пастаўленая на рэйкі служэньня ідэі — беларус мусіў ламаць язык на расейскі манер і заміж сьнегу і песьні казаць «песня», «снег».

Тым часам народ абураўся капіталістычнымі

*ваеннымі базамі*, якія пагражалі ягонай сацыялістычнай радзіме, і пакрысе будаваў свае зь верай у тое, што савецкія боегалоўкі — самыя гуманныя боегалоўкі ў сьвеце.

Аб'ектам любові народу была *спажывецкая база*. Яна мела дэфіцыт і ня ведала дэфіцыту. Зубныя шчоткі, прасьціны, гарэлка, цьвікі, селядцы, каўбасы, кава... Кожная рэч у краіне калі-нікалі зьнікала з крамаў, але *была на базе*.

А ў нашай эміграцыі праз увесь гэты час была яшчэ адна *БАЗА* — *Беларуска-амэрыканскае задзіночаньне*, арганізацыя беларусаў у Паўночнай Амэрыцы.

## Байка

*Антаніна Хатэнка*

Ходзіць *Бай* па сьцяне ў чырвоным жупане: «*Баіць* ці не?» Карціць выгукнуць: «*Бай*!» *Баю* ж таго толькі й трэба — *бае* сабе ды *бае* несусьветныя прыдумкі. Ён жа ж балбатун-пустабрэх.

А слоўнік падае яшчэ такія значэньні гэтага слова: *баіць* — «вядзьмарыць, гаварыць, заварожваць». Праўда, ці ня ў кожнай *байцы* мараль навідавоку.

Навучае *Бай* розуму. Мякка сьцеле — мулка спаць.

У нас *баяў* цяпер не пералічыць — як у Сярэдняй Азіі — *бай* на *баю* сядзіць ды *баем* паганяе. Закалыхвае нас, прылюльвае – *баю-бай* – самы вялікі й мудры *Бай* у Беларусі.

Дарэчы, *байкаю* яшчэ ж завецца й мяккая тканіна з прыгладжаным ворсам. І саматканая спадніца. І моладзевыя апранкі, падобныя да спартовых кашуляў.

Здаецца, мы ўсе ўрасьлі ў *байкі* — у *байкавыя* пялюшкі, коўдры, *байкавыя* нагавіцы, сукні ды *байкавыя* супэрабяцанкі нашага *Бая* ў чырвоным жупане.

Ходзіць *Бай* па сьцяне...

А калі ж ён зваліцца?

## Балоньня

*Рыгор Барадулін*

У 1960-х гадох, калі пасьля сусьветнага фэстывалю моладзі й студэнтаў у сіх-тых маскоўскіх кабетак зьявіліся «дзеці розных народаў» (так пачыналася адна з камсамольскіх песьняў пра барацьбу за мір), пашырылася мода на плашчы й курткі з капронавай тканіны з аднабаковым непрамакальным пакрыцьцём. Тканіна гэтая называлася *балоньня*. Пачаўся цэлы, як на той час, бізнэс па прывозе турыстамі *балоньні* на прагны да ўсяго заходняга савецкі рынак.

Калі пачынаўся дождж, вуліцы й праспэкты сэксуальна рыпелі. Плашчы гэтыя звалі прэзэрватывамі. Калі мода ў моладзі знайшла новы ўхіл, у *балоньню* апранулі савецкую міліцыю. Няцяжка здагадацца, як звалі міліцыянтаў у гэтай спэцвопратцы.

Цікавы анэкдот зь літаратурнага жыцьця: прафэсар Мальдзіс прыехаў аднекуль з-за мяжы,

вядома ж, у *балоньні*. Сядзяць яны за чаркаю з Уладзімерам Караткевічам і разважаюць. Адам кажа: «Штучныя тканіны там танныя, вось мой плашч каштаваў пляшку гарэлкі». На гэта задуменны Ўладзімер зазначае: «Затое якая там гарэлка танная...»

## Балота

*Антаніна Хатэнка*

Здаўна-спрадаўна жыве ў беларусаў паданьне, як у *багне-балоце* агні начамі сьвецяцца, запаленыя мітычным *Балотнікам*. Здавён *балота* палохае і насьцярожвае. Аж да таго, што захацелі людзі асушыць яго. Хацелі з *дрыгвы* сухімі вылезьці. Але ж мы — «*людзі на балоце*».

Дзе, бывала, ні ступіш у Беларусі — *забалаці* ды *балаціны* спаткаеш. *Балотная* мы грамада, *дрыгвяная*. Бывае, закалыхаемся ў нейкім памкненьні... Ды зноў суцішымся, да супакою вернемся. Устойлівасьць надта любім. У стаячай вадзе лілеяў чакаем. А вакол — асака, твань ды застой.

Вось, вось — сёньняшнія «людзі на *балоце*» — зусім ня мележаўскія тыпажы. Наасушаліся ды зноўку ў сваю *багну* пашыліся. Дзе пустэльні паўтваралі — там цярпім рахмана. Дзе яшчэ купістая *багна* раскашуе — звыкла пабойваемся... Аднак прымаем. Аго, як прымаем! Жытка нашая — суцэльнае *балота*. Ні жывога дзеяньня, ні зруху, ні павароткі... Зачараванае пагой-

дваньне *дрыгвы*... дзе які агеньчык міргане — і згасьне ў няволі.

Нам, добра застаялым, і выбірацца боязна.

*Балота* напрыканцы XX стагодзьдзя — гэта ўжо не *балотная* мэнтальнасьць палешука, што ўчэпіста трымаецца свайго, жыве ў сваім адметным рытме. *Балота* цяпер — насамрэч гнілая *багна*. Усё перажылося й згінула. Адно бурбалкі ідуць. Яшчэ ж дыхае нашае *балота*.

## Банан

*Сяргей Харэўскі*

Гэтая трапічная садавіна ўпершыню зьявілася ў Беларусі ў XVIII стагодзьдзі, калі ў магнацкіх рэзыдэнцыях завялі моду на экзатычныя аранжарэі. Але нішто ня вечнае, прагналі панаў, і ня стала *бананаў*.

Вярнуліся яны на сталы беларусаў толькі ў 70-я гады XX стагодзьдзя як прыклад салідарнасьці з народамі Афрыкі ды Азіі, якія абралі сацыялістычны шлях. Аднак другім пачуцьцём, пасьля гонару за братнія народы, было глыбокае расчараваньне. Мякаць дзіўнага плода, якая пахла шампунем, была слотнаю і коўткаю, ажно ледзьве можна было разамкнуць пашчэнкі. У тыя гады *бананы* ў Беларусь завозілі зялёнымі й нясьпелымі, каб была магчымасьць іх доўга перахоўваць у непаваротлівым савецкім гандлі. *Дастаць банана* — у 1970-я гады азначала выпадкова набыць добра вядомую з кніжак, але невядомага спосабу ўжываньня садавіну.

Вынаходлівыя беларусы, каб дасьпяліць, клалі іх на ацяпляльныя батарэі альбо замарожвалі ў лядоўнях, а пасьля аблівалі кіпенем...

У 1980 годзе падчас Алімпіяды ў Менску нарэшце зьявіліся добрыя, сьпелыя й духмяныя *бананы*, але іх пасьпяхова зьелі студэнты з тых самых братніх краін Азіі і Афрыкі.

Напрыканцы 1980-х значэньне слова *банан* рэзка пашырылася. *У вушах бананы* — гэта стан пахмельля. «*Банан*» — штаны моднага калісьці крою, завужаныя ніжэй лытак. Новыя моды!

«Рускі! Біг-*банан*!» — крычалі зьбянтэжаным беларусам у вясёлых кварталах заходніх сталіцаў. Гэты эўфэмізм, аднак, у нашай мове не прышчапіўся.

Затое беларуская моладзь добра засвоіла значэньне гэтага слоўца ў сэнсе міліцэйскае дубінкі. Не адзін дэманстрант «дастаў» амонаўскага «*банана*». Упершыню гэткія «*бананы*» былі шырока ўжытыя падчас шэсьця на Курапаты ў 1988 годзе. З таго часу гэткіх *бананаў* ды іх мадыфікацыяў істотна паболела. Зьявіліся дубінкі даўжэйшыя і таўсьцейшыя, з рознымі тронкамі, з электрашокерамі і вельмі эфэктыўныя, са схаванымі шыпамі, якія разьдзіраюць вопратку і скуру. Беларусь стала вялікай аранжарэяй міліцэйскіх *бананаў*.

А для большасьці беларускае дзятвы *банан* заставаўся ў 1990-х садавіною па-ранейшаму далікатэснай.

# Басовішча

*Ян Максімюк*

Слова *Басовішча* зьявілася ці то пад канец 1989-га, ці то на пачатку 1990 году, калі беларускія студэнты высьпельвалі ідэю фэстывалю беларускай рок-музыкі ў Гарадку пад Беластокам. Гісторыя неяк не занатавала, хто першы прапанаваў такі назоў. Але, без сумневу, можна сьцьвярджаць, што слова прынялося на Беласточчыне адразу. Яно было растыражавана бадай ці не трыма тысячамі плякатаў з анонсам першага фэстывалю ў ліпені 1990-га. А пасьля гэтай імпрэзы стала вядомае і ў Беларусі.

Этымалёгія слова даволі простая — гэта абрэвіятура *БАС* (*Беларускае аб'яднаньне студэнтаў*, арганізатар фэстывалю) плюс салідны беларускі канчатак *-овішча*. Нехта потым спрабаваў зьвязаць паходжаньне слова з *бас-гітарай* — маўляў, на фэстывалі моцна «*басуюць*», то бок граюць на «*басе*», інакш, *бас-гітары* — але студэнцкі *БАС* адкінуў гэткую народную этымалёгію як прынцыпова няслушную. Затое студэнтам спадабаўся калямбур пісьменьніка Ўладзімера Арлова, які, пабачыўшы бурную рэакцыю гарадоцкай публікі на выступы беларускіх «цяжказбройных» гуртоў «Мроя» і «Ўліс», ахрысьціў фэстываль *Бясовішчам*.

*Басовішча* было словам зусім новым, бо прэзэнтавала зусім новую зьяву — беларускую рок-культуру, пазбаўленую савецкага штампу і расейскамоўнай афарбоўкі. Гэта была першая культурная зьява, у якой і дзякуючы якой беластоцкія маладыя беларусы знайшлі поўнае

духоўнае паразуменьне з пад- і постсавецкімі суродзічамі. А таксама адчулі гонар за беларускую культуру перад маладымі палякамі, якія, пачынаючы зь першага фэстывалю, нязьменна складалі сама менш палову публікі ў гарадоцкім лесе, дзе ішлі канцэрты.

Бадай ці паўторыцца яшчэ дзе-небудзь такое, як у Гарадку, калі сотні маладых галасоў сьпявалі разам з Касяй Камоцкай, Сержуком Сокалавым-Воюшам, Віктарам Шалкевічам песьні пра Беларусь. А таксама пра «Радыё Свабода» з гуртом «Уліс»...

## Батлейка

*Міхась Скобла*

Мелі беларусы замілаваньне да пацешных спэктакляў пра крыважэрнага цара Ірада ды яго паслухмянага жаўнера Ваяку, пра добрага анёла ды падступнага чорта, што намаўляе царашаленца на забойства Божага Сына.

Перасоўны тэатрык вандраваў ад вёскі да вёскі, ягоныя ўдзельнікі моклі ў дажджэвіцу, прадавалі дрыжыкі ў мароз. Затое якой радасьцю запальваліся вочы малечы, калі над вільчаком казачнай хаткі ўспыхвала калядная зорка, а нябачны *батлейнік* выпускаў на сцэну гаваркія лялькі.

Беларуская *батлейка* мела і сваякоў — польскую *шопку* ды ўкраінскі *вяртэп*.

Вярнуцца да жыцьця *батлейка* здалела толькі напрыканцы шматспадзеўных 1980-х

дзякуючы майстру Алесю Ласю ды музэю Максіма Багдановіча, пад чыёй страхой яна жыве і сёньня.

*Батлейка* і за тры стагодзьдзі не састарэла. Яе клясычныя сюжэты пра змаганьне дабра зь ліхам для беларусаў ізноў надзённыя, хіба што ня шкодзіла б троху паднавіць рэквізыт. Бо нараджаюцца новыя ірады:

«Зноў спакой мяне пакіне,
Чуў я, што ў маёй краіне
Аб'явіўся новы цар —
Людзкіх сэрцаў валадар.
Хоча ўладу захапіць,
Мой загад — яго забіць».

Уся Беларусь напрыканцы другога тысячагодзьдзя ператварылася ў лялечны тэатар: хтосьці тузае за нітку, хтосьці прамаўляе чужым голасам.

*Батлейка, батлейка,* чароўная дзея...

## Бацькаўшчына

*Ігар Бабкоў*

Сёньня слова *Бацькаўшчына* з асаблівай асалодаю вымаўляюць беларускія рок-музыкі, а Кася Камоцкая нават вынайшла слова *мацькаўшчына* як адказ на закладзеную ў *бацькаўшчыне* полавую дыскрымінацыю.

*Бацькаўшчына* найлепш гучыць з крыху іранічнай інтанацыяй: «дзеткі-грамадзяне» любяць «маці-Радзіму» і пабойваюцца «бацьку» з нашай і ягонай *Бацькаўшчынай*.

# Беларусізацыя

*Аляксандар Лукашук*

Пра слова дня *беларусізацыя* прапанавала расказаць наша слухачка зь места Шосткі Сумскай вобласьці Ўкраіны Яня Мірашнічэнка:

«Здоров'я вам!

Слово дня — *білорусизація*.

На початку незалежності шовіністи загорлали про «насильницьку *білорусизацію*». На їхню ненависть зважали. Як наслідок, термін *білорусизація* замінив термін *фінляндизація*. «*Білорусизація* України! Ми можемо опинитись в Білорусі!» — бояться українські патріоти.

*Білорусизацією* називають антибілоруські явища».

Так напрыканцы стагодзьдзя пачула слова *беларусізацыя* нашая ўкраінская слухачка, 20-гадовая Яня Мірашнічэнка.

*Беларусізацыяй* у 1920-я гады называлі палітыку пабудовы нацыянальнае сацыялістычнае дзяржавы. Нават абмежаваная дзяржаўная падтрымка культуры, адукацыі, навукі дала амаль імгненны вынік. Але, калі схаваная нацыянальная энэргія пачала ўвасабляцца ў сталыя формы дзяржаўнага жыцьця, *беларусізацыяй* занялося АГПУ: арганізатары сталі «нацдэмамі», «змоўнікамі» з «Саюзу вызваленьня Беларусі» ды іншымі ворагамі народу.

Другая кароткая спроба беларусаў уздыхнуць вольна ў сваім доме адбылася, калі Чырвоная армія дала драпака ад салдатаў вэрмахту: пад нямецкай акупацыяй прабіліся парасткі бела-

рускага жыцьця, якое потым было або зьнішчана, або працягнулася на эміграцыі.

У 1953 годзе падчас барацьбы за ўладу ў Маскве пры дапамозе *беларусізацыі* спрабаваў дасягнуць сваіх мэтаў Лаўрэнці Берыя — мясцовае начальства гаварыла й пісала па-беларуску аж два тыдні, пакуль Берыю не арыштавалі.

Спроба апошняй у XX стагодзьдзі *беларусізацыі* была зноўку задушаная ў сярэдзіне 1990-х, і цяпер гэтым словам нашы суседзі палохаюць малых дзяцей: *беларусізацыя* якой-небудзь краіны азначае, што там ня будзе анічога свайго, а будзе, як цяпер у Беларусі.

Хацелася б верыць, што гэтае значэньне слова *беларусізацыя*, якое ня мае анічога супольнага зь Беларушчынай, гэтак і застанецца ў XX стагодзьдзі і не пяройдзе ў стагодзьдзе XXI-ае.

## Беларушчына

*Сяргей Дубавец*

Слова *беларушчына* нарадзілася ў XX стагодзьдзі. Гэта сучаснае слова. Хоць сама словаўтваральная мадэль вядомая ў нас здаўна. Яшчэ ў першай палове XVII стагодзьдзя Ян Казімер Пашкевіч напісаў эпіграму «Польшча квітнее лацінаю, Літва квітнее рушчызнаю». Словы з такім суфіксам пазначалі звычайна розныя зборныя зьявы — краіну, як у прыкладзе зь Нямеччынай ці Вугоршчынай, або войска, як у выпадку з казаччынай ці рэкруччынай. Уласную радзіму або спадчыну беларусы называюць Бацькаўшчынай. У беларускай мінуўшчыне

хаваецца наша старасьвеччына. *Беларушчына* ў гэтым шэрагу прыкладаў абазначае родную мову. «Чаго вам хочацца, панове? Якi вас выклікаў прымус забіць трывогу аб тэй мове, якой азваўся беларус?» — пісаў Янка Купала ў вершы «Ворагам *беларушчыны*».

У міжваенныя гады, за польскім часам, беларускія вёскі Татаршчына і Каралеўшчына сталі Татаршчызнай і Круляўшчызнай, як яны называюцца і сёньня. Што да *беларушчыны*, дык яна не перайначваецца на іншамоўны лад, бо існуе і можа існаваць толькі ў беларускай мове. Гэта наша з вамі ўнутранае слова, інтымнае.

## Бел-чырвона-белы

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Нацыянальных колераў не выбіраюць. Іх дае гісторыя. Якая б улада ні была ў Беларусі, якія б падзеі ні адбываліся на нашых абшарах, асноўнымі колерамі народных вышывак былі й застаюцца спалучэньні *белага й чырвонага*.

Цікава, што й літаратура, незалежна ад палітычнай ці нацыянальнай арыентацыі яе стваральнікаў, поўніцца *бела-чырвонымі* спалучэньнямі:

«*Чырвоная* вясна павяла рашучы наступ. *Белая* зіма здае свае пазыцыі» — Крапіва; «Ішоў *чырвоны* ранак па *сьвеце* за акном» — Куляшоў; «У *сьветлай* залі за *чырвоны* стол» — Аўрамчык. «*Бела-чырвона-белае* цела і кроў, гэта яно, адвечнае: вера, надзея, любоў», — сьпявае Андрэй

Савельеў-Рымкевіч і працягвае гэтую колеравую лінію: хлеб і віно.

Кляўдыюш Дуж-Душэўскі, які на пачатку XX стагодзьдзя прапанаваў *бел-чырвона-белы* сьцяг у якасьці дзяржаўнага, меў на тое ўсе падставы. Тады ж Макар Краўцоў напісаў тэкст гімну і ўпершыню ўжыў у ім скарочаную першую частку прыметніка. «Штандар наш *бел-чырвона-белы*», а ня бела-чырвона-белы, як таго патрабавалі б законы мовы. Гэтак і прыжылося.

## Блат

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Слова *блат* у слоўніках пачатку XX стагодзьдзя няма. Гэта зусім не азначае, што зьява адсутнічала. Яна была, але тычылася іншых, чымся цяпер, сфэраў жыцьця і абазначалася іншым словам: *пратэкцыя*. Побач з пратэкцыяй існаваў і *блат*, але тычыўся ён справаў цёмных, зладзейскіх і рабункавых, а таму існаваў толькі ў крымінальным жаргоне.

Мова заўсёды чуйна рэагуе на ўзровень жыцьця і культуры. Атрымаць начальніцкую пасаду на прадуктовай базе ў савецкі час можна было толькі паводле пратэкцыі, іншую працу на той самай базе — па знаёмстве, а вось дастаць дэфіцытны тавар з базы — вылучна па *блату*.

*Блат* ва ўмовах адміністрацыйнай сыстэмы быў, так бы мовіць, змазкай сацыяльнага мэханізму. Не на начальніках, не на партыйных босах, а на нефармальных сувязях трымаўся падмурак гэтай зьявы. *Блат* непарыўна зьяя-

заны са словамі *дастаць* і *дэфіцыт*. Менавіта па *блату* даставалі найлепшыя прадукты, лекі, мэблю, часам кватэры й машыны, а таксама пуцёўкі, модную вопратку і нават кніжкі.

Першакрыніцай слова *блат* маглі быць некалькі моваў. Польскае *блат* абазначае чалавека, які нешта хавае, і польскае ж *блат* у крымінальным жаргоне мае значэньне «хабар».

У габрэйска-нямецкай *блат* — згодны альбо ўведзены ў таямніцу.

Нямецкае *блат* — папяровыя грошы.

Ад слова *блат* паходзіць і выраз *блатная мова*, а таксама *блатныя песьні* — песьні крымінальнікаў ці *блатных*. У сваю чаргу самі *блатныя* — элемэнт, сацыяльна блізкі савецкай люмпэнскай уладзе.

Яшчэ адно значэньне выразу «*блатныя песьні*» — нецэнзурныя песьні вуліцы. У адной зь іх ваяка выпраўляецца на вайну і бярэ з сабой торбу сала, якая й робіцца ягоным асноўным клопатам. Вынік гэтага ваярства досыць сумны:

А затым я ў шпіталь папаў,
На спружынным я ложку ляжаў,
Там зь мяне абутак зьнялі,
Торбу з салам адабралі,
Ой, браткі, нашто ж я яе браў!

## Блін

*Антаніна Хатэнка*

*Блін*. Ці ня ўсім беларусам адразу згадалася: «Прапахлая *блінамі* раніца сонцам коціцца ў

хату». І *бліны*, як тое Сонца, узыходзяць на стол урачыста і велічна.

*Бліны* са скваркамі, з вачастай яечняй, з грыбной поліўкай, са сьмятанай, з сочывам альбо мёдам. *Бліны* масьленічныя, велікодныя, дзядоўскія і будзённыя, што надавалі дням сьвяточнасьць. І *калядныя бліны ладныя*.

Здаецца, мы вырасьлі на *блінох*, як тыя *блінцы* на дражджох. Здаецца, нашыя пульхныя *блінцы* і тонкія, як лісьціны, названыя ў народзе «божымі анучкамі», насамрэч прыцягваюць да Беларусі шчодрае сонца, сьвятло й цяпло.

А хто ж забудзецца пра слодыч і жар *блінцоў* з Коласавае «Новае зямлі», якія смакуюць дзядзька Антось і гурт малечы!

А якія шыкоўныя *бліны* пяклі багі на Парнасе, зь якім гонарам падавала іх на стол цудная Геба!

Далібог, варта *разьбіцца ў блін*, каб усмакавацца беларускімі *блінамі*. Уганараваныя ды аблашчаныя ўсенароднай любоўю, *блінцы* вяршаць разам з намі ды вялікім сонцам вечны кругазварот жыцьця. Гадуюць, мацуюць і жывяць Яе Вялікасьць Нацыю.

З *блінцамі* лягчэй адольваюцца паміnаньне і скруха. *Блінцом* найперш частуюць дух продка, а затым каштуюць самі.

Таму й кажуць спрадаўна — *першы блін сабаку*, бо першы прапануецца роду, дзядам. Узяў сабе — засядзе ў горле.

Як позіркам кінуць у мінуласьць ды прышласьць, дык з *блінамі* перажываюцца і згуба, і адчай.

# БНР

*Сяргей Навумчык*

Абрэвіятура *БНР* ня толькі пазначае палітычную рэальнасьць, але й мае духоўную праекцыю. Новая незалежная беларуская краіна была названая за прыкладам паўднёвых суседзяў, украінцаў, якія ў лістападзе 1917 году ўтварылі Ўкраінскую Народную Рэспубліку. Менавіта Ўкраіна першай і прызнала *БНР* як сувэрэнную дзяржаву, і менавіта ўкраінцы найбольш спрыялі беларускаму незалежніцкаму ўраду.

Пасьля вымушанай эміграцыі кіраўнікоў Рады *Беларускай Народнай Рэспублікі* ідэі *БНР* захоўвалі пакаленьні беларускіх эмігрантаў як сымбаль, як сьцяг. Для ўсіх тых тысячаў юнакоў ды дзяўчат, якія ў сакавіцкі дзень пад бел-чырвона-белымі сьцягамі выходзяць на вуліцы беларускіх гарадоў, *БНР* — сымбаль волі, дэмакратыі, незалежнага ды заможнага жыцьця. Сымбаль нашай прыналежнасьці да Эўропы. Зрэшты, шмат хто перакананы, што *Беларуская Народная Рэспубліка* будзе ня проста сымбалем, а назвай Беларусі ў трэцім тысячагодзьдзі.

# Брат

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Блізу сарака вытворных ад слова *брат* падае ў сваім слоўніку лексыкограф XIX стагодзьдзя Іван Насовіч, больш за сорак — ягоны наступнік з XX-га Ян Станкевіч.

Пабачыўшы малодшага *брата*-беларуса больш расейскім, чым самі расейцы, Мікіта Хрушчоў прадказаў, што і ў камунізм беларусы прыйдуць раней, чым іншыя. І ўсё ж людзі добра разумелі сутнасьць савецкага *братэрства народаў*. Адсюль і жарт: *як будзем дзяліць, роўна ці па-братэрску*? Надта ж добра мы зьведалі сьмяротнасьць так званых *братніх абдымкаў*...

## Бронь

*Андрэй Лапцёнак*

*Браніраваньне* — значыць «замацаваньне каго-, чаго-небудзь за кім-, чым-небудзь, а таксама дакумэнт на такое замацаваньне». Слоўнікавае значэньне нагадвае пра важныя рэаліі савецкага часу, дзе *бронь,* або *броня*, стаяла ў адным шэрагу са словамі *ільгота* і *блат*.

Напрыклад, *броняй* называлі спэцыяльнае пасьведчаньне на *браніраваньне* жыльлёвай плошчы. *Браніраваным* жыльлём, акрамя «загранкамандзіраваных» і «палярнікаў», маглі пахваліцца толькі супрацоўнікі Ўсесаюзнага аб'яднаньня дзяржаўных цыркаў, якія падоўгу знаходзіліся на гастролях.

Разам з нападам Гітлера на «маладую краіну саветаў» выявілася, што *браніраваць* можна ня толькі караблі і танкі, але і людзей. *Бронь* ад фронту выдаваў Наркамат абароны, і страх страціць тую *бронь* прымушаў работнікаў стаяць ля станкоў столькі, колькі патрабавала начальства. Жаданьне жыць зрабіла *бронь* часоў вайны прад-

метам гандлю і спэкуляцыяў. У газэтах 1944—45 гадоў зьяўляліся абвесткі інстытутаў аб прыёме студэнтаў з наданьнем *броні*. А праз дзесяцігодзьдзі, калі СССР уступіў у вайну ў Аўганістане, *бронь* са студэнтаў ВНУ пачалі здымаць. Бацькі разьвіталіся з сынамі, плачучы: «Барані цябе Божа!»

Барані Бог вярнуцца ў тыя часы.

## Брук

*Сяргей Шупа*

Слова *брук* — зь нямецкага *Brucke* — зьявілася разам з нараджэньнем мадэрнага беларускага гораду. Яно прыйшло да нас з Эўропы разам з магдэбурскім правам, гарадзкой прадстаўнічай дэмакратыяй, цэхавай культурай, кнігадрукаваньнем ды іншымі цывілізацыйнымі зрухамі XV—XVI стагодзьдзяў.

Старадаўнія актавыя кнігі фіксуюць шмат вытворных словаў — *брукаваць* (масьціць *брукам*), *брукаваньне*, *брукар* (той, хто *брукуе*), *брукавыя грошы*, або *брукавое* (падатак за пераезд і пастой на *бруку*).

*Брук* зазначыў новы ўздым побытавай культуры. Разам з дахоўкай ён стаўся на стагодзьдзі сымбалем новай эстэтыкі беларускіх местаў і мястэчак.

З часам *брук* наагул стаў азначаць горад як месца сацыяльнага дзеяньня. *На бруку* — значыць у горадзе. *На віленскім бруку* — гэта ня проста на пэўнай вуліцы, на пэўным чынам за-

мошчанай паверхні, гэта — у тым сацыяльным сусьвеце, які завецца Вільняю.

Але нашы звяяваныя каралі паснулі на пагорках нашай Эўропы, і наўзамен з Усходу прыйшла іншая культура. Мястэчкі ператварыліся ў *посёлки городского типа*, замест разбураных старасьвецкіх камяніцаў нарасьлі пачварныя спаруды з шкла й бэтону, замест дыхтоўнай дахоўкі на стрэхах ляжыць прагнілы шыфэр, а наш *брук* заліты сьмярдзючым асфальтам.

Выглядае, што ў XXI стагодзьдзі нас чакаюць цяжкія рамонтныя працы...

## Бугор

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Слова *бугор* прывандравала з мовы старажытных арыяў. Там яно мела значэньне «гнуты», адкуль ужо няцяжка вывесьці: выгнуты, гарбаты груд.

Некаторыя сьцьвярджаюць, што слова *бугор* роднаснае з *Бугам* — памежнай беларускай ракой. Можа, таму беларусам сталася зусім блізкім і зразумелым гутарковае значэньне слова *бугор*, якое ўзьнікла за нашай памяцьцю. *Бугор* — як мяжа. Прыежджых *з-за бугра*, хай сабе і з сацыялістычных краінаў, нязьменна суправаджалі гэбэшнікі. Ці ў асобе гіда, ці перакладчыка, ці падасланага суразмоўцы.

Разам з замежнымі таварамі разбэшчвалі душу і сеялі зерне сумневу ўва ўсім савецкім *галасы з-за бугра*. Яны былі розныя: палітычныя,

музычныя, кінэматаграфічныя. У выніку чалавек пачынаў цікавіцца: а як там насамрэч?

Тыя, хто тым ці іншым чынам апынуліся *за бугром*, пісалі лісты, слалі пасылкі і фатаздымкі. Тыя, хто ўсё гэта атрымлівалі, а таксама іхныя знаёмыя, марылі хаця б адным вокам глянуць на гэта ўсё пэрсанальна. Ня стала СССР, пачаў зьнікаць і выраз «*з-за бугра*».

## Бульба

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Бульба* — слова-агрэсар. Яго ведаюць усе прышлыя на Беларусь іншаземцы. *Бульба* — слова-пятля, якое ашчапервае за глотку адарванага ад сябе беларуса і нагадвае яму, хто ён.

Кажуць, што нават у тых мясьцінах, дзе *бульбу* называюць картопляй, замежнік аднекуль выпорвае недыялектнае: *бульба*.

Навука цьвердзіць, што слова *бульба* прыйшло да нас зь нямецкай альбо лацінскай моваў. Між тым пісьменьнік Кастусь Тарасаў аднойчы заўважыў, што да зьяўленьня *бульбы* ў Беларусі гэтым словам называлі любыя клубні іншых расьлінаў. Так што, калі тая *бульба* і была запазычаньнем, то цяперашняя — зусім не!

Ані ў жыцьці, ані ў мове *бульба* ня мае сынонімаў. Часам яе называюць беларускім хлебам, а часам з хлебам і ядуць.

«*На бульбу*!» Які беларускі школьнік ці студэнт ня ведае гэтых словаў! Выезд дзяцей на дапамогу самай перадавой у сьвеце эканоміцы,

хаця й перарываў навучальны працэс — быў усё ж часам прыемным. *Бульба* адбірала частку ведаў, але дадавала адноснай ды супольнай свабоды.

Танец «*Бульба*», мянушка «*бульбашы*», першы пэрсанаж першай беларускай тэлевізійнай калыханкі — *Бульбінка*. Ніводзін пісьменьнік не абмінуў у сваёй творчасьці сымбалю нашага стала. *Бульба* здаецца беларусу нагэтулькі спрадвечнай, што напісаная адным з аўтараў XX стагодзьдзя п'еса, у якой пэрсанажы XI стагодзьдзя гавораць пра *бульбу*, ня выклікала пярэчаньняў ні ў рэдактара, ні ў чытача.

Між тым *бульбу* ў Беларусі ведаюць усяго якіх гадоў 250—300. Яна з тых нямногіх, хто пакінуў амэрыканскі кантынэнт дзеля Беларусі.

## Бульбаш

*Андрэй Лапцёнак*

«Гэй ты, *бульбаш*!» — кінутае у твой адрас сяржантам-расейцам толькі ў першую хвіліну выклікала жаданьне адказаць крыўдніку і толькі таму, што прамоўлена гэта было як дакор ці абраза. Але зараз жа ты разумееш: які там дакор, якая абраза! *Бульба*, *бульбіна*, *бульбянікі* — з лупінамі, з журам, каплуном, квасам, капустай, саладухай і яшчэ Бог ведае з чым былі традыцыйнай штодзённай ежай тваіх бацькоў. Па ўжывальнасьці гэтыя словы і сёньня спаборнічаюць са словамі *хлеб*, *маці*, *бацька*, *хата*.

Ані ў водным беларускім слоўніку вы ня

знойдзеце слова *бульбаш*. Вытворнае ад *бульбы*, яно сустрэлася толькі ў слоўніку «солдатского жаргона», складзеным яшчэ за савецкім часам. Беларускі прызыўнік зь Бешанковічаў ці Лельчыцаў, выхаваны на *бульбе*, прыносіў з сабой у савецкую армію культ гэтага клубня.

Паглыналі простыя расейскія «парні» тваю *бульбу* і называлі цябе *бульбашом*. Мы не крыўдавалі. *Бульбаш* — гэта тая мяжа, дэмаркацыйная лінія, якая назаўсёды аддзяліла нас ад *хахлоў*, *маскалёў*, *лабусаў* і *пшэкаў*.

## Буракі

*Алена Ціхановіч*

У *буракох* ёсьць цымус: у чырвоных — колер, у цукровых — слодыч.

У *буракох* ёсьць пэрспэктыва — як станеш на пачатку калгаснай баразёнкі, то канец далёкадалёка.

За *буракамі* — літаратурная традыцыя. Францішак Багушэвіч выдаў «Дудку беларускую» пад псэўданімам *Мацей Бурачок*.

*Бурак* — ежа сьціплая і кампанейская. Ён ніколі не бывае ў цэнтры стала і сам па сабе: ён ці ў баршчы, ці ў вінэгрэце, ці «пад шубай».

Зрэшты, слова гэтае рэдка ўжываецца ў адзіночным ліку — хіба толькі ў аднайменных прозьвішчах. А так увесь час — *буракі* ды *буракі*.

У адрозьненьне ад бульбы, *буракі* асабліва не паддаліся мэханізаванай культывацыі, і таму зь імі зьвязваюць увесь цяжар калгаснага

прыгону. *Калгасныя буракі* дзялілі на дзялкі — на пачатку заўсёды доўгіх барознаў брыгадзір убіваў тычкі з прозьвішчамі калгасьнікаў, не выключаючы і пэнсіянэраў. Тыя мусілі адбыць дзьве праполкі, а часта — калі калгас ня меў іншай сілы — дагледзець да канца, выкапаць, пачысьціць і пагрузіць на трактары. Не пайсьці *на буракі* было раўназначна бунту ці адкрытай апазыцыі. Не апалоўшы *буракоў*, нельга было атрымаць сена, каня ці талёнаў на цукар.

Таму *на буракі* хадзілі да сьмерці. Чым больш старэла вёска, тым ніжэй згіналіся постаці на *бураковых* палетках — пакуль урэшце самыя нямоглыя не станавіліся ў баразёнках на калені.

*Бурак* — адно са словаў, якому ўдалося амаль цалкам выцесьніць зь беларускага лексычнага поля свой іншамоўны адпаведнік. Нават на трасянцы мала хто кажа «сьвякла». І нават беларускія расейцы стараюцца вымавіць: *бурякі*.

## Бусел

*Рыгор Барадулін*

*Бусел*, *бацян*, служка перуна, ногі ў пажары, сьвятая птушка ў беларусаў...

У тую хату ніколі ня ўдарыць пярун, якая на гарбе страхі нясе *буслова гняздо*.

На дрэве кладуць зьежджанае кола — сымбаль руху і сонца, каб *бусел* ладзьбаваў сабе гняздо, *бусьлянку*.

Паданьне распавядае, як Госпад даў чалавеку мех і сказаў занесьці ў пекла. І адначасна не гля-

дзець, што ў мяху. Чалавек, вядома, не ўтрываў і разьвязаў мех, а адтуль нечысьць распаўзлася па зямлі. За гэтую правіну Госпад зрабіў цікаўнага чалавека *буслом* і загадаў зьбіраць нечысьць. А каб хоць трошкі скрасіць ягонае жыцьцё, даручыў *буслу* прыносіць вясну, прылятаць на зьвеставаньне, на самае сьвятое сьвята, на якое сам *бусел* гнязда не ладзьбуе, а дзяўчына касы ня чэша.

Малым тлумачылі, адкуль яны — іх *бусел прынёс у капусту*.

*Бусел* адчувае ліхалецьце, галодны год. Тады ён скідвае з гнязда лішнія яйкі, каб не выводзіць дзяцей у галоднае жыцьцё.

Уладзімер Караткевіч назваў сваю найвыдатнейшую кнігу пра прошласьць і прышласьць Беларусі «Зямля пад белымі крыламі».

Дзеці нязлосна цьвеляцца з буслом: *«Бусел-бусел-клекатун, схапіў жабу за каўтун, валачыў, валачыў і ў балоце памачыў»*. Ці так: *«Бацян, бацян, даўганосы, прапіў боты, а сам — босы»*.

У нас, на вушацкай зямлі, каб *бусел* рабіў шырэйшыя кругі, падпявалі: *«Буцян, буцян, круці кола, дам курыцу на Міколу»*.

А цяпер мне часам гучыць рэклямна: *«Буцян, буцян, круці кола, дам бутэльку “кока-колы”»*.

## Бюракрат

*Вольга Караткевіч*

Чалавек, які сядзіць пры пісьмовым століку (франц. *bureau*) з тоўстым сукном і мае на ім уладу (грэцкае κράτος) — гэта й ёсьць *бюракрат*.

*Бюракрат* абазначае, паводле слоўніка Булыкі, службовую асобу, якая пры выкананьні сваіх абавязкаў асноўнае значэньне надае форме, а ня сутнасьці справы.

У Беларусі *бюракратаў* заўсёды бязьлітасна выкрывалі. Вельмі шчыравалі тут літаратары — і Андрэй Мрый, і Якуб Колас, і Аляксей Карпюк. Аднак наймацней іх закляйміў Пімен Панчанка ў «Паэме сораму і гневу»:

Няхай агнём бязьлітасным гарыць
Сьвет *бюракратаў*, махляроў і гадаў.

## Бюст

*Сяргей Харэўскі*

*Бюст* па-француску — гэта грудзі. Або яшчэ паясны скульптурны партрэт.

У Беларусь гэтае слова патрапіла з Расеі разам зь *бюстамі* расейскіх цароў. Напрыклад, *бюсты* Аляксандра Другога—«асвабадзіцеля» стаялі ў Менску і Магілёве, у Шклове ды Бабруйску і нават у купалаўскіх Бяларучах на Лагойшчыне.

Але сапраўдны шал *бюстызацыі* пачаўся за бальшавікамі. Спачатку скінулі *бюст* цара й замянілі яго *бюстам* Карла Маркса з гіпсу. Яго ж беларусы й разьбілі першым, калі бальшавікі ўцяклі былі зь Менску. Калі ж яны вярнуліся, дык заставілі ўсю Беларусь *бюстамі*. Першым жа помнікам у паваенным Менску стаў *бюст* Дзяржынскага, які глядзеў на будоўлю гмаху КГБ. Пасьля пачалі ставіць *бюсты* на радзіме герояў: спачатку — вайны, потым — космасу

і, нарэшце, — сацыялістычнай працы. Апошнім савецкім *бюстам* стаў помнік Грамыку, міністру замежных справаў СССР, у вёсцы Старыя Грамыкі на Гомельшчыне. І цяпер гэтая самотная галава, прыцярушаная радыяцыяй, сузірае спусьцелую «радзіму героя». І першым жа *бюстам*, скінутым пры незалежнасьці, стаў помнік Карлу Марксу, што стаяў разам зь *бюстам* Леніна ля будынку былога ЦК.

У сваім першародным сэнсе слова *бюст* прыйшло да нас у 1980-я гады. Слова *бюстгальтар*, вывернутае на ўсялякія лады ў беларускім роце, было вядомае крыху раней, калі ім сталі замяняць уласныя станікі ды гарсэцікі. Але тое, што грудзі ў жанчын завуцца па-культурнаму *бюстам*, стала ведама люду паспалітаму зь «перастройкаю». Кароткае замежнае слова эканоміць і час, і адчуваньні. Але й блытае. «Шыкоўны *бюст*! Прыгожы *бюст*!» — можна сказаць і пра гранітную халодную галаву, і пра стан дзявочы. Аднак нават самы гарадзкі беларус усё ж скажа, што маці дае немаўлятку цыцку, а ня *бюст*. Бо *бюст* — гэта слова, пазбаўленае цела.

# В

## Вагонка

*Сяргей Харэўскі*

Гэтае слова трывала ўвайшло ў беларускі лексыкон, спакваля падмяняючы слова *шалёўка*. *Шалёўка* — вузкія габляваныя дошкі, якімі абшываўся драўляны зруб, спрадвеку выкарыстоўвалася ў народным дойлідзтве. Але да вайны яна, з-за свайго вялікага кошту, ужывалася рэдка. Напрыклад, шаляваліся бажніцы. Даўжэзнымі габляванымі сухімі дошкамі. На Палесьсі ў *шалёўцы* шыфравалі салярныя знакі. А ў Панямоньні шалявалі франтоны гонтаю, нібы ў працяг страхі. Не па бярвеньні, а замест яго.

Перад вайною прыйшла *вагонка* — габляваныя дошкі, якія рабілі пры дапамозе простых станкоў. Зь любое драўніны можна было хутка вырабіць стандартныя ў сячэньні тонкія дошчачкі, з пазам, які дазваляў зрабіць *шалёўку* гладкай, бяз шчылінаў. Ад пачатку гэты выраб прызначаўся для абшываньня вагонаў, вядомых «цяплушак», у якіх было зручна транспартаваць быдла і «ворагаў народу» на Ўсход. У абшытых *вагонкаю* саставах адправілі туды тысячы беларусаў. А ў вайну тысячамі вывозілі ўжо і на Захад...

Але па вайне эстэтычныя якасьці няякаснае драўніны трыюмфавалі: беларускія вёскі зьмяніліся непазнавальна. *Вагонкаю* ўзяліся шаляваць усё запар, ад прызбы пад страху. Сівыя зрубы ўбіраліся ў шаты *вагонкі*. За імі можна было схаваць любыя хібы матэрыялаў і працы. Пасьля, на той жа савецкі новы манер, хаты пачалі шчодра фарбаваць. Сялянскае жытло ад Берасьця да Смаленску стала гладкім і стракатым.

Толькі праз паўтара дзясятка гадоў высьветлілася, што беларускі клімат і шашаль жаруць драўніну, прыхінутую *вагонкаю*, шматкроць хутчэй. Хаты, якія па вайне ёю шалявалі, ужо струхнелі. Але эстэтычныя меркаваньні ўсё адно бяруць верх. *Вагонка* пераражыла ўжо і тыя вагоны, у гонар якіх была названая. Вагонаў ужо даўно не шалююць дрэвам... А ў Беларусі сёньня прадаюць *эўравагонку*, якой паслугоўваюцца найболыш заможныя беларусы. Любоў да *вагонкі* засталася... як напамін пра акалічнасьці нашае «вагоннае» гісторыі. Бадай, *вагонка* зьнікне з нашага лексыкону толькі тады, як забудзецца СССР. І тады дошкі на абшываньне хатаў па-ранейшаму будуць звацца проста *шалёўкаю*.

## Вайна

*Сяргей Дубавец*

Мабыць, гэта адзінае слова, якое ўражвае больш за сьмерць. Вось адчыняюцца дзьверы, уваходзіць гаспадар хаты, сядае пры стале, за

якім сабралася ўся сям'я і, ня гледзячы нікому ў вочы, робіць сутаргавы выдых: *вайна*. Вось людзі каля радыёкропкі замёрлі і сама кропка нібы замёрла перад тым, як прамовіць гэтае даўкае слова: *вайна*. Вось задыханая суседка сказала, быццам заікнулася: *вайна*.

Першая, другая, сусьветная, айчынная, польская, фінская, паўночная, халодная, неаб'яўленая... Удакладненьні не патрабуюцца, калі яна — наша, калі — на парозе. *Вайна* заўсёды гучыць так, нібы штосьці замінае гаварыць. Напрыклад, пігулка валідолу пад языком. *Вайна* — як неасэнсаванае лапатаньне пасьля страшнага шоку, калі здаецца, што пачынаеш наноў вучыцца гаварыць, а яно ня надта выходзіць. *Вайна* — найстрашнейшая, калі яна гатовая стаць рэальнасьцю. Пасьля ўсё ўваходзіць у тую *ваенную* рэальнасьць, і *вайна* становіцца сынонімам жыцьця. Ну, як вы тут жывяце? Ды *вайна* ў нас. *Вайна*.

Час і сьвет падзяляюцца на *даваенныя* і *паваенныя*. Да *вайны* прывыкаюць. *На вайне як на вайне*. У *вайну*, *вайнуху*, *вайнушку* гуляюць хлопчыкі. *Вайной* дражняцца дзеці: *трус, трус, беларус, на вайну сабраўся*... і дарослыя — пра сварку мужыка і жонкі: *вайна пасярод гаўна*. Але гэта ўжо пасьля, калі *вайна* канчаецца. Тыя, хто перажыў яе, на ўсё жыцьцё захоўваюць на першым месцы ў сваёй герархіі жаданьняў: абы не было *вайны*. Ужо ў іхных дзяцей знаходзяцца рэчы, важнейшыя за *вайну*. І тады рана ці позна настае часіна, калі гаспадар уваходзіць у хату і неслухмяным языком прамаўляе: *вайна*.

## Вандэя

*Валянцін Акудовіч*

За камуністамі кожны адукаваны беларус ведаў пра Вандэю, бо Вялікай францускай рэвалюцыі адводзілася шмат месца ў савецкіх падручніках.

Але ніхто ня зьвязваў назвы гэтага дэпартамэнту Францыі з хоць чым у Беларусі, пакуль напрыканцы 1980-х Алесь Адамовіч не назваў *Вандэяй* усіх тых сілаў, што супрацьстаялі дэмакратычным пераменам і нацыянальнаму адраджэньню нашай Бацькаўшчыны.

Зь лёгкай рукі Алеся Адамовіча слова *Вандэя* імгненна набыло надзвычайную папулярнасьць. Калі ў 1988-м на Дзяды ля зачыненай брамы Маскоўскіх могілак шчыльныя шыхты міліцыянтаў з усіх бакоў сьціскалі шматтысячны натоўп, каб людзі падушылі самі сябе, то адзінае, што мы маглі тады супрацьпаставіць карнікам — гэта нястомны вокліч: «*Вандэя! Вандэя! Вандэя!*». Менавіта гэты вокліч задзіночыў натоўп у змагарнае цэлае й дапамог яму выстаяць.

Зрэшты, лёсы словаў яшчэ больш пакручастыя і непрадказальныя за лёсы людзей. І колькі б сёньня гісторыкі ні тлумачылі нейкую сапраўдную ролю гэтага заходняга дэпартамэнту Францыі ў ейным далейшым лёсе, але *Вандэі*, бадай, назаўсёды наканавана заставацца мэтафараю контррэвалюцыі.

# Ваўчар

*Алена Ціхановіч*

Як і кожнае новае, арганічна не асвоенае слова, *ваўчар* ужываецца няйнакш як з агаворкай, такой папярэдняй запінкай: гэты… як яго… *ваўчар*. Гэтым самым той, хто гаворыць, як бы адчужае слова ад сваёй звыклай моўнай матэрыі. Як і кожнае малазразумелае слова, ваўчар паддаецца народнаму этымалягічнаму аналізу. Многім тут чуецца нешта *ваўч*ынае.

У сапраўднасьці ж *ваўчар* паходзіць ад ангельскага дзеяслова *vouch* — «пацьвярджаць, паручацца за што-небудзь». Вытворнае ад яго слова *ваўчар* у мове-арыгінале мае два значэньні. Гэта, па-першае, дакумэнт, які пацьвярджае права ўладальніка на атрыманьне пэўных тавараў ці паслугаў, за што, як правіла, заплачана пры папярэдняй угодзе. Сынонімам яму могуць быць словы *расьпіска*, *талён*, *білет*. Па-другое, *ваўчар* — гэта і чалавек, які выпісвае або выдае такі дакумэнт. Гэтае значэньне пакуль не пазычанае.

Заўважым, што хоць *ваўчар* адначасна прыйшоў і ў беларускую, і ў расейскую мовы, яго ўжываньне мае пэўныя асаблівасьці. Так, у Расеі з ініцыятывы Анатоля Чубайса праводзілася *ваўчарная прыватызацыя*. У Беларусі прыватызацыйныя дакумэнты назвалі чэкамі, а *ваўчар* замацаваўся пераважна ў сфэры турысцкага бізнэсу. Таму беларускае значэньне *ваўчара* раўназначнае знаёмаму слову *пуцёўка*: купляючы *ваўчар* у турысцкай фірме, вы

атрымліваеце гарантыю аплачанага начлегу і сьняданку ў адным з замежных гатэляў. Праўда, тое, што гэтыя паслугі часта таксама ўмоўныя і незапатрабаваныя — іншая размова.

## Верасень

*Сяргей Дубавец*

У залатым фондзе беларускае лексыкі XX стагодзьдзя самая яркая калекцыя — назвы месяцаў. Яшчэ на пачатку стагодзьдзя ў «Нашай Ніве» гэтая сыстэма толькі фармавалася. Напрыклад, у 1909 годзе нумар газэты выйшаў 24 «сеньцябра», а ня *верасьня*. Хоць апошняе слова было і старабеларускім, і ўжывалася ў жывой гаворцы.

Сёньня назвы месяцаў — гэта і пашыраны паэтычны вобраз, і першы ўрок беларускае мовы. Вось малое пытаецца: «Мама, а чаму гэты месяц называецца *верасьнем*?» А вось грамадзянін, які запаўняе пашпартную анкету, спыняецца перад радком пра месяц нараджэньня і пытаецца ў суседа: «А как будет сентябрь?» «Кажется, *верасень*», — адказвае той. А вось высокі начальнік, засеўшы над новай дырэктывай на беларускай мове, кліча ў кабінэт сакратарку: «Зиночка, — пытаецца ён, — *верасень* — это какой месяц?»

Сымболіка дзявятага па ліку месяца — гэта плён, які выношваўся на працягу ўсяго году.

У палітычную гісторыю Беларусі ўзьяднаньне заходняй і ўсходняй частак краіны ў 1939 годзе

трывала ўвайшло пад назваю *верасьнёўскіх падзеяў*. А 30 *верасьня* зьявілася на сьвет славутая пісьменьніца-мэмуарыстка *Зоська Верас*, якая дзень і месяц свайго нараджэньня ўдала зашыфравала ў псэўданіме.

*Верасень* — першы месяц восені, часам цёплы і сонечны, часам халодны і дажджлівы, а то й сьнежны. Часам *у месяцы верасьні выпадае пароша*, а часам ён *гарыць полымем ружовых верасоў*.

## Вёска

*Сяргей Дубавец*

*Вёска* — гэта беларускі сусьвет, космас. Над *вёскай* — вялізнае неба. У *вёсцы* ёсьць усё, што можа спатрэбіцца для жыцьця. Тут працуюць — пасьвяць каровы, сьвяткуюць — калядуюць, шмат разважаюць пра жыцьцё і гоняць беларускае віскі. Беларусы на Радуніцу едуць на магілы дзядоў з гораду ў *вёску*.

У *вёсцы* жыве мова.

Слова *вёска* ў той ці іншай форме ёсьць ува ўсіх індаэўрапейскіх мовах і азначае або селішча, або дом, або нават горад. Літоўскае *Viešpatis* — Госпад — мае аднолькавае зь *вёскай* паходжаньне. Але ўласна *вёску* розныя народы называюць і разумеюць па-рознаму. Напрыклад, расейскае *деревня* — зусім ня тое, што *вёска*. У расейцаў нацыянальны поступ зьвязваецца з расейскім горадам. Пры гэтым расейцы гавораць пра «*ідыятызм вясковага жыцьця*». У нас жа горад яшчэ

не нарадзіўся. А той, што ёсьць, — абыякавы да беларусаў і пазначае нацыянальны рэгрэс. Сказаць пра «*ідыятызм вясковага жыцьця*» па-беларуску — значыць наракаць на жыцьцё ўвогуле. «Ну ты, деревня» — гучыць па-расейску як абраза. «*Эх ты, вёска*» — гучыць па-беларуску як дакор, у якім ёсьць любоў.

*Вёска* — вясёлка, *вёска* — вясна і восень, *вёска* — скала.

Армянін Сараян казаў некалі, што ягонае сэрца ў гарах. Горы бароняць ад ворагаў і не даюць разьляноўвацца, прымушаюць цяжка працаваць і жыць у згодзе з прыродай. *Вёскі* — гэта горы нашай зямлі. Не выклікае даверу сьведамы беларус, які можа сказаць: не люблю *вёскі*! Гэта значыць, што ён або ўвогуле нічога ня любіць, або — ня сьведамы беларус.

Сэрца беларуса — у *вёсцы*.

## Віза

*Сяргей Шупа*

Далі *візу*. Не далі *візы*. Увялі *візавы рэжым*. Скасавалі *візавы рэжым*. *Візавая падтрымка*. *Віза* на ўезд, транзытная, студэнцкая, працоўная, эміграцыйная, шэнгенская, разавая, шматразовая — такая музыка гучыць увушшу таго, хто выбіраецца сёньня ў вялікі сьвет.

*Віза* — адна з найбольш адметных зьяваў эпохі нацыянальных дзяржаваў. *Віза*, якая ставіцца ў пашпарце і дазваляе прыватнай асобе перасоўвацца ў падзеленай на розныя краіны прасторы — гэта натуральны спосаб самасьцьвярджэньня

дзяржавы, выяўленьне яе пазыцыі ў сьвеце, павагі да сябе і да іншых.

Калі СССР адышоў у нябыт і на ягоным месцы пастваралiся новыя дзяржавы, выехаць зь якіх ужо не было ніякай праблемы, — атрыманьне *візы* сталася прыватнай справай.

Затое сёньня вельмі важна — чый ты грамадзянін. Рэч у тым, што некаторыя краіны на знак сымпатыі і даверу да некаторых іншых зусім адмяняюць *візавы рэжым*. Так, беларускія грамадзяне могуць бязь *візы* езьдзіць па Расеі — хоць да Чукоткі, а польскія ці літоўскія — наадварот: па ўсёй Эўропе і шмат дзе яшчэ. Розьніцу адчуе той, каму даводзілася чакаць *візы* дні, тыдні, месяцы...

## Вільня

*Сяргей Дубавец*

*Вільня* — сталіца Вялікага Княства Літоўскага, сэрца краю, крывіцкая Мэка. Той, хто не вывучаў у школе паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», можа й ня ведаць, ШТО ў беларускай мове значыць слова *Вільня*. На працягу апошніх 50 гадоў замест *Вільні* ў сьвядомасьці беларусаў праз расейскую мову ўкаранялася літоўскае слова *Вільнюс*. Гэтак крамлёўскія ўладары ды іхныя менскія намесьнікі затушоўвалі наступствы сумнавядомага пакту Молатава-Рыбэнтропа. Беларусам пра сваё дачыненьне да старой сталіцы належала забыць.

У выніку адчужэньне адбылося найперш у мове. Бо якое можа быць адчужэньне тэрыта-

рыяльнае, няхай сабе і з памежнымі КПП, калі ад *Вільні* да Менску 180 км?! І што такое гэтыя 50 гадоў у параўнаньні зь вечнасьцю! *Вільню* апелі ў сваіх найлепшых вершах Багдановіч, Колас, Жылка, Арсеньнева, Танк... А яшчэ раней узьніклі нашы народныя песьні, прыказкі і прымаўкі. «*Рабі пільне*, — казаў менскі бацька свайму недалыгу-сыну, — *і тут будзе Вільня...*» У нашым фальклёры *Вільня* — гэта горад УВОГУЛЕ, гэтаксама як, напрыклад, рака ўвогуле — Дунай. Сярод старых беларускіх прыказак можна сустрэць і знаёмыя: «*Не адразу Вільня будавалася*», «*Язык Вільні дапытае*»...

Гісторыкі кажуць, што заснавалі гэтае паселішча крывічы і называлася яно адпаведна — Крывым горадам. Існуе паданьне, што тут спыняўся на начлег вялікі князь Гедымін і сасьніў сон: вялізнага жалезнага ваўка, а ў ім — мноства маленькіх ваўкоў. Паклікаў князь свайго варажбіта, і той растлумачыў сон так: на гэтым месцы мае паўстаць сталіца княства — *Вільня*. Нібыта за тое, што варажбіт ра́дзіў *Вільню*, яго й празвалі Радзівілам... Праўда, сучасныя навукоўцы не давяраюць легендзе і выводзяць *Вільню* ад назваў рэчак Вяльлі і Вялейкі, або Віленкі, пры сутоках якіх і быў закладзены горад.

Насуперак ранейшай прамаскоўскай палітыцы, мы павінны вярнуць у беларускую мову сваё слова *Вільня*. І гэта будзе не прэтэнзія, а звычайная для сучасных моваў практыка называньня ЧУЖЫХ гарадоў, якія маюць дачыненьне да СВАЁЙ гісторыі й мовы. Калі літоўцы называюць нашыя гарады Гардзінасам і Наўгардукасам, яны тым самым ня робяць тэрытарыяльнага захопу. Проста для іхнай гісторыі, культуры й

адукацыі гэта вельмі важна. Як для нас вельмі важна ня блытаць уласных школьнікаў мудрагелістымі вытлумачэньнямі, у якім такім Вільнюсе Скарына надрукаваў першыя беларускія кнігі, у якім такім Вільнюсе быў схоплены й павешаны Кастусь Каліноўскі і ў якім такім Вільнюсе Янка Купала рэдагаваў першую беларускую газэту «Наша Ніва», а пасьля яшчэ тлумачыць, што яны ўсе там рабілі.

Любоў да беларушчыны немагчымая безь любові да *Вільні*.

## Волат

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

«Гарады вялікія і сьцены высокія нават да неба і сыноў Энакавых бачылі мы там з роду *волатаў*», — пісаў Скарына ў адным са сваіх перакладаў.

*Волат Адраджэньня. Волат нашай культуры. Волат духу.* У нашай мове гэтае слова ўжываецца вылучна ў высокім стылі, але, паводле фальклёру, не заўсёды ў станоўчым значэньні. Нярэдка героі легендаў ці казак процістаяць *волатам,* і тады ўзьнікае антаганізм *волат* — *асілак*, дзе апошні ніколі не бывае адмоўным пэрсанажам. Гэта можна прасачыць і на глебе паходжаньня двух словаў. Калі *волат* у шмат якіх дасьледнікаў лічыцца пазычаньнем, то *асілак* — адвеку наш.

Прысутнасьць *волатаў* у вуснай народнай творчасьці можа паказваць на тое, што яны ў свой час адыгралі заўважную ролю ў гісторыі

беларускай зямлі. Больш за тое, яны пакінулі па сабе матэрыяльныя памяткі свайго існаваньня — курганы-*валатоўкі*, якія часам утвараюць цэлыя могільнікі — ад двух да 20—30 і больш капцоў. *Волаты*, *Волатава*, *Валатоўшчына*, *Валатоўкі*, *Волатава магіла* — назвы населеных пунктаў. Міхал *Валатоўскі* — беларускі этнограф і краязнаўца другой паловы XIX стагодзьдзя, які вывучаў Палесьсе.

У сёньняшнім беларускім жыцьці словы *волат* і *асілак* — сынонімы, да якіх можна дадаць: *сілач*, *магут*, *здаравяк*, *здаравіла*, *здаравец*, *атлет* і, вядома ж, стылёва зьніжанае, пераноснае — *бугай*.

Усе яны прайграюць *волату* і *асілку* ў адным: яны характарызуюць чалавека толькі зь фізычнага боку. *Волат*, *асілак* і *магут* — цэлая жыцьцёвая філязофія. Ніхто зь іх не асацыюецца з грузчыкам. Нікога нельга ўявіць удзельнікам п’янай бойкі. Яны чыстыя, незаплямленыя. Яны — героі. Яны — жыцьцёва значныя адзінкі, якіх так не стае сучаснай Беларусі.

## Вуліца

*Анатоль Вярцінскі*

Вясковая і гарадзкая, вузкая і шырокая, простая і крывая, адкрытая, што выводзіць на выган, на дарогу, на тракт, і глухая, тупіковая, што вядзе ў нікуды. *Вуліца* пяшчаная, пыльная або гразкая, брукаваная або пакрытая асфальтам — на чорным асфальце асабліва відаць крывавыя плямы.

Ад *вуліцы* згадваю неаддзельнае вясковае дзяцінства:

— Куды, сынок?

— На *вуліцу*...

Сёньня ў гарадах моладзь на тое ж пытаньне адказвае — *на вуліцу*, на плошчу, на дэманстрацыю.

Улады прысвоілі сабе права вырашаць, па якой *вуліцы* дэманстрантам можна ісьці, а па якой нельга. І калі яны, дэманстранты, барані Бог, раптам пойдуць не па той, не па дазволенай *вуліцы*, ахоўнікі парадку іх могуць сустрэць дубінкамі і сьлезацечным газам.

Ёсьць такі выраз — *сьвята на нашай вуліцы*. Менавіта яго ўжыла ў 1996-м група вядомых літаратараў і навукоўцаў, калі выступіла супраць скасаваньня нашага галоўнага нацыянальнага сьвята, зьвязанага з абвяшчэньнем Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі.

Дык што сьвяткаваць нам, беларусам? Ці будзе на нашай *вуліцы* сьвята? — пыталіся аўтары артыкулу. Сапраўды, ці будзе, а як будзе — то калі і якое сьвята на нашай беларускай *вуліцы*?

## Вусны

*Сяргей Харэўскі*

«Адказваць пісьмова ці *вусна*?» — пытаюцца вучні ў настаўнікаў. Калі *вусна* — той адказ будзе распаведзены *вуснамі*.

«Я азёрную сінечу *вуснамі* лаўлю», — пяецца ў песьні. Чаго толькі ні робіцца *вуснамі* — пра-

маўляюцца лёзунгі, шэпчуцца прапановы, смакуецца пітво і нейчыя іншыя *вусны*.

«Ногі падкасіліся і мне, і ёй. Зьліліся *вусны з вуснамі* самі сабой», — клясычныя купалаўскія радкі. *Вусны* зьліваюцца, дакранаюцца, датыкаюцца. *Вусны* гарачыя, палымяныя, прагныя. Ну, вядома ж, яны могуць быць, як маліны ці як вішні.

Ад *вуснаў* утварыліся і *вусы*. Хоць *вусы* — зусім не абавязковая дэталь да *вуснаў*. *Вусьціш* — найперш ціш, зьмяненьне, зьнерухомленьне *вуснаў*. *Вусень* насамрэч падобны да *вуснаў* сваімі плаўнымі, пераборлівымі, прагнымі рухамі па сваёй сакаўной ежы. Па *вуснах* заўжды смак — салоны смак крыві, салодкі смак суніцаў ці горкі смак праўды.

Па *вуснах* мяркуюць і пра людзей наагул. Бо *вусны* бываюць зычлівымі і пажадлівымі, злымі і ласкавымі, бязвольнымі і рашуча сьціснутымі. Зь іх мы чуем вітаньні і праклёны, шчырыя малітвы і шчырую ману, пустыя дэкларацыі і словы гонару. Зь іх і тчэцца нашая *вусная гісторыя*, заўсёды праўдзівейшая, чым гісторыя пісьмовая, бо сказанага *вусна* ўжо ня выправіш. Бо яе ж выслаўляюць жывыя людзкія *вусны*.

# Г

## Газэта

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Словам *газэта* некалі ў Вэнэцыі называлі манэту, якой плацілі за друкаваны інфармацыйны ліст, які ўласна і быў *газэтай* у цяперашнім сэнсе слова.

Першая нелегальная *газэта* на беларускай мове («Мужыцкая праўда») зьявілася яшчэ ў XIX стагодзьдзі, а вось першая легальная — «Наша доля» — толькі ў XX-м.

Паколькі асноўнага прызначэньня *газэты* — праўдзіва інфармаваць — савецкія *газэты* не выконвалі, народ таксама ўжываў іх не паводле прызначэньня. Адны, ва ўмовах дэфіцыту паперы для прыбіральні, замянялі яе *газэтай*. Другія закаркоўвалі *газэтай* бутэлькі з алеем і самагонкай. Трэція — мылі *газэтай* вокны, білі ёй мух, скручвалі зь яе цыгаркі і распальвалі дровы ў печы, праз яе прасавалі штаны, у яе загортвалі ежу ў дарогу, рэзалі на ёй закуску. Пры гэтым *газэта* ніколі не ўжывалася як сурвэтка. Рот і рукі выціралі рукавом, аб штаны або яшчэ як.

У войску, у зімовы час, *газэты* ўжываліся замест анучаў. *Газэта* лепш трымала цеплыню.

Разам з тым *газэта* была апошняй надзеяй шукальнікаў праўды. У *газэту* скардзіліся, і надрукаваная скарга нярэдка дапамагала вырашыць праблему.

У назвах савецкіх *газэтаў* адбівалася ўся ідэалёгія камунізму: старадароскі «Поступ Кастрычніка» пад лепельскім «Ленінскім сьцягам» выходзіў на петрыкаўскія «Новыя рубяжы» і крупскім «Ленінскім курсам» ішоў да пружанскай «Зары камунізму». Аповед можна працягваць...

Чытачы ставіліся да *газэтаў* па-рознаму. Бальшыня сьвята верыла ў магію надрукаванага слова.

Напрыканцы XX стагодзьдзя *газэту* ўсё часьцей і часьцей пачаў замяняць тэлевізар.

## Газоўка

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

У канцы 1970-х — на пачатку 1980-х гадоў, калі ў інстытуце гісторыі партыі рыхтавалі чарговае выданьне твораў Леніна па-беларуску, перакладчыкі сталі перад праблемай — як перакласьці словы «керосиновая» і «газовая» прамысловасьць, калі «керосин» па-беларуску — *газа*.

Праблему вырашыў адзін малады філёляг, які, доўга не раздумваючы, сказаў: *газавая* прамысловасьць і *газная*. Вось жа *газавая* і была той, якая датычыла *газы* — роднай маці слова *газоўка*.

*Газоўка*, *газьніца, газьнічка* — самаробная *газавая* лямпа бяз шкла. Зробленая з бляшанкі, яна асьвятляла беларускія хаты, з гільзы — партызанскія зямлянкі і сховы зеленадубаўцаў.

*Газоўкі* яшчэ называлі *кураўкамі*, *капцілкамі*.

З маленства памятаю, як на зьмену *газавай* лямпе са шклом прыйшла электрычнасьць і людзі павыкідалі лямпы. Але неўзабаве высьветлілася, што новы для вёскі род энэргіі — справа ненадзейная. Вецер блытаў і замыкаў драты, чамусьці почасту перагараў трансфарматар. І тады вяскоўцы вярталіся да *газовак*. Тым разам гэта ўжо быў спадачак, у які наліваўся алей і ўкладаўся ніцяны кнот. Выходзіў гэткі каганец. Ад *газы* тут была толькі назва — *газоўка*.

Напрыканцы XX стагодзьдзя *газоўкі* перасталі ўжывацца нават у курных лазьнях. Замест іх, у разе патрэбы, людзі карыстаюцца сьвечкамі.

Бывай, *газоўка*!

## Галава

*Антаніна Хатэнка*

Хоць *галавой аб сьцяну біся*, хоць *хапайся аберуч за галаву*, а *з хворае галавы на здаровую* ня зваліш — самі *хілім галовы* перад *авечымі галовамі* адрачэнцаў, маўляў, *карона з галавы ня зваліцца*.

Але і на калодку ці варта класьці нашую *сьветлую галаву*. Здаўна ж казалі пра мудрага,

адказнага чалавека захоплена — *галава*! Здаўна ўшаноўвалі гаспадара-дбайцу за *галаву*, і ў сям'і, і ў дзяржаве.

Цяпер *на скрут галавы* пнемся пад чужую ўладу, быццам самі парабіліся *дзіравымі дубовымі галовамі*. У іншага ж народу *не знасіць было б галавы* таму валадару, які *з галавою* кінуўся ў чужое балота бруд расхлёбваць.

Мы *з галавы да ног* падданыя, адданыя рабы. Прачынаемся і засынаем, азіраючыся на тых, хто вякамі нам *дурыць галаву*.

А насамрэч гісторыя нястомна і доказна даводзіць: *узьняўшы галаву* — жыць сьвятлей. Глядзіш, выйдзе, што мы *на галаву вышэйшыя* за тых, каму чалом б'ем празь вякі.

Але ж ня тым у нас пакуль *галовы забітыя*.

## Ганьба

*Валянцін Акудовіч*

«Ня лезь, жаба, туды, дзе коні падкоўваюць», — неаднойчы казаў мне бацька. Слушна казаў. Толькі хто ў наш век слухае старых!

Але калі шыхты АМОНу насунуцца на мітынгоўцаў, і ўжо няма куды падзецца, я адразу згадваю бацькаву параду. Ды позна. Бачу, што зараз вылупцуюць як мае быць. Зразумела, ня толькі я адзін бачу. І таму мы ўсе — беларусы, расейцы, габрэі, палякі — у адзін голас выенчваем зь сябе слова «*Гань-ба!*».

Паразумецца чалавеку з чалавекам можна на якой заўгодна мове. Але ж супрацьстаяць

гвалту магчыма адно на мове таго краю, у якім цябе гвалтуюць. І таму цалкам натуральна, што ў супраціве размаіты натоўп галосіць па-беларуску. Але хто б мне сказаў, чаму ён крычыць менавіта «*ганьба*»? Ці мала ў нашай мове цяжкіх словаў, якімі добра кідацца замест камянёў? Дык чаму тады «*ганьба*»?

Можа, таму якраз гэтае слова першым трапляе пад руку, што мы яго заўсёды маем пры сабе. *Ганьба* за патаптаную долю, за патаптаны край цяжкім каменем ляжыць на сэрцы кожнага, хто адважыцца на супраціў. І нам няма патрэбы нагінацца і шукаць камяні пад нагамі, мы іх бярэм проста з крушні свайго сэрца і шпурляем у міліцэйскія шчыты, што перагарадзілі нам шлях ад сораму за сябе да гонару за сябе.

## Гарбата

*Юрась Бушлякоў*

*Гарбата* як напой мае за сабою блізу трохтысячагадовую гісторыю. Пачалося ўсё ў Кітаі — зь вечназялёных *гарбатных* дрэваў зьбіралі верхавінкі лісткоў, лісткі пасьля апрацоўвалі, а тады настойвалі на іх напой — *гарбату*. Здавён ведалі, што *гарбата* танізуе, ужывалі яе ўсё часьцей, і так ператварылася ў нярэдкіх народаў піцьцё *гарбаты* ў рытуал.

У Беларусі яе пілі з XVII стагодзьдзя: ішла да нас *гарбата* двума шляхамі — як з Эўропы, так і праз Расею з Азіі. Таму й прыжыліся адначасна ў нашай мове два назовы — *гарбата*

й *чай*. Першы зь іх паходжаньнем з Галяндыі — адтуль якраз шырыўся па Эўропе ўсходні напой. У слове *гарбата* дзьве часткі: лацінскі назоў расьліны — *гэрба*, ды частка *та*, якая ад *тэ* — паўднёвакітайскага назову *гарбаты*. А вось з паўночнакітайскага *ча* вядзе свае вытокі другі, а для каго й першы, наш назоў — *чай*.

У першай траціне XX стагодзьдзя ў маладой беларускай літаратурнай мове культывавалі ў асноўным *гарбату* — у Купалавай «Паўлінцы», напрыклад, п'юць усё *гарбату*, ня *чай*. Максім Гарэцкі, між іншым, нават упікаў у 1920-х гадох Міхасю Лынькову, што той піша ў сваіх творах *чай* замест літаратурнага *гарбата*. Пасьля, праўда, арыенціры зьмяніліся — і *чай* ледзь не напоўніцу выціснуў *гарбату*. У Беларусі *чаявалі*, ведалі пра дасягненьні савецкага *чаяводзтва*, але імкнуліся пры гэтым набыць усё ж імпартаванага *чаю*, які ў продажы называўся «Індыйскім» або «Цэйлёнскім». Калі-нікалі можна было нат зайсьці ў *чайную* — з эканамічных і сацыяльных прычын *чай* там быў далёка не наймацнейшым напоем.

Пад канец стагодзьдзя поруч *чаю* ў Беларусі зноў аджыла *гарбата*. Выбар паболеў, дый смакі цяпер на розныя густы. Праўда, няма ўжо ні *чайных*, ні *гарбатняў*. На адной *гарбаце*, як ведама, далёка не заедзеш. Як кажуць у нас, *што кажух — то ня вата, што капуста — то не гарбата*.

# Гарышча

*Уладзімер Арлоў*

Гарышча — слова, настоенае на таямніцах.

На *гарышчы* жывуць кажаны і ажываюць казкі.

*Гарышча* вабіць бабуліным калаўротам і дзедавай шабляй.

*Гарышча* страшыць затканымі павучынай кроснамі, за якімі ўдзень сьпіць дамавік.

*Гарышча* ўсьцешвае старымі беларускімі кніжкамі і календарамі.

У Шчодры вечар дзяўчаты выглядваюць на *гарышчы* ў люстэрку свайго нарачонага.

На *гарышчы* рэдка прызначаюць спатканьні.

*Гарышча* любяць шпіёны і самагубцы.

*Гарышча* палохае, але гарышча й ратуе.

На *гарышчы* хаваюць забароненую літаратуру.

На *гарышчы* хаваюцца тыя, што ідуць супроць улады.

З *гарышча* выходзіць зь бел-чырвона-белым сьцягам на дах легендарны Мірон.

*Гарышча* — неадменная частка нацыянальнае сьветабудовы.

*Гарышча* лучыць беларусаў з космасам.

Мы жывем у хаце,
над намі жыве *гарышча*,
над *гарышчам* — неба.

# Гарэлка

*Віталь Цыганкоў*

Што трэба, каб пасадзіць соткі, прывезьці сена, насячы дроваў, адрамантаваць кран, здабыць вядро цэмэнту? Грошы не дапамагаюць, ратуе пляшка *гарэлкі*. *Гарэлка* прайшла, прамаршавала праз усё XX стагодзьдзе ня проста як алькагольны напой, а як усеагульны эквівалент грошай у краіне, дзе тавараабменныя апэрацыі панавалі задоўга да зьяўленьня слова *бартэр*.

Хто асьмеліцца спрачацца, што *гарэлка* — ня слова стагодзьдзя? Што б ні дзеялася, што б ні здаралася, а мы «па чарачцы, ды па малюсенькай...».

*Гарэлка* ўлілася ў беларускую мову ўдала, як у кілішак. Вымавіце «віно» альбо «шампанскае» — адразу адчуваецца нешта чужароднае, халоднае. Іншая рэч — *гарэлка*! Адно гучаньне гэтага слова прымушае каго ўсьміхнуцца, каго нэрвова сьцепануцца, каго заплакаць.

Народ заўсёды ставіўся да *гарэлкі* сур’ёзна, нават з залішняй павагай, як да прыкметы дабрабыту. Ладны стол мусіць быць укаранаваны пляшкай. Або цэлым гусаком. «*Калі піць, дык ня кпіць*». «*Паставіўшы талеркі, нап’емся гарэлкі*». «*Гарэлка ня дзеўка, не цалуй*». Ну і сучасны варыянт: «*Каб была чарка і скварка*». А зрэшты, пра што яшчэ марыць у краіне, дзе кіляграм мяса каштуе, як чатыры бутэлькі *гарэлкі*? Нездарма кажуць — «*ад гарэлкі розум мелкі*». Але *гары яно гарам*...

«*Ад панядзелка да панядзелка дробны дождж ідзе, сабралася бедна басота ды гарэлку п’е*».

# Гаспадар

*Рыгор Барадулін*

Так і чуецца ў слове *Госпадні дар*, Божы дар, бо добрым *гаспадаром* быць — гэта трэба мець талент.

*Гаспадар* — чалавек, які нечым валодае, нечым распараджаецца, пра нешта руціцца, вядзе *гаспадарку*, і любая *гаспадарка* — галоўны клопат *гаспадара*. Жытло *гаспадарова* з усімі прыбудовамі недарэмна ўзвышана называецца *гасподай*. Мужчына павінен быць *гаспадаром* свайго слова, *гаспадаром* свайго дому. *Гаспадаром* жонка называе мужа.

У даўніну дзяржава называлася *гаспадарствам*. Памятаеце, як пачынаюцца казкі? У некаторым царстве, у некаторым *гаспадарстве*... І ўладароў Малдовы і Валахіі велічалі *гаспадарамі*.

*Гаспадар* — чалавек незалежны, у адрозьненьне ад люмпэна. На *гаспадарах* трымаецца нармальная дзяржава, жыцьцё будзённае і дасяжныя мроі.

Калядоўшчыкі, прыйшоўшы ў *гаспадароў* двор, песьню звычайна пачыналі: *«Гаспадарочак, сьлічны паночак...»*. І паважная форма зьвяртаньня да каго-небудзь — *спадар* — таксама ад слова *гаспадар*.

Без *гаспадара* і нізінай стане гара. А над усімі намі, над усім сьветам — адзін *Гаспадар* Усявышні — *Госпад*.

# Гета

*Юрась Бушлякоў*

Да XX стагодзьдзя *гетаў* у нашым краі ня ведалі. *Геты* былі на Захадзе, былі на Ўсходзе, але ня ў нас. Само слова гэтае — *гета* — прабіралася да нас з Эўропы: з эўрапейскіх моваў першаю зьведала яго італьянская — на Апэнінскі паўвостраў прынесьлі слова разам з сабою габрэі. Выпадала ім, найчасьцей з прымусу, ізаляцыя — заставалася для іх *гета*. *Гета* на смутак і на радасьць, на добрае й благое, *гета* як прыпынішча сярод чужых, як выспа свайго парадку.

У беларускіх местах было горай — *геты* пазаводзілі акупанты ў часе апошняе вайны. Кожны ў нас ведае, куды вяла дарога з тых *гетаў*. *Геты* пладзілі горыч, у *гетах* цярпелі людзі — у *гетах* раскашаваў страх і віжавала сьмерць. Быў гэта сьвет, у якім ня будзеш рады сьвету. Сьвет, калючым дротам аддзелены ад таго жыцьця, дзе блазнуюць на карусэлях гулякі ды вецер разьвявае жанчынам сукенкі... У безнадзейным сьвеце *гета* жылі ў надзеі загнаныя сьляпою сілай у пастку людзі — на гэнай вайне яны былі найпершымі з ахвяраў...

Вось чаму цягам усіх паваенных дзесяцігодзьдзяў, ажыўляючы ў памяці гэтае прышлае слова *гета*, наш чалавек звычайна не зьвяртаецца па прыклады здалёк. Навуку спачуваць і памагаць мы праходзім, дазнаючыся пра кашмар, сьведкі якога пакуль яшчэ ёсьць сярод нас.

# Гешэфт

*Алена Ціхановіч*

*Гешэфты* — асноўны занятак гандляроў, перакупнікаў. Зрэшты, гэта шырэй, чым гандаль — любыя ўгоды, у аснове якіх — асабісты інтарэс. Слова, якое апярэдзіла англамоўны *бізнэс*, — запазычанае зь нямецкай і асвоенае найперш беларускімі габрэямі. *Гешэфт* мае адценьне сакрэтнасьці — дасьведчаныя дзялкі вядуць свае справы, не афішуючы іх, негалосна, з хітрымі манэўрамі, з лабавой ці абходнай тактыкай. Прадаць за тое, за што купіў, — ня бізнэс. Зрабіць добры *гешэфт* — мастацтва. *Гешэфт*, як правіла, канчаўся барышом ці магарычом.

Зрэшты, такое мастацтва на працягу ХХ стагодзьдзя ніколі асабліва не заахвочвалася. У краіне пастаянных дэфіцытаў улады пастаянна вялі змаганьне са спэкуляцыяй. Спэкулянты, а ня дрэнная эканоміка, абвяшчаліся вінаватымі ў дэфіцыце. З такой падачы ўсе астатнія, хто ня меў бізнэсовай жылкі, лічылі вайну са спэкулянтамі сьвятой.

Найбольш выгадныя *гешэфты* цяпер робяцца палітычнымі мэтадамі. Продаж гарэлкі ў Расею — нішто ў параўнаньні з продажам сувэрэнітэту:

> Пойдзем, хлопцы, на *гешэфты*,
> Распанеем, як адзін,
> Калі мы за шклянку нафты
> Незалежнасьць прададзім.

# Гітара

*Зьміцер Бартосік*

Сярэдзіна XX стагодзьдзя была адзначаная ў Беларусі неймавернымі тэмпамі ўрбанізацыі ды русіфікацыі. І ў гэтых працэсах не апошняю была роля *гітары*.

Па гарадзкіх дварох загучалі блатныя куплеты пад славутыя тры акорды, шляхетны інструмэнт усё часьцей называюць «лапатаю», «балалайкаю», а ў п'яной бойцы яна, разламаная на нейчай галаве, можа стаць «гішпанскім каўняром».

Рэнэсанс *гітары* пачынаецца ў 1960-х, калі ў Расеі нараджаецца жанр «аўтарскае песьні». На інтэлігенцкіх кухнях, у атмасфэры замкнёнасьці й абранасьці, загучалі песьні Акуджавы, Высоцкага ды Галіча. У Беларусі расьце колькасьць клюбаў самадзейнае песьні. Беларускія (па пашпарце) барды намагаюцца імітаваць маскоўскіх «клясыкаў». Беларусь у іхных песьнях прысутнічае адно як турысцкі аб'ект. Згадваюцца радкі: «Всё леса, леса, леса Белоруссии, да погода, по-девчоночьи капризная».

Уласна беларускім інструмэнтам *гітары* наканавана было стаць зусім нядаўна. Ці не з таго самага часу, калі спачатку загучалі «Песьняры», а праз колькі гадоў у краіну праніклі запісы Данчыка.

Напрыканцы 1980-х пачалося нараджэньне нацыянальнае бардаўскае песьні й беларускага рок-н-ролу. За які дзясятак гадоў у гэтага жанру

зьяўляюцца тысячы прыхільнікаў. Свае культавыя асобы й шарагоўцы, свае фэсты й тусоўкі.

*Гітара* разам са сьцягам становіцца абавязковым атрыбутам дэмакратычных мітынгаў і нацыяналістычных вячорак.

І хоць рана яшчэ казаць, што *гітара* стала выразьніцай беларускае душы, XXI стагодзьдзе будзе безумоўна належаць ёй.

## Гной

*Леанід Галубовіч*

*Гной* пахне вясною. І гэты пах займае нам дух, пакуль не ўзрастуць вакол нас краскі жыцьця.

Дзе тоўпіцца быдла — там топчацца *гной* і ўсё жывое *загнівае*, сабраўшыся ў адным стойле. Некаторыя ж узялі ў галаву дурное і даводзяць, што народ і ёсьць тым быдлам. Якое невуцтва й цемрашальства...

Не, шаноўнае спадарства! Быдла ня ёсьць народам. Але і ў вашых словах ёсьць доля праўды — *гной* адтуль.

І нездарма, відаць, так кучна таўкуцца ў астрозе беларускага слоўніка словы *гнёт*, *гнеў*, *гнюс*, *гном* і *гной*...

А калі *гною* зьбіраецца многа, то мы задобрываем ім зямлю бацькоў сваіх, каб радзіла яна для дзяцей нашых.

Што праўда, ад рознага быдла — іншы *гной*, які мае сваю адметнасьць, і форму, і колер, і пах... Але сутнасьць яго — адна. Ён касмапалітычны, бо прыжываецца на любой зямлі і робіць

яе хлебадайнай. І хоць разбурае арганічную самабытнасьць яе, а ўсё ж пакідае семя ў сувэрэннай памяці для адраджэньня згноенага.

Ёсьць людзі, якія лепяць зь яго свой дом пад небам, і такія, што ўсчынаюць зь яго агонь для дому — і так грэюцца пры вечнасьці роду свайго.

На *гноі* мінулага ўзыходзіць квет будучага. І самыя прыгожыя ружы пунсавеюць на ім цнатлівай чырваньню...

Таму ані ў кога з нас не павінна ўзьнікаць сумневу, што наша будучае будзе пахнуць... вясной...

## Гоман

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

«*Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай*», — сьпявалі ў 1920—30-х гадох свой партыйны гімн беларускія эсэры.

А яшчэ раней — напрыканцы XIX стагодзьдзя — назву «*Гоман*» мела беларуская народніцкая суполка, якая ўтварылася зь беларускіх студэнтаў у Пецярбургу. Суполка выдавала часопіс «*Гоман*».

Апрача часопісу «*Гоман*», у 1916—18 гадох мелі беларусы і газэту з такой самай назвай. Яна выдавалася ў Вільні і двойчы на тыдзень кірылкай і лацінкай заклікала наш народ да яднаньня, утварэньня незалежнай Беларускай Рэспублікі, апавядала пра гісторыю, інфармавала.

*Гоман, гамонка, гамана, гаманіць. Крычаць, гамоняць, а ня ведаюць, дзе звоняць. Гаманілі, гаманілі, дагаманіліся — зманілі.* І наадварот — *угаманіцца, угаманіць, угамоньваць, угамон. Угамону няма* — кажуць пра таго, каго няможна стрымаць ці супакоіць.

Савецкія слоўнікі пад узьдзеяньнем расейскай мовы тлумачылі слова *гоман* як бязладны шум, мноства галасоў ці — у пераносным значэньні — спалучэньне прыродных гукаў. Выходзіць, назвы пэрыёдыкаў «*Гоман*» азначалі бязладнасьць і шматгалосьсе. Наўрад ці гэта слушна.

Ян Станкевіч у сваім слоўніку выразна акрэсьлівае: *гоман* — жывая, у тым ліку й гучная гаворка.

У іншых славянскіх мовах слова *гоман* гучыць амаль гэтаксама, як і ў беларускай — украінскае *гомін*, чэскае *homon*, польскае *gomon*. Паводле паходжаньня яно зьвязанае з усходнеславянскім *gomъ*, *gamъ* — «шум, галас». У іншых эўрапейскіх мовах крэўныя нашага *гоману* — старажытнаісьляндзкае *gaman* — «радасьць, весялосьць» і ангельскае *game* — «гульня».

## Горад

*Сяргей Шупа*

«Не люблю я *места*, па-расейску — *горад*», — напісаў бацька новабеларускай літаратуры Францішак Багушэвіч. Гэтая фраза нібы задала цэлую сацыяльную парадыгму нянавісьці беларуса да *гораду*, яе можна паставіць у адзін шэраг

зь іншымі крылатымі фразамі, якія доўгі час складалі паэтычны партрэт беларуса, — «Людзьмі звацца», «Бо я мужык, дурны мужык», «Не забывайце... каб ня ўмёрлі»...

Цікава, што складаная гісторыя дачыненьняў беларуса з *горадам* адбілася і на самой тэрміналёгіі. *Горад* — слова старадаўняе, якое гадоў тысячу таму азначала нешта крыху іншае — агароджанае селішча зь сядзібай палітычнай і духовай адміністрацыі. Цывілізацыйна старадаўні *горад*, мабыць, мала розьніўся ад вёскі.

За часы Вялікага Княства Літоўскага беларускія землі разам з *гарадамі* набываюць новую якасьць, спазнаўшы цывілізацыйную трансфармацыю і далучыўшыся да Эўропы. Гэтая перамена адлюстравалася і ў зьмене тэрміну. *Горад* пачаў называцца *местам*. Тады ж узьнікла і польскае *miasto*, і літоўскае *miestas*, і ўкраінскае *місто* — так абазначыўся наш усходнеэўрапейскі субкантынэнт.

Беларусы ў *месьце* адчувалі сябе гаспадарамі. У *месьце* панавала старабеларуская мова, якою пісаліся акты й граматы, абвяшчаліся на пляцах загады й пастановы.

Аднак надышлі часы, калі беларускую культуру зь *местаў* выцесьніла польская, а пасьля расейская. І беларусы незалюбілі *места* (па-расейску — *горад*). Якраз у гэты момант узьнікала новая беларуская палітычная нацыя, базаю якой ужо непадзельна была вёска. *Места* занялі расейцы і пераназвалі *горадам*.

Супрацьстаяньне *гораду*/вёскі і спроба беларусізацыі *гораду* працягваліся ўсё XX стагодзьдзе. Ці палюбілі мы *горад*? Ці палюбіў *горад* нас?..

# Грыб

*Сяргей Харэўскі*

Што можа быць больш беларускім за «*грыбочкі*» на сьвяточным стале? *Грыбы* ў сьмятане, *грыбы* ў алеі, *грыбы* ў капусьце, ды, урэшце, наш нацыянальны шэдэўр — яйкі, начыненыя *грыбамі*.

*Грыб* — расьліна таямнічая, нібы бяз кветак, нібы без пладоў. *Грыб* — плод сам па сабе, падораны беларусам шчодраю рукою Стваральніка. Гэта ж праўда, як ня ўродзіць поле, то ўродзіць лес. А ў беларускім лесе больш як дзьве сотні *грыбоў*, любы зь якіх упрыгожыць стол. Лісіцы, абабкі, апенькі. Ну каму яшчэ так пашанцавала?

Грыбавец, Грыбаны, Грыбіна. Любімы плод даў назовы і беларускім селішчам, і самім людзям. З тым ці іншым *грыбам* беларусы параўноўваюць сябе: бледны, як паганка, ці здаровы, як баравік. А то і проста кажуць — *Грыб*. Адзін з *Грыбоў* — сакратар Усебеларускага зьезду, міністар БНР, другі — герой Савецкага Саюзу. І нават першую Канстытуцыю Беларусі падпісаў *Грыб*, старшыня Вярхоўнага Савету. А віленскі паэт Мінкін нат паэму напісаў «Краіна Грыбонія». У той краіне мы ўсе *грыбы*.

*Грыб* — гэта па-простаму й капялюх, калісь модны, з загнутымі ўгару палямі. *Грыбы* — гэта й рот, як часам кажуць юнакі. Рабочыя *грыбы* — гэта пра вусны кампанейскае дзяўчыны. Але гэта зусім ужо па-простаму...

Нішто ня спыніць беларуса спажыць *грыба*. Колькі б у ім ні было падазронага, радыяцый-

нага, хімічнага... Памыўшы, паварыўшы, падсаліўшы. Бо *грыб* — што беларус. Што ў ім, тое і ў нас. А як нам без *грыбоў*?

## Губэрнатар

*Сяргей Харэўскі*

Апошнім часам гэтае слова ўсё больш навязьліва стракаціць у беларускіх газэтах, гучыць з радыё і тэлевізіі. Журналісты, зацыкленыя на расейскіх падзеях, аўтаматычна ўводзяць яго ў беларускі палітычны лексыкон.

«*Гу-бэр-на-тар*» — гучнае, фанабэрыстае рэха данесла нам гэтае слова бязь зменаў са Старажытнага Рыму. Не зьмяніўся і ягоны зьмест — валадар, уладца, загадчык, прызначаны кіраваць кавалкам краю.

За часоў Расейскае імпэрыі Беларусь была падзеленая на *губэрні*. Віцебская *губэрня* разьлягалася ледзь не да Эстоніі, а Браслаўшчына ўваходзіла ў *губэрню* Ковенскую. На чале *губэрняў* стаялі прысланыя з Расеі чыноўнікі — *губэрнатары*, якія разглядалі сваю пасаду як прыступку да далейшае кар'еры. Напрыклад, гарадзенскі *губэрнатар* Сталыпін па вяртаньні на радзіму стаў міністрам унутраных справаў.

*Губэрнатараў* прызначаў цар. Яны падпарадкоўваліся толькі сэнату й пракуратуры ў далёкім Пецярбургу. Дзясяткі *губэрнатараў* зьмянялі ў нас адзін аднаго. Сярод іх былі розныя людзі — адны расстрэльвалі, другія садзілі паркі,

але іх усіх лучыла тое, што яны былі ў Беларусі чужыя.

Пасьля 1917 году *губэрнатараў* ня стала наагул. І пра іх забыліся. Напрыклад, імёны апошняга віленскага *губэрнатара*, нейкага Вяроўкіна, альбо віцебскага, нейкага Галахава, ужо нічога нікому ня кажуць. Адзіная беларуская *губэрня* без *губэрнатара* была Гомельская, утвораная ў савецкай Расеі ў 1919 годзе, пакуль яе не далучылі ў 1926 годзе да БССР. Няма Расеі — няма і *губэрняў* з *губэрнатарамі*.

Адпаведна, называць сёньня словам *губэрнатар* цяперашніх вэртыкальнікаў — кіраўнікоў беларускіх абласьцей, што часам робяць нашы журналісты — памылка. Гэта тое самае, што называць іх ваяводамі, на ўзор нашай другой суседкі — Польшчы. *Губэрнатар* — гэткай пасады ў Беларусі няма. На чале ўлады ў вобласьці стаіць *старшыня абласнога выканаўчага камітэту*. Даўжэй, але слушна і па-беларуску...

## Гульня

*Валянцін Акудовіч*

Што я, беларусаў ня ведаю? Беларус альбо працуе, альбо п’е гарэлку. Калі вып’е — можа і пазабаўляцца. Але каб сьвядомы беларус не працаваў, а *гуляўся* ў *гульні* — такога, лічы, не бывае.

Беларус здатны прыдумаць кола, сякеру, млын. Але выдумаць шахматы ці футбол, ня

кажучы ўжо пра бег прусакоў навыперадкі, яму б нават і ў галаву не прыйшло.

Бадай, мы маем толькі адну нацыянальную *гульню* — хованкі. Мы спрадвеку тым і бавіліся, што хаваліся ад розных прыхадняў. Калі не ў лясох, дык у саміх сабе. І ўрэшце так пахаваліся, што калі сталася магчымым выйсьці на людзі, то ніяк самі сябе не пазнаходзім.

Пэўна, беларус ад прыроды ня здольны да хоць якой умоўнай *гульні*, тым болей да палітычнай *гульні* ў беларускую дзяржаву.

Усялякая дзяржава — гэта *гульня* ў правы і абавязкі паміж уладай і грамадзянамі. А беларусы замест таго, каб ствараць свае каманды і *гуляць* з уладай у беларускую дзяржаву, звыкла хаваюцца за фіранкамі.

Гэтак дасюль не ўва ўласным доме, але як бы ў прымах жывуць. Раскіданыя па ўсім сьвеце габрэі празь дзьве тысячы гадоў выгнаньня стварылі нацыянальную дзяржаву таму, што ўсе гэтыя дзьве тысячы гадоў *гулялі* ў сваю *гульню* па правілах, выкладзеных у Бібліі, і пад наглядам судзьдзі, якога называлі Богам.

Але беларусы, як вядома, не габрэі. Беларусы засур'ёзна ставяцца да жыцьця, каб *гуляцца* ў жыцьцё. І гэта, пэўна, таксама няблага.

Толькі, як сьведчыць гістарычны досьвед, калі ты ня ўмееш забаўляцца сам, то табою забаўляюцца іншыя.

# Д

## Дакопкі

*Алена Ціхановіч*

Апошнія барозны. Поўныя мяхі. Пот і стома. Павуціньне і залатое лісьце. *Дакопкі*.

*Дакопкі*, як адлёт журавоў, азначаюць істотную зьмену краявіду — па *дакопках* з палёў, разараных прыдарожных палосак, лапікаўсотак зьнікаюць сагнутыя постаці. Узьнёслым стылем такая праца называецца «пакланіцца зямлі», а простая цётка скажа: «Цэлае лета над гэтай бульбай рачкавала». Мала дзе ў сьвеце на зломе тысячагодзьдзяў выжываньне чалавека застаецца нагэтулькі залежным ад яго ўласных аграрных высілкаў.

Выкапаная бульба — пражыты год. Поўны склеп — сытая зіма. Ураджай мераецца ня толькі мяхамі, але якасьцю: буйная ці дробная, каросьлівая ці чыстая... Яшчэ больш парамэтраў выяўляюцца на стале: сопкая ці мыльная, жоўтая ці белая, свойская ці «кабанская». Так апрабоўваюцца дзясяткі новых гатункаў, якія прыйшлі на беларускія палі: «тэмп», «сантэ», «ласунак», «адрэта», «аганёк», «велікан», «верас», «траскуха»...

*Дакопкі*, як і дажынкі, знаёмыя і калгаснаму полю. Толькі дажынкам было суджана стаць дзяржаўным сьвятам, а *дакопкі* застаюцца нечым прыватным, сямейным.

*Дакопкі* — ня фэст, а факт: на гэты год — з бульбай. І так — з году ў год, стагодзьдзе за стагодзьдзем.

## Даляр

*Алена Ціхановіч*

За 20 кілямэтраў ад славутага чэскага курорту Карлавы Вары ляжыць мястэчка Яхімаў. Звычайнае правінцыйнае чэскае мястэчка, з касьцёлам, парай «піўніц» і кавярняў, старымі дамкамі.

За нямецкімі часамі гэтае малое места называлася Яхімсталь. Тут у 1518 годзе была адбітая першая партыя высакапробных срэбных нямецкіх *яхімсталераў*. Яны хутка набылі папулярнасьць па ўсёй Эўропе, сталі ўзорам для біцьця манэтаў у іншых дзяржавах. Заскладаная назва скарацілася, і ў розных краінах сьвету яна зьведала невялікія мадыфікацыі — у Скандынавіі стаў вядомы *далер*, у Гішпаніі — *далера*, у Вялікім Княстве Літоўскім — *талер*, у Ангельшчыне — *долар*. Такім чынам, словы *даляр* і *талер* — аднаго кораня.

*Талеры* прыйшлі ў Беларусь у XVI стагодзьдзі, а ў XX-м, абярнуўшыся па сьвеце, вярнуліся *далярамі*. Першыя *даляры*араблялі й прывозілі з Амэрыкі эканамічныя эмігранты: у даваен-

най Заходняй Беларусі на іх яшчэ можна было купіць зямлю. Потым для *даляраў* была адведзеная выключна запаведная гандлёвая тэрыторыя «Бярозак». За незаконныя валютныя апэрацыі саджалі. Законапаслухмяныя грамадзяне баяліся *даляра* ня менш, як антысавецкай літаратуры. І толькі калі рублёвыя зьберажэньні пачаліператварацца ў дым, калі абясцэнілася золата, амаль усе ўнівэрсальныя функцыі зьберажэньня, назапашваньня і гандлю перанесьліся на *даляр*. Зьявілася новая прафэсія валютнага мянялы, ці валютчыка.

Паколькі ў апошнія гады XX стагодзьдзя *даляры* хадзілі былі паміж грамадзянамі і ў эканоміцы толькі пад прылаўкам, само слова стала таксама як бы невымаўляльным: яго раілі не гаварыць праз тэлефон ці на базары. Быў выпадак, калі адну з гандлярак стадыёну «Дынама» цалкам разьдзелі міліцыянты — каб знайсьці ў яе забароненыя *даляры*. Таму гэтае слова набыло шмат сынонімаў — *зялёныя*, *баксы*, *умоўныя адзінкі*.

## Даміно

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Даміно*. Гульня. Найбольш папулярная ў гарадзкіх дварах, у заводзкіх бытоўках. Можна гуляць на два канцы, а можна і на чатыры. Той, хто прайграў, — казёл. Той, хто выйграў, мусіў бы быць *даміно*, але... Гэткае азначэньне ў нас не прыжылося...

Слова *даміно* паходзіць ад ужыванага ў каталіцкай літургіі лацінскага выразу *Benedicatus Domino* «славім Пана». Словам *даміно* спачатку называлі накідку з капюшонам, якую насілі ўзімку ксяндзы. Па іх колеры сталі называць костачкі для гульні.

У нас *дамінавалі* партыя, ідэалёгія, КГБ, генэральныя сакратары... Леанід Брэжнеў любіў *даміно*. Ён забіваў «казла» разам са сваімі ахоўнікамі. Як бы ні скончылася гульня, ён заставаўся між імі панам, вечным *даміно*. А вось у дварах і бытоўках былі толькі казлы і тыя, хто выйграў.

## Дастача

*Антаніна Хатэнка*

Усе людзі ад прыроды гульцы. Дый жыцьцё падобнае да вялікай заўзятай гульні. Ці хто каго, ці хто з кім.

Чалавеку малому й сталаму трэба цацка, якую ён будзе даглядаць, якою ён будзе выхваляцца. А дзе й сваю недасканаласьць цацкаю прыкрые — ці то аўтамабілем, ці то шыкоўнай кватэраю, ці футрам. Маўляў, вось маю, дасягнуў, ня горшы за ўсіх вас.

Але бываюць гэткія часы й гэткія краіны, калі цацку для жыцьцёвае гульні прыдбаць заскладана.

Памятаю, за савецкім часам ці ня ўсе мы апантана гуляліся ў драматычную гульню пад назваю «*дастаць*».

У аднаго тут роля дабрадзея, які нешта *дас-*

*тае*, у іншага — прашэньніка. Потым ролямі мяняюцца. І *дастаецца* ўсё, што душа сьніць — машыны, дываны, лекі, хаты, пасады, кнігі, сукенкі, мэбля, посуд.

Гульня закручвае, захапляе, робіцца падобнай да хованак.

Зьвялася цяпер ушчэнт гульня, а лёгкае слоўца *дастаць* зьмяніла акрасу. Цяпер мы скрыўджана адмахваемся адно ад другога: «Адчапіся! Не *даставай*!» Цяпер мы абураемся: «Ну й *даставучы* ж ты!» А самыя дасьціпныя абразьліва кпяць: «Ня будзь *Дастаеўскім*!»

Жытка нашая вымучыла, *дастала*.

## Дах

*Даніл Альпяровіч*

Слова гэтае беларусы прыдбалі, кажуць, у Польшчы, а палякі, у сваю чаргу, завезьлі яго безь ніякіх зьмен зь Нямеччыны. *Дах* і па-нямецку, і па-польску гучыць аднолькава: «*Dach*, *dach*». І калі тым жа шляхам, з захаду на ўсход, праехаць сёньня нават на пырхаючай «Ладзе» і пачаць вандроўку ад яснай, чыстай, скрозь чарапічнай чырвані шатровых, мансардавых альбо ярусных *дахаў* нямецкай Баварыі, то далей фарбы *дахаў* нібыта згаснуць — значыць, вы ўжо недзе ў былой ГДР. А калі пераедзеце цераз Одэр, у Польшчы вам кінуцца ў вочы двухсхільныя *дахі* з прычолкамі, ці больш звычныя — двухспадавыя, але ўсё болей крытыя гонтай, дранкай ці яўна ваўкавыскім шыфэрам альбо ацынкаванай бляхай, прыдбанымі яшчэ ў савецкі час

па мізэрным савецкім кошце, прыдбанымі «па блату» не без дапамогі беларускіх сваякоў пасьля ўдалага гандлю чым-небудзь дэфіцытным недзе на гарадзенскай барахолцы.

Чым бліжэй да Беластоку, тым часьцей будзе трапляцца будыніна, крытая чаротам альбо саломай. Такія пакрыцьці не назавеш *дахам*, гэткія называюць *страхою*.

Але сёньня гаворка не пра іх. А пра *дах*.

Беларускі *дах* ведамы чытачу ня горш, чым мне. Ад Бугу пачынаецца чарга дзівосных збудаваньняў, якія недасьведчаны чалавек можа прыняць за замкі альбо кляштары. Іх *дахі*, усіх ведамых будаўнікам кшталтаў, пакрытыя часьцей за ўсё не якім-небудзь мясцовым шкодным для здароўя шыфэрам альбо, крый Божа, дранкай, а чырвонай нямецкай альбо прыбалтыйскай *дахоўкай*. І купленай не за канаючы беларускі рубель.

Калі нехта, нават чалавек з рызыкай альбо які-небудзь харызматычны народаабраньнік, рабіў даверaную справу неахайна альбо недасьведчана, то яго спынялі, памінаючы і спасылаючыся на ўсё той жа *дах*: «Злазь з *даху*, ня псуй гонту!»...

## Дача

*Віталь Цыганкоў*

Азначэньне слова *дача* ў беларускім тлумачальным слоўніку пры канцы XX стагодзьдзя ўспрымаецца з тужлівай іроніяй: «Загарадны дом для адпачынку гараджан». Які адпачынак?!!

Сёньняшні *гома дачнікус* штурмуе зь вёдрамі і торбамі электрычкі. Ягоная ідэалёгія ўнікальная па сваёй прастаце: «Працаваць трэба». Гэтыя людзі ўважаюць, што адпачываць на ўчастку проста непрыстойна. Няшчасныя пяць сотак засланяюць для іх увесь сьвет. Тэатры, кіно, прагулкі зь дзецьмі на выходных, выезды на прыроду засталіся недзе там, у *пераддачным* жыцьці. *Дачнікамі* сталі журналісты і інжынэры, міністры і рабочыя.

Беларуска-савецкі *дачнік* апошніх дзесяцігодзьдзяў — гэта далёка ня той чэхаўскі тып, які шпацыраваў сярод садоў, што пахлі бэзам і чаромхай, вальяжна фліртуючы з млявымі паненкамі.

Тыя *дачы* разам з тымі дачнікамі зьніклі пасьля 1918 году, а наўзамен зьявіліся дзяржаўныя *дачныя* гарадкі для партыйных дзеячоў, акадэмікаў і пісьменьнікаў. Менавіта пра такія дачы пісьменьнікаў ішла гаворка ў «Тарасе на Парнасе» ХХ стагодзьдзя — «Сказе пра Лысую гару», адзін з разьдзелаў якога прысьвечаны балючай для кожнага *дачніка* праблеме здабыцьця ўгнаеньняў:

Адзін празаік меў удачу:
Купіць гаўна ён бочку змог.
Прыпёр упоцемку на *дачу*
І начапіў цяжкі замок.

Замежнікі зьведваюць пэўныя праблемы пры перакладзе слова *дача*. Часьцей за ўсё яны мусяць проста адмовіцца ад пошукаў дакладнага адпаведніка і запазычваюць гэтае слова адзін у адзін: *the dacha*. Ну, праўда, ня вілай жа яе называць!

Слова *лецішча* для *дачы*, кажуць, увёў у літаратурную мову пісьменьнік Ян Скрыган яшчэ да эпохі *гома дачнікусаў*. Цяпер яно здаецца занадта лірычным для *дачы*, на якой працуюць, як валы.

Ёсьць нешта няшчасна-сацыялістычнае ў *дачным* шаленстве, у корпаньні ў гародзе ад ночы да ночы. Але большасьць сёньняшніх гараджанаў — былыя сяляне альбо дзеці сялянаў, і зямля для іх пасьля ўсіх войнаў і голадаў стагодзьдзя ўяўляецца адзінай карміцелькай. *Дача* — гэта савецкі сурагат свайго дому, прыватнай уласнасьці, што дазволіць сабе могуць вельмі нямногія. Беларускія гаспадыні горда хваляцца выгадаваным агурком, прыгаворваючы: «Са сваёй *дачы*!» І гэта мае асаблівы сэнс у грамадзтве, дзе нельга сказаць: «Са сваёй крамы».

## Джаз

*Сяргей Дубавец*

Нельга даслухаць да канца, нельга выключыць, бо гэта заўсёды толькі пачатак, працяг гучыць у табе. Ня можа надакучыць, бо не прэтэндуе на ўвагу. Як бы нехта сказаў: ня хочаш, ня слухай. Выкананьне *джазу* — нібы птушыны сьпеў: яго дастаткова самому сабе, галоўнае гучаць, а ня тое, каб нехта слухаў.

*Джаз* не патрабуе ад слухача акадэмічнай настрyненасьці, як клясыка, або рок-н-рольнай разьвязанасьці. Пад яго добра весьці машыну ў далёкі горад або нясьпешна гутарыць зь сябрам.

Ніводная ідэалёгія ня можа паставіць яго сабе на службу, бо ён са сваімі сынкопамі-збоямі ўжо паводле вызначэньня «няправільны» і адкідае канон. Таму ідэалёгія заўсёды помсьціла *джазу*, называючы яго то «музыкай тоўстых», то музыкай здраднікаў: «Сегодня он играет *джаз*, а завтра родину продаст».

*Джаз* — музыка XX стагодзьдзя, што, паводле адной з вэрсіяў, атрымала сваю назву ад імя канкрэтнага чарнаскурага музыкі Чарлза. З таго часу *джаз* стаў велізарным культурным мацерыкам з сваімі клясычнымі мэлёдыямі і культавымі творцамі. У Беларусі *джаз* не разьвіўся, бо ня мог зрабіць гэтага ў жорсткіх рамках таталітарнага быту. Але гэта ня значыць, што ў нас ня граюць і ня любяць *джазу*.

...Ён бярэ саксафон або сядае да фартэпіяна, найграе знаёмую мэлёдыю і зараз жа адрываецца ад яе, выходзіць у космас імправізацыі. Толькі зрэдку, штрышком-паўнамёкам, ён дае зразумець, што гэта ўсё яшчэ «Караван» Элінгтана або, калі хочаце, беларуская «Купалінка».

*Джаз* — музыка свабоды.

## Джынсы

*Алена Ціхановіч*

*Джынсы* — сіне-блакітная рэвалюцыя 1970-х. Ідал моды, якому прынесеныя ў ахвяру камсамольскія ідэалы, студэнцкія стыпэндыі, вясковыя парсючкі. Адзежына, якая, сьцягваючы сьцёгны, фізычна занявольвае, але маральна разьнявольвае: «Я ўжо не такі савецкі, я іншы.

На мне адзнака Захаду, болей самаўпэўненасьці». Блакітная мара — *джынсы*.

Першыя *джынсы* заўсёды былі як удар маланкі — на танцах, у бары, на лекцыі, на экзамэне і нават на партсходзе. На *джынсы* азіраліся, зайздросьцілі, зьбіралі грошы.

*Джынсы* — ці не адзіная адзежа, якую беларусы, прадстаўнікі шляхотнай па прыродзе нацыі, не лічылі за абразу насіць з чужога — ну, хай не пляча, а самі ведаеце чаго. Таму што чым больш паношаныя, тым больш модныя. Каму ж даставалася новая апратка, мусіў для фасону пацерці яе пемзай ці цэглай або паварыць у хлёрцы. Як сьпявалі піянэры, «*джынсы «Мантана» ня рвуцца, а толькі труцца, труцца, труцца*».

Слоўнік Уэбстэра знаходзіць, што гэтая ўнікальная тканіна насамрэч нарадзілася не ў Амэрыцы, а ў італьянскай *Джэнаве*, ці Генуі. Цяпер гэта ня мае істотнага значэньня, бо *джынсы* сталі сваімі паўсюль. Шусь — нага, шусь — другая, джыг — замочак, і вас абляпілі *джынсы*.

## Дзяды

*Рыгор Барадулін*

Зь сівой даўніны ідзе беларускі народны звычай памінаць нябожчыкаў, заснавальнікаў роду. Сям'я зьбіралася ўвечары за памінальным сталом, і згадвалі шчырым словам тых, хто пакінуў сьвет гэты, і маўчалі, і чарку бралі, каб *Дзядом* добра было на тым сьвеце.

На *Дзяды* гатавалася ад сямі да адзінаццаці страваў — вясковая куцьця, бліны, клёцкі з

душамі, яечня, кумпячына. Стол мусіў быць багаты, каб *Дзяды* бачылі, як іх вяльмуюць, ведалі, што нашчадкі не зьвялі гаспадаркі. Гэта да катла зьвярталіся жартам: *«Чорт бы на цябе гаварыў, каб ты варыў заўсягды, як на Дзяды»*. *Дзядом* пакідалася чарка з гарэлкаю, на асобным посудзе клалася патрохі ад усіх страваў, уночы *Дзяды* мелі прыйсьці і падсілкавацца, хоць яны й так сядзелі з усімі за сталом нябачна.

*Дзяды* бываюць зьмітраўскія, траецкія, піліпаўскія. Яны ідуць сваёй паравінаю. У беларускай паэзіі вобраз *Дзядоў* — адзін з самых небатаемных. Але найбольш глыбока раскрыў беларускі звычай Адам Міцкевіч у аднайменнай паэме.

Традыцыю шырокага сьвяткаваньня *Дзядоў* адрадзіў Беларускі народны фронт «Адраджэньне», кілямэтровыя шэрагі ішлі ў Курапаты, ставілі там крыж у памяць ахвяраў. *Дзяды* бароняць ад бяды.

## Дранікі

*Юрась Бушлякоў*

У шэрагу страваў з бульбы ёсьць у нас даступныя кожнаму *дранікі*. Ядуць іх усюдых у Беларусі: яны й *драчы*, і *драчонікі*, і *дзербнікі*, і *дзяронікі*, і *дранкі*, і нават *дзеруны*. Называюцца так, бо маюць першааснову — *драную* бульбу. А далей ужо хто як любіць ці ў каго на што ёсьць: або да бульбы дабавяць проста мукі й солі дый падсмажаць на распаленай і скварчлівай ад

алею патэльні да скарыначкі, або нафаршыруюць ці грыбамі, ці яйкамі, ці рыбаю, ці мясам і возьмуцца смажыць, таксама да абавязковае румянае скарыначкі. І будуць тады *дранікі* хрумсьцець на зубох. Дзівяцца нярэдка, едучы *дранікі*, прышлыя людзі — так смачна й добра, і нават ім ня верыцца, што гатуецца гэтая смаката так проста. Адзін мой нядаўны румынскі госьць аж так упадабаў *дранікі*, што ўсё ўдакладняў рэцэпт — замерыўся гатаваць іх у сябе дома.

Бяз *дранікаў* не ўявіць беларускае кухні. Памятаецца, як у другой палове 1990-х стваралі ў запале пошуку сваёй альтэрнатывы амэрыканскаму «Макдоналдзу» беларускае бістро — сьледам за прыдуманым у Расеі бістром расейскім. Дык вось за адну з асноўных страваў нашага бістра абралі *дранікі*. Смажаныя на камбітлушчы, яны вельмі смакавалі наведнікам пад слабанацэненую там беларускую гарэліцу.

На мяжы тысячагодзьдзяў *дранікі* застаюцца знакам беларускага. Нездарма адзін зь беларускіх сайтаў у інтэрнэце яго ствральнікі назвалі максымальна ясна — *дранікі*. І страва ўнівэрсальная, і сайт на розныя густы. *Дранікі* — той наш атрыбут, якому беларусы пакуль нязьменна верныя. Хто-ніхто нат ня супраць таго, каб проціпаставіць нашыя *дранікі* зьненавідным іншаземным прысмакам. Так вось і было неяк на «Славянскім базары», на адным з канцэртаў якога давялося пачуць прыпевачку:

Як я *дранікі* ўсё ела,
Дык нідзе мне не сьвярбела,
Як я «сьнікерсаў» паела,
Дык усё мне засьвярбела.

# Друк

*Вінцэсь Мудроў*

*Друк*, як сьведчыць Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, гэта ня што іншае, як сукаватая палка. Палка — рэч звычайная, але, тым ня менш, яна пакінула адметны сьлед у гісторыі нашага народу, бо часьцяком гуляла па сьпінах непакорлівых беларусаў.

І ў гэтым сэнсе самым важкім і сукаватым быў, безумоўна, партыйна-савецкі *друк*. Вось што пісала наконт гэтага, скажам не без іроніі, Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя: «Савецкі *друк* — важны сродак палітычнай асьветы масаў... Гэта прапагандыст, агітатар і арганізатар, дзейсная зброя ў ажыцьцяўленьні актуальных задач камуністычнай партыі».

У наш час выхаваўчая роля *друку* яшчэ больш вырасла. Але сёньня *друк* — гэта ўжо ня нейкая там сукаванка, а літое, кампактнае, зручнае выкарыстаньне гумавае прылады. Яно вельмі дзейснае ў справе выхаваньня масаў, але карыстацца ім трэба са спрытам. Так, па студэнцкім карку трэба біць з замахам, з адцяжкаю, а па той жа прафэсарскай галаве наадварот — без замаху, але рашуча й хватка. Так, каб *дручок* аж загуў у напятай руцэ.

Прапагандысты й выхавальнікі сьціпла называюць гэтае прыладзьдзе спэцсродкам і тым самым прыніжаюць яго ролю ў жыцьці грамадзтва. Насамрэч гэты спэцсродак выхаваньня ўжо даўно стаў апошнім аргумэнтам і своеасаблівым сакральным сымбалем сёньняшняй улады.

# Дрыгва

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Першае, з чым асацыюецца гэтае слова, — балота. Другое — аповесьць Якуба Коласа. А вось *дрыгавічы*, старажытнае племя, згадваюцца не адразу.

*Дрыгва* роднасная аднакарэнным літоўскаму і латыскаму словам са значэньнем «вільгаці» і беларускаму дзеяслову *дрыгацца*.

*Дрыгвяністы*, *дрыгвяны*, *дрыгвянае* балота, *дрыгвіна* — адно месца ў *дрыгве*, а таксама назва ежы, якую цяпер мянуюць *квашанінаю*. Як бачым, вытворных ад *дрыгва* ня так і шмат. Няма ў нас ад гэтага слова ні назваў населеных пунктаў, ні прозьвішчаў. Выглядае, што для беларусаў гэтае слова штосьці большае, чымся топкая, балоцістая мясьціна. Гэта падсьвядома адчуваюць і беларускія пісьменьнікі, у якіх *дрыгва* амаль ніколі не асацыюецца зь нечым адназначна адмоўным. Дый наагул, беларус хутчэй скажа *балота*, *багна*, *твань*, *імшара*, *імшарына*, *імшарышча*, *амшара* ці нават *алёс*, чым *дрыгва*. Мы як бы ашчаджаем гэтае слова, бо адчуваем у ім паганскую пракаветнасьць.

«Скрыпка *дрыгвы* й верасовых пустэчаў» — так паэтычна назваў адзін свой твор Караткевіч. У яго ж «Дзікае паляваньне караля Стаха» паэтычна ляціць над той самай *дрыгвой*.

Як сьведчаць навуковыя крыніцы, на сёньня *дрыгвяністыя* месцы ў Беларусі засталіся пераважна на тэрыторыях некаторых запаведнікаў і заказьнікаў. Савецкая мэліярацыя амаль цалкам зьнішчыла *дрыгву*.

# Дуда

*Міхась Скобла*

Эх, скручу я *дудку*,
Такое зайграю,
Што ўсім стане чутка
Ад краю да краю.

І стала чутка, і стала жудка, і верш Францішка Багушэвіча як пракляты залом застаўся на беларускай ніве ў XX стагодзьдзі. Яго спрабаваў разблытаць Купала, дый ягоная *дудка*-жалейка дачасна зайшлася жалем. І Коласаў Сымон-музыка ня даў рады, хоць і сілкаваў свой талент «*ад казак вечароў, ад песень дудароў*». А казка *Дудара* на імя Алесь у 1920-я гады пачыналася зусім не на казачны лад: «Пасеклі наш край папалам».

Вясёлыя сынонімы *дудкі* — *сьверасьцёлка*, *сапёлка*, *шасьцяруха*, *пішчэлка*, гульлівыя прыказкі накшталт «*Без смыка і без дуды ходзяць ногі не туды*» ня здолелі адвадзіць містычнай багушэвіцкай жуды ад тых, хто адважваўся *дудзець*. І невядома, куды зайшлі ногі Ўладзімера *Дудзіцкага*, які бясьсьледна зьнік у 1968 годзе, даўшы згоду ачоліць беларускую службу радыё «Свабода».

400 гадоў існуе *дуда* ў Беларусі. Нават на здольнага паэта ці песьняра сталі казаць «*Божая дудка*».

А калі на беларускім апазыцыйным мітынгу ў 1990-я гады ўшаноўвалі хвілінай маўчаньня памяць Джахара *Дудаева*, чачэнскі герой не

здаваўся чужаком, бо ягонае прозьвішча лёгка дзялілася на два беларускія словы.

А ў сучасных змагарных песьнях *дуда* нават захапіла першынство сярод вайсковых музычных інструмэнтаў.

*Дуды* над хлопцамі граюць трывожна,
Над полем бітвы сьпявае рог,
Тапчыце зямлю, легіёны Божыя,
Наперадзе вораг, за намі — Бог.

Гэта — гімн беларускага «Белага легіёну», чые ўлёткі прамаўляюць да людзей коратка, як стрэл — мы тут.

## Дуст

*Вячаслаў Ракіцкі*

*Дуст* — ядавітае рэчыва для зьнішчэньня шкодных вусякоў. І хоць гэтая атрута ўжо даўно забароненая для ўжываньня, памяць пра яе моцна жыве ў народзе.

Вось і я ўспамінаю сваё маленства, калі мы, «пионеры советской страны», крочылі бясконцымі калгаснымі палеткамі і хто клізмаю, а хто венічкам пасыпалі капусту, бульбу, кукурузу шэрага колеру атрутаю. А часам, бавячыся, і адзін аднаго.

А ўзімку елі тую ж капусту з *дустам* — атрутаю, якая дзесяцігодзьдзямі не раскладаецца.

Пазьней мы ў разумным часопісе прачыталі, што нават у ільдах Антарктыды знайшлі *дуст*,

які няведама адкуль туды патрапіў, і ён захаваў свае якасьці.

Дзякуючы *дусту* засекі Радзімы поўніліся вітаміннай прадукцыяй. Зноў жа — дзякуючы яму, *дусту*, расла вытворчасьць клізмаў і венікаў.

*Дуст* паўплываў на тэхнічны прагрэс: зьявілася сельгасавіяцыя. Выплылі з аблокаў «кукурузьнікі», і на вусеняў і на людзей пасыпаўся зь неба *дуст*.

Памяць фіксуе агітацыйны плякат: корчацца, дохнуць вусені, а над імі тры злавесныя літары ДДТ, што на мове людзей простых і азначае *дуст*.

Дохлі вусені, калярадзкія жукі й птушкі. Савецкі народ аказаўся больш жывучым. Выжыў... І слова *дуст* ужывае цяпер ужо ў ядавітых жартах.

«*Дустам* іх пасыпаць, *дустам*!..» — крычала сталага веку кабета на антыкамуністычнай акцыі ў Менску ў 1990 годзе. А зусім нядаўна ад сябра-ўкраінца я пачуў: «А вас Лукашэнка *дустам* яшчэ не спрабаваў?» Падумалася: паспрабуе. Ні голадам, ні холадам, ні турмамі зламаць людзей не ўдаецца. *Дустам* трэба, *дустам*!

А ўвогуле, калі вяртаць камуну — дык з усімі яе атрыбутамі: і з дошкамі гонару замест заробкаў, і з палітынфармацыямі замест інфармацыі... І, натуральна, з *дустам*...

Працэс пайшоў. Вынік інтэграцыі з Усходам увасобіўся ў *дусьце*. Нядаўна на Камароўцы я пабачыў новы прэпарат:

*ДУСТ*<br>
кітайскі<br>
супраць прусакоў

# Душа

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Ува ўсіх славянскіх мовах слова *душа* гучыць падобна, бо паходзіць з праславянскай…

Шэсьць тлумачэньняў, а таксама 50 выразаў на слова *душа* падае тлумачальны пяцітамовік беларускай мовы. У тлумачэньнях — абавязковыя проціпастаўленьні: у навуковым і антынавуковым разуменьні, у рэлігійным і атэістычным. Паводле савецкіх энцыкляпэдыяў, *душа* — гэта тое, чаго няма.

Кажуць, што сюжэт «*Мёртвых душаў*» Гогаль адшукаў у Беларусі і вынес яго на сьвет цэлы. Ад таго часу і *жывыя беларускія душы* ў пошуку свайго месца пад сонцам цярпяць пакуты. Таму *душа беларуса* часам пачынае дваіцца, што ўжо ў XX стагодзьдзі заўважыў Максім Гарэцкі і напісаў «*Дзьве душы*».

Сказаць з *адкрытай душой*, што *на душы* маеш і па чым яна, гэтая самая *душа*, баліць — няпроста. Пагатоў што ў адрозьненьне ад суседзяў *душа беларуса* — закрытая. *Залезьці ў душу* хацелі б многія, ды доступ туды — толькі для нямногіх абраных. Таму, хто прыйшоўся *да душы*, даруюцца хібы, пралікі, а часам нават і здрада. І ўсё ж XX стагодзьдзе спарадзіла ў дачыненьнях паміж людзьмі столькі *бяздушнасьці*, колькі наўрад ці было раней. На тых, хто верыў або *меў душу*, знайшліся *душагубы* ў выглядзе чэкістаў і іхных наступнікаў.

Праз усё існаваньне савецкай улады зьнішчаліся *душы бязьвінных*. У той самы час справаз-

дачы пра посьпехі сацыялістычнай гаспадаркі крычалі пра эканамічныя дасягненьні ў разьліку на *душу насельніцтва*. Але паколькі *душы* — паводле савецкіх уяўленьняў — не было, то ёй нічога і не належала.

## Дыван

*Антаніна Хатэнка*

Ад самае восені пасьля дакопак кабеты хадзілі адна да адной у хаты й заўзята перамалёўвалі на вялізныя палотны паперы мудрагелістыя ўзоры. Гэтак задумваліся *дываны*.

*Дываны* расквечвалі жыцьцё ад народзінаў да праводзінаў. *Дываны* ў ромбікі, квадрацікі, вянкі, вясёлкі й птушкі — маляўнічыя сьведкі гісторыі, праява нацыянальнага сьветагляду.

Пэрсыдзкае слова *дыван* прыжылося ў нас, прынаравілася й пачувалася ня меней пашанотна, чым у Турцыі, дзе *дыванам* звалася раней рада саноўнікаў пры султану. Ня горай, чым увогуле ўва ўсходнім сьвеце, дзе *дываны* — і зборнікі лірычных вершаў, і ўрадавыя ўстановы.

Але пасьля... Пасьля ў гаспадах зьявіліся замест канапаў «дзіваны», бо гэтак зрабілася модна называць лежбішчы для мужчыны з газэтай. Пасьля рынуўся народ натоўпам ў сьпісы й чэргі, каб здабыць *дыван* — «кавёр» — на сьцены й на дол, бо тое ж было знакам заможнасьці! «Жыву ня горш за суседа!»

А старое ласкавае слова *дыван* не пазнавала самога сябе, забывалася, што насамрэч яно

азначае. Тканыя прабабулямі *дываны*, што зьберагалі магію ўлады ў шыфрах-узорах, перасяліліся на гарышчы, у цёмныя прыпечкі, нямыя каморы.

Цяпер у краіне раскашавалі «каўры» і «дзіван». Бабуля мая, калі ўрачыста ўнесьлі ў пакой канапу, абвясьціўшы яе «дзіванам», заўпарцілася аддаваць дарагое слова, стала кпліва прыгаворваць: «Ой, то ўжо выгода — на Івана сяду, на Сідара ўглядацца буду». «Сідарам» яна празвала скрынку-тэлевізар, у Івана перахрысьціла «дзіван».

Згадваю ейнае абурэньне й высновы. Праўду казала. На іванах пакорліва сядзім, на падманных сідараў углядаемся.

## Дыяспара

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Дзьве тысячы гадоў таму грэкі назвалі расьцярушаны габрэйскі народ *дыяспарай*.

Нягледзячы на старажытнасьць зьявы, слова *дыяспара* ў савецкіх слоўніках не было. Усіх, хто апынуўся па-за межамі СССР, апрача дыпляматаў, консулаў і шпіёнаў, на гістарычнай радзіме называлі здраднікамі, адшчапенцамі і нягоднікамі. Нават на дзе-якія прасавецкія эміґранцкія арганізацыі саветы пазіралі зь недаверам, хаця й выкарыстоўвалі іх у сваіх прапагандысцкіх мэтах.

Пры канцы XIX — на пачатку XX стагодзьдзя *дыяспара* ў нашай мове з посьпехам замянялася

словам *зямляцтва*, пагатоў што і зямляцтваў тых было няшмат. Пазьней, калі згуртаваная эміграцыя колькасна пабольшала і пачала складацца ў кожнай краіне зь некалькіх зямляцтваў, спатрэбілася новае слова, якое абымала б усе зямляцтвы таго ці іншага краю, а таксама зямляцтвы розных краёў. Гэтым словам і стала *дыяспара*. Аб'ектыўна беларуская мова не патрабавала такога наватарства. З посьпехам да значэньня *дыяспара* можна было разьвіць любое з наступных словаў: *аб'яднаньне*, *супольнасьць*, *зьвяз*, *грамада*, *хаўрус*, *расьцярушаньне* ды яшчэ многа іншых.

Слова *дыяспара* ўвайшло ў нашую мову. Але *дыяспарай* не называюць беларусаў, якія жывуць па-за межамі сучаснай Беларусі, але на спрадвечна беларускіх землях — Смаленшчыне, Беласточчыне, Віленшчыне, Чарнігаўшчыне, Пскоўшчыне ці Браншчыне.

Найбольшыя беларускія *дыяспары* існуюць у ЗША, Аўстраліі, Аргентыне, Расеі. Адна з найбольш характэрных іхных рысаў — нацыянальная актыўнасьць у краінах жыцьця і ня меншая актыўнасьць у справе разнастайнай дапамогі Бацькаўшчыне. Дзякуючы *дыяспары* наш народ ня страціў ідэяў незалежнасьці, увасобленых у Беларускай Народнай Рэспубліцы.

# Дэмакрат

*Вольга Караткевіч*

На пытаньне «хто вы?» беларускі апазыцыянэр сьціпла адкажа: *дэмакрат*. На пытаньне «хто прычына згаленьня насельніцтва?» вялікая частка апошняга ўпэўнена й адкажа — *дэмакраты*. У палітычных дэбатах каля гарадзкіх пад’ездаў і на вясковых лаўках беларускі люд чыхвосьціць хвалёную заходнюю *дэмакратыю*, якая навязвае братом па славянскай крыві свае, прымітыўныя, як гамбургер, *дэмакратычныя* стандарты. А таксама корміць тутэйшага *дэмакрата*, адзінай работай якога — ладзіць пэрформансы каля Менскае опэры ці дыскрэдытаваць палітыку *дэмакратычна* абранага першага прэзыдэнта Беларусі ў якім-небудзь Страсбургу.

Чаму на постсавецкай прасторы так ня любяць *дэмакратаў*? Таму што, апроч як «прыхільнікам *дэмакратыі*» для савецкага чалавека *дэмакрат* быў яшчэ «членам буржуазнай *дэмакратычнай* партыі». У гэтым азначэньні слоўніка слова «*дэмакратычнай*» выразна саступае паводле экспрэсіі слову «буржуазнай». Да таго ж першыя пазытыўныя *дэмакраты* хутка станавіліся ліхадзеямі — *дэмакрат* Гарбачоў «разваліў краіну», Шушкевіч яму «дапамагаў», а таксама будаваў лецішча *маладэмакратычным* шляхам — нібыта краў цьвікі.

Цяпер сярод беларусаў ёсьць *нацыянальныя дэмакраты*, *хрысьціянскія дэмакраты*, *сацыяльныя дэмакраты* і *лібэральныя дэмакраты*. Усе абсалютна розныя, але павязаныя адной мэтай — хутчэй гэтую *дэмакратыю* аднавіць.

# Дэмбель

*Рыгор Барадулін*

Кепскі той салдат, што зь першага дня службы ў арміі пра *дэмбель* ня думае, бо ў бацькоў-камандзіраў адна задача — каб служба раем не здалася.

*Дэмбель* — гэта дэмабілізацыя, дзень, калі падпісваюць загад аб сканчэньні службы ў войску. Тыя, хто падлягаюць *дэмбелю*, адлічваюць кожны дзень, і паўсюль, дзе можна, і нажамі выразаюць, а цяпер і флямастэрамі пішуць, колькі засталося да *дэмбелю*.

*Дэмбялянты* — гэта «старыя», а маладое папаўненьне — «салагі». *Дэмбялянт* загадзя рыхтуецца да чаканага дня, мяняе ўсё на новае — ад рэменя да чаравікаў.

«Салагі» паслугоўваюць «старым». Любяць *дэмбялянты* розныя фантазіі: ляжыць *дэмбялянт*, прыкладам, на койцы, а «салагі» марудна нясуць койку й ціха пагойдваюць, а іншыя махаюць над ім галінамі — гэта *дэмбялянт* плыве ў *дэмбель*.

*Дэмбялянтаў* звычайна ня дужа загружаюць працаю. Праўда, калі патрапіць у няласку, начальства можа *дэмбель* падпісаць 31 сьнежня ўвечары або 1 студзеня. Сьвяткуй тады навагоднюю ёлку зь мядзьведзем, калі ён яшчэ дзе ацалеў.

Слова *дэмбель* грэе салдата спадзевам.

# Дэфіцыт

*Сяргей Харэўскі*

Колькі існуе цывілізацыя, гэтулькі ж існуе і *дэфіцыт*. Пра гэта сьведчыць і рымскае паходжаньне самога слова: брак, недахоп, нястача чаго-небудзь — прыкрыя, неадступныя спадарожнікі чалавецтва. Але ў лаціне яно гучыць як афіцыйнае паведамленьне: «*дэ-фі-цыт*». Як непазьбежнасьць.

У савецкі час *дэфіцытам* магло стаць што заўгодна: ад кніг і чорнай ікры (чаму былі свае тлумачэньні) да невытлумачальнага *дэфіцыту* цукру ці гаспадарчага мыла. *Дэфіцытам* пачалі называць самі тавары, якіх бракавала. Гэтае слоўца было на вуснах у кожнага беларуса: «*выкінулі дэфіцыт*», на прылаўку зьявіўся рэдкі тавар — «*знайшоў дэфіцыт*», «*ухапіў дэфіцыту*», «*якіх бы дэфіцытаў да стала*».

Каб разьмяркоўваць савецкія *дэфіцыты* пароўну, была і адмысловая форма гандлю — сталы заказаў. Для рабочых, для вэтэранаў, для дыябэтыкаў. Раз у месяц савецкі чалавек меў магчымасьць пакаштаваць *дэфіцыту* — таматнае пасты, марожаных курэй, кансэрваванага гарошку. Абавязкова ў нагрузку да *дэфіцыту* пакупнік мусіў прыкупляць і тое, што няма як прадаць: да томіка Караткевіча — палінялых вершыкаў, да польскага шампуню — зубнога парашку ў запыленай кардоннай пушачцы.

Зь «перастройкай» зьмест знаёмага слова пашырыўся: у мастакоў намеціўся *дэфіцыт ідэяў*, а ў моладзі заўважылі *дэфіцыт маралі*.

Загаварылі пра *дэфіцыт сумленьня* і нават пра *дэфіцыт духоўнасьці*. Пакуль газэты й палітыкі дэбатавалі пра *дэфіцытную эканоміку* і *дэфіцыт ідэйнасьці*, аднекуль зьявіўся новы невядомы бязьлітасны *сындром набытага імунадэфіцыту*. Зь яго прыходам куча сацыялістычных *дэфіцытаў*ператварылася ў гару. Бракавала цяпер шпрыцоў, прэзэрватываў, посуду, лекаў, рыштунку і ўрэшце навукі.

Беларусі шмат чаго бракавала і бракуе сёньня. Колькі б людзі ні змагаліся з *дэфіцытам*, ён уваскрасае паўсюль, у розных праявах. А вось чаго ў Беларусі заўсёды хапала, на што *дэфіцыту* не было, як пісаў Караткевіч, дык гэта на кепскае начальства.

# Ж

## Жорны

*Уладзімер Арлоў*

*Жорны*, або ручны млын — адна з найгалоўнейшых вынаходак чалавека. Дзякуючы *жорнам* людзі атрымалі хлеб.

Некалі *жорны* былі амаль у кожным беларускім сялянскім двары, займаючы пачэснае месца ў сенцах ці ў самой хаце. За дзень на каменных *жорнах* можна было змалоць тры пуды жыта. У гады калектывізацыі ў незаможных вёсках, што стаялі на пяшчаных полацкіх землях, гаспадароў *жорнаў*, выконваючы разнарадку, часта запісвалі ў кулакі.

Васіль Быкаў згадваў пра аднавяскоўца, які, каб уратавацца ад Сібіры, прынародна разьбіў свае *жорны* на панадворку. Удзень расколатыя камяні-*жарнавікі* ляжалі навідавоку, а па начах гаспадары-суседзі скручвалі іх дротам ды ўпотай малолі зерне.

Энцыкляпэдыя этнаграфіі Беларусі сьцьвярджае, што *жорны* захоўваліся ўва ўжытку да 50-х гадоў XX стагодзьдзя, але гэта ня так. Нягледзячы на велічныя посьпехі савецкага народу ў камуністычным будаўніцтве, яшчэ напрыканцы

1960-х, бавячы лета ў роднай мамінай вёсцы на Шклоўшчыне, я шмат разоў уласнаручна круціў бабуліны *жорны*.

У далёкіх лясных вёсках, дзе жывуць дзясяткі два старых, дзе найбліжэйшая крама за дзесяць кілямэтраў, а аўталаўка з хлебам прыяжджае раз на пару тыдняў, *жорны* й сёньня ратуюць беларускага селяніна.

Апошні раз жывыя *жорны* мне выпала бачыць у забытай Богам і ўладаю расонскай вёсачцы на мяжы з «братняй» Расеяй. «Галасавалі, дзетка, за таго лукашонка, а цяпер во гора сваё на *жорнах* мелем», — сказала старая кабета зь некалі блакітнымі вачыма.

Размова адбывалася ў 1998-м. Значыцца, энцыкляпэдычны артыкул пра *жорны* вымагае напрыканцы стагодзьдзя істотнага ўдакладненьня.

## Журналіст

*Аляксандар Лукашук*

Элегантнае, вытанчанае, густоўнае — наўпрост з Парыжу. Францускае слова з коранем «дзень», якое толькі на пачатку ды пры канцы XX стагодзьдзя мела рэальнае значэньне ў Беларусі.

10 гадоў нашаніўскае пары перад саветамі і 10 гадоў незалежнага друку пасьля іх прыходу плюс пару дзесяцігодзьдзяў калатнечы за Польшчай у Заходняй Беларусі, ды шматлікія эмігранцкія выданьні ў Амэрыцы, Эўропе і Аўстраліі, ды самвыдат — няшмат, хаця ня так і мала.

*Журналістыка* журчыць, часам бярэ на сябе ролю журы, жартуе з агнём і вучыць не журыцца.

У Беларусі ўлада й *журналісты*, як казачныя ліса й журавель: што добра аднаму, не пасуе другому.

*Журналістыка* пад прымусам ідзе мэтастазамі, чарнее, курчыцца й гіне: урадавыя ордэны на афіцыйных газэтах і ў афіцыйных *журналістаў* — трупныя знакі прафэсійнае зьнявагі. Белыя плямы, глушылкі, драконаўскія суды, штрафы й закрыцьці — прафэсійныя ўзнагароды беларускае незалежнае *журналістыкі*.

*Журналістыкі* не бывае без свабоды; у XX стагодзьдзі свабода немагчымая без *журналістаў*.

## Жыды

*Сяргей Шупа*

У канвэнцыях клясычнага моўнага стандарту і ў жывой беларускай мове дасавецкага часу гэтае слова было адзіным назовам народу, лёс якога за стагодзьдзі супольнага жыцьця цесна пераплёўся зь беларускім. У гэтым сэнсе Беларусь належала да таго самага эўрапейскага арэалу, што й Польшча, Літва ды іншыя краіны Ўсходняй Эўропы, дзе словы *Żyd*, *Žydas* ня маюць ніякага абражальнага або адмоўнага адценьня.

Гвалтоўная русіфікацыя падсавецкай Беларусі надала беларускаму слову *жыд* зусім іншае гучаньне — у расейскамоўным кантэксьце яно

ўспрымаецца гэтаксама, як і адпаведнае расейскае, безумоўна абразьлівае, слова.

Апошнімі дзесяцігодзьдзямі вяртаньне да клясычнага, несавецкага варыянту беларускай мовы зноў паставіла пытаньне аб статусе слова *жыд* — аб тым, як вярнуць яго ўва ўжытак, ня крыўдзячы саміх прадстаўнікоў гэтага народу. Праблемай найчасьцей паўставала тое, што апошні раз замена савецкага *яўрэй* на несавецкае *жыд* адбылася ў надзвычай трагічны для нашых народаў час Другой сусьветнай вайны, што не магло не выклікаць у сёньняшніх людзей балючых асацыяцыяў. З другога боку, успрыманьне гэтага слова залежыць і ад таго, кім лічыць нас, беларусаў — асобным усходнеэўрапейскім народам (як палякі або літоўцы) або нейкімі расейскімі «малодшымі братамі», у якіх мова — толькі адгалосак расейскай з усімі яе сэнсавымі асацыяцыямі.

Гэтая дылема, аднак, дагэтуль застаецца нявырашаная, а прыхільнікі клясычнай традыцыі часта, каб пазьбегнуць канфрантацыі, ужываюць словы *габрэй/габрай*, *габрэйскі/габрайскі*. Слова *жыд* загінула ў полымі Галакосту, слова *яўрэй* — на руінах савецкай імпэрыі.

«*Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй*», — спадзяваўся Янка Купала ў 1919 годзе. Гэтаму прароцтву не было наканавана збыцца. Другая сусьветная вайна ў Беларусі забрала ў нябыт цэлы культурны кантынэнт беларускага *жыдоўства* (задумаемся, чым рэальна напоўненая вядомая ўсім формула «кожны чацьверты»). Гэты кантынэнт зьнік, як Атлянтыда. Яго спадкаемцамі застаемся мы ўсе.

# Жылплошча

*Сяргей Харэўскі*

Па вайне забесьпячэньне масаў жыльлём стала магутнай псыхатэрапіяй для панішчаных гарадоў і вёсак. За тлумам новабудоўляў забываліся жахі вайны і Курапатаў. Пад фанфары перарэзваліся чырвоныя стужкі, і на вачах у зьняможанага народу паўставалі дамы-палацы. Тады будавалі на шырокую нагу. Пра нарматывы кватэрных *плошчаў* ня дбалі. 12 дадатковых мэтраў абавязкова выдзялялася для кандыдатаў хоць якіх навук. А для дактароў ці для творчых работнікаў мусілі прыдаваць па 20 мэтраў. Гэтая вынаходка Сталіна трывала да канца СССР.

Неўзабаве, праўда, высьветлілася, што новых палацаў на ўсіх ня хопіць. Давялося ўводзіць нарматывы. За Хрушчовым яны склалі 6 мэтраў на чалавека. Праўда, *жылплошчай* звалася не агульная *плошча* кватэраў, а толькі *плошча* пакояў, тая, дзе можна было ставіць ложкі або сэрванты.

Неўзабаве прыйшла яшчэ адна праблема — як стрымаць рост гарадоў. Тады прыдумалі наступную норму — лішнія 12 мэтраў трэ было шукаць таму, хто хацеў атрымаць благаслаёную гарадзкую прапіску.

Дзеля атрыманьня *жылплошчы* пайшлі ў ход шлюбы, народзіны і разводы. *Жылплошча* — гэтае слова штодня гучала на розныя лады ў судах, міліцыі, ЗАГСах.

Адна з галоўных мэтаў савецкага чалавека — *жылплошча*... Ня блытаць з жыльлём!

# З

## Зайздрасьць

*Аляксандар Лукашук*

*Зайздрасьць* — гэтаксама як спакуса і ганарлівасьць — суправаджае чалавека на працягу ўсёй гісторыі, ад Эдэмскага саду да Гетсэманскага, ад Алены, на якую паквапіліся траянцы, да Марксавай дададзенай вартасьці, якую, паводле геніяльнага выразу Шарыкава, трэба ўзяць і падзяліць.

«Пачуцьцё незадаволенасьці і раздражненьня, выкліканае перавагамі, посьпехамі, дабрабытам іншых; жаданьне мець тое, што маюць другія», — што можа быць трапнейшым за гэтае вызначэньне бальшавізму, якое Тлумачальны слоўнік беларускай мовы памылкова дае слову *зайздрасьць*?

*Зайздрасьць* перамагла ў Беларусі на бальшавіцкіх штыхах — і замест Беларускай Народнай Рэспублікі было пабудаванае царства роўнасьці і братэрства, палітычных сынонімаў *зайздрасьці*. *Зайздрасьць* сканфіскавала заводы і зямлю, шляхту і інтэлігенцыю, культуру і прыстойнасьць.

— Прасі што хочаш, — сказаў Бог беларусу. — Дам табе, але суседу дам удвая.

— Няхай я акрывею на адно вока, — адказаў беларус.

Дадамо — савецкі беларус.

У славянскіх мовах слова *зайздрасьць* паходзіць ад стараславянскага дзеяслова *зазьрети* — «убачыць», і, праўдападобна, заснаванае на так званым злым воку, якое можа сурочыць. Блізкае да *зайздрасьці* паходжаньнем і слова *нянавісьць* — ненавідзяць, г.зн. ня хочуць і ня могуць спакойна глядзець на тое, чаму *зайздросьцяць*.

*Зайздрасьць* — галоўная эмоцыя XX стагодзьдзя ня толькі для Беларусі, але Беларусь сустракае новае стагодзьдзе з *зайздрасьцю* ў якасьці дзяржаўнай палітыкі і ідэалёгіі. *Зайздрасьць*, якая ўладарыць у краіне, хоча мець маёмасьць прадпрымальнікаў, хоча, каб яе паважалі дома і за мяжой як прыстойную даму, каб яе любілі як народную ўладу.

*Зайздрасьць* — эмоцыя несвабоды. Усе несвабодныя *зайздросьцяць* свабодным, але ніколі — наадварот.

## Закатка

*Антаніна Хатэнка*

Паўсюль скажуць «закацілася Сонца» ці «некуды закаціўся мяч», але так масава *закатваюць* у слоікі на зімовы схоў усялякае смакоцьце толькі на абшарах былое краіны саветаў.

Ад сярэдзіны лета аж да глыбокае восені

шпарка *закатваюцца* ў трохлітровікі ды меншыя іхныя браты гуркі, ягады, памідоры, грыбы ды салаты. Вясковыя хаты й гарадзкія кватэры ператвараюцца ў кансэрвавыя заводы, прапахлыя кропам, смародавым лістом ды воцтам. У гаспадыняў нарэшце на языку ня плёткі, а зацятая пахвальба ці шкадаваньне: «Я сто літраў *закатала*». — «А я ўсяго толькі сорак». І краю не відно гэтаму літражу. Мужчыны служаць аўтаматамі па закрутцы слоікаў.

З акна ў акно перадаюцца рэцэпты, тэхналёгіі, перапазычаюцца блішчастыя накрыўкі ды прылады *закатваньня*.

Хітрыя майстры прыдумалі дзеля палёгкі й ашчаднасьці «раскатку», якая дзівосным чынам вяртае скарыстанай накрыўцы былую моц і трывушчасьць. Цяпер жывуць і слугуюць накрыўкі даўгавечна — да ржавых дзіраў.

Здараецца, што *закатачнае* жыцьцё скаланаюць выбухі. Плады рвуцца зь няволі, аднак гаспадары зноў і зноў нястомна *закатваюць* у слоікі пад шкло ўсё жывое — навыперадкі. Быццам *закатваюць*-хаваюць нясправўджаную мару пра волю. Пра тую нязнаную волю, пры якой кожны спаўняе сваю місію: вучоны дасьледуе, мастак творыць, настаўнік навучае, доктар лякуе, а завадчанін кансэрвуе для ўсіх садавінугародніну... Але тое... Тое — жытка лайдакоў, а мы — «трудзяшчыеся» — дружна *закатваем* усё пад шаблённыя «крышкі».

# Заклад

*Рыгор Сітніца*

У беларускай мове юрыдычны тэрмін *заклад* згадваецца яшчэ ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага. Шматлікія захопніцкія навалы, што не міналі нашага краю, надалі гэтаму слову зусім іншы сэнс, трывала замацаваўшы ў беларускай сьвядомасьці слова *закладнік*.

Ісьці ў *заклад*, купіць на *заклад*, аддаць у *заклад*, *закладваць* нейкую справу. Тут дарэчы будзе згадаць і сьвята — *закладзіны*, калі, заклаўшы першы камень у падмурак, дужа натомленыя работнікі пачыналі імпэтна «*закладаць за каўнер*».

Апроч іншага, не дае пра сябе забыць і пасьпяховая *закладка* калгасамі фуражу, пра што рэгулярна інфармавала сваіх слухачоў беларускае савецкае радыё.

Можна было б прыгадаць яшчэ нешта, але ўсе гэтыя *заклады* трацяць амаль усялякі сэнс перад тым значэньнем, якое займела гэтае слова ў краіне саветаў.

*Закладваючы* ўласнага бацьку, можна было лёгка выйсьці ў піянэры-героі, як гэта зрабіў славуты Паўлік Марозаў, стаўшы прыкладам для кожнага савецкага дзіцяці. *Заклаўшы* суседа, шмат хто здолеў спатоліць уласную зайздрасьць ці адквітаць нейкую крыўду. Варта пачаць *закладваць* начальніка, каб куды бліжэйшаю зрабілася таемна жаданая пасада. *Закладваючы* з пэўнай рэгулярнасьцю, чалавек набываў шанец

зрабіць сваю прыродную схільнасьць хлебнаю прафэсіяй у штаце адпаведнай установы.

Аднак, якой бы ўдалай ні аказалася гэтая кар’ера, яна проста нішто ў параўнаньні з мажлівасьцю аддаць у *заклад* дзеля ўласнага інтэрасу цэлую краіну, тым самым зрабіўшы *закладнікамі* ажно 10 мільёнаў чалавек.

## Заўзятар

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Гэтае слова зьявілася ў беларускай мове ў першай палове 1980-х, калі нацыянальна сьведамая моладзь пайшла на стадыёны. Ужываны перад тым пазычаны з расейскай *балельшчык* аніяк ня лез у сыстэму мовы і вымагаў як найхутчэйшай замены. Вось тады два паэты — Алег Бембель і Алесь Разанаў — прапанавалі *заўзятара*. Пры гэтым сама зьява *заўзятарства* была падзеленая на тры катэгорыі:

1. *Заўзятар* — той, хто арыентуецца ў спорце, чытае адмысловыя выданьні, ведае лічбы й імёны, карацей — аматар прафэсійнага ўзроўню.

2. *Заўзей* — той, хто ходзіць на стадыёны, ведае, што адбываецца ў спорце, але ў адрозьненьне ад *заўзятара* ён вылучна аматар.

3. *Заўзюк* — самая каларытная і небясьпечная постаць на трыбунах. Ён мала ў чым арыентуецца, почасту зьяўляецца на спаборніцтвы нападпітку. Гэта ён, *заўзюк*, роспачна вые, калі ягоная каманда прайграе, і дзіка трыюмфуе, калі наадварот. Яго лёгка можна пазнаць на

трыбуне па адкаркаванай бутэльцы і кавалку кілбасы.

Гэты падзел на катэгорыі ў мове пакуль што не прыжыўся.

Цяпер слова *заўзятар* можна пачуць як з вуснаў саміх *заўзятараў*, так і ад тэле- і радыёкамэнтатараў, а таксама адшукаць у прэсе. Вось толькі ў слоўніках яго ўсё яшчэ няма. Зразумела, што слова *заўзятар* паходзіць ад *заўзяты*, а гэта і той, хто стала і з захапленьнем займаецца чым-небудзь, гэта і ўпарты ды напорысты.

Слова *заўзяты* маюць некалькі славянскіх моваў, а вось *заўзятара* — толькі мы.

## Заходнік

*Уладзімер Арлоў*

У Тлумачальным слоўніку беларускае мовы можна са зьдзіўленьнем вычытаць, што «*заходнік* — гэта прыхільнік заходніцтва як альтэрнатывы славянафільству». Між тым кожнаму беларусу вядома, што *заходнік* — гэта чалавек, якому пашчасьціла жыць у той частцы Беларусі, куды бальшавіцкія парадкі прыйшлі толькі ў верасьні 1939 году. Доўгі час пасьля гэтак званага вызвольнага паходу Чырвонай арміі слова *заходнік* у партыйна-савецкім лексыконе азначала чалавека нядобранадзейнага, гатовага ў любы момант здрадзіць сьветлым ідэалам сацыялізму ды схаўрусавацца з клясавым ворагам. Каб *заходнікі* мацней палюбілі родную савецкую ўладу, іх дзясяткамі тысячаў вывозілі ў сібірскія

і казахстанскія лягеры. Адных — за тое, што багацей жылі, другіх, як Натальлю Арсеньневу, — за тое, што пісалі вершы пра Беларусь, а не пра БССР, трэціх — проста за тое, што скоса пазіралі на прысланае Масквой начальства.

Тым часам для паспалітых жыхароў усходняе Беларусі слова *заходнік* на колькі дзесяцігодзьдзяў сталася сынонімам чалавека заможнага і грунтоўнага. Калі ўсходнікі аддавалі дачку замуж за *заходніка*, лічылася, што дзеўцы пашанцавала. «У нас хлеб з кавалачкам сала, — з зайздрасьцю казалі на спустошанай калгасамі памежнай Полаччыне, — а ў іх, *заходнікаў* глыбоцкіх, — сала з кавалачкам хлеба».

Напрыканцы XX стагодзьдзя колішняга падзелу грамадзтва на ўсходнікаў і *заходнікаў* нібыта не адчуваецца. Але на *захадзе* краіны па-ранейшаму жывуць лепей. Там чысьцейшыя ды ўтульнейшыя гарады і мястэчкі, там багацейшыя вёскі, дый самі людзі самавіцейшыя. Як казалі калісьці камуністычныя прапагандысты ды агітатары: «Вот оно, тлетворное влияние *Запада*».

## Заходнік

*Рыгор Барадулін*

Змалку памятаю, як лавілі рыбу прыладай, якая называлася «*заходнік*» — (яе літаратурная назва — *таптуха*).

З пасьлявайны памятаю таксама іншае значэньне слова *заходнік* — жыхар так званых

*заходніх* вобласьцяў Беларусі, якія ў 1921 годзе бальшавікі без удзелу прадстаўнікоў Беларусі ў Рызе аддалі пад Польшчу. І ў верасьні 1939 году на штыхах Чырвонай арміі адбылося ўзьяднаньне Беларусі, нават Беласточчына ўвайшла ў склад БССР.

Тады Янка Купала пісаў: «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі, больш з табою ўжо ніколі я не разлучуся». Сапраўды не разлучалі, калі сьведамых беларусаў, *заходнікаў*, везьлі ў Сібір разам з усходнікамі. Сапраўды, як *заходнікам*-таптухай, заганялі ў сьветлае камуністычнае заўтра.

Была зьнішчана створаная з падтрымкі Масквы Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Абрэвіятура КПЗБ чыталася з трагічнай ironіяй — камэра папярэдняга зьняволеньня Беларусі. Пасьля вайны давынішчалася беларуская інтэлігенцыя — настаўніцтва, духавенства. Гаспадароў, якія ў бальшавікоў зваліся кулакамі, раскулачвалі, высылалі. А на месца *заходнікаў* засяляліся ўсходнікі з Расеі, з усходняй Беларусі.

Недзе да канца 70-х гадоў сакратарамі райкамаў ды абкамаў, іншымі намэнклятурнымі работнікамі прызначалі вылучна ўсходнікаў — *заходнікам* не давяралі.

Цяпер фармальна няма мяжы між *заходнікамі* і ўсходнікамі, але ў душах яна яшчэ доўжыцца. *Заходнікі* — большай эўрапейскай арыентацыі, *заходнікі* болей верныя беларушчыне. Толькі час і свабода сьціраюць межы ў душах.

# Зацьменьне

*Аляксандар Лукашук*

У дзень *зацьменьня* ўсе позіркі скіраваныя на Сонца.

Кароткі момант адвечнага суіснаваньня сьвятла й ценю, калі той становіцца гаспадаром, перамагае і захоплівае тэрыторыю сьвятла.

Апошняе ў XX стагодзьдзі астранамічнае *зацьменьне* ў Беларусі цягнулася каля дзьвюх хвілінаў. Увогуле, найдаўжэй Месяц можа засланіць Сонца толькі на сем з паловаю хвілінаў. У беларускім жыцьці XX стагодзьдзя, наадварот, гэтаксама коратка, як мае доўжыцца *зацьменьне*, панавала сьвятло — спачатку Беларускай Народнай Рэспублікі, потым новай незалежнасьці пачатку 90-х. На беларусаў доўгі цень у XX стагодзьдзі падаў адразу зь дзьвюх суседніх сталіцаў — з Усходу й Захаду.

Але Сонца або цень — выбар, які ўвесь час стаіць і перад самой Беларусьсю. Уся краіна — як прыродны асяродак крата, зь якім на пачатку стагодзьдзя параўнаў свой народ паэт. «Загляне сонца і ў наша ваконца» — яшчэ адзін паэтычны голас зь цемры, адтуль, дзе няма Сонца. «На прастор, на шырокі разлог выхадзі, мой народ, грамадою» — заклік трэцяга нацыянальнага клясыка, таксама зьвернуты ў царства змроку, падзем’е.

Толькі на вольнай арбіце нябеснае цела не залежыць ад чужога ценю.

«Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.

Ды што мне цемень вечнай ночы,
Калісь глядзеў на сонца я».

Да Сонца — нацыянальная задача XX стагодзьдзя.

## Зацяжка

*Антаніна Хатэнка*

Здаўна кажуць: адклад не ідзе ў лад — і гэта чыстая праўда. *Зацягнуць* якую работу — азначае почасту ня выканаць яе ўвогуле.

Хіба што ў абутковай справе *зацяжка* сама сябе спраўджвае. Бо гэтак завецца дзея нацягваньня і замацаваньня матэрыялу на калодцы. Тут пасьпешлівасьць зусім недарэчы.

Затое які рытм, якую хуткасьць вястуе мляве, запаволенае слова, калі называе падзеньне парашутыста пры *зацяжным* скачку. Уяўляеце?

*Зацяжка*, бывае, надараецца і ў лёце паміж зямлёй і небам.

А што ўжо казаць пра нашае запаволенае беларускае жыцьцё, у якім, здаецца, зусім спынілася *цяга*. Аднак дарма мы пра сябе гэтак мяркуем. Быццам ня лёсы *цягнем* на плячох, а суцэльныя *цягучыя зацяжкі*. Ого, які нораў выяўляе ў нацыі яе пераклятасьць — *зацяжка*! Якая даўкая *зацяжка* тытунём! Як шыпяць пагадзючаму, лямантуюць і скрыўджана вырачана жаляцца кабеты ў слынных на ўвесь сьвет чэргах ды аўтобусах-тралейбусах. Век бы не падумаў:

*зацяжкі* на калготах ды панчохах здатныя разварушыць нашых невідушчых мужчынаў. Тых зграбных ножак, усхваленых Барадуліным, прыкмеціць няма часу, няма й моцы. Затое як заверашчыць каторая маладзіца! Гэткае ўражаньне, што жаночы віскат ад *зацяжкі* толькі й нагадвае нашым зьніякавелым мужчынам, што яшчэ ёсьць тут, у Беларусі, і другая палова чалавецтва — жанчыны, што вечна мрояць пра каханьне і вечна хочуць прыгожа апранацца, не баючыся *зацяжак* ні на калготах, ні ў жаданым лёсе-шчасьці.

## Званіца

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Званіцы* — архітэктурныя дамінанты колішніх беларускіх мястэчак і вёсак. Сваёй вышынёй іх не маглі перавысіць ні коміны кацельняў — дамінантаў савецкага краявіду, ні — тым больш — помнікі правадыру, ні курганы славы. Сустракаліся напраўду коміны і вышэйшыя ад званіцаў, але нават самы зацяты бязбожнік наўрад ці мог бясконца глядзець на іх, калі недзе побач вабіла й песьціла вока незвычайная вежа, зь якой некалі чуўся мэлядыйны звон.

Відаць, *званіцы* адрывалі эпахальныя бальшавіцкія думкі ад матэрыяльнага і нагадвалі пра Бога. Таму бальшавікі высылалі ці вынішчалі *званароў*, разбуралі *званіцы*. Замест іх яны ўвялі пралетарскія «*званіцы*» ў выглядзе папярэчнай бэлькі, на якую быў навязаны ка-

валак чыгуначнай рэйкі, — дэталь БССРаўскай эстэтыкі.

Слова *званіца* паходзіць ад слова *звон*, праславянскага, а паводле некаторых дасьледнікаў нават індаэўрапейскага слова.

Слоўнік Станкевіча падае форму *званьніца* (зь дзьвюма літарамі *н*), а слоўнік Някрашэвіча і Байкова піша, як і мы цяпер, — *званіца*.

*Глядзіць са сваёй званіцы* — кажам мы, калі чалавек ацэньвае нешта аднабакова, са свайго пункту гледжаньня, са сваім разуменьнем. Між тым у гэтым выразе схаванае тое адмоўнае, якое магло б стаць для нашага народу дадатным, калі б мы сябе і сьвет навучыліся бачыць са сваёй *Беларускай Званіцы*...

## Згода

*Віталь Цыганкоў*

Для многіх палітычна актыўных людзей і цяпер слова *згода* асацыюецца са Станіславам Шушкевічам.

У 1991 годзе, калі была створаная *Партыя народнай згоды*, адным зь яе арганізатараў быў і Аляксандар Лукашэнка. Цяпер мала хто памятае той факт, як, зрэшты, і саму партыю, якая зьлілася з сацыял-дэмакратамі.

З аднаго боку, народ марыў аб *згодзе*. «*Жыць у згодзе*». «*Згода будуе, нязгода руйнуе*». Так і чуецца — абы не было вайны. Але з другога боку, «*згодныя, як два каты ў адным мяшку*».

Так дагэтуль і не прыжылася *палітычная згода* ў беларускім грамадзтве.

## Змагар

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Слова *змагар* — уласна беларускае. Яго ня маюць ані палякі, ані ўкраінцы, ані расейцы. *Змагар* не падобны ані да расейскага *борца*, ані да польскага *bojownika*.

*Змагар* — слова, якое цягам усяго XX стагодзьдзя лунае ў беларускім паветры і не знаходзіць сабе прытулку. Мы дапасоўваем яго да розных прозьвішчаў, ставім яго побач з сапраўднымі патрыётамі, але, як толькі наважваемся перанесьці гэта на паперу, *змагар* зьнікае. Іншая рэч — множны лік: *змагары*. Іншая рэч — словы з таго самага гнязда: *змаганьне*, *змагацца*, *змагарна*. «*Змагарныя* дарогі» — назваў сваю кнігу канадзкі беларус Кастусь Акула. «Мы — хлопцы гартаваныя, мы — волі *змагары*», — пісаў у адным зь вершаў Міхась Машара. «*Змаганьне*» — называлася газэта, якая выходзіла ў Вільні ў 1923—24 гадох. Сярод аўтараў выданьня — Макар Краўцоў, Янка Пачопка, Уладзімер Самойла.

Ад вялікага да сьмешнага — адзін крок. І вось ужо савецкія слоўнікі прыдумалі *змагара* за мір, *змагара* за справядлівасьць. Пэўна, што ня Быкава, не Адамовіча, не Караткевіча мелі на ўвазе яны...

# Знак

*Антаніна Хатэнка*

Здаўна-спрадаўна на крывіцка-ліцьвінскіх абсягах верылі ў важкасьць ды моц *знаку*: ці то зь неба, ад Божае сілы, ці ад зямное, рэчаіснае будзённасьці, гэтаксама ня складзенае з выпадковасьцяў. Гэтак і цяпер: нешта адбылося нязвыклае — выварожваюць: добры то *знак* ці благі. Хто лічыць гэтую таемную веру прымхамі, хто — кантактам з Вышняю мудрасьцю. Гэтак альбо інакш, а *знакі* нам усё роўна зьнекуль падаюцца, і адкаснуцца ад іх ды пазбыцца нават няверца ня надта патрапляе. Паспрабуй, прыкладам, ня зважыць на кукарэканьне-сьпяваньне курыцы. Продкі меркавалі, што яно вястуе блізкую сьмерць у радзіне. Альбо калі птушка ў акно б’ецца: з таго сьвету, кажуць, нехта дабіваецца, пра нешта папярэджвае. А кот мыецца — гасьцей чакайце. Зязюля — гады нам лічыць. *Знакаў* — процьма: толькі разгадвай...

Надараецца сустрэць *знакі* й больш глябальныя, вяшчунскія: калі ўся, здаецца, прырода, усясьвет намагаюцца адкрыць нашую душэўную відушчасьць. Згадваюць, што ў травеньскі дзень нямiскае трагедыі гэтаксама быў *знак*: у Петрапаўлаўскай царкве паблізу бядотнага пераходу апоўдні чуўся немы голас, ад якога ў жудасьці прыгнуліся ніц і сьвятары, і вернікі. Ці то перасьцярожна кленчылі, ці раскайна... Але ж ні да кога з тых, хто ў пару Сашэсьця Духа Сьвятога — на Тройцу — гуляў буяна ў атачэньні пяці храмаў, голас не прыйшоў. Пэўне, *знакі*

зьяўляюцца, калі мы гатовыя іх прыняць ды зразумець. Расчытаць іхны векавечны шыфр.

Але ж *даліся* нам, цывілізаваным невукам, *у знакі* гэтыя дзядоўскія павер'і. Мы цяпер хіба што й ведаем *знакі нотныя, матэматычныя, карэктарскія, фабрычныя* альбо *фірмовыя*. Ды яшчэ *знакі адрозьненьняў* — усялякія нашыўкі, пагоны, бэджы, што падвышаюць статус нашых асобаў, вылучаюць нас сярод іншых. Надзвычай любім, праўда, *знакі нагародаў* — зіхоткія — ды *вадзяныя знакі* — бачныя адно на прасьвет. Дый ня дзіва: дзяржаўныя *знакі якасьці, пашаны* гэтаксама павыдумляныя, каб нас удала падзяліць — на выгодных і не. Быццам няякасная праца — увогуле праца... Затое ходзячы й жывучы *пад знакам* недарэчных ідэяў ды лёзунгаў, гуртуючыся *ў знак* чужапаклонства, галасуючы *ў знак* згоды, мы ўшчэнт вынішчылі *мяккі знак* — лагодную адметнасьць нашае мовы й характараў. Ажно давялося Сержуку Сокалаву-Воюшу пісаць паэму-ўхвалу ці рэквіем «*Мяккі знак*». Ды мы самі застаемся залішне мяккімі, ня маючы ў гэтым аніякіх *знакаў прыпынку*, не зважаючы на *дарожныя знакі* гісторыі. А між тым і *знакі Задыяку*, і народныя *знакі-коды* нашага бытаваньня ў сусьвеце чакаюць, пакуль мы ўбачым, пачуем іхны дасыл. Пакуль адолеем *знак бяды* над лёсам, што спакваля ўрастае ў нашую сьвядомасьць *радзімым знакам*, — *знак чорнае былі* духу й памяці.

# Золата

*Сяргей Харэўскі*

На вырабы з гэтага зіхоткага жаўтаватага мэталу ў Беларусі ставяць кляймо з выяваю зубра. І гэтае *золата* лічыцца адным з найлепшых у сьвеце. *Золата* патрапіла ў наш край разам са славянамі. Упрыгожаньні зь яго цаніліся, бо атаесамляліся з бляскам сонца. Аднак жа ў Беларусі *золата* ніколі не здабывалі. Мо таму беларусы ставяцца да яго абстрактна. Як да выпадковасьці. «*Залатая ліхаманка*» для беларускага вуха — экзотыка зь дзіцячае літаратуры. Гэтак, ні багомленьня, ні грэблівасьці. *Золата* сабе й *золата*.

Беларусы шануюць у *золаце* хіба яго эстэтыку, чыстую, рэдкую, няўлоўную. Ці ня ў кожнага беларускага паэта мы сустрэнем радок пра *золата*... *Золата* прамянёў, *золата* валасоў, *золата* восеньскага лісьця. Але, бадай, нічога пра мэтал, за які нехта можа гінуць.

*Залатыя словы* — трапныя й важкія. *Залатое сэрца* — бескарысьлівае й чыстае, бяз плямінаў іржы. *Залаты чалавек* — фамільярнасьць у дачыненьні да чалавека з *залатым сэрцам*.

*Золата* шырэй увайшло ўва ўжытак беларусаў па вайне. Яно стала даступным у выглядзе пярсьцёнкаў ды завушнічак, якія раней насілі хіба што паны альбо цыганы. *Золата* стала таньнейшае, бо яго здабывалі на Калыме, усяго толькі коштам вязьняў, між якіх былі й беларусы. Многія праз тое *золата* не вярнуліся дахаты.

Матчына *залатая* жуковінка. Даўно ня но-

шаная, амаль новая. Самая дарагая рэч у хаце. Рэліквія.

Пазьней, на мяжы 1980-х гадоў, у моду ўвайшлі *залатыя* зубныя пратэзы. Беларусы ўстаўлялі сабе фіксы з дарагога мэталу, ня ведаючы, куды ж, апроч уласнага рота, укласьці зробленыя грошы.

Сёньня *золата* здабываюць не гаротныя беларусы-нявольнікі, а велізарныя беларускія «БелАЗы», якія вернуць вечную мерзлату недзе ў далёкай Якутыі.

*Золата* — гэта надзея. Як пісала Ларыса Геніюш:

> Квадраты дзён,
> запоўненыя працай,
> між імі — сонца *залаты* прасьвет.

А яшчэ *золата* — гэта крыж на тарчы ваяра з нашае «Пагоні». Гэта сымбаль недасягальнае чысьціні Крыжа сьвятое Эўфрасіньні Полацкай. Рэчы не для штодзённага ўжытку. *Золата*.

## Зона

*Сяргей Дубавец*

Слова *зона* належыць да групы звышадкрытых, «крэпкіх» словаў, якія сярод іншых вылучаюцца сваёй аголенасьцю і таму звычайна разбураюць эстэтыку беларускага вершу і прозы. Падобна да таго, як разбурае ненарматыўная лексыка. Гэта зьвязана з агульным спэцыфічным стаўленьнем да эротыкі як да нечага непрыстой-

нага, распуснага і заганнага. Узбуджэньне эрагенных *зонаў* у краіне, дзе «сэксу няма», магло сьведчыць толькі пра адно — пра вашу глыбока схаваную шпіёнскую сутнасьць. Румянец сораму афарбоўваў шчокі...

Звышэмацыйная *зона* прыйшла ў беларускую мову з расейскай, выцесьніўшы свае словы — *кола*, *прасьцяг*, *абшар*, *пас* або *пояс*, якія не вытыркаюцца з агульнага эмацыйнага поля мовы.

*Зона*, якая асацыюецца з турмой, Чарнобыльскай катастрофай і ваеннымі канфліктамі, за савецкім часам, як і многае тады, набывала адваротную эмацыйную афарбоўку. У пасьпяховага кіраўніка ўсе справы знаходзіліся «ў *зоне* асаблівай увагі», сацыялістычнае спаборніцтва мела *занальную* структуру, гарадзкія паркі на турыстычных схемах называліся «*зонамі* адпачынку», а возера Нарач — «курортнай *зонай*». Зэкі адкідаліся з *зоны*, на якой адбывалі тэрмін, і траплялі ў *зону* асаблівай увагі. Адрозьнівалі зоны паводле прыназоўнікаў: *у зоне* і *на зоне*.

Няма сумневу, што з пашырэньнем беларускае мовы, дакладней кажучы — эмацыйна неафарбаванай лексыкі, якой беларуская мова разам з мовамі разьвітых эўрапейскіх краінаў выразна адрозьніваецца ад расейскай, што ў сваю чаргу сьведчыць пра дэмакратычны ўнутраны патэнцыял народу, слова *зона* застанецца ў нашым лексыконе адно гістарычным знакам катастрофы і акупацыі.

# Зорка

*Алена Ціхановіч*

Сёньня я адгарнула тры беларускія эвангельлі і пераканалася, што ўва ўсіх трох перакладчыкаў — Луцкевіча, Сёмухі й Станкевіча — менавіта па *зорцы* мудрацы, ці магі з усходу, даведаліся пра нараджэньне Хрыстовае. Пабачыўшы *зорку* на небе, яны прыйшлі пакланіцца нованароджанаму цару юдэйскаму.

*Зорка* ў беларусаў ахоплівае сваім зьзяньнем і царкоўную, і нябесную, і паэтычную сфэры. Згадаем «*Зорку* Вэнэру» Максіма Багдановіча, «*Зорачкі*» Сяргея Новіка-Пяюна, «Гэта ты, мая *зорка* ясная» Адама Русака. «Засьвяціла *зора*» — гэта праходзіць праз увесь фальклёр.

*Зора* — гэта першасны, больш старажытны варыянт, які, побач з *гвездай*, належыць усім славянскім мовам. Адметнае хіба што тое, як па-рознаму разьмеркаваліся сынанімічныя спэктры ў гэтых мовах. Так, у чэскай *zora* азначае толькі ранішнюю *зорку*, а *hvězda* ахоплівае ўвесь лексычны рад: гэта і нябеснае сьвяціла, і геамэтрычная форма, і выдатны чалавек, славутасьць.

У беларускай, наадварот, слова *зьвязда* сваімі сёстрамі-*зоркамі* як бы адціснутае на край небасхілу. Найперш *зьвязда* зьвязваецца з тытулам найстарэйшай беларускай газэты савецкага часу. З 1917 году закладзеная ў Менску бальшавікамі газэта выходзіла па-расейску пад назвай *«Звезда»*. У 1924 годзе выданьне стала беларускім, у назьве *«Звезда»* зьмянілася *«Зьвяз-*

*дой»*. Практычна кожнае пакаленьне і чытачоў, і журналістаў газэты вярталася да спрэчкі пра вартаснасьць гэтай назвы. Адна з высноваў, да якой прыходзілі кожны раз — што слова гэтае існавала ў сваёй нішы сэпаратна й незалежна ад бальшавіцкага ўтварэньня.

У многіх гаворках *зьвязда* супернічае са словам *зорка*, напрыклад, у называньні таго самага каляднага рыштунку, зь якім прынята хадзіць шчадраваць. Такая *зьвязда*, ці *зорка*, звычайна была саламяная, шасьці- або васьміканцовая, яна чаплялася на высокі шасток. У фальклёрных тэкстах ёсьць і спэцыяльная назва для тых, хто ходзіць па хатах пад такой *зьвяздой*, — *зьвездары*.

Добра, калі ў мове, як і на небе, словы вяжуцца ў су*зор'і*.

# Зубар

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Беларусь на мапе, у тых межах, у якіх яе акрэсьлілі й пакінулі нам у спадчыну бальшавікі, нагадвае *зубра*.

*Зубар* у якасьці аднаго з сымбаляў Бацькаўшчыны пачаў фігураваць толькі ў XX стагодзьдзі, гэта значыць у той час, калі сама жывёліна стала рэліктам і пароду трэ было штучна аднаўляць. Мала які народ у сьвеце чуўся б маральна здаровым, калі б ягоны сымбаль жыў у запаведніку, няхай сабе й такім цудоўным, як Белавеская пушча.

Затое *зубар* цудоўна пасуе нам у якасьці ілюстрацыі да сучаснага стану грамадзтва. Ён, як дзьве душы Максіма Гарэцкага, традыцыйны і накінуты звонку, ён гаспадар лесу, і ён — знак магутнай індустрыйнай дзяржавы. Але гэта — толькі ўражаньне, бо ў сапраўднасьці беларусы і не гаспадары, і такой магутнай дзяржавы ня маюць.

Як зьдзек, выглядае зьніклы *зубар* заміж традыцыйнага аленя на гербах Горадні й Гарадзенскай губэрні часоў Расейскай імпэрыі.

Літаратура XX стагодзьдзя ня надта цікавілася *зубрамі*. Калі хто і апеў гэтую жывёліну, дык Уладзімер Караткевіч. Ён жа ўвёў ува ўжытак і яшчэ адно, пераноснае значэньне слова *зубар* — «чалавек, які ўпарта трымаецца сваіх адсталых поглядаў». На шчасьце, гэткае значэньне ня надта каб прыжылося. І *зубрамі* мы ўсё ж, хутчэй, назавем Сапегу, Багушэвіча, Крачэўскага, а нават і самога Караткевіча, чым таго ж Лукашэнку.

У прыродзе *зубар* жыве 35—50 гадоў. Ягоны названы брат, беларускі цяжкавагавы аўтамабіль «*Зубар*», столькі не працягнуў. Ён выйшаў з ужытку й зьнік з рэальнага жыцьця. Як зьніклі зь яго многія так званыя «дасягненьні Савецкай Беларусі» зь ейнымі *зубрамі* ад палітыкі, эканомікі ці культуры.

А вось новых нацыянальных *зуброў* у грамадзкім жыцьці дзяржавы канца XX стагодзьдзя назаве стагодзьдзе наступнае.

# Зуброўка

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Зуброўка* — духмяная трава, якая расьце ў лясох і на лугавінах — атрымала сваю назву праз тое, што яна — улюбёная ежа волатаў беларускага лесу: *зуброў*. А яшчэ яна — араматычны сродак, які ўжываецца для... Напэўна, кожны жыхар Беларусі мог бы скончыць гэтую фразу, нават не падумаўшы, што, апрача гарэлкі, *зуброўкавы* водар можна знайсьці ў старых рэцэптах пірагоў, печыва і іншых прысмакаў. Пахам *зуброўкі* дыхалі закаханыя ў вечаровых стагох, але пра яго чамусьці ніколі не пісалі паэты.

Укінутая ў гарэлку жоўтая або зялёная сьцяблінка *зуброўкі* ператварае яе ў трунак найвышэйшай якасьці. Напой «*Зуброўка*» — сувэнір зь Беларусі, які вязуць нашыя суайчыньнікі, едучы за мяжу. Гэткім чынам, «*Зуброўка*» — гэта ў пэўным сэнсе візытоўка Беларусі.

«Вось сымбаль твой, забыты краю родны», — выгукнуў словамі Багдановіча адзін мой знаёмы, уздымаючы над галавой фірмовую пляшку. «А што? — адказаў другі. — Ня трактар жа «Беларусь» везьці ў падарунак».

Налепка на «*Зуброўцы*», як правіла, упрыгожаная выявамі зуброў, і неабазнаны чалавек можа зразумець гэта як намёк: *зубры* ядуць гэтую траву, і яны моцныя. Хочаш быць моцным — пі «*Зуброўку*». Між тым гатунку *зуброўкі*, які ідзе на выраб гарэлкі, *зубры* не ядуць. Яны любяць іншую *зуброўку*, якая, хаця і адной сям'і з гэтай, але такога паху ня мае.

У 1970—80-я гады «*Зуброўка*» ўжывалася як падмазка перад хабарам, а то й як хабар. Яе скрынкамі выстаўлялі для ўсялякіх праверак, рэвізіяў і ўрачыстых сустрэчаў так званых патрэбных людзей. Кіраўнікі рознага кшталту і розных узроўняў, едучы на паклон хто ў Менск, хто ў Маскву, везьлі яе з сабой і гэткім чынам залагоджвалі справы, атрымлівалі ўзнагароды або «ярлыкі на княжаньне».

«*Зуброўка*» і сапраўды магла б стаць каралевай беларускіх напояў, як «Бэхераўка» ў чэхаў, «Пярцоўка» ў украінцаў, ці каралём, як «Рыскі бальзам» у латышоў... Але ня стала...

## Зьнічка

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Нараджэньне чалавека запальвае ў небе зорку, кожная сьмерць — *зьнічку*. «Згарэў, як *зьнічка*», — кажуць пра чалавека, што пражыў нядоўгае жыцьцё і памёр хутка й прыгожа.

*Зьнічка* — зорка ў часе падзеньня — адна з самых цікавых і прыгожых касьмічных зьяваў. Паводле слоўніка Насовіча, *зьнічка* яшчэ — беспрытульны агонь і нават асоба, што зьяўляецца ненадоўга.

Паўлюк Багрым — літаратурная *зьнічка* XIX стагодзьдзя і адначасна нязгасная зорка паэзіі. Цэлыя сузор'і *зьнічак*-талентаў расстраляныя і закатаваныя сталінцамі і фашыстоўцамі.

«Мігнецца стужка агнявая —
То *зьнічка* згасьне залатая», —

пісаў Якуб Колас.

*Зьнічка* — дачка *Зьніча,* паганскага вечнага агню. Агонь гэты мелі ўсе славяне, а *зьнічку* — толькі мы.

Жнівень і верасень — самыя *зьнічкавыя* месяцы ў Беларусі. Нягледзячы на халодныя ночы, закаханыя ў гэты час сграюць адно аднаго ня толькі абдымкамі ды пацалункамі. Яны глядзяць на зорнае неба і, пачуўшы сваю прысутнасьць у сусьвеце, сграюцца сьветлымі думкамі пра вечнасьць каханьня.

## Зямля

*Ігар Бабкоў*

*Зямля* — гэта тое, што ў нас пад нагамі, і тое, што мы маглі б бачыць з космасу. *Зямля* дзеліцца на тэрыторыі, пляцоўкі, надзелы. Але застаецца адзінай і непадзельнай.

*Зямля* заўсёды сырая, але часам гарыць пад нагамі ў акупантаў. *Зямля* — тое, што нас носіць пры жыцьці, і тое, куды мы кладземся пасьля сьмерці.

*Зямля* вельмі старая. Яна старэйшая ня толькі за асобнага чалавека, але і за ўсё чалавецтва. Калісьці праз мільярды гадоў яна астыне, і тады чалавецтва будзе вымушанае шукаць сабе новую *зямлю*. Пра гэта будуць складацца легенды, міты, пісацца раманы і паэмы.

І, магчыма, тады адзін з гісторыкаў, які будзе займацца далёкім і дзіўным XX стагодзьдзем, прыгадае паэму Якуба Коласа «*Новая зямля*». І хаця шмат што з дэкарацыяў эпохі будзе ўжо незразумелае, шмат якія дэталі прыйдзецца тлумачыць у камэнтарах дробным шрыфтам, сама гісторыя пра пошукі кавалка сваёй *зямліцы* застанецца блізкай і актуальнай.

Бо і тая *зямля*, што ў нас пад нагамі, і тая, што абарочваецца вакол Сонца, адна і тая ж *зямля*.

# І

## Іголка

*Рыгор Барадулін*

Часам пачынае здавацца, што *іголка* — гэта прыручаная бліскавіца. Чалавек глядзеў-глядзеў, як навальніца намагаецца сшыць сабе нейкую апранатку зь цёмных хмараў, нэрвова ламаючы *іголкі* бліскавіцаў, дый вырашыў сам паспрабаваць заняцца швівам, каб быць апранутым, што называецца, «з *іголачкі*».

Іголка абшывае чалавека. І пялюшкі, і сарочку, якую вясельле знаходзіць. Шые *іголка* і саван таксама.

Дарэмна шукаць *іголку ў стозе*.

*Як нітка за іголкай*, ідзе за чалавекам вернасьць.

*Як на іголках* пачуваецца нецярпеньне.

Сасна сшывае лясную цішыню сваімі зялёнымі *іголкамі*.

Вожык увесь у *іголках*, як у маленькіх дзідах, — імі бароніць сваю безабароннасьць.

Калі дзяўчына і маладзіца прышывае гузік свайму нарачонаму ці суджанаму — як бы прышывае яго да сябе.

Прыручаная бліскавіца працы не баіцца.

# Ідал

*Уладзімер Арлоў*

*Ідалы* — гэта каменныя, драўляныя або мэталёвыя выявы паганскіх багоў. Яны ж — стоды, балваны, куміры, ёлупы. *Ідалы*-стоды стаялі на капішчах і былі аб’ектам пакланеньня. Кожны зь іх увасабляў пэўнае божышча ды вымагаў ахвяраў. Найвядомейшы са старажытных беларускіх *ідалаў* — шклоўскі, добра знаёмы любому школьніку з падручніка гісторыі.

Энцыкляпэдыі паведамляюць, што пасьля прыняцьця хрысьціянства *ідалаў* прыстасоўвалі да патрэбаў новае рэлігіі, выбіваючы на іх крыжы. Пра тое, што *ідалы* спатрэбіліся і тады, калі бальшавікі пачалі вайну з рэлігіяй, энцыкляпэдыі сарамліва маўчаць.

Большасьць *ідалаў* таго часу пасьпяхова дажыла да нашых дзён. Галоўны *ідал* — лысы, з вусамі і невялікай бародкай — зазвычай стаіць на цэнтральным пляцы гораду ці мястэчка і паказвае рукою на гайню бяздомных сабак або на вінна-гарэлачную краму. Разы два на год *ідалу* прыносяць чырвоныя кветкі, якія, пэўна, павінны нагадваць пра часы, калі ахвяры былі непараўнальна шчадрэйшыя ды вымяраліся мільёнамі чалавечых жыцьцяў.

# Інтэрнэт

*Віталь Цыганкоў*

*Інтэрнэт* — слова XX стагодзьдзя? Само гэтае цьверджаньне выклікае лёгкі недавер. І сапраўды, пішучы пра гэтае слова, ня трэба корпацца ў этымалягічных, тлумачальных ды іншых слоўніках беларускай мовы. Упэўнена можна сказаць, што слова *інтэрнэт* няма ні ў водным беларускім слоўніку XX стагодзьдзя.

Тэрмін *інтэрнэт* нарадзіўся ў выніку спалучэньня ангельскіх словаў «*Inter*national *net*work» — міжнародная сетка. Ад *інтэрнэту* ўжо пасьпелі зьявіцца дэрываты: *інтэрнэтнік*, *інтэрнаўт, інтэрнэтаўскі*...

Ёсьць нават скарачэньне — *інэт*, няўдалае і немілагучнае.

Сама зьява *інтэрнэту*, аднак, рашуча абагнала сваё моўнае адлюстраваньне. Пра *інтэрнэт* чулі, безумоўна, усе, але большасьць пакуль ня ведае, што гэта такое. Я, напрыклад, ледзь прыхоўваю ўсьмешку, калі сваякі альбо знаёмыя, прыходзячы на маё працоўнае месца, пытаюцца: «Ну, пакажы, дзе ў цябе *інтэрнэт* ляжыць?» — альбо так: «А ў якой краме гэты *інтэрнэт* прадаецца?». І тут няма чаму зьдзіўляцца, паколькі *інтэрнэт* на канец 1990-х у Беларусі — зьява пераважна моладзевая. Сярод удзельнікаў чатаў альбо дыскусійных клюбаў у *інтэрнэце* рэдка ўбачыш асобу, старэйшую за 30 гадоў.

*Інтэрнэт* дае адчуваньне вечнасьці, свабоды і ўсёахопнасьці — гэтую маю нататку можа

прачытаць любы жыхар Зямлі, у якога ёсьць кампутар. Гэта абнадзейвае і грэе.

Так што *інтэрнэт* — слова наступнага, XXI стагодзьдзя. Думаю, праз сто гадоў на Зямлі не застанецца слоўніка, у якім ня будзе падрабязнага тлумачэньня паняцьця *інтэрнэт*.

# К

## Кабанчык

*Сяргей Харэўскі*

Гэтага значэньня няма ў слоўніках. Яго не ўжываюць «салідныя» выданьні. Але ў Нароўлі і ў Навагарадку, у менскіх мікрараёнах і на вясковых вуліцах, паўсюль нас сустракае ён — «*кабанчык*».

Гэтае значэньне ўзьнікла ў 1970-я гады. Менавіта так беларускія будаўнікі сталі называць керамічную плітку, якой заляпляліся цокалі, уваходы і цэлыя фасады дамоў. На нейкі час «*кабанчык*» стаў фасадам сваёй эпохі.

Усюдыісны, ён трапляў на будынкі школ і цэркваў, райкамаў і музэяў... Яго можна было сустрэць на новабудоўлі і на кляштары XVI стагодзьдзя. Так Беларусь пазбаўлялася веку, а будынкі страчвалі сваю функцыянальную адметнасьць. У царкве можна было зрабіць піўбар, і гэта ня рэзала вока. «*Кабанчык*» зьнішчаў усе адлегласьці ў часе і ў прасторы: паўсюль нас сустракала стракацень з трох-чатырох фарбаў. Стандарты «*кабанчыка*» ствараліся і захоўваліся ў Маскве. Гліну для яго выраблялі на Ўкраіне, фарбавальнікі — у Варонежы...

Само слова паходзіць ад расейскай абрэвіятуры КОПОН — «керамическая облицовочная плитка для отделки наружная». Каму першаму хапіла дасьціпу назваць КОПОН «*кабанчыкам*», сказаць немагчыма.

Паводле задумы стваральнікаў неўміручага «*кабанчыка*», ім мелі прыкрываць будаўнічыя хібы і эканоміць на тынкоўцы і расфарбоўцы шэрых панэляў. Новы матэрыял прадыктаваў і новую архітэктурную эстэтыку. З «кабанчыка» пачалі выкладаць арнамэнты, абстрактныя кампазыцыі зь зіхоткім сынтэтычным бляскам.

Неўзабаве высьветлілася, што яго выкарыстаньне нашмат даражэйшае, чым уяўлялася. Але ўжо была створаная адмысловая індустрыя. «*Кабанчык*» вырабляўся ў Менску ў фантастычнай колькасьці — 8 мільёнаў кубамэтраў за год. Хапіла ўсім.

Кароткая эпоха «*кабанчыка*» скончылася ў 80-я. Пакладзеныя абы-як пліткі пакрысе адвальваліся з бэтонных муроў. Сёньня, каб не рызыкаваць жыцьцямі людзей, «*кабанчык*» адкалупваюць самі будаўнікі. Міне яшчэ колькі часу — і ён зусім аблезе з твару нашае зямлі як яскравы прыклад колішняга савецкага «единообразия».

## Кава

*Сяргей Шупа*

*Кава* — слова вельмі беларускае. Гэта добра ведаюць тыя, каму даводзілася замаўляць гэты напой у якім-небудзь менскім гастраноме. Гэтае

слова — як лякмусавая паперка, паводле яго цябе ідэнтыфікуюць у чарзе як беларуса.

Слова *кава* прыйшло да нас з Усходу — з Асманскай імпэрыі, а асманскія туркі пазычылі яго ад арабаў, у якіх яно гучала «*qahwa*». А вось да расейцаў, прыкладам, *кава* прыйшла значна пазьней і з Захаду — таму расейскае слова «кофе» зусім непадобнае да нашага.

*Кава* для Беларусі — новы нацыянальны сымбаль, знак далучанасьці да паўзабытай намі эўрапейскай цывілізацыі. «*Кавы*», — папросім мы — і нас зразумеюць у любой кавярні ў Польшчы, Літве, Чэхіі, Славаччыне, Украіне, карацей кажучы — у НАШАЙ Эўропе.

...Мы надоўга сыходзім у цемру ночы або ў шэрасьць дня, каб аднойчы на золку вярнуцца да старога сябра, які, перш чым пра што-небудзь запытацца, пачастуе нас добрай *кавай*.

## Каваль

*Юрась Бушлякоў*

У *каваля* на зямлі свой адвечны клопат — *каваць*. *Каваль* — стваральнік, *выкоўваючы* мэтал, ён *куе* сваю долю. У нашага *каваля* шмат славянскіх блізьнят: разам з рамяством замацавалася гэтае слова яшчэ ў праславянскую пару.

Беларускія *кавалі* ў даўніну былі адначасна гутнікамі — вытаплялі з руды жалеза. Пазьней, у часе *кавальскага* буму, не рабілі ўсе *кавалі* аднаго й таго ж самага — мелі свае дзялянкі: адзін мечнікам працаваў, другі замкі вырабляў, а трэці толькі за нажы браўся. Ня менш як тры

гады займала навука *кавальства* — пасьля *кавалёвы* вучні станавіліся *кавалькамі*. Каб прызналі за майстра, мусіў *кавалёк* зрабіць штуку — *выкаваць* што-колечы бяз помачы. На мяжы XIX ды XX стагодзьдзяў пакідалі ў нас *кавалі* грамадзкія кузьні ў гарадох — куплялі ўласныя дый асядалі ў вёсках. А там заўжды было поўна працы — калёсы *акаваць*, коні *падкаваць*, зрабіць сярпок ці матычку, сякерку або сьвярдзёлак...

Цанілі *каваля* — вялікі ён чалавек на зямлі. Данеслася пра гэта ў адной гісторыі, дзе *каваль* саграшыў быў, а сьлесара павесілі. Ведалі ўсе, што *добры каваль рук не апячэ*, у яго *куецца ўсё й плешчацца*. Якога ліха маглі чакаць адно ад *кавалíхі*, аднак тое ўжо льга было вытрываць...

Але прыйшла савецкая індустрыялізацыя і клопат *кавалёў* абмежавала: шчыравалі тыя ў калгасных майстроўнях, куючы разам зь мільёнамі суайчыньнікаў інакшую, нечуваную на сьвеце долю. Былі *лепшае будучыні кавалямі*. І так ад *кавальства* даўнейшага адступіліся, але й шчасьця супольнага не прычакалі. Застаюцца цяпер на нашай выбоістай беларускай дарозе, дзе так няпроста стаць *кавалём свайго шчасьця*.

## Каваль

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Каваль* — адна з самых таямнічых, спавітых легендамі й забабонамі асобаў. *Каваль* быў чарадзеем, чалавекам, які вырабляе з агнём і жалезам тое, што ня можа зрабіць хто заўгодна.

Магію *кавальства* адчулі бальшавікі, якія ўклалі ў рукі работніка-малатабойца *кавальскі* молат і намовілі яго разьбіваць ланцугі рабства. «*Кавалі*» — купалаўскі пераклад песьні «Мы кузнецы, и дух наш молод», якая так і не загучала ў беларускім варыянце. Надта ж не стасуецца, у параўнаньні з «кузьняцом», вобраз *каваля*, які куе ключы шчасьця. «*Каваль*» — яшчэ адзін пераклад Купалы, але ўжо з польскай, дзе заміж гультайскіх прымройных ключоў гаворка ідзе пра нялёгкую, але ўзьнёслую працу і стаўленьне да гультаёў.

Слова *каваль* паходзіць ад дзеяслова *каваць*: роднасныя яму ёсьць ня толькі ў славянскіх і балцкіх, але нават у лацінскай ды ірляндзкай мовах. *Кавальства*, *кавальня*, *кавадла*, *падкаваць*, *падкова* — словы аднаго гнязда. «Сам гартаваны, як меч на *кавалдзе* паходнай», — пісаў пра Вітаўта Вялікага Мікола Гусоўскі. «*Каваль*-ваявода» — п’еса Еўсьцігнея Міровіча. «*Кавалі*» — народны танец. Павел і Дзьмітры *Кавалёвы* — пісьменьнікі. Уладзімер *Кавальчук* — сьпявак. Міхал *Кавальчык* — рэжысэр. Аўгіньня *Кавалюк* — паэтка. Віктар *Каваленка* — літаратуразнаўца, празаік. Соф’я *Кавалеўская* — фальклярыстка, а ейная аднайменьніца — першая ў сьвеце жанчына-прафэсар. Уладзімер *Кавалёнак* — касманаўт. Сяргей *Кавалёў* — праваабаронца. Сьпіс можна доўжыць да бясконцасьці.

У сярэдзіне 1980-х *кавальства* як аднаасобная праца пачало адраджацца. Новы *каваль* — перадусім мастак, які ня толькі і падкову зробіць, і каня *падкуе*...

## Кавярня

*Алег Дзярновіч*

Гэтае месца заўжды лёгка пазнаць. Водар *кавы*, нягучная гамонка, ніхто нікуды не сьпяшаецца.

У XX стагодзьдзі *кавярні* станавіліся легендамі культураў. У першай палове стагодзьдзя ў парыскай «Ратондзе» стала зьбіраліся вядомыя літаратары, у віленскім «Чырвоным Штралі» рэгулярна сыходзіліся нашаніўцы. Праская «Славія» ў 60—70-х гадох была слынным дысыдэнцкім асяродкам.

У Беларусі ўсё ж бракавала традыцыяў *кавярняў*. Іх папросту было замала. Але беларускі горад прагнуў *кавярняў* як асяродкаў іншай рэальнасьці. У Менску на працягу 70—80-х андэграўнд ды вальнадумцы абіралі для сустрэчаў не заўжды самыя шыкоўныя *кавярні*: галоўнае, каб больш-менш хапала месца. Для многіх менчукоў нешта значаць такія назовы, як «Рамонак», «Хвілінка», «Сьвіцязянка», «Траецкае», «На Паддашку». Гэтыя назвы асацыююцца з добрай *кавай*, пераважна па-турэцку, павольнай дыскусіяй, тварамі сяброў. *Кавярні* былі тэрыторыяй свабоды, таму яны трапляюць у лік найважнейшых мясьцінаў сучаснага беларускага гораду.

*Кафэ*, у адрозьненьне ад *кавярняў*, — вельмі неканкрэтны тэрмін. Так маглі называць і рэстаран, і хуткую ядальню, і нешта падобнае да ўласна *кавярні*. Беларусы акультурваюць свае гарады ў тым ліку і праз *кавярні* — праз слова і

зьяву. Цяпер беларускія *кавярні* часам выступаюць пад сваім уласным імем, на іхных шыльдах так і напісана — «*Кавярня*».

## Кажух

*Рыгор Барадулін*

*Кажух* — абавязковая зімовая апранаха гаспадара. Прыказка заўважае: «*Чалавек відаць зімой без кажушка, а летам без кароўкі*». У гаспадарцы вяліся авечкі — на *кажух* і валёнкі, на вязёнкі і рукавіцы. *Кажух* — з даўгімі крысьсямі, *кажушок* карацейшы. *Кажэрка*, *кажара*, вытворнае *кажушына*.

*Кажух* — сымбаль багацьця й дастатку. Пажаданьне: «Каб табе было багата і касмата». Праз крысо *кажуха* віталі, віншавалі. Каб вялося багацьце, казалі: «*Рунь кажухом*».

*Кажухі* з плячэй у гаспадароў зьдзіралі для Чырвонай арміі камісары: як некалі ў скуранках, зімой хадзілі ў *кажухах*. Партызаны асабліва ласыя былі да чужых *кажухоў*, сярод партызанскіх подзьвігаў быў і такі ў прыватнасьці. Акружылі ў нядзелю касьцёл у Глыбокім і ўсіх, хто выходзіў у кажухах, разьдзявалі. І валёнкі зьдзіралі ў дадатак.

Скамарохі і калядоўнікі не абыходзіліся бяз вывернутых поўсьцю наверх *кажухоў*. Адзін час пры камуністых *кажухі* выцесьнілі баўгарскія дублёнкі. А пасьля *кажухоў* ня стала, мо й авечак ліквідавалі як клясу.

«...*Кажух прамаўляў да сьвечкі: выйшлі мы ўсе з авечкі*».

# Калготкі

*Вольга Караткевіч*

*Калготы* — ценькія ці грубыя, элегантна ці неахайна нацягнутыя на нагу, празрыстыя ці матавыя штонікі, са шляхетным бляскам ад дарагога валакна лайкры ці танным адценьнем паліэстэру...

*Калготы*, а таксама іх колькасьць на душу жаночага насельніцтва, былі і застаюцца паказьнікам дабрабыту беларускай жанчыны, а значыць, краіны. Слова *калготы* прыйшло ў беларускую мову з захаду. У чэскай мове *kalhoty* значаць проста «нагавіцы». У чэскую — з італьянскай, дзе слова *caliggiotte* абазначала цесьненькія шкарпэткі.

Да нас *калготы* прыйшлі ў эпоху Адраджэньня разам з паўднёвай і заходняй модаю.

За савецкім часам добрыя жаночыя *калготкі* італьянскага ці нямецкага паходжаньня каштавалі каля пяці рублёў за штуку. Як вынік, школьніцы сарамліва нацягвалі спадніцы на каленкі, каб не паказваць зашытых дзірачак ці пакрытых лякам для пазногцяў зацяжак. Цэлыя *калготкі* жанчыны ашчаджалі, каб надзець у тэатар, на важнае спатканьне ці да лекара. А ў прыбіральнях ці ванных пакоях на сьценах можна было ўбачыць кардонныя фігуркі заходніх прыгажуняў, выразаныя з каробачак з-пад *калготак*.

Напрыканцы 1980-х у моду ўвайшлі *калготкі* двух колераў — ружовага і блакітнага. Іх насілі ўсе. Чорныя *калготкі* таксама не выходзілі з моды.

На схіле XX стагодзьдзя добрыя *калготы* ў Беларусі каштавалі каля пяці амэрыканскіх даляраў. Віцебскія і берасьцейскія вырабы назваць пяшчотным словам *калготкі* цяжка, як і аддаць за іх нават сымбалічную грашовую суму. Самыя зграбныя ножкі будуць незаўважаныя: увага зафіксуе агідны цагляны колер.

Мужчыны любяць паўтараць, што мацней вабяць усё ж панчохі. А беларускія жанчыны збольшага выбіраюць *калготкі*, і прычына не ў абыякавасьці да сябе, яны проста ведаюць — што ні надзень, мужчынская ўвага хуткаплынная.

## Калёнія

*Рыгор Барадулін*

На лаціне *colonia* — селішча.

Слова шматзначнае. Гэта — і супольнасьць птушак і жывёлін, і сукупнасьць грамадзянаў якой-небудзь дзяржавы ў іншай краіне, гэта і краіна пад уладаю чужой дзяржавы, мэтраполіі.

У *калёніях* птушак і жывёлін дзейнічае закон сілы і парадку, натуральны адбор, суладзьдзе з прыродай. У людзей, як заўсёды, усё болей вытанчана ў сваёй жорсткасьці ды вонкава прыхавана. І розныя папраўчыя, жаночыя ды дзіцячыя працоўныя *калёніі* трымаюцца на прымусе, на прыдушэньні волі асобы.

У савецкай імпэрыі *калёніі* называліся сацыялістычнымі рэспублікамі. У Беларусі ў свой час спрыялі прагрэсу *каляністы*, асабліва зь

Нямеччыны. Яны ставілі элеватары, млыны, лесапільні, будавалі камяніцы. *Калёніі* гэтыя вылучаліся высокай культурай земляробства, рознай вытворчасьці і рамёстваў. Багата на нашых землях было і пасяленцаў-*каляністаў* латышоў.

І ў гады рэпрэсіяў ці ня ўсе *каляністы* былі сасланыя ў Сібір, раскулачаныя. Адно назовы вёсак нагадваюць яшчэ пра *каляністаў*, руплівых ды кемлівых гаспадароў.

Слова *калёнія* паступова сыходзіць з актыўнага ўжытку у разматых сваіх значэньнях. Хіба толькі застаецца ў асноўным як азначэньне месца адбыцьця пакараньня.

## Калыханка

*Віталь Цыганкоў*

Зьбеглі зайкі ўсе ў лясы,
Змоўклі птушак галасы,
І буслы ў гняздо схавалі
Свае доўгія насы.

Напэўна, пасьля «Касіў Ясь канюшыну» гэтая *калыханка* на словы Генадзя Бураўкіна застаецца адной з самых вядомых беларускамоўных песьняў. І выглядае, што гэта тая рэдкая беларуская песьня, якая падабаецца ўсім незалежна ад веку і нацыянальнасьці.

Калыханкі бацькі ўсяго сьвету адвеку сьпяваюць сваім дзецям. У суседніх славянскіх народаў *калыханка* гучыць вельмі падобна: па-

польску — *kołysanka*, па-ўкраінску — *колискова*, па-чэску — *ukolébavka*.

*Калыханка* — гэта не народная песьня, якую сьпявалі ўсёй вёскай, усімі пакаленьнямі. *Калыханка* — рэч больш інтымная, яна не падыходзіць да масавага выкананьня на вячорках.

На жаль, большасьць людзей ня памятае словаў і мэлёдый *калыханак*, што ім сьпявалі маці. Таму *калыханкі* заставаліся ў сямейнай памяці толькі ў тым выпадку, калі бабуля, гушкаючы ўжо сваіх унукаў, сьпявала старыя *калыханкі*. Зь пераездам беларусаў у гарады такая сувязь абарвалася. Большасьць сёньняшніх гараджанаў ня ведае ніякіх сямейных *калыханак*, прыдумляючы сваё альбо сьпяваючы штосьці агульнавядомае.

Хоць у 1990-я гады зьявілася даволі многа разнастайнай беларускай музычнай прадукцыі, касэтаў зь беларускімі *калыханкамі* не выпускалі. Дзіцячай беларускамоўнай літаратуры, аднак, даволі шмат, і ў гэтых кніжках можна знайсьці і беларускія *калыханкі*. Нам з жонкай прыйшлася да спадобы такая:

Ходзіць певень па капусьце,
Носіць сон у белай хусьце.
Усім дзеткам прадаваў,
А Багуську дарма даў.

Зрэшты, часам бацькі пад *калыханкі* перарабляюць проста лірычныя песьні: тут і «Шуміце, бярозы», і «Ў суботу Янка», і нават застольная «Ад панядзелка да панядзелка». Усё прыдасца, абы дзіцятка заснула.

## Каляды

*Сяргей Шупа*

Сярод назваў усіх нашых сёньняшніх сьвятаў само гэтае слова — *Каляды* — самае нерэлігійнае, самае народнае, амаль нехрысьціянскае. Яно й ня дзіва — бо слова *Каляды* вядзе радавод ад рымскіх *календаў* — вясёлых паганскіх сьвятаў на пачатку кожнага месяца.

Таму розныя нашыя цэрквы наагул спрабуюць яго пазьбягаць — яны кажуць: Нараджэньне Хрыстова, Ражаство, Раство.

Слова *Каляды* ёсьць бадай што ўва ўсіх славянскіх мовах, але значыць яно там пераважна толькі вясёлую й забаўную частку сьвята — звычай *калядаваньня* і самыя песьні, што пры гэтым сьпяваюцца. Затое літоўскі назоў *kalėdos*, запазычаны ў беларусаў, захоўвае ў нашых суседзяў увесь багавейны арэол сьвятасьці.

А для беларусаў *Каляды* — лішняя нагода парадавацца. Нашы людзі казалі: «*Калядкі — вясёлыя сьняткі: бліны ды аладкі*». Што яшчэ чалавеку трэба для шчасьця?

## Камуніст

*Міхась Скобла*

Ня ведаю, як былі разьмеркаваныя 20 мільёнаў *камуністаў* па ўсім савецкім абшары, але на нашае заходнебеларускае мястэчка іх перапала амаль тры дзясяткі.

*Камуністамі*, альбо «парцейнымі», былі кіраўнікі ўсіх рангаў, пачынаючы ад школы і канчаючы калгаснай фэрмай. Нягледзячы на гэткую немалаважную акалічнасьць, бацькі почасту асьцерагалі сваіх самастойных ужо дзяцей ад уступленьня ў партыю. Адна цётка замест матчынага блаславеньня параіла сыну апамятацца і ня лезьці ў сабачую скуру.

Калгасная сыстэма трымалася на прыгоне і крадзяжы, прычым апошні не лічыўся злачынствам. Сымбалічна, што сынонімам да слова *красьці* стаўся нэалягізм *скамунізьдзіць*.

Надзвычайнай папулярнасьцю ў народзе ад часоў грамадзянскае вайны карысталася пагардлівае *камуняка*.

Слова *камуніст*, ужытае ў назьве мастацкага твору, як бы сыгналіла наверх, што мастак — свой, служыць верай і праўдай і заслугоўвае афіцыйнага прызнаньня. І прызнавалі, як мастака Савіцкага, чыя карціна «*Пяюць камуністы*» мусіла сьцьвердзіць у вачох грамадзкасьці нязломнасьць і стойкасьць членаў *КПСС*.

Перад словам *камуніст* бездапаможна ніякавелі нават народныя паэты. Яно нівэлявала паэзію, ператварала твор у рыфмаваны лёзунг. Талент здаваўся ў палон ідэалёгіі. Школьнікі завучвалі на памяць верш Куляшова, раз-пораз спатыкаючыся на розных хібах: русізмах, няправільных канчатках альбо не ўласьцівых беларускай мове націсках:

> «*Камуністы* — гэта слова, як са сталі...
> Маркс і Энгельс нам імя такое да́лі...»

*Камуністы* зьбілі з тропу ня толькі паэтаў...

# Камуфляж

*Анатоль Вярцінскі*

Гэтае слова зь незвычайнай лёгкасьцю прыжылося на нашай беларускай глебе.

Чалавека з дубінкай і ў *камуфляжы* можна сёньня сустрэць на кожным рагу гарадзкой вуліцы, ды цяжка з прычыны *камуфляжу* зразумець, каго ці што ён беражэ і які парадак ахоўвае. І паколькі яго *камуфляжная* ўніформа вызначаецца ў залежнасьці ад канфігурацыі і афарбоўкі плямаў па-living рознаму: «дзень — ноч», «лета — восень», «мыш — салома», то застаецца гадаць, што гэта азначае — ці то канец сьвету, ці то пачатак новага жыцьця, ці то яркі, як летні дзень, росквіт дэмакратыі, прытым такой, якой, як мы ня раз чулі, няма ні ў воднай самай дэмакратычнай краіне, ці то яе імглісты вечар, яе прыцемак, ці то неабходнасьць варушыцца, бегаць з мэтай выжываньня, накшталт мышы-палёўкі, ці то знак сядзець ціха пад мятлой, як мыш хатняя.

Здачу нацыянальнай дзяржаўнасьці можна *камуфляваць* гучнымі словамі аб непарыўнай еднасьці і супольнасьці лёсу народаў; агрэсіўны імпэрскі панславізм — псэўдааргумэнтамі наконт адмысловай славянскай роднасьці; а рост узроўню інфляцыі і цэнаў — разважаньнямі пра рост вытворчасьці ды павышэньне заробкаў і пэнсіяў.

«*Камуфляваць*» гучыць па-беларуску — чуеце! — амаль як «мухляваць».

## Кандыдат

*Андрэй Лапцёнак*

*Кандыдат* — той, хто намечаны для выбраньня, прызначэньня або прыёму куды-небудзь. Іншае значэньне слова *кандыдат* — навуковая ступень. У другой палове XIX стагодзьдзя такую ступень атрымлівалі выпускнікі ўнівэрсытэтаў. *Кандыдатам права* быў Кастусь Каліноўскі.

У савецкія часы спалучэньне *кандыдат навук* азначала навуковую ступень, якая прысуджалася на падставе абароны дысэртацыі, так называлі і чалавека, які ўжо атрымаў гэтую ступень.

Слова *кандыдат* паходзіць ад лацінскага *candidatus* — «апрануты ў белае», і ўжо адным тым блізкае беларусам.

Раней у газэтах пісалі пра *кандыдатаў у члены КПСС*. Цяпер — пра *кандыдатаў у дэпутаты*. Затое ў гарадах нямногія ведаюць, што «*кандыдат*» — гэта і сталовы гатунак бульбы, выведзены ў Беларусі, познасьпелы і ўраджайны.

## Канстытуцыя

*Антаніна Хатэнка*

Ох і любім жа мы выхваляцца сваёй рахманасьцю ды пакорлівасьцю. Ужо ж такія мы паслухмяныя, гэткія спакойныя, ажно сумнеў бярэ, ці бывае ўвогуле ў сьвеце гэтулькі трываньня і цярплівасьці ў адным месцы?

А скажу ж я вам — бывае. Пэўне, такая нашая *канстытуцыя*, будова, гэткае ўстанаўленьне, склад нашай псыхікі. І якой ты нам *Канстытуцыі* звонку ні падкінь, як ні ўсталюй нашай дзяржаўнай будовы, як ні зьменьвай складу, усё роўна мы будзем цярпліва чакаць, калі і хто дазволіць жыць лепей.

Як станеш чытаць якія гістарычныя нарысы, дык толькі дзівісься — чаму продкі здабывалі і мелі, а мы толькі страчваем тыя набыткі, разбураем тую будову? Якога ж мы складу, якое будовы? Няўжо маем *канстытуцыю* разбуральнікаў? Як добра ўгледзецца, дык якраз тое і відно. Складна, ладна жылося ў часы Вялікага Княства Літоўскага. Дбайны Леў Сапега склаў Статут і быццам умацаваў гэтай *Канстытуцыяй* наш нацыянальны хрыбет.

Вядома, там рай — дзе нас няма. І *Канстытуцыя* самая мудрая, пакуль ня стане тваёй *канстытуцыяй* і тваім устанаўленьнем, — нічагуткі ня будзе адбывацца, акром трывушчага чаканьня.

Адно беларускае дзіцятка дакладней акрэсьліла нашае *канстытуцыйнае* бытаваньне і пачуваньне, спытаўшыся:

— Мама, а *кастытуцыя* — гэта калі шмат касьцей?

## Канфіскацыя

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Агульнапрынятае значэньне слова *канфіскацыя* — прымусовае, бязвыплатнае і незваротнае

адабраньне грошай або маёмасьці ўва ўласнасьць дзяржавы.

*«Атабраць, вызьняць»* — гэтак Вацлаў Ластоўскі перакладаў на нашую мову лацінскі з паходжаньня дзеяслоў *канфіскаваць*. Адна зь першых антыбеларускіх акцыяў XX стагодзьдзя — *канфіскацыя*, а потым і закрыцьцё першай легальнай беларускай газэты «Наша доля».

З дапамогай *канфіскацыяў* савецкая ўлада змагалася з «эксплюатататарамі». Саветы *канфіскоўвалі* ў іх сродкі вытворчасьці, заводы, зямлю, грошы, прадукты, каштоўнасьці. Разам з *канфіскаванай* маёмасьцю савецкая дзяржава забірала й чалавечыя жыцьці.

*Канфіскацыя* апошнім часам нарадзіла слова *канфіскат*, якім абазначаюцца тавары, што перавозіліся кантрабандай і былі *сканфіскаваныя* на мытні.

Сярод апошніх *канфіскацыяў* XX стагодзьдзя — *канфіскацыі* незалежных выданьняў, вершаў і прыватных запісаў паэта Славаміра Адамовіча, перадвыбарных улётак Міхаіла Чыгіра і Зянона Пазьняка.

## Капялюш

*Вячаслаў Ракіцкі*

Спрадвеку сямейства галаўных убораў сьвята захоўвала фамільную традыцыю — прыкрываць галовы, незалежна ад іх якасьцяў, ад сьпякоты і дажджу. Але і ў сямействе галаўных убораў, як і ў саміх галоў, ніколі не было роўнасьці. Расcла-

еньне адбывалася сынхронна. Таму і кажуць: *па галаве й шапка. Якая галава — такая й шапка.* Ці наадварот: *якая шапка — такая й галава.*

Беларускае слова *капялюш* паходзіць ад лацінскага *capellus.*

За савецкім часам галовы падзяліліся на намэнклятурныя галовы і шараговыя галоўкі. А з галаўных убораў вылучыўся *капялюш* — шапачная намэнклятура. Галоўкі сталі сарамліва прыкрывацца барэтамі ды кепкамі. Галовы — напінаць на сябе фанабэрыстыя *капелюшы*, нібы баравікі. У народзе іх, зрэшты, так і звалі — баравікі, грыбы. І ў чырвоныя сьвяты расьлі яны на мармурах маўзалею ды сотнях іншых трыбунаў па ўсёй краіне.

Зь бегам часу *капялюш* стаў забывацца пра сваю функцыю. Ён станавіўся сымбалем прыналежнасьці да ўлады. Ад Крамля да раённых камітэтаў і сельскіх саветаў хавала пад ягонымі палямі абрысы сваіх галоваў новая знаць — сакратары, дырэктары, старшыні, брыгадзіры.

*Капелюшы* прырасталі да іхных галоў. Здавалася, іх не здымалі ні пры якім надвор'і. Здымі — і ты ніхто. У *капелюшы* ты — сіла.

Натуральна, *капялюш* станавіўся прадметам фальклёру.

«*А яшчэ ў капелюшы*», — чулася ў аўтобусах ды чэргах. Зноў вылучалі з шараговых гаспадара *капелюша.*

Нічога вечнага на сьвеце не бывае. Зашмальцаваўся і знасіўся савецкі намэнклятурны *капялюш*. Дый зьнік з нашага жыцьця разам з саветамі й намэнклятураю. Яго даношваюць на лецішчах пэнсіянэры. У ім фарсяць бамжы... Цяпер у модзе непрыкрытыя галовы. Якія б ні

былі — сьветлыя і цёмныя, вялікія-малыя, лысыя ці валасатыя.

Няма *капелюша* — няма й прыкрыцьця.

## Кар’ер

*Міхась Скобла*

У гэтым слове — і крык парушанай зямной кары, і кароткая скарга падрэзаных каранёў, і бязладнае карканьне чорнага птаства над ператворанымі ў сьметнікі былымі капальнямі. *Кар’еры* — мёртвая зямля, узрэзаная бульдозэрнымі тракамі й расплясканая самазвальнымі каляінамі, спустошаная й пакінутая да другога ледавіковага прышэсьця.

Пяшчаныя *кар’еры* пад Заслаўем выглядаюць, як сапраўдныя пустэльні, дзе вецер перасыпае жоўтую пытляванку ад выдмы да выдмы. Хіба што няма вярблюджых калючак, і не відно караванаў.

Улетку ў заслаўскіх *кар’ерах* практыкуюцца будучыя скульптары зь Беларускай акадэміі мастацтваў. І на пяшчаных адхонах зьяўляюцца постаці волатаў і вялікіх князёў, паўстаюць фартэцыі і замкі. Зь першым дажджом яны зьнікаюць. Як відзежы.

Вапнавыя *кар’еры* ў Росі пад Ваўкавыскам падобныя да скандынаўскіх фіёрдаў — каб вялікагрузныя аўтамабілі ня сьлізгаліся ў дажджэвіцу на выезьдзе, дарогі пасыпалі адмысловым рэчывам, ад якога вада ў *кар’ерах* набыла незвычайны малахітавы колер. З высокай стромы від-

но, як у ярка-зялёных хвалях мільгаюць даўгія чырвоныя рыбіны.

*Кар'ер* — гэта парушаны культурны слой, патрывожаная памяць. Гэта кара й помста тым, хто жывую плоць Зямлі кроіў ашчэранымі экскаватарнымі каўшамі.

Герой раману Васіля Быкава «*Кар'ер*» асуджаны перабіраць па шчопцях *кар'ерную* гліну, шукаючы сьлядоў блізкага чалавека.

Беларусь менавалі лапцюжнай, сярмяжнай, сінявокай, азёрнай... Але ёсьць яшчэ й Беларусь *кар'ерная*.

## Касманаўт

*Сяргей Навумчык*

Пачынаючы з 12 красавіка 1961 году, калі Юры Гагарын быў, як тады казалі, «*запушчаны ў космас*», слова *касманаўт* зрабілася на добрае дзесяцігодзьдзе ці ня самым папулярным.

У менскім музэі Янкі Купалы экспануецца кніжка, на якой рукою маці першага *касманаўта* напісана, што Купалаў верш «Хлопчык і лётчык» у дзяцінстве быў любімым вершам Юр'я Гагарына.

*Касманаўтамі* ганарыліся, іх біяграфію і колькасьць праведзеных у *космасе* гадзінаў ведалі на памяць. Іх фатаздымкі ў *касьмічных шлемах* несьлі на дэманстрацыях, выстаўлялі ў вітрынах крамаў, вешалі над ложкамі ў студэнцкіх інтэрнатах. Кожны школьнік у 60-х гадох марыў стаць *касманаўтам*, што пазьней

выразна ўвасобілася ў некаторых апавяданьнях Уладзімера Арлова. Ледзь не ўва ўсіх гарадох Беларусі ёсьць вуліцы Гагарына, Цітова і Церашковай.

Эўфарыя перамогі над сусьветам зьнікла пасьля гібелі *касманаўта* Камарова, а пасьля высадкі амэрыканскіх астранаўтаў на Месяц аслаб і гонар, што «мы — першыя».

Слова *касманаўт* зноў замільгацела на старонках беларускіх газэтаў у 70-х гадох, ужо прывязанае да Пятра Клімука і Ўладзімера Кавалёнка. Зусім няшмат краінаў, акрамя Расеі і ЗША, могуць пахваліцца наяўнасьцю двух *касманаўтаў*, якія да таго ж тройчы пакідалі межы стратасфэры. Аднак у даведніках Клімук і Кавалёнак усё часьцей пазначаюцца як «*касманаўты* Расеі».

У 1991 годзе *касманаўт* Кавалёнак быў адным з тых, хто ўнёс у залю беларускага парлямэнту бел-чырвона-белы сьцяг, але потым стаў адным зь першых, хто адмовіўся ад беларускага грамадзянства дзеля працы ў Маскве.

Бацька мой быў добра знаёмы з Гагарыным і неяк прывёз з Масквы цюбік *касьмічнай ежы*, які на выгляд быў зусім як ненавісная тады зубная паста. Смак таго парэчкавага джэму застаўся ў памяці зь дзяцінства.

Аднак дзень 12 красавіка для мяне назаўсёды будзе зьвязаны ня з тварам Гагарына ў *касьмічным шлеме*, а з падзеямі ў Авальнай залі Дому ўраду, калі нас, дэпутатаў апазыцыі, зьбівалі людзі ў чорных масках і спэцназаўскіх шлемах — за тое, што мы хацелі, каб будучыя беларускія *касманаўты* маглі чытаць любімы верш Гагарына на роднай мове.

# Катрынка

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

«*Катрыншчык*-італьянец сьпяваў сухотным голасам пра невядомае». Усё. Адной фразай згадаў Уладзімер Караткевіч у рамане «Каласы пад сярпом тваім» прафэсію *катрыншчыка* і праз яе — сам інструмэнт, *катрынку*.

Створаная на пачатку XVIII стагодзьдзя ў Італіі, *катрынка* прайшла ўсю Эўропу і толькі ў XIX-м зьявілася ў Беларусі, каб пасьля адносна непрацяглага існаваньня, на мяжы 20—30-х гадоў, канчаткова зьнікнуць.

Цікава, што ў савецкіх слоўніках гэтае слова паўсюль падаецца бяз прыкладаў. Слоўнік Яна Станкевіча — таксама бяз прыкладу — падае яго ў форме *катарынка*, а слоўнікі Ластоўскага ды Некрашэвіча й Байкова *катрынку* ігнаруюць наагул. Чаму? Відаць, таму, што гэты інструмэнт праз усё сваё нядоўгае жыцьцё ў Беларусі так і ня стаў для нашага народу блізкім.

*Катрынка* — падман. Беларусы ўмеюць падманваць саміх сябе — гэта значыць цешыцца ілюзіямі й спадзяваньнямі, верыць у хімэры. Але беларусы ня любяць, калі падманваюць іх.

Да таго ж музыка, якая гучала з *катрынкі*, ніколі не была беларускай. Першая мэлёдыя інструмэнта — француская папулярная песенька «Charmante Catherine», ад якой, дарэчы, і паходзіць назва інструмэнта. А далей у рэпэртуары — расейскі жорсткі раманс «Разлука» ці вальс

«Разьбітае сэрца». Ці не адсюль Караткевічава «сьпяваў пра невядомае»?

Мяжа 1920—30-х: маленькі падман — *катрынка* — сыходзіць са сцэны. Яна саступае дарогу вялікаму падману, дзе ў ролі *катрынкі* пачынаюць выступаць лідэры краіны — зь іхным дзяржаўным ладам, сьветапоглядам, стаўленьнем да народу. Яны *«заводзяць катрынку»* — гэта значыць пачынаюць даўгую й нудную размову ўсё пра тое самае, граюць тыя самыя чатыры мэлёдыі, якіх нават пры вялікім жаданьні няможна ні зьмяніць, ні паправіць... Іх можна толькі выкінуць, але дзеля гэтага трэба ахвяраваць любоўю... да самападману.

## Каўбаса

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Навуковыя спрэчкі адносна паходжаньня слова *каўбаса* можна параўнаць са спрэчкамі пра саму *каўбасу*. Тут і гаворка пра якасьць, і гаворка пра колькасьць, і сварка ў чэргах, і шчымлівая згадка пра мітычныя часы, калі, як той казаў, заміж замка *каўбасой* дзьверы замыкалі.

Сярод моваў першакрыніцаў фігуруюць: украінская, турэцкая, расейская, старажытнагабрайская, француская. Але ж мы з вамі добра ведаем, што *каўбаса* ў значэньні «паказчык дабрабыту» мае савецкае паходжаньне. У часе мітынгаў канца 80-х — пачатку 90-х прамоўцы згадвалі *каўбасу* не радзей, чым дэмакратыю і свабоду. Іншыя прамоўцы называлі такіх

*каўбасьнікамі* і казалі, што найперш трэба незалежнасьць, эканамічныя рэформы і дэмакратызацыя, якія ўрэшце і дадуць тую самую *каўбасу*: танную, смачную і, што самае галоўнае, яе будзе многа!

Маю падазрэньне, што, нягледзячы на навуковыя спрэчкі, слова *каўбаса* ўсё ж уласнабеларускае. Іначай адкуль такая бязьмежная любоў беларуса да *каўбасы*? Ужо ў першым беларускім рамане «Золата» Ядвігіна Ш. адзін зь беларускіх эканамічных эмігрантаў атрымаў у Амэрыцы пасылку зь Беларусі. Сярод прысланага была і *каўбаса*. Эмігрант зьеў *каўбасу*, а абалонку ад яе доўга насіў у кішэні і час ад часу настальгічна нюхаў яе, прыгадваючы родныя мясьціны.

Найбольш вядомы гатунак беларускай *каўбасы* — гэта так званая вясковая, хатняя альбо сялянская, якую ў народзе называюць проста: пальцам пханая. Сярод іншых — крывяная, драмязоўка (альбо, іначай, лівэрная)... Але, нягледзячы на безьліч крамных *каўбасаў*, на пытаньне, якая самая смачная ў Беларусі *каўбаса*, кожны беларус адкажа: тая, якая з маёй вёскі.

## Кефір

*Алена Ціхановіч*

У гадох 70-х фальклёрны хор з палескай вёскі паехаў у Маскву. Пасьля выступленьня вяскоўцы ўпершыню ў жыцьці вырашылі пайсьці ў рэстаран. З напояў выбралі самы недарагі і экзатычны — *кефір* за 8 капеек. Афіцыянт прынёс

цэлы паднос нечага белага ў шклянках, і даяркі зьніякавелі — гэта было кіслае малако!

Так прызвычайваліся да *кефіру*, які ў адрозьненьне ад сыраквашы набыў новую якасьць: ён сквашваўся ня шляхам натуральнага браджэньня, а спэцыяльным *кефірным* грыбком. Паходжаньне слова, як і самога напою, тлумачаць цюрскімі каранямі — *кефір* роднасны кумысу, словам *чыхір* (альбо *чакыр*) многія цюрскія народы называюць віно.

*Кефір* — напой таксама дэмакратычны, як і гарэлка. Яго паважаюць пэнсіянэры, студэнты, алькаголікі. Для аматарак пахудзець ёсьць спэцыяльная *кефірная* дыета. Гэта калі цэлы дзень — нічога, акрамя *кефіру*. Заява «ўсё, пераходжу на *кефір*» — адзін з шырока ўжываных спосабаў пачаць новы, здаровы лад жыцьця. Клятвы гэтыя зазвычай такія ж нямоцныя, як поліэтыленавы пакет з *кефірам*.

*Кефір* распачаў цэлую сэрыю пераўтварэньняў малака ў XX стагодзьдзі — ацыдафілін, ражанка, ёгурт. Але застаўся ў гэтым шэрагу лідэрам.

## Кіно

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Афіцыйная граматыка слова *кіно* не скланяе, а народ упарта цьвердзіць, што быў «*у кіне*».

Першы сапраўдны беларускі фільм «Чужая Бацькаўшчына» зьняў у 1980-х расеец Рыбараў. Гэта была рэвалюцыя, якой не ацанілі гледачы.

Спробы нацыянальнага *кіно* «Альпійская баляда» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» былі невыразныя. Першы падвяла мова, а другі і наагул савецкая цэнзура схавала ад гледача. А далей усё было «*як у кіне*», апатэозам якога сталіся «Дзеці хлусьні» рэжысэра Азаронка.

Нацыянальнае ж *кіно* здымалася на мітынгах і дэманстрацыях. У выніку сьвет пачуў пра Юр’я Хашчавацкага і Віктара Дашука. Яны распавялі пра сёньняшнюю Беларусь па-расейску, і гэта значыла, што ў XX стагодзьдзі «*кіна*, — як казалі ў маёй вёсцы, — *ня будзе — кіншчык сьпіўся*». Застаецца чакаць XXI стагодзьдзя і згадваць *Дом кіно*, дзе былі створаныя «Мартыралёг Беларусі» і БНФ. *Дом кіно*, што насамрэч быў Чырвоным касьцёлам. Згадваць назвы беларускіх *кінатэатраў*: «Масква», «Кастрычнік», «Піянэр», «Перамога», «Салют», «Радзіма», «Космас», «Кіеў», клюб імя Дзяржынскага — уяўляеце сабе *кінатэатар* імя Гімлера ў Нямеччыне?

У Койданаве пабудавалі сучасны *кінатэатар* са шкла і бэтону і назвалі «Эра». Праз год шкло абвалілася, і койданаўцы расшыфравалі назоў: «Эта рабілі алькаголікі».

## Клёцкі

*Рыгор Барадулін*

*Клёцкі*. Трывалая яда, калі ехаць лес валіць зімой ці касіць у прыпар. *Клёцкі* варылі на хаўтуры, *клёцкамі* паміналі дзядоў. Показка была: *чужымі клёцкамі сваіх дзядоў памінаць*.

На тарку дралася бульба. Адціскалася праз

суравіну. Гэтае цеста звалася «*целам*». Потым рабіліся «*душы*» з крышанага мяса й сала, адпаведна прысмакі, прыправы. *Цела клёцкі* мела форму сьнежкі, і гэткую ж форму мела *душа*. *Душа* магла быць і з кавалачка кілбасы. У *цела* клалі *душу* і кідалі ў вар. Яшчэ былі *клёцкі* — яны называліся *сарокамі*. *Сарока* мела падоўжаную форму, і *душой* быў падоўжаны кавалачак сала. У *сароку* клалі срэбраную манэтку — каму пападзецца. *Клёцкі* яшчэ былі шкляныя — гэта бяз *душаў* — іх залівалі малаком. А *клёцкі з душамі* елі з поліўкай-грыбамі — духмянай і смачнай.

На *клёцкі* пакідалі самую буйную бульбу. Памятаеце, як *клёцкі* не па-жаноцку хацеў зварыць дзядзька Антось з «Новай зямлі»...

На малога, моцнага і не худога кажуць: *як клёцка*.

*Клёцкі з душамі* як бы ўвасабляюць Зямлю з душою.

## Клёш

*Рыгор Барадулін*

Гэты фасон жаночае сукні або матроскіх порткаў, крой якіх шырыцца да нізу, быў у модзе да канца XX стагодзьдзя. Паходзіць з францускае мовы — *cloche*, што азначае «звон», «звонападобны»...

Дамская мода трывае даўжэй, хоць яна, натуральна, зьменлівая. Яшчэ з часінаў НЭПу — разгулу моды й дазволенай волі.

Можа, хто й памятае песеньку — «калі я кавалерыў, насіў я *порткі клёш*, капелюш саламяны, у кішэні — фінскі нож».

Пасьля вайны хлопцы, якія адслужвалі на савецкім флёце ледзь ня «царскі тэрмін», шыкавалі ў неймаверна разьвеяных *клёшах* — што называецца, «заграбалі асфальт». І калі ў піку *клёшу* сталі насіць, асабліва студэнцтва, порткі-дудачкі, «дасьмілаўцы» — гэтыя добраахвотныя паслугачы міліцыі — сантымэтрам замяралі шырыню калашынаў і распорвалі брытвамі порткі, а праз пышную шавялюру рабілі праход машынкаю ці той жа брытваю.

Любая мода заваёўвае сваё права й ня дужа хоча саступаць яго. Мода, як тая ўлада — любіць трымацца моцна.

## Клюб

*Антаніна Хатэнка*

Гамана, жарты і чаканьне. У позірках, у рухах, у паважнасьці таго, як рассаджваюцца людзі. Няўклюдная расхіленасьць крэслаў. Загрубелыя ад працы вясковыя рукі ня здужаюць утрымаць тую адлякаваную дошку, што мае быць седалам. Ляскатаньне гэтых дошак, што мкнуцца вярнуцца ў зыходнае становішча — да сьпінкі-апірышча.

Разгуба й кпіны. Затым ціша, што запанавала пасьля першага слова. Роўненькія шэрагі аднолькава ўзрушаных людзей. Разнаколернасьць жаночых сукняў і хустаў. Урачыстая

застыгласьць твараў. Цяпер кажы й паказвай што хочаш — прымуць на веру.

Магія сходу, супольнасьці. Быццам бы на вячорках ці на сьвятах ня гэткая ж грамада зьбіралася. Але тут, у *клюбе*, усімі апякуецца ўлада. Нібы кожны хоць на кроплю да яе прыналежны. О, гэтая вечная прага ўладаньня, што абяртаецца рабствам. Чырвоныя лёзунгі, чырвоная разьюшанасьць перакананьняў.

Захапленьне паволі зьмяняецца на абыякавасьць. Свая музыка — на чужую. Роднае слова — на прышлае. І вось ужо ў *клюб* ідуць не ў найлепшых строях, а ў зашмальцаванай апранцы. Не з чаканьнем цудаў, а з пляшкаю гарэлкі й поўнымі кішэнямі семак.

Лузганьне, лаянка, бойка, рыпеньне заезджанай кружэлкі. Вішчаць дзяўчаты, плююцца юнакі. Лямантуюць і клянуць час бацькі. У *клюбе* п’яныя любошчы.

Падманулі *клюб* пустаслоўем, і пустэльна глядзіць ён пустымі вокнамі. А жывыя сэрцы гуртуюць свае *клюбы*. Без улады, па душэўных парываньнях.

## Кок-сагыз

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Нават тлумачальны пяцітамовік беларускай мовы ў артыкуле пра *кок-сагыз* пасьля азначэньня, што гэта «шматгадовая травяністая каўчуканосная расьліна сямейства складанакветных» і дадатку, што слова цюрскае, не падае далей

аніводнага прыкладу. Няма ў выданьні і такіх характэрных для яго стылю вытворных: ані табе *кок-сагызнага*, ані *кок-сагызавага*. У несавецкіх, а таксама савецкіх слоўніках першай трацiны XX стагодзьдзя аніякага *кок-сагызу* няма.

*Кок-сагыз* — гэта цэлая эпоха ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі ў Беларусі. Адкрытая ў 1932 годзе ў высакагорных далінах Цянь-Шаню, падобная да звычайнага дзьмухаўца расьліна на загад вялікага аграрніка Сталіна пачала расьці ў Беларусі. Больш за тое, пра посьпехі гэтага росту Сельскагаспадарчая энцыкляпэдыя 1951 году меркавала па дасягненьнях беларускіх калгасаў «Чырвоная зьмена», «Ударнік», «Перамога», «Камсамолец», імя Варашылава і імя Молатава.

З *кок-сагызу* выраблялі каўчук. Каб палепшыць ураджайнасьць расьліны, тагачасныя прафэсіяналы прапаноўвалі дзьве дарогі:

1) ужываць стаханаўскія спосабы працы,

2) перайсьці на прапанаваны сельгаскамуністам акадэмікам Лысенкам квадратна-гнездавы пасеў у торфа-перагнойных гаршчэчках, пры якім расьліны, нібы тыя калгасьнікі, мусілі разьвівацца не паасобку, а групамі.

Гэткім чынам іх, як адных, так і другіх, лягчэй было даглядаць...

Неўзабаве пасьля сьмерці Сталіна сышоў у нябыт і *кок-сагыз* — расьліна малакарысная і слабапрадуктыўная на беларускіх палетках. Але сьвятое месца пустым не бывае. На зьмену каралю палеткаў *кок-сагызу* ўжо сьпяшалася каралева палёў кукуруза.

# Комплекс

*Сяргей Дубавец*

Ёсьць словы, якія літаральна запаланілі беларускую мову ў апошнія два-тры дзясяткі гадоў. Ня тое што пустазельле, але й не жывыя. Вымаўляючы іх, нібы жуеш цэляфан. Адно скрыпіць. Можа, дзеля гэтага свайго трэску ды скрыпу і прыйшлі яны спачатку ў траскучыя начальніцкія прамовы, а пасьля і ў жывое маўленьне. Вось, да прыкладу, слова *комплекс*.

Яго можна ўставіць у любую фразу, бо, лацінскае з паходжаньня, яно перакладаецца як «сувязь» або «сукупнасьць». А сукупнасьць — яна паўсюль. Толькі вось казаць пра сукупнасьць прадуктаў у краме або сукупнасьць дзеяньняў па прыбіраньні кватэры язык не паварочваецца. І тут прыходзіць на дапамогу *комплекс*. *Комплекс* належыць не да словаў са значэньнем, а да словаў са значнасьцю — як тая фігура ўплыву сярод людзей. А паколькі за савецкім часам уся ўвага аддавалася не значэньню прамоўленага і зробленага, а менавіта значнасьці, дык цэляфанавае слова *комплекс* надзвычай прыйшлося да рота.

Сьвінарнікі ператварыліся ў *сьвінакомплексы*, захады — у *комплекс мерапрыемстваў*, сталі *комплекснымі лячэньне* і *абеды*. Мы аглядалі *мэмарыяльныя комплексы*, а пасьля кіраваліся да *комплексаў спартовых*. Нават зьняволеныя пачалі адчуваць *комплекс віны*. Гэтак моўная сынтэтыка паступова зьмяншала наш слоўнікавы запас да дзясятка штампаў, у якіх каралём выступаў *комплекс*. Тады і загаварылі пра *ком-*

*плекс непаўнавартасьці*, які пазьней назавуць *комплексам саўка*...

*Комплекс* служыў ілжывай прапагандзе і самападману. У звычайнай мове гэтае слова — штучнае, несапраўднае. І ўжываньне яго доўжыцца датуль, дакуль мы ахвочыя падманваць сябе ды іншых. А пасьля... На такі выпадак у беларускай мове ёсьць устойлівы выраз: *пазбавіцца комплексаў*.

## Краіна

*Сяргей Шупа*

Наша *краіна*. Наш край. Наша старонка. Наша зямля. *Краю мой родны, як выкляты Богам*. *Забраны край*.

Крывія. Крыўя. Зямля пад белымі крыламі. Бацькаўшчына.

Літва. Вялікалітва. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае й Жамойцкае. Рэч Паспалітая.

Беларусь. Белая Русь. Куток цемнаты. Северо-Западный Край. Заходняя Русь. Сінявокая. Шматпакутная. Партызанская. Бандыцкая. Балота.

Заходнія губэрні. Усходнія крэсы. ССРБ. Літбел. БССР. Радзіма. СССР. РБ. СНД.

Беларуская Народная Рэспубліка. Маладая Беларусь. БНР.

*Краіна Мараў. Краіна ў кратах. Наша Краіна*.

# Крама

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Крама* — слова, якое этымалягічныя слоўнікі вызначаюць як пазычаньне з польскай мовы і падаюць дату першай пісьмовай згадкі гэтага слова ў беларускіх крыніцах — 1582 год.

Паводле тлумачальных слоўнікаў, *крама* — невялікі гандлёвы пункт. Але напрыканцы XX стагодзьдзя *крамай* пачалі называць ня толькі невялікія, але й досыць прыстойныя гандлёвыя будынкі. Такога падыходу вымагала сама мова, бо калі *крама* — невялікая ўстанова, тады што ж такое *крамка*? Што да маленькіх гандлёвых пунктаў, дык яны пачалі называцца *крамкамі* або вернутымі ў мову *яткамі* і новапрыдуманымі *шапікамі*.

*Крама*, *крамка*, *крамачка*, *крамар*, *крамнік*, *крамнічыха*, *крамніца*, *крамны*, *крамнае*. *Няма тае крамкі, каб прадаваліся мамкі*.

*Крама* — месца, у якім можна высьветліць узровень дабрабыту насельніцтва, а таксама скласьці меркаваньне пра слабыя і моцныя бакі эканомікі.

*Вясковая крама* — адна з дамінантаў сельскага жыцьця. Празь яе гарэлачны аддзел пралягаюць шляхі ў клюб, у сельсавет, да брыгадзіра, а то й да самога старшыні. Ля *крамы* чакаюць прывозу тавараў і абмяркоўваюць усё — ад сусьветнай палітыкі да маральнага аблічча аднавяскоўцаў.

*Крама* — месца нараджэньня савецкіх выразаў: ушла на базу, піва нет, прыём тавараў,

пераўчот, па кілаграму ў адны рукі, отпуск па талонам. Хаця гэта ўжо й ня *крама*, а *магазын*.

## Красоўкі

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Паводле народнай этымалёгіі слова *красоўкі* паходзіць ад краснага — прыгожага. Насамрэч назва *красоўкі* абавязаная сваім паходжаньнем *кросу* — спартоваму бегу ці гонцы па перасечанай мясцовасьці зь пераадоленьнем перашкодаў.

*Красоўкі* прыйшлі ў жыцьцё беларусаў на зьмену кедам недзе на пачатку 80-х. Як і кожная добрая рэч, у савецкі час *красоўкі* адразу сталі дэфіцытам. Колькі *кросаў* прабегла моладзь у пошуках гэтага тавару, колькі стаптала старых *красовак*, каб набыць новыя! Дэфіцытнасьць *красовак* падвысіла іхны статус, і шчасьлівы ўладальнік абутку нават у страшным сьне ня мог сабе ўявіць, што гэтыя зручныя чаравікі трэба ўжываць на перасечанай мясцовасьці. У *красоўках* ішлі на дыскатэкі і ў рэстараны, у красоўках бралі шлюб, прыходзілі ў кабінэты да высокага начальства, карацей — у *красоўках* жылі. *Красоўкі* сталіся паказчыкам заможнасьці: «У цябе *красачы* якой фірмы?»

Прывід свабоднага рынку ў Беларусі прынёс у прыватныя гандлёвыя пункты процьму *красовак*. Цяпер дэфіцытам сталіся грошы, за якія гэтыя *красоўкі* можна набыць. Яны прыгожыя, трывалыя і зручныя. Шкада толькі, што ў адных *красоўках* цывілізаванага сьвету не дагоніш. Тут трэба і *красоўкі,* і да *красовак*.

# Краты

*Аляксандар Лукашук*

Краты — герогліф свабоды.

Прасьцейшы за *краты* толькі крыж. Ён зашыфраваны ў *кратах*, ці наадварот — *краты* зашыфраваныя ў крыжы.

*Краты* — адна з геніяльных вынаходак чалавецтва. Прырода ня ведае *кратаў*, як ня ведае кола. Гэта плён чыста чалавечага розуму. Разумнае жыцьцё на іншых плянэтах, напэўна, таксама немагчымае бяз *кратаў* — лёгкай і эканомнай канструкцыі, якая надзейна перакрывае прастору, ня дзелячы яе намёртва, як гэта робіць, напрыклад, сьцяна.

У *кратах* ёсьць намёк на свабоду — так барханы пустыні нагадваюць марскія хвалі.

*Краты* ўражваюць ляканічнасьцю і выразнасьцю знаку: складзіце дзьве пары пальцаў наўскрыж — і ў Беларусі ў любым з гадоў XX стагодзьдзя вас зразумеюць бяз словаў людзі самага рознага паходжаньня, адукацыі, але аднолькавага жыцьцёвага досьведу: непісьменны слуцкі селянін-паўстанец і акадэмік-нацдэм, верніца-баптыстка і менскі школьнік, студэнт унівэрсытэту і журналіст.

*Краты* — мова, на якой чалавек гаворыць зь дзікімі зьвярамі і зьдзічэлымі *homo sapiens*. Праўда, зусім ня *краты* вызначаюць, хто знаходзіцца на якім іх баку — хто *закратаваны*, хто не.

Апатэоз *кратаў* наступіў у XX стагодзьдзі, калі за *кратамі* пабывала людзей больш, чым за ўсе папярэднія, разам узятыя. *Краты* —

безумоўны сымбаль стагодзьдзя, яго родавая адзнака.

У беларускую мову *краты* прыйшлі з лаціны. Статут рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, які ў 1920-я гады быў надрукаваны ў Беларусі, патрабаваў, каб перад уваходам у казарму абавязкова ляжала «*кратка* для абціраньня ног». Гэта ці не адзіны выпадак спробы пашырэньня сэмантычнага поля слова, якое XX стагодзьдзе намёртва загнала ў адзін шэраг са словамі *арышт*, *этап*, *кайданы*, *турма*, *саветы* і, вядома, *першы прэзыдэнт*.

## Краявід

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Краявід* — складанае слова, складаная зьява. *Краявід* можа быць які заўгодна: сумны, радасны, змрочны, сонечны, маляўнічы ці жахлівы. Але, нягледзячы на азначэньні, само слова *краявід* дадае фразе паэтычнасьці.

«Я хаджу закаханы ў твае *краявіды* // І шапчу, як прызнаньне: о, мой край дарагі!» — напісаў Ніл Гілевіч.

*Пэйзаж*, *ляндшафт* і *малюнак* (апошняе — у пераносным значэньні) — такія падае слоўнік Клышкі сынонімы да *краявіду*. А ў слоўніку Ластоўскага яно падаецца ў форме *краёвідзь*, пасьля якога чытаем сынонім: *спазор*.

Тыпы беларускага *краявіду*: вясковы і гарадзкі, раўнінны і ўзгорысты, азёрны, лясны, пушчанскі. Карацей, усё як у людзей, калі не

лічыць чарнобыльскага *краявіду* — пакінутых, разбураных і разрабаваных селішчаў, пачварных жывёлінаў, ненатуральна вялікіх расьлінаў...

*Краявід* ня мае гаспадара. Гэты кавалак абшару мне не належыць, але захапляцца *краявідам* я магу. Чалавек заўсёды імкнецца ўжываць тое, што мае. Хто толькі ні зьдзекаваўся, хто толькі ні зьмяняў нашых *краявідаў*! Войны, навалы, будаўнікі, дрывасекі, мэліяратары. Хто толькі ні ўпрыгожваў іх — Боская ласка, рупнае дбайства, дойліды і садоўнікі.

## Кросны

*Рыгор Барадулін*

У слове гэтым чуецца: кроза і сны. Нашыя прабабкі і бабкі, маці нашыя колькі крозаў сасьнілі, ткучы сабе пасаг доўгімі зімовымі вечарамі. А за вокнамі сутыкаліся ноч і дзень, і ткаліся суткі — палатніны вечнасьці. Усё, наагул, тчэцца ў навакольлі: і дождж, і туман, і мроіва, і сутоньне. Сумная ўсьмешка пяяла:

Павучок на сьценцы
*Красенцы* снуець.

*Кросны* — ня толькі ткацкі варштат, кажучы па-сучаснаму, але яшчэ, нейкім чынам, і — варштат друкарскі, бо ў арнамэнце былі зашыфраваныя пасланьні прашчураў. То *кросны* пісалі своеасаблівы красворд. У геніяльнай язычніцкай паэме Янкі Купалы «Яна і я» асобны разьдзел — «*За кроснамі*»:

За *кросны* ненаглянай сесьці трэ было,
Ядваб-кужэль сівенькі ткаць...

А ў Максіма Багдановіча:

І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж пэрсыдзкага узору,
Цьвяток радзімы васілька...

Крозы і сны — *кросны*.

## Крупнік

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Шклянка мёду, шклянка вады, паўлітра сьпірытусу, чвэрць мушкатовае галкі, крышку ваніліну, лот цынамону, пару гвазьдзікоў, цытрынавая скурка, а яшчэ розныя зёлкі ў залежнасьці ад густаў кухара. Калі трымацца вызначанай тэхналёгіі, праз гадзіну з усяго гэтага ў вас мае атрымацца *крупнік*.

Пры слове *крупнік* бальшыня сучасных беларусаў уяўляе сабе міску варыва, якое нашыя продкі хутчэй назвалі б крупеняй.

Традыцыйна ж *крупнікам* лічыўся апісаны алькагольны напой.

Характэрныя рысы правільна згатаванага *крупніку*: мацунак у межах 40 градусаў, прыемны смак і непатрэбнасьць закускі. *Крупнік* п’ецца гарачым, ён, у адрозьненьне ад гарэлкі, не выклікае нэгатыўных адчуваньняў ні пры яго ўжываньні, ні пасьля. Ён найбольш адбірае ў чалавека ногі, а розум пакідае чыстым і язык гнуткім.

Паводле мовазнаўцаў, слова *крупнік* у тым самым значэньні ўжываецца ў Польшчы і на Ўкраіне, але цэнтар яго распаўсюджаньня прыпадае на Беларусь.

Напрыканцы XX стагодзьдзя, разам з нацыянальным адраджэньнем, пачала адраджацца і традыцыя гатаваньня *крупніку*. Былі адшуканыя старыя рэцэпты, і моладзь у розных канцах Беларусі пачала экспэрымэнтаваць. Да традыцыйных складнікаў яна дадавала мясцовыя. У выніку полацкі *крупнік* адрозьніваецца ад гарадзенскага або менскага. На аснове менскага *крупніку* менчукі пачалі гатаваць яшчэ адзін напой — жыжаль, а на аснове полацкага, у купальскую ноч, гатуюць мясцовы паганскі напой — «Чорны Сыс». Нацыянальная інтэлігенцыя любіць *крупнік*.

І ўсё ж працэс адраджэньня *крупніку* апошнім часам пайшоў на спад. Найбольш вінаватая ў гэтым эканамічная сытуацыя, якая ня толькі зрабіла *крупнік* дарагой раскошай, а і нагадала аматарам гэтага напою, што цяпер мець толькі галаву — замала. Моцныя ногі таксама вартасьць.

## Крыж

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Крыж*. *Ярылаў крыж* на шчыце «Пагоні». *Крыж* нябеснай заступніцы Беларусі сьвятой Эўфрасіньні… Усё гэта — неадменныя сымбалі Бацькаўшчыны, як неадменныя праявы нашага

жыцьця — *крыжмы* — кавалкі тканіны, на якія клалі дзіця пасьля *кшчэньня*, *крыжавыя* слупы й раздарожжы, танец *крыжачок* і *крыжыкі* — форма ўкладкі снапоў пры сушэньні ў полі ці гатунак вышыўкі, а ўзор *Крыжа* на той самай вышыўцы, залежна ад формы — і знак агню нябеснага ці падземнага, і сымбаль сустрэчы закаханых ды пачацьця, і выява сямейнага агменю, і, урэшце — сьмерці.

*Крыжакі* — нямецкія рыцары — частка нашае гісторыі, а *крыжак* і *крыжовік* — гэта таксама старадаўнія манэты з выявай *крыжа*. А да гэтага — *Крыж ордэна «Пагоні»* і *Крыж «Зялезнага рыцара»* — узнагароды Беларускай Народнай Рэспублікі. *Крыж Булак-Балаховіча* — беларускі ордэн, які выдаваўся беспасярэдне ў часе баявых дзеяньняў.

Яшчэ адно значэньне: *крыж,* альбо *крыжавіна,* — частка нашага цела.

*Скрыжаваць* мячы, *скрыжаваць* позіркі, *несьці свой крыж* і *паставіць крыж* на чым-небудзь.

Культурны чалавек, прыехаўшы на Беласточчыну, ніколі не абміне Грабаркі. Так называецца найбольш шанаваная тамтэйшымі беларусамі царква, вакол якой сотні, калі ня тысячы *крыжоў*. Пастаўленыя рукамі вернікаў, яны — сымбаль звароту да Бога, знак чалавечае просьбы дапамагчы ў бядзе. Пра нешта падобнае кажа Зянон Пазьняк, калі прапаноўвае ўсім беларусам сьвету прынесьці са сваіх мясьцінаў свой *крыж* на Курапаты і гэткім чынам стварыць агульнанародны, агульнанацыянальны помнік нашай памяці, цеплыні нашых сэрцаў і нашай лучнасьці з Богам.

# Крыжаванка

*Ян Максімюк*

*Крыжаванка* належыць да тых унікальных словаў у беларускай мове, чыё публічнае зьяўленьне ў сьвеце можна вызначыць з дакладнасьцю да аднаго дня. Упершыню яно зьявілася ў беластоцкай «Ніве» пад датай 8 студзеня 1989 году. У тым нумары беластоцкі беларускі тыднёвік на апошняй старонцы зьмясьціў гульню-задачу, у якой «фігуру зь перакрыжаванымі радамі клетак патрэбна запоўніць літарамі, так каб па вэртыкалях і гарызанталях атрымаліся пэўныя словы» (паводле тлумачальнага слоўніка), з назвай *крыжаванка*. Кажучы па-ранейшаму — *красворд*. Дата мне помніцца, бо аўтарам як той гульні-задачы, так і ейнага назову быў я сам. Ужо тады «гарызанталі» і «вэртыкалі» мне былі не да спадобы, і ў сваёй *крыжаванцы* я заступіў іх словамі «ўпоперак» і «ўніз» адпаведна.

Этымалёгія слова *крыжаванка* настолькі ясная, што не патрабуе дадатковых тлумачэньняў. А само слова, як падаецца, настолькі простае і неарыгінальнае, што ажно дзіва бярэ, чаму ніхто раней не здагадаўся заступіць ім запазычаны праз расейскую мову англіцызм.

Сутнасьць *крыжаванкавай* праблемы, мабыць, нельга зьвесьці толькі да беларускай разумовай ляноты. Раней папросту сваіх наватвораў у мову «не пушчалі». Мова «ўзбагачалася» дзякуючы «общепонятному». Калі ў ім нешта прыдумвалі, нашы перакладалі альбо й бралі жыўцом. Гэтак было можна і нават пажадана.

Набокаў у эміграцыі прыдумаў *крестослов* замест *кроссворда*. Слова, як здаецца, не прыжылося ў расейскай мове. Але недзе ў пачатку 90-х я бачыў беларускую адаптацыю наватвору — *крыжаслоў*. У нейкім нефармальным выданьні. Па інэрцыі, ці што...

Ды наракаць няма чаго. *Крыжаванка* як слова прыжылася ня толькі на Беласточчыне, але і ўва ўсёй Беларусі. Іншая рэч, што колькасьць людзей, якая аддаецца забаве запаўняць (на Беласточчыне сказалі б яшчэ: разьвязваць, адгадваць) *крыжаванкі* на беларускай мове — ня надта ўражальная. А «Ніва» пасьля майго «гістарычнага подзьвігу» ў 1989 годзе працягвае рэгулярна публікаваць *крыжаванкі* і разыгрываць кніжныя ўзнагароды сярод сваіх *крыжаваньнікаў*.

Аднатомны тлумачальны слоўнік беларускай мовы з 1996 году паведамляе ў прадмове, што сярод сотні ўнесеных у яго наватвораў ёсьць і *крыжаванка*. Але дарма шукаць гэтага слова ў корпусе слоўніка. Відаць, нехта намерыўся ўключыць, а нехта другі «не пусьціў». Як, дарэчы, і шмат іншых, уласна беларускіх і трапных наватвораў, якія шырокім струменем шуганулі са старонак нефармальных і незалежных, а часьцяком фармальных і залежных, выданьняў у 90-я гады. У гэтым сэнсе — як людзі, так і мова. Усё яшчэ пад строгім наглядам...

# Крыўда

*Ігар Бабкоў*

*Крыўда* сядзела сабе ціха ў запеччы, пакуль аднойчы, у 1905 годзе, беларускія мужыкі зь вершу Янкі Купалы ня згрэблі яе ў торбу і не панесьлі на худых плячах у сьвет цэлы. З таго часу яны заўсёды разам і заўсёды ў дарозе — беларускія мужыкі і *крыўда*.

*Крыўда* абяцала вызваленьне, вабіла вызваленьнем-расплатай. *Крыўда* сапраўды вызваляла. Напачатку ад паноў і прыгнёту (назавем гэта вызваленьнем сацыяльным), потым ад радзімы і мовы ў выніку ўрбанізацыі, і, нарэшце, вызваліла беларускіх мужыкоў ад іх саміх.

Напрыканцы XX стагодзьдзя праект *крыўдлівага* вызваленьня скончыўся. Самы час спыніцца і агледзецца, адкінуць *крыўду* разам зь бядой і нядоляй. Час — узьняць нарэшце на свае худыя плечы праўду і волю і ўжо нікуды больш не ісьці.

Пад канец стагодзьдзя *пакрыўджаныя* мужыкі зь вершу Янкі Купалы са зьдзіўленьнем і скрухай пытаюцца: «Дзе ж мой дом, дзе мой люд? Дзе Айчызна мая?»

# Ксэракс

*Уладзімер Арлоў*

*Ксэракс* — капіявальны апарат, заснаваны на мэтадзе *ксэраграфіі*. Слова паходзіць ад грэцкага ξηρός (*xeros*), што значыць «сухі».

Вынайдзены пад канец 1930-х *ксэракс* належыць да найзначнейшых тэхнічных заваёваў XX стагодзьдзя.

Былыя савецкія дысыдэнты сьцьвярджаюць, што менавіта *ксэракс* разваліў СССР. Калі капіявальныя апараты пачалі лічыць ужо не на адзінкі, а на сотні ды тысячы, тады і быў створаны дзявяты вал імёнаў, ідэяў і твораў самвыдату, супрацьстаяць якому ідэалягічныя хваляломы камуністаў ужо не маглі.

У слове *ксэракс* чуецца імя старажытнага пэрсыдзкага цара Ксэркса. Калісьці карыстаньне *ксэраксам* сапраўды было царскім прывілеем. Сёньня гэта амаль такая ж звыклая рэч, як пыласос або тэлефон.

*Ксэракс* мае неаспрэчныя заслугі перад найноўшым беларускім адраджэньнем. На *ксэраксе* на пачатку 80-х таемна памнажаліся забароненыя тэксты Янкі Купалы і Вацлава Ластоўскага. Праз 100 гадоў пасьля Багушэвічавай «Дудкі беларускай» адзін з нашых першых непадцэнзурных літаратурных альманахаў быў з удзячнасьцю названы «*Ксэраксам беларускім*».

## Кукуруза

*Рыгор Барадулін*

Асабліва ў паўднёвых краях Беларусі *кукуруза* была кармавой расьцінай, зь яе быў багаты і спажыўны сілас. У паўночных краёх у нас *кукуруза* там-сям расла на гародах як нешта экзатычнае, нешта падобнае да сланечніка.

За Хрушчова з кармавой *кукуруза* зрабілася рэзка і беспапярэчліва палітычнай культурай. На Ўшаччыне — на самай поўначы Беларусі — памятаю, пад *кукурузу* адводзілі бурачнішчы, найлепшыя кузлачкі зямлі, бо ў нас амаль увесь падзол і камяні.

Штучна выганялі *кукурузу*, каб на фоне яе сфатаграфаваць так званых перадавікоў і паслаць іх на Выставу дасягненьняў народнай гаспадаркі ў Маскву, а калі не ў Маскву — хоць у Віцебск.

Мастак Зайцаў атрымаў высокае званьне за карціну «Наш дарагі госьць Мікіта Сяргеевіч». Сюжэт да сьлёзаў просты — Хрушчоў стаіць у кукурузе.

Мне дасюль незразумела — ці на поўным сур'ёзе, ці можа зь сялянскім зьдзеклівым гумарам пісаў Якуб Колас:

Кампазытар, меней фузу —
Тромкай, брат, пра *кукурузу*...

Тут слова *тромкай* усё-ткі зьніжае патас. І ў канцы вершу — таксама хітрынка нейкая:

Дык гадуйся, *кукурузка*,
Ты для ўсіх жывёл закуска.

Калі ў Беларусі найлепшыя землі аддавалі пад «каралеву палёў», дык у Літве Сьнечкус, сакратар ЦК, даведаўся, адкуль могуць ехаць маскоўскія камісіі — і ўздоўж тых дарог выгналі *кукурузу* як не да трох мэтраў, так бы мовіць — інспэктар-ахоўчую паласу. А на асноўнай зямлі сеялі тое, што радзіла спакон вякоў.

І цяпер *кукуруза* расьце там, дзе й расла. Напамінам пра сумна-вясёлыя часіны стаяць толь-

кі вялізныя сіласныя вежы, якія так ніколі й не працавалі — як мінарэты ў паўночных краях. А Хрушчоў атрымаў у народзе мянушку «*Мікіта-кукурузьнік*»...

## Кулак

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Удар *кулаком* аб стол — апошні вядомы нам жэст Купалы.

*Кулак* — слова цюрскае, якое паходзіць ад турэцкага *kol* — «рука».

*Кулак* — зброя. «Ударам *кулака* быка валіць» — кажуць пра дужага чалавека. *Кулачны бой* — ці не адзін зь першых відаў спорту ў Беларусі. *Кулаком* пачасту вырашаюць спрэчныя пытаньні.

«*Ісьці на кулачкі*» — удзельнічаць у бойцы.

«Ударыць *кулаком* аб стол» — кажуць пра таго, хто пры дапамозе такога ўдару спадзяецца разьвязаць свае праблемы з начальствам, або пра начальніка, які хоча гэткім чынам псыхалягічна атакаваць падначаленых.

*Кулак* — вораг савецкай улады, багаты селянін-уласьнік, які не зьмірыўся з бальшавіцкім рабаваньнем вёскі і са зброяй у руках бараніў свае права на працу і прыстойнае жыцьцё.

Трагічны кантэкст XX стагодзьдзя — *раскулачваньне*. Гэтае слова, паводле слоўнікаў, азначае пазбаўленьне *кулакоў* зямлі і сродкаў вытворчасьці. Паводле жыцьця яно азначала арышт, допыты, катаваньні, высылку або расстрэл.

# Культ

*Аляксандар Лукашук*

*Культ* — слова ня наскае, гэта лаціна, і этымалягічны слоўнік беларускай мовы сьцьвярджае, што пазычанае яно праз расейскую мову. Той, хто ведае традыцыі лаціны ў Беларусі і беларускай лацінкі, з гэтай высновы акадэмічнага мовазнаўства ня стане рабіць *культу*, а проста пасьмяецца.

Паняцьце *культ* зьвязанае з рэлігіяй — абагаўленьнем. Гэтае слова часьцей за ўсё гучала ў Беларусі ў сярэдзіне 50-х, калі прапагандысты зачытвалі сакрэтны даклад Мікіты Хрушчова на ХХ зьезьдзе кампартыі: тлумачэньне зьверстваў камунізму *культам* адной асобы было надзвычай папулярным і эфэктыўным сродкам падмены паняцьцяў і падману народу. Удала знойдзеная формула затрымала адкрыцьцё праўды і вяртаньне справядлівасьці на дзесяцігодзьдзі — сам выраз *культ асобы* стаўся *культам*.

Корань *культ* напрасткі зьвязаны з *культурай*, уваходзіць у розныя складаныя словы, якія існавалі адно ў савецкай мове — *культпаход*, *культтавары*, *культмасавы*, *культармеец*. Апошняе ўтварэньне ўжо зусім блізкае да *кулі* — і хоць этымалягічна *куля* ня мае ніякага дачыненьня да *культу*, гісторыя ХХ стагодзьдзя зьвязвае іх непарыўна.

# Купальле

*Аляксандар Лукашук*

Начное сьвята, калі ночы амаль няма. Сонца хаваецца на захадзе, каб праз некалькі гадзінаў выплысьці на ўсходзе. Сонцастаяньне.

Празрысты, нібы раса, і таямнічы, нібы туман, запавет.

Слова губляецца ў глыбіні тысячагодзьдзяў. Прастадушны немец Макс Фасмэр піша, што ў гэты дзень дазвалялася *купацца* — адсюль і *Купала*. Больш асьцярожныя дасьледчыкі выводзілі *Купалу* ад Яна Хрысьціцеля — маўляў, гэта пераклад са старагрэцкай. Аднак дахрысьціянскае значэньне *Купалы* дагэтуль існуе на Палесьсі — вогнішча, агонь. Суфікс *-л-* ды канчатак *-а* сьведчаць пра анімізацыю назвы — *Купала* ня толькі агонь, але і дух агню.

А Паўла Урбан, беларускі гісторык зь Нямеччыны, выказаў здагадку, што *Купала* прыйшоў на Беларусь са старажытнай Індыі. Бог Крышна меў яшчэ прозьвішча *Гопала*: *го* — карова, *пала* — абаронца кароў. У цёплую летнюю ноч Крышна сустракаўся з пастушкамі, калі тыя, аздобленыя вянкамі, марылі знайсьці жаніха, пасланага Богам. Гэтыя прыкметы можна адшукаць у абрадах беларускага *Купальля*.

У 30-я гады XX стагодзьдзя адна зь віленскіх газэтаў надрукавала абвестку: «Паколькі на *Купальле* чакаецца дождж, просім паненак і паноў беларускіх ахвіцэраў апранацца цяплей». Аднак і надвор’е не перашкодзіла паненкам і панам імгненна паскідаць зь сябе апранахі той ноччу.

У сярэдзіне 80-х у Мікалаеўшчыне *Купальле* сьвяткавала моладзь зь бел-чырвона-белымі адзнакамі на вопратцы: тры тузіны чалавек былі затрыманыя мясцовым КДБ і міліцыяй. Чэкісты спрабавалі арыштаваць Бога Крышну. Багі ня любяць, калі ім спрабуюць надзець наручнікі. Агонь *Купалы* сёньня ўсюды, дзе Беларусь.

## Курапаты

*Зянон Пазьняк*

*Курапаты* — гэта слова-сымбаль. Сымбаль страшнага злачынства расейскіх бальшавікоў супраць беларускай нацыі. Да 1988 году такога слова практычна не было ў беларускай мове. Ім карысталіся некалькі дзясяткаў чалавек вёсачкі Дроздава з дванаццаці хатаў, што ў Бараўлянскім сельсавеце пад Менскам. Калі я назваў свой артыкул пра сталінскі тэрор «*Курапаты* — дарога сьмерці», я ня думаў, што ўводжу новае слова ў беларускую мову і новы тэрмін у беларускую гісторыю, бо, па справядлівасьці, павінна было б прагучаць іншае слова — Брод. Так паўсюдна называлася тое ўрочышча, дзе забівалі людзей. Але ў Дроздаве я напаткаў яшчэ адзін назоў — *Курапаты*, магчыма, пазьнейшы й паваенны.

Слова, пачутае з вуснаў маладых хлопцаў, уразіла мяне мэтафарычнасьцю свайго сэнсу й гучаньня. Мне тлумачылі, што *курапаты* (ці *курапаткі*) — гэта белыя веснавыя кветкі, якія там на магілах растуць у траўні. Гэтыя кветкі ў Беларусі называюцца белыя пралескі, а на

Віленшчыне яшчэ — *курасьлепкі* (бо вечарам і ў цёмнае халоднае надвор'е яны заплюшчваюцца, і як сарвеш — таксама). У іншым сэнсе *курапаткі* — гэта птушкі, на якіх палююць. Адсюль і выслоўе: «*Пастралялі, як курапатак*».

Мэтафарычныя асацыяцыі слова паўзьдзейнічалі на выбар назвы артыкулу пра месца расстрэлаў. Слова стала вядомае ўва ўсім сьвеце.

Камуністы некалькі разоў пачыналі перагляд справы пра *Курапаты*, зьбіралі мяхі хлусьні, але хлусьня не дапамагала. Памятаю, адзін хлус напісаў нават успаміны, як ён вайной быццам бы праяжджаў каля Менску і добра памятае, што бачыў дарожны ўказальнік «*Курапаты*». (Ува ўрочышча быў указальнік, значыцца.)

*Курапаты* — слова-сьмерць, слова-жах, «ваше слово, товарищ маузер», магільны помнік расейскаму камунізму.

## Курорт

*Даніл Альпяровіч*

«Еду на *курорт*», «быў на *курорце*» — гэтыя словы рэдка каму за савецкім часам удавалася вымавіць без інтанацыяў гордасьці за сябе і нейкай асаблівай значнасьці, хоць бы ўва ўласных вачах.

Слова гэтае нямецкага паходжаньня (*Kurort* літаральна азначае «месца лячэньня»).

Да паездкі на *курорт* рыхтаваліся, як да вясельля, — пасьлядоўна і цэлы год. Зьбіралі грошы, шыкавалі строі «на выхад» — каб было ў

чым прайсьціся ўвечары па набярэжнай — сябе паказаць, на іншых паўзіраецца. Каб усё было ня горш, як гаворыцца, чым у людзей. Пры словах Ялта, Сочы альбо Алушта мроілася бестурботнае таварыства *курортнікаў*-хаўрусьнікаў, ласкавае, бясконцае мора, бясхмарнае неба, пальмы, рэкі смачнага таннага віна, экзатычная садавіна. Ну і, зразумела, шпаркія і салодкія заляцаньні, пацалункі пад месяцам і любосныя перамогі. Бяз бою...

А пад канец — абмен адрасамі, абяцанкі пісаць і расстаньні бязь сьлёзаў і ўзаемных папрокаў.

*Курортнікі* дзяліліся на так званых «арганізаваных» — тых, хто прыехаў на пуцёўку ад прафкаму — і на «дзікуноў». Арганізаваныя жылі ў санаторыях альбо пансіянатах — старанна наведвалі розныя водныя альбо гразевыя працэдуры, карацей — папраўлялі, як кажуць, здароўе. «Дзікунамі» называлі тых, хто здымаў за рубель-паўтара на суткі ложак дзе-небудзь у альтанцы, павеці альбо нават на паддашку. А то й непадалёк ад прыбіральні. Такі *курортнік* выстойваў даўжэзныя чэргі ў сталоўку па сумна вядомыя катлеты з макаронай, якія ні выглядам, ні смакам не нагадвалі ні першага, ні другога, але на жыцьцё не наракаў. Ён жа быў «*на курорце*»! Вось толькі раз-пораз тачыў «дзікуна» чарвяк непакою — як «дастаць» (хоць бы зь пераплатай) білет на зваротную дарогу і ў пару патрапіць дадому. Заводзілі карысныя знаёмствы, шукалі блат... і знаходзілі.

Успамін пра наведаньне *курорту* нярэдка заставаўся адным з самых моцных уражаньняў усяго жыцьця, у адным шэрагу зь першым

каханьнем, службай у войску альбо, безь перабольшаньня, зь вяртаньнем з фронту. «Вось калі я быў на *курорце...*» — пачынаў часьцяком мой цесьць-вэтэран знаёмую ўсім нам распавяданку-хвальбу, як яму, інваліду вайны, аднойчы далі «гарашчую» — гэта значыць нікім своечасова не набытую пуцёўку на *курорт*... Далі, між іншым, бясплатна...

## Кут

*Рыгор Барадулін*

*Кут*... Надзвычай багата сэмантычных адценьняў мае слова *кут*.

*Кут* — Радзіма, родны край. «*Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе ня маю сілы...*» Дасьціпная прыказка нагадвае: «*Дораг той куток, дзе адразалі пупок*».

*Кут* — пачэснае месца, звычайна пад абразамі. На *кут* садзяць гасьця, тым самым выказваючы яму пашану. На куце сядзяць і гаспадар з гаспадыняю. Янка Купала пісаў: «*Беларусь на куце ў хаце сваёй села, чарка мёду ў руцэ, пазірае сьмела*».

Вясёлыя показкі падкрэсьліваюць, што «*ня месца гожыць чалавека*», «*добраму чалавечку — добра і ў запечку, а якой благаце блага і на куце*». «*Вашапрут — на кут, а добраму чалавечку — добра і ў запечку*». А папеўка радуецца: «*Выпіла-закусіла, сама сябе пахваліла, захінулася ў куток, па тры чарачкі ў раток*».

На *кут*, на дзяжу садзілі маладую. На *кут*

клалі і перад апошняй дарогай, бо мярэц таксама госьць на гэтым сьвеце, як і жывыя. Адсюль і праклён — «*Каб цябе на кут абмылі!*».

*Кут* — хата, жытло. У Янкі Купалы: «*За ўсё, што сёньня маю, што даў мне мой народ: за кут у родным краю, за хлеб-соль без клапот, — я адплаціў народу...*»

*Кут* — жытло не ў сваёй хаце, «*сядзець кутам*» — значыць кватараваць. *Кутнік* — кватарант.

А яшчэ *кутнікі* — зубы.

Проста *куток* у хаце. «*У куточку на пруточку вісяць Мэндэлевы яйцы*». Гэта — загадка пра клубок нітак. Альбо — «*На ласы кусочак знойдзецца куточак*».

*Кут* у нейкай ступені — і мера часу. *З кута ў кут — і дзень тут*.

Галоўнае — каб мы былі ў сваёй хаце-Беларусі гаспадарамі, а ня *кутнікамі*.

## Куцьця

*Алена Ціхановіч*

*Куцьця* вяртаецца з забыцьця. Магічная ячная каша, звараная на першы дзень Калядаў.

*Куцьця* за калядным сталом галоўная, як на ўгаворах свацьця. *Куцьця* таксама задуманая як угавор: «Ставім крупы на пачэснае месца, каб зямля і ў новым годзе аддзячыла ўраджаем».

У *куцьці* рэцэпт просты — вада ды крупы, а рытуал урачысты — як сьвятое Прычасьце.

*Куцьцю* нельга ставіць на голы стол — каб ня

быць бедным. Хто хоча быць багатым — кладзе пад абрус яшчэ й сена. *Куцьці* нельга не даядаць або выкідаць.

Таксама ясна, што месца яе — заўсёды на *покуці*. *Куцьця* пачынае калядную вячэру, якая ў добрых гаспадароў налічвае 12 страў — столькі ж месяцаў складаюць год. Што праўда, беднасьць ці недарод дазваляюць абысьціся дзевяцьцю ці сямю стравамі.

Саму *куцьцю* ядуць з алеем ці мядовай сытой — як каму смакуе, але ня з тлушчам.

Першую лыжку зачэрпвае старэйшы ў хаце і грукае ёй у акенца:

— Мароз-мароз, хадзі *куцьцю* есьці!

# Л

## Лазьня

*Юрась Бушлякоў*

Некалі, у найстаражытнейшым часе, кроплі дажджу праз лядачую страху патрапілі на гарачае каменьне дамовага агменю, і клубы пары ахуталі людзей прыемнаю цеплінёю. З тае прыгоды, як даносіць нам легенда, і бярэ свае пачаткі *лазьня*.

Лячыцца параю — *лазілі*, долу ці ўгору — адсюль *лазьня*. Хворым заместа лекаў *лазьню* прапісваў часьцяком яшчэ грэцкі доктар Гіпакрат. Нашыя продкі лічылі, што ў аблоках пары ў *лазьні* крыецца добры дух. І гучэла, і гучыць сёньня *лазьневае* павітаньне беларусаў — *лёгкі дух*. Лёгкі — значыць прыемны, той, які нясе радасьць і палёгку.

*Лазьню* ў нас ставілі з тонкага бярвеньня, жэрдкавую столь — каб трымалася цяплосьць — засыпалі кастрыцаю ці пяском. Здавён парыліся па-чорнаму — дым зь печкі-каменкі ішоў проста ў парыльню. І дасюль у нас захаваліся курныя *лазьні* — на Шуміліншчыне, напрыклад. Ёсьць нат заўзятыя парцы, якія лічаць дымавую пару неадменнай і не баяцца ўчадзець. Бяздымная *лазьня* для такіх — ня *лазьня*. Але ня гэткі быў

герой Гарэцкага Клім Шамоўскі — залез ён на палок і заплакаў ад дыму, а тады, махаючы венікам, праклінаў і *лазьню*, і тых глуздоў, якія пабудавалі яе такую. Балазе, у XX стагодзьдзі ставілі ўжо *лазьні* пераважна з комінам.

Як напісаў быў некалі Караткевіч, парацца беларусы да зьнемажэньня. Найперш клапоцяцца пра «смачную пару»— гатуюць яе бярозавікам, квасам або вадою, у якой распарана мята ці якая іншая духмяная трава. Парацца зь венікам — найчасьцей бярозавым ці дубовым, радзей з крапіўным або хваёвым: сьпярша гладзяць, тады паляпваюць, а пасьля ўжо хвастаюць, забіраючы венікам пару. Ад таго хвастаньня й выразы *лазьні даць* або *лазьню дастаць* — значыцца, разабрацца з кімсьці або самому ў карак атрымаць.

У нашыя дні той, хто не махнуў на сябе рукою й ня страціў цікавасьці да жыцьця, учашчае ў *лазьню* — у агульную грамадзкую або ў сваю, на вясковым падворку ці на летнікавай дзялянцы. Усё часьцей называюць *лазьню саўнай* — фінскім словам, якое азначае гарачую вельмі, з сухім паветрам, *лазьню*. *Лазьня* зьбірае людзей розных, бо, як кажуць, парыцца можа ўсякі, хто здольны дайсьці да *лазьні*.

## Ланцуг

*Анатоль Вярцінскі*

*На ланцуг* можна некага пасадзіць, скажам, мядзьведзя, і тады ён робіцца, нібы сабака, *ланцужным*, ручным і нават можа навучыцца

танчыць. *Ланцугом* можна зьвязаць, *у ланцугі* можна закаваць, *на ланцугу* можна зацягнуць у які-небудзь саюз-хаўрус.

І тады побач з *ланцугом* выстройваецца цэлы сынанімічны рад — аковы, кайданы, наручнікі. І тады паняцьце *ланцуг* набывае сымбалічны сэнс — няволя, прыгнёт, беззаконьне, пазбаўленьне чалавека яго правоў і свабод.

У Янкі Купалы мы знаходзім радкі пра кайданавыя званы, пра акоў паломаных жандара, пра *ланцужны закон*. У 1911 годзе ён мажорна заклікаў: «Гэй ты, сонца, гары ад зары да зары, *ланцугі* распалі па ўсёй чыстай зямлі». Кастрычніцкае сонца *ланцугі* распаліла, але паплечнік Купалы Якуб Колас мусіў неўзабаве прызнацца: «Кавалі другія, а *ланцуг* той самы, Песьні ўсё старыя, неаджытай гамы».

Трэба сказаць, што ў прылады пад назвай *ланцуг* ёсьць разам з названай яшчэ адна характэрная адмета — яго можна скінуць, яго можна парваць, яго можна пазбавіцца пры адпаведнай сіле духу ды пры адпаведных намаганьнях.

## Лапці

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Лапці* — рэч сымбалічна-сэнтымэнтальная. Савецкая эпоха *абула* нашую гісторыю *ў лапці*, а беларуская інтэлігенцыя абула ў іх сваю любоў да народу.

«А што яны нясуць на ў крыві руках, на ў *лапцях* нагах?» — выгукнуў на пачатку стагодзь-

дзя Купала і ўвёў *лапаць* у шэраг адметнасьцяў беларуса. Але ўжо ў сярэдзіне таго самага стагодзьдзя адзін з герояў Коласавай «Дрыгвы» Марка Балук крычыць: «Стой! *Лапаць* скінуўся!» Гэтыя словы — пароль, пасьля якога пачынаецца кароткая сутычка арыштаваных з канвоем. Зброя апошніх пераходзіць у рукі першых. Гэта — пачатак барацьбы...

З паходжаньня слова *лапаць* — радня *лапіка*. Можа, таму мы імкнемся *залапіць лапцем* нашае невуцтва, нашую няведу пра саміх сябе. *Лапаць* як паказальнік беднасьці робіць *лапатнай* гістарычную сьвядомасьць.

Між тым гэты абутак быў тыповым толькі ў некаторых рэгіёнах Беларусі, і не таму, што там буяла беднасьць, а таму, што, выцягнуўшы нагу з балота, *лапаць* ня трэ было здымаць, каб выліць ваду.

*Абуць у лапці. На лапці не аб'ехаць. Плесьці кашалі з лапцямі. Лапаць знай лапця, а бот — бота*, — выразы добра вядомыя, але, як і сам плецены з лыка *лапаць*, мала ўжывальныя. Куды часьцей ужываліся *пасталы* — з тоўстага скурата, *копсьці* — са скуры поўсьцю ўсярэдзіну, ці падшытыя скурай *лабакі*. Паводле спосабу вытворчасьці яны таксама *лапці*, паводле матэрыялу — не.

Найбольш пашыраныя вытворныя — *лапцюжнік, лапцюжны, лапцяваты* — усе яны азначаюць: бедны, нязграбны, непрывабны, адсталы.

*Лапці* выйшлі з моды, толькі заклік да свабоды не глядзеўся б старым і цяпер: «Стой! *Лапаць* скінуўся!»

# Ленін

*Міхась Скобла*

Савецкія людзі працавалі з ранку да вечара дзеля сьветлае будучыні, а вакол гаварылі: «*самы чалавечны чалавек*», «*жыве між нас геній*», «*бальшавік №1*». І людзі ведалі, што гэта — *Ленін*...

Ён быў паўсюль. Пераступіўшы школьны парог, дзеці насілі кучаравага «*юнага Леніна*» на сваіх грудзёх. Пераходзілі з клясы ў клясу зь «*ленінскім гальштукам*» на шыі. А потым уступалі ў «*ленінскі саюз моладзі*». Усе састарэлыя кіраўнікі дзяржавы былі «*вернымі ленінцамі*». Людзей увесьчасна заклікалі «*жыць і працаваць па-ленінску*». І нават сьвятло ў хатах зьяўлялася толькі дзякуючы «*ленінскаму пляну электрыфікацыі*», што ўвасабляўся ў «лямпачках Ільліча». Паэты, мастакі, рэжысэры ды ўвесь творчы люд нястомна папаўнялі «*лениніяну*», запэўніваючы, што яны «*зь Леніным у сэрцы*», сьцьвярджаючы — «*мы — Леніна племя*», паказваючы, як «*Ленін думае пра Беларусь*».

Прайшоў час, і з грошай «*ленінскі профіль*» прыбралі, у фальклёрным паходжаньні казкі «*Ленінская праўда*» ўсумніліся. І ў трэцяе тысячагодзьдзе *Ленін* едзе не на легендарным браневіку, а на трактары «Беларус», бо на беларускіх пляцах па-ранейшаму стаяць сотні *ленінаў*, часам недагледжаных, з птушынымі выпаражненьнямі на лысінах — птушак не аштрафуеш і ня кінеш у вязьніцу, як гэта сталася ў 1997-м з Аляксеем Шыдлоўскім, што зь сябрамі ўпры-

гожыў адпаведнымі надпісамі помнік *Леніну* ў Стоўпцах.

Што будзе з галоўным беларускім *леніным* на сталічным пляцы Незалежнасьці пасьля краху лукашэнкаўскага рэжыму? Хтосьці прапануе адвезьці помнік у адмысловую рэзэрвацыю, хтосьці — беражна надзець на яго клетку і ў такім выглядзе захаваць як перасьцярогу нашчадкам.

І ўсё ж гэты *ленін* варты лепшае долі — на ім зьбярогся ад бальшавіцкага перасьледу беларускі правапіс. Падыдзіце да помніка бліжэй і прачытайце: «Наперад, пад сЬцягам *ленінізму*!». Мяккі знак перажыў усе рэпрэсіі на *ленінскім* манумэнце пад крысом *ленінскага* паліто.

## Лёс

*Рыгор Барадулін*

*Лёс* — найвышэйшая Боская воля, наканаваньне, жэрабя, доля, кон, часьціна, шчасьце, шанцаваньне альбо няўдача. Слова *лёс* запазычана зь нямецкае мовы, дзе яно так і гучыць: «*лёс*».

Гэта *лёс* вядзе чалавека па жыцьці ад калыскі да дамавіны. Нараджаецца чалавек — у небе загараецца ягоная зорка. Памірае, гасьне — і зорка ягоная гасьне, *зорка лёсу*. У небе разгледзець зорку сваю, распазнаць па ёй свой *лёс* чалавеку практычна немагчыма. Па зорах хіба спрабуюць варажыць. Паркі прадуць кожнаму *нітку* ягонага *лёсу*. На далані ў чалавека *лініі лёсу* — як

дарогі, як каляіны, па якіх едуць дні, але няма ўіх калёс, на якіх можна абʼехаць *лёс*.

У нашай мове варта зьняць дзьве кропачкі зь *ё*, і *лёс* ператворыцца ў *лес*, і наадварот. У беларусаў лес — *лёс*.

## Лёс

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Падзеі, якія адбываюцца незалежна ад волі чалавека, зьбег акалічнасьцяў, далейшае існаваньне, будучыня і разьвіцьцё чаго-небудзь у нашай мове абазначаюцца пазычаным зь нямецкай словам *лёс*. У старабеларускай мове яно азначала і паперку з нумарам, якую выцягваюць у часе *лёсаваньня*. Сёньня ў гэтым значэньні яго замянілі словы *жэрабя* і *жарабʼёўка*. На Івейшчыне слова *лёс* абазначае таксама вузкі пралаз у плоце, сьцяне, зарасьцях.

*Лёсы на кій мераць* — рабіць выбар. *Лёсы зробленыя* — выбар, які адбыўся. *Іронія лёсу*, *воля лёсу*. *Лёсны*, *лёсаваць*, *лёсіць*, *залёсіць*. *Лёс Радзімы*, *лёс дэмакратыі*, *лёс народу*. *Лёсаносны*, *лёсавызначальны*. *Лёсы найлепшых людзей нацыі*, *ахвярнік лёсу Радзімы*. *Лёс Беларусі*, які павінен апынуцца ў руках у тых, хто сапраўды дбае пра краіну, дбае пра ейную будучыню.

# Ліхтар

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*«Ліхтарні блеск адкрыў на ліпе россып росаў...»*

Вось так на пачатку XX стагодзьдзя з-пад пяра Максіма Багдановіча *ліхтарнямі* і асфальтам, партавымі агнямі Лібавы і рамізьнікамі ўрывалася ў беларускую паэзію тэма места. *Ліхтарні*, *ліхтаркі* ці *ліхтары* сталіся проціпастаўленьнем лучыне, лямпе і нават чаканьню, што загляне сонца і ў наша аконца.

Слова *ліхтар* прыйшло да нас зь нямецкай мовы, дзе яно азначала прыладу, на якую ставяць сьвечку — *сьвечнік*, альбо, як цяпер кажуць, *падсьвечнік*.

У 1970-х гадох у Наваполацку група студэнтаў мясцовага інстытуту выдавала непадцэнзурны рукапісны часопіс «*Блакітны ліхтар*». За гэта выдаўцы досыць хутка пазнаёміліся з КГБ. Напрыканцы стагодзьдзя *ліхтары* сталіся ўлюбёным аб'ектам местачковых хуліганаў, якія не прапускалі зручнага моманту запусьціць у *ліхтар* каменем. Згаданае «Загляне сонца і ў наша аконца» зьмянілася цьвёрдым: «Цемната — друг маладзёжы». Адзіным сьвятлом у гэтай цемры сталіся «*ліхтары*» ў выглядзе сінякоў пад вачыма падлеткаў. Атрыманыя ў бойках, яны пачасту зьяўляліся адзнакамі асабістага гонару. Гэта быў пачатак дэградацыі маладых беларусаў, якім усё — ад уласнага жыцьця да жыцьця Айчыны — было «*да ліхтара*».

# Лука

*Сяргей Дубавец*

*Лука* — гэта выгін, згіб, паварот пакручастай ракі. На павароце пакручастай ракі звычайна ўтвараецца поплаў, лужок, які таксама называецца *лукой*, *лукавінай*.

Ад прадзедаў і да сёньня на гэтых лужках беларускія вясковыя жанчыны ладзяць увесну карагоды або таночкі, прыпяваючы: «*Ой лука ж мая, лука, чаму, лука, ды ня зелена*». Такі абрад называецца «*вадзіць луку*». А карагод сымбалізуе *лучнасьць*, *злучэньне*, адзінства. Такі сэнс зафіксаваўся і ў нашых геаграфічных назвах. Згадаем раку *Случ*, ад назвы якой паходзіць імя гораду *Слуцку*. Ужываецца гэты корань і ў анатоміі ды заалёгіі. Памятаю перадавіцу ў даваеннай слуцкай раёнцы: «Сьвінаводы! Ударна правядзём *злучку*!»

Паралельна ў беларускай мове жыло, разьвівалася й пускала свае адгалінаваньні імя ўласнае *Лука*, якое прыйшло да нас з хрысьціянствам як імя эвангеліста *Лукі*. *Лукашом*, напрыклад, зваўся бацька Францішка Скарыны. У XIX стагодзьдзі нехта (часта думалі, што ананімны расейскі паэт) напісаў знакамітую эратычную паэму «*Лука Мудзішчаў*», якую ў 1990-х у нас перастварылі ў ананімную палітычную сатыру «*Лука Мудзішчаў* — прэзыдэнт». У 1930-я гады *Лука* Бэндэ праводзіў у беларускай літаратуры сталінскую палітыку, адным з вынікаў якой стаў расстрэл 2 кастрычніка 1937 году таленавітага 28-гадовага празаіка *Лукаша* Калюгі. Бадай, з

таго часу імя *Лука* або *Лукаш* страціла ў нас сваю папулярнасьць. Хлопчыкаў так ужо не называлі і пакуль што не называюць.

Затое імя-аснова *Лукаш* сёньня часта гучыць у прозьвішчах беларускай эліты ад журналістыкі, шоў-бізнэсу, акадэмічнай навукі, палітыкі... *Лукашэвічы*, *Лукашукі* і *Лукашыкі*, *Лукашовы*, *Лукашанцы*... Пасьля прыходу да ўлады першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі слова *лука*, зрабіўшы свой пакручасты гістарычны шлях ад беларускага фальклёру вясковага, вярнулася ў фальклёр гарадзкі, вулічны. «*Луку на муку!*» — скандуюць дэманстранты падчас апазыцыйных мерапрыемстваў. Тое, што сымбалізавала *лучнасьць* людзей міжсобку і са сваёй зямлёй, сёньня стала вобразам таго, што *разлучае* й сымбалізуе аўтарытарнае беларускае кіраўніцтва, якое ня любіць Беларусі. З двух стараславянскіх вытворных ад *лукі* — *лучнасьці* і *лукаўства* — сёньня ў Беларусі запанавала другое.

Дарэчы, блізкае паходжаньнем да *лукі* і слова *лук*. *Лук* — вядомая старажытная зброя, якую сёньня часта вырабляюць сабе беларускія хлопчыкі, калі гуляюць у рыцараў.

## Лысіна

*Рыгор Сітніца*

«Як у калгасе ні працуй, а маеш *чорта лысага*», — казаў раз-пораз хтосьці зь вяскоўцаў, атрымаўшы гаротныя працадні. Хто такі гэты *лысы чорт*, я тады ня цяміў. Бо ведаў, што *лысымі*

бываюць вясновыя пагоркі, і жыта, і сенажаць, у якіх ад макрэчы парабіліся *лысіны*.

*Лысымі* маглі быць таксама цяляты і коні, а ледзьве ня кожная другая карова звалася *Лыскаю* ці *Лысухаю*. *Лысым* яшчэ быў нейкі дзядзька на партрэце ў калгаснай канторы, пра якога вяскоўцы казалі, што *на ягонай лысіне хоць боб малаці*. Пазьней я даведаўся, што звалі таго дзядзьку Мікіта Хрушчоў.

За тым часам, калі ўсім нам і ўдзень, і ўноч сьвяціла ярчэйшая ад сонца *лысіна* колішняга правадыра сусьветнай галоты, слова *лысы* набыло дадатковае адценьне. «На халеру ўвіхацца, калі ўсё роўна *лысага* пакажуць», — гаварыў хтосьці са знаёмых будаўнікоў камунізму. «Дык што я, *лысы*, каб гарбаціцца задарма?» — казаў нехта іншы з гегемонаў, хаця *за «лысага»*, гэта значыць за дзесяць рублёў, ён мог набыць ажно дзесяць пляшак пладова-ягаднага.

А тым часам міліцыянты хвацка «*рабілі лысага*», зацягнуўшы ў пастарунак якога-небудзь тутэйшага хіпака. Зрэшты, мне й самому аднойчы надарылася *пабыць лысым*, прыкра патрапіўшы ў савецкае войска.

Праз пэўны час, калі *лысае сонца* экс-правадыра пачало заходзіць, над нашым краем узышло адразу некалькі зыркіх галоваў, паміж сабой, аднак, прыкметна вылучаючы постаць *Ведзьмака Лысагорскага* зь ягонымі паэмамі «Сказ пра *Лысую* гару» і «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт». Хто такі *гр. В. Лысагорскі*, ня высьветліла нават судовае сьледзтва.

# Лябірынт

*Уладзімер Арлоў*

*Лябірынт* — знакавае слова беларускае культуры. Цягам стагодзьдзяў беларусы ратавалі ў нябачных чужынскаму воку сховах мову, звычаі, памяць.

Старажытную беларускую цывілізацыю, схаваную ад захопнікаў у полацкіх лёхах, паказаў у сваёй фантастычнай аповесьці «*Лябірынты*» Вацлаў Ластоўскі.

Слова *лябірынт* прыйшло да нас з антычнасьці. У грэцкай міталёгіі *лябірынтам* называлася збудаваная на востраве Крыт грандыёзная спаруда з заблытанымі хадамі, адкуль аніхто ня мог выбрацца. У *лябірынце* жыла крыважэрная пачвара — чалавекабык Мінатаўр, якому аддавалі на разарваньне маладых афінянаў.

Першым, хто выбавіўся зь *лябірынту*, быў пераможца Мінатаўра Тэзэй, якому дапамог клубок нітак, падараваны герою закаханай у яго Арыяднай.

Беларусь мае свае *лябірынты*. І легендарныя, і мэтафарычныя, і цалкам рэальныя. Найславуцейшы зь іх — Полацкі — разгалінаваная сыстэма падземных хадоў-лёхаў, якая ў Сярэднявеччы злучала гарадзкія манастыры й храмы.

Магчыма, менавіта там, у Полацкім *лябірынце,* у гады Інфлянцкае вайны зьнікла славутая Полацкая бібліятэка з кнігамі, пісанымі рукою самой Эўфрасіньні. Можа, якраз у гэтых таямнічых лёхах некалі знойдзецца неацэнны Полацкі летапіс. Існуе вэрсія, згодна зь якой у 1941

годзе зьнікла толькі копія нашае нацыянальнае сьвятыні — крыжа Лазара Богшы, а арыгінал таксама трэба шукаць у полацкіх сутарэньнях.

Цяперашняя ўлада зноў асуджае беларускую культуру на паўпадпольнае існаваньне, заганяючы яе ў сутарэньні. Ужо каторы год краіна блукае ў *лябірынце*, шукаючы зь яго выйсьця ў XXI стагодзьдзе.

# Лягер

*Сяргей Дубавец*

*Лягер* — небеларускае слова. Запазычанае за Пятром I зь нямецкай расейскае слова *лагерь* у нас вымаўлялася як «*лагер*», і ў адным шэрагу з «трапкай» служыла падставаю для пашыраных уяўленьняў савецкае намэнклятуры пра грубасьць беларускай мовы.

Увогуле *лягер* — гэта стаянка, звычайна часовая, пад адкрытым небам і з часовым жытлом. У *лягеры* не жывуць, а толькі перабываюць, кантуюцца, марынуюцца, цярпяць.

Людзі майго пакаленьня ўпершыню сустракалі гэтае слова ў кнігах пра амэрыканскіх піянэраў-першапраходцаў. Пасьля мы траплялі ў піянэрскі *лягер* і прыблізна тады ж даведваліся пра фашыстоўскія канцэнтрацыйныя *лягеры*, хоць параләляў не рабілі. Нарэшце стала вядома і пра *ГУЛАГ* — сталінскую *галоўную лягерную ўправу*.

Памятаю, калі на ўроках аднаклясьніца паварочвалася да свавольніка, які таргануў яе

за касічку, і казала: «*прыдурак лагерны*». Тады гэта разумелася як вытворнае менавіта ад *лягеру піянэрскага*. Гэта пазьней вычыталася ў «Архіпэлягу ГУЛАГу» Салжаніцына, што ў сталінскіх *лягерах* быў такі тэрмін: *прыдурак лягерны*..

Такім чынам *лягеры* складаліся ў нехраналягічную пасьлядоўнасьць: *фашыстоўскі канцлягер*, *піянэрскі*, і толькі пасьля *ГУЛАГ*.

*Лягеры перамешчаных* асобаў, *лягеры ўцекачоў*, *канцэнтрацыйныя, лягер папраўча-працоўных работ* — найчасьцей у гісторыі гэтае слова зьвязанае зь людзкім няшчасьцем, гвалтам чалавека над чалавекам і зь няволяй. І толькі ў савецкай рэчаіснасьці яно мусіла зьвязвацца наадварот — з маладосьцю, радасьцю, здароўем. *Лягер піянэрскі, спартовы, лягер алімпійскага рэзэрву*. Было й пераноснае — *лягер міру*...

Ва ўласна беларускай гісторыі слова *лягер* няма. Гэта ня наша слова, якое абазначае ня нашыя рэаліі, якія цяпер сыходзяць у нябыт.

Што да грунвальдзкіх ваяроў і піянэраўпершаадкрывальнікаў, дык яны застануцца ў нашых кнігах, але ставаць будуць ня *лягерам*, а абозам, як гэта спрадвеку і было ў Беларусі.

# М

## Майстроўня

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Майстроўня*, зафіксаваная ці ня ўсімі слоўнікамі пачатку XX стагодзьдзя, на канец савецкай эпохі была цалкам выціснутая *майстэрняй*. Да пачатку 1980-х гадоў яе існаваньне трымалася хіба толькі на эміграцыйных выданьнях. Новае жыцьцё слову даў паўлегальны студэнцкі рух адраджэньня беларушчыны. Якраз легальная частка руху й была аб'яднаная ў *«Беларускую сьпеўна-драматычную майстроўню»*, якая ладзіла фальклёрныя сьвяты, вяла асьветніцкую працу.

Гонар адраджэньня слова *майстроўня* належыць тагачаснай студэнтцы філфаку БДУ Ірыне Крук. Яна знайшла гэтае слова ў *«Беларускай драматычнай майстроўні»* — аматарскай тэатральнай студыі, што існавала ў Вільні ад 1922 да 1925 году, папулярызавала нацыянальную тэатральную культуру ды спыніла сваё існаваньне ў выніку рэпрэсіяў з боку польскіх уладаў, а таксама праз матэрыяльныя цяжкасьці. Сярод кіраўнікоў віленскай *«Майстроўні»* — імёны Арсеня Канчэўскага і Леапольда Родзевіча.

*«Майстроўня»* 80-х таксама зазнала на сабе перасьлед, цяпер ужо савецкіх уладаў, якія нават у самім слове *майстроўня* бачылі прыкметы нядобранадзейнасьці. У адрозьненьне ад «добранадзейнай» *майстэрні*, *майстроўня*, дзякуючы нязвыкламу суфіксу *-оў-*, рабілася падазронай — больш беларускай.

## Макарона

*Сяргей Харэўскі*

Беларусы ведалі локшыну, але гэта была рэдкая страва, найперш з прычыны браку пшанічнае мукі. *Макарона* — ня локшына, яе выраб патрабуе найлепшае мукі, тлустага малака, адмысловых апаратаў. Гэткія магчымасьці зьявіліся ў Беларусі толькі ў 60-я гады, калі запрацавалі *макаронныя фабрыкі* ў Віцебску, Барысаве і Слуцку.

Акурат у гэты час за Беларусьсю была замацаваная роля бульбянога поля СССР. Грэчка і гарох спачатку пачалі прападаць з палеткаў, пасьля з прылаўкаў. Іх замяніла *макарона*, паводле калярыйнасьці роўная мясу. Неадымнай часткаю мэню стала «*макарона па-флёцку*» — сумесь *макароны* з тушанінаю. Гэтую гіпэркалярыйную страву спажывалі цяпер ня толькі маракі з субмарынаў Запаляр’я, але й беларускія дзеці і іх бацькі. Чым бяднейшыя былі людзі, тым больш налягалі яны на гэты танны і калярыйны прадукт. Беларускі пралетарыят заўважна патлусьцеў.

У 1990-х беларусы забываліся пра *макарону*. Айчынная была дрэннай якасьці, імпартная — дарагая. «*Макарону па-флёцку*» згадвалі ў мінулым часе. На радасьць дыетолягам.

## Макулятура

*Сяргей Дубавец*

*Макулятура* — гэта скарыстаная і прызначаная на перапрацоўку папяровая прадукцыя. Старыя газэты, непатрэбныя кнігі, ведамасьці, сшыткі, абгорткі зьбіраюць у стосы, перавязваюць вяроўкай і здаюць — *на макулятуру*. Кабета-прымальніца ставіць вашыя пакункі на вагу і, падлічыўшы на костках, расплачваецца грашыма або нейкімі гаспадарчымі рэчамі, напрыклад, туалетнай паперай.

Кожны, каму даводзілася быць у савецкіх піянэрах і школьніках, ведае, што такое *збор макулятуры* — сапраўднае сацыялістычнае спаборніцтва паміж клясамі за тое, хто здасьць болей, калі дзеля перамогі ў пакункі старых часопісаў вязаліся нават найлепшыя тамы з бацькоўскай бібліятэкі. Самыя важкія былі, натуральна, энцыкляпэдычныя тамы. І ўсё дзеля чаго? Для хуткаплыннае славы — нейкай ганаровай граматы, якую са зьменаю пакаленьняў чакаў той самы *макулятурны* лёс.

А што было ў тых пыльных і брудных школьных падвалах, куды першым часам звальвалі ўвесь плён сацыялістычнага спаборніцтва! Там, у велізарных папяровых развалах, абавязкова

корпалася некалькі постацяў зь ліку кніжных фанатыкаў, зьбіральнікаў карцінак на розныя тэмы ды проста аматараў выпадковых знаходак. І знаходкі трапляліся. Сярод тонаў сшарэлых «Правд» і «Известий» абавязкова трапляўся надзвычай прыгожы глянцаваны часопіс «Америка», які тут жа ўпускаў цябе ў абсалютна іншы сьвет чыстых фарбаў і адкрытых пачуцьцяў. Зрэшты, і леташняя «Техника — молодежи» зь цікавым артыкулам пра вечны рухавік магла здаволіць цікаўнасьць сьледапыта...

Колішнія друкаваныя і пісаныя паперы становяцца *макулятурай* па-рознаму. Іншы раз гэта залежыць ад характару чалавека. Ёсьць такія людзі, што ўсё жыцьцё захоўваюць любую паперку. Распавядаюць, што такім быў Адам Багдановіч, бацька славутага паэта. Ён нібыта перахоўваў у асабістым архіве кожную аптэчную квітанцыю. Сапраўды, хто ведае, калі, каму і наколькі спатрэбіцца нават ваш скасаваны тралейбусны квіток?

Але найчасьцей колішнія выданьні робіць *макулятурай* час. Праўда, і тут ёсьць свае тонкасьці. Многія выданьні, якім удалося пазьбегчы папяровай перапрацоўкі, пасьля рабіліся бібліяграфічнай рэдкасьцю або нават кніжнымі помнікамі.

Яшчэ адзін спосаб для кнігі і часопісу стаць *макулятурай* — гэта састарэць зьместам. Варта ўзяць у рукі кнігі савецкіх ідэолягаў 30-х гадоў або матэрыялы XXIV зьезду КПСС, каб зразумець, што дух гісторыі так і не завёўся ў іх. Падобна, што сёньня многія беларускія гуманітары, парадкуючы свае бібліятэкі, разпораз разгортваюць тую або іншую кніжку, якая

колісь чыталася або набывалася з адчуваньнем здабытку, і... Вочы прабягаюць абзац-другі, і томік, які ўжо ня мае ніякага дачыненьня ані да нашага часу, ані да ўяўленьняў гаспадара, адпраўляецца ў *макулятурны* стос.

## Манкурт

*Ігар Бабкоў*

У сярэдзіне 80-х, калі мы чакалі новага слова з захаду, з усходу да нас прыйшло слова *манкурты*. Гэта Чынгіз Айтматаў распавёў тады яшчэ савецкім чытачам гісторыю пра палонных, якія ня памятаюць свайго дому, не пазнаюць блізкіх, ня ведаюць бацькоў. Па-кіргіску іх звалі *манкурты*.

Слова сталася сымбалем. Праз пэўны час усе падзяліліся на тых, хто хацеў штосьці ўспомніць, і тых, каму і так было няблага. А яшчэ праз некаторы час на дэманстрацыях натоўпы раўлі на міліцэйскія кардоны: «*Манкурты, манкурты*...». Слова тады гучала як абраза, і міліцыянты сапраўды крыўдавалі, хаця пэўна не чыталі ані Айтматава, ані беларускіх паэтаў, якія праз аднаго напісалі пра *манкуртаў* хто вершык, а хто — цэлую паэму.

Потым слова састарэла, і сёньня выклікае хіба настальгію па маладосьці ў генэрацыі саракагадовых. Зрэшты, наш час не патрабуе алегорыяў. Мы ўжо высьпелі, каб ўадкрытую катаў называць катамі, а рабоў — рабамі.

# Марозіва

*Юрась Бушлякоў*

Замарожаны дэсэрт — *марозіва* — вынайшлі ў Кітаі. І адбылося гэта за дзьве тысячы гадоў да Хрыстовага Нараджэньня. Якраз тады пачалі кітайскія сяляне даіць свойскую жывёлу — найважнейшы кампанэнт *марозіва* быў забясьпечаны. Новы прадукт упадабалі імпэратары Кітаю. Хронікі данесьлі да нас зьвесткі пра баляваньні велічнага Нэрона — і там на сталох было ўжо *марозіва*. У XVII стагодзьдзі сваім *марозівам* славілася Вэнэцыя, у XVIII-м яго завезьлі ў Амэрыку. Гатуючы яго тады, малако, цукар, яйкі ды ўсялякія прысмакі зьбіралі ў ёмістасьць, абкружаную мешанінаю лёду й буйназярністае солі, і чакалі, пакуль ня ўтворыцца аднародная маса.

У Беларусі *марозіва* пачало прыжывацца з XIX стагодзьдзя. Называлі яго па-рознаму. Напрыклад, на польскі лад, *лёды*, або, на расейскі, *марожанае*. Былі вось *марожанае* мяса або рыба *марожаная*, а тут паявілася проста *марожанае*. Таму рупіліся з пачатку XX стагодзьдзя моватворцы беларускія пра свой, не пазычаны, назоў. І ў выніку, як былі ў нашай мове малодзіва з прадзівам, так паявілася ў спадзейныя 1920-я гады *марозіва*. Любіў гэтае слова Максім Гарэцкі. Зьявіліся й іншыя беларускія словы абазначыць усё болей і болей ведамы ў нас ласунак — на чэскі ўзор Вацлаў Ластоўскі выштукаваў *зморазь*, а Янка Станкевіч без усякіх узораў, у традыцыйнай

сваёй самачыннасьці, пашыраў варыянт *мярзьлёнка*. Прыжылося пакуль збольшага толькі *марозіва*...

За савецкім часам, з аўтаматызацыяй малочнае прамысловасьці, *марозіва* трывала асвоілася сьпярша ў большых гарадох, а тады і ў меншых. Карані пусьціла сетка *кафэ-марозіваў* — пра адно з такіх пісаў некалі ў лірычных запісах Янка Брыль. *Марозіва* прападае без *маразільніка*, таму зь вёскаю было іначай. Вяскоўцы частаваліся *марозівам*, як выяжджалі ў месты, калі грошы й час заставаліся. Нехта любіў, а хто й ня вельмі...

У нашыя дні ў гарадзкіх крамах прадаюць *марозіва* сваё і прывезенае — першае, ведама ж, таньнейшае. Яго пераважна й купляюць. Сярод назоваў *марозіва* я заўважыў нарэшце ўлетку 1999-га нацыянальны — «менскае эскімо». Шкада толькі, што на абгортках *марозіва* не прынята ў Беларусі пісаць па-беларуску.

## Марыянэтка

*Рыгор Сітніца*

Італьянец *Марыёні*, які калісьці змайстраваў ляльку для паказу тэатральнае дзеі, наўрад ці марыў патрапіць у беларускую штодзённую рэчаіснасьць.

Хто з нас у маленстве ня цешыўся з *марыянэткавага* тэатру? О, якім цудам здаваліся нам усе гэтыя Пятрушкі, Кашчэі ды Цмокі

Гарынавічы! І хто б гэта думаў тады, што тых *марыянэткавых* пэрсанажаў мы пазнаем пасьля ў асобах зусім не тэатральнага кшталту?

Менск, вечар, спэктакль закончаны, лялькі-*марыянэткі* спачываюць да іншага разу, патухаюць агні Менскага лялечнага тэатру. Але доўга яшчэ сьвецяцца вокны ў доме, што па іроніі лёсу месьціцца акурат насупраць. І хоць гэтая спаруда з надпісам «Адміністрацыя прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі» нічым не выдае сваёй прыналежнасьці да тэатральнага сьвету, ды ў яе сьценах вось ужо які год ладзіцца ці ня самы абсурдны *марыянэткавы* спэктакль стагодзьдзя.

І доўжыцца дзея, і *марыянэткавая* плямісташэрая варта сустракае *марыянэткавае* аўто, і *марыянэткі*-людзі прамаўляюць не свае словы, робячы ўсё так, як загадаюць ім да часу нябачныя крамлёўска-лубянскія лялькаводы.

І хоць галоўная *марыянэтка* і сама ўжо не свая, аднак *марыянэткавыя* крытыкі штодня ўсхваляюць гэты пэрсанаж у *марыянэткавай* прэсе, а *марыянэткавая* тэлевізія бясконца цягне аднастайны сэрыял, што невыносна надакучыў напаўпрытомным гледачам.

Ды колькі б ні цягнуўся гэты спэктакль, а фінал усё ж немінучы. І запаліцца сьвятло, і палягуць у свае скрыні нашыя *марыянэткі*, і ўбачыць сьвет таемных лялькаводаў і ад душы адорыць іх сьвістам, пратухлымі яйкамі ды гнілымі памідорамі.

## Маска

*Антаніна Хатэнка*

Непазнавальна пазнавальнае, да болю знаёмае абліччча краіны і часу. Аблічча кожнага з нас, актораў зь вялікае ды трагічнае драмы беларускага жыцьця. Падаецца часам, што *маскі* прырасьлі да нашых твараў навечна і сарваць іх анікому не пад сілу. О, гэты няспынны, неўтаймаваны *маскарад* нашага прыстасаванства! Якое даўно не ратуе, не засланяе, а ўсяго толькі надае хісткае пэўнасьці, што жывем. Прылаўчыліся.

Кабеты шпарка мажуць па тварах розную гароднiну і садавіну, намагаючыся захаваць маладжавасьць, а мужчынам, прынамсі большыні зь іх, найзручней *маскавацца* пад мужных ды адважных, прагна глынуўшы п'янога зельля.

Хаваем, прыніжана хаваем сваю баязьлівасьць і пакору. Божа магутны! Здымі з нас гэтую агідлую *маску*: трэцяе ж тысячагодзьдзе падступае — дзея драмы зьмяняецца. Старыя дэкарацыі і *маскі* струхлелі...

## Маўзалей

*Сяргей Харэўскі*

У савецкі час кожны беларус дакладна ведаў сэнс гэтага слова. Словы *Масква*, *Ленін* і *маўзалей* завучвалі яшчэ ў дзіцячых садках. Маскоўскі *маўзалей* тады быў для нас адзіны ў

цэлым сьвеце. Вялікая пахавальня Леніна, дзе ён ляжыць у крышталёвым саркафагу... Для дзяцей гэта было зразумела — як казка пра заснулую ў лесе цароўну.

Слова *маўзалей* мае грэцкае паходжаньне, ім называлі самую вялікую пахавальню элінскага сьвету — цара *Маўзола* ў Галікарнасе. Пазьней ад назвы тае спаруды сталі называць усе вялікія пахавальні наагул...

Ленінскі *маўзалей* пабудавалі беларусы, майстры зь вёскі Грабаўка, што на Гомельшчыне. Бадай, гэта самы вялікі помнік беларускае народнае творчасьці. І таму стаўленьне да яго ў беларусаў было асаблівае. Як пісаў Аркадзь Куляшоў:

Мы не дазволілі халоднаму нябыту
Забраць яго ад нас у вечную імглу,
І не труну, а дом зрабілі мы з граніту
На сотні год яму, як горнаму арлу.

Беларусы вельмі раўніва пільнавалі, хто і як стаяў падчас парадаў на *маўзалеі*. Калі на ім паявіўся Брэжнеў, у народзе склалася прыпеўка: «...Гэта што за Бармалей ўзьлез да НАС на *маўзалей*?».

У Менску зьбіраліся нават паставіць і мясцовы *маўзалей* Леніна, сымбалічны, у якім быў бы музэй...

Пазьней *маўзалеямі* пачалі іранічна называць маёнткі партбосаў. А слова *саркафаг* ужо асацыявалася не з крышталёваю труною, а з Чарнобыльскай АЭС, якую накрылі саркафагам з бэтону.

Сёньня *маўзалеем* альбо саркафагам менчукі называюць змрочны будынак Палацу Рэспуб-

лікі, які паўстаў пасярод сталіцы, акурат там, дзе зьбіраліся паставіць сымбалічны *маўзалей* Леніна.

## Менск

*Сяргей Шупа*

Таямніца паходжаньня назову цяперашняй сталіцы Беларусі губляецца ў далёкай смузе стагодзьдзяў. Найбольш верагоднай лічыцца гіпотэза, якая выводзіць яго ад рэчкі *Менкі*, што цячэ кілямэтраў за 20 на паўдзённы захад ад *Менску*.

Форма *Менск* (у старым напісаньні — праз літару «яць») захоўвалася даўгімі стагодзьдзямі — у старадаўніх летапісах, актавых кнігах і ў жывой народнай гаворцы. Аднак з наступам палянізацыі, калі старабеларуская мова ў афіцыйным ужытку была выціснутая польскай, *Менск* зрабіўся Міньскам.

Калі дзьвесьце гадоў таму на нашыя землі прыйшла расейская акупацыя, новыя ўлады ня сталі разьбірацца ў этымалёгіі і археаграфіі, а пераянялі польскі назоў. Адгэтуль узяўся Мінск.

Адроджаная Беларусь на пачатку XX стагодзьдзя вярнула гораду старое летапіснае імя, якое пражыло ў афіцыйным ужытку дваццаць гадоў. У 1939 годзе выйшла пастанова ўладаў аб замене ў беларускай мове *Менску* на Мінск. Заўважым, што кошт гэтай акцыі тагачасных кіраўнікоў не хваляваў — трэ было сьцерці з памяці людзей ненавісную нацыяналістычную форму — *Менск*.

Гэта быў унікальны выпадак у савецкай імпэрыі. Ува ўсіх астатніх выпадках назвы гарадоў мяняліся ў расейскай мове — на нацыянальныя. Так замест Тыфлісу зьявіўся Тбілісі, замест Эрывані — Ерэван, замест Вільна — Вільнюс. У Беларусі адбылося наадварот.

За апошняе стагодзьдзе горад моцна зьмяніўся. Шматлікія войны, акупацыі, рэпрэсіі, індустрыялізацыі, урбанізацыі, міграцыі татальна зьмянілі дэмаграфічнае, культурнае, моўнае, архітэктурнае аблічча *Менску*. Адбылася мутацыя, прадукт якой ужо натуральна завецца Мінскам.

І аднак *Менск* жыве. У апошніх брукаваных вулках, у старасьвецкіх камяніцах, у замшэлых камянях старых могілак, у нашым болі і ў нашай надзеі.

## Мент

*Сяргей Дубавец*

У краіне саветаў усё было наадварот. Праўда лічылася паклёпам, пакупнікі існавалі для крамаў, а войска змагалася за мір. У прыватнасьці, паліцыю (г.зн. гарадзкую службу, ад грэцкага πόλις (polis) — места) тут называлі міліцыяй (г.зн. вайсковай, мілітарнай службай), але пры гэтым міліцыянт меў увасабляць у вачах народу міралюбства і гуманізм, а паліцыянт асацыяваўся з фашыстоўскімі захопнікамі і капіталістычным бяспраўем.

Бадай, найбольш міралюбства міліцыі спа-

між іншых рэспублік-сясьцёр культывавалася ў БССР. Памятаю, яшчэ зь дзяцінства душа не прымала пачутага ў гутарках з раўналеткамі блатняцкага слова *мент* — выразу пагарды да ахоўнікаў парадку. Як можна было пагарджаць гэтымі дабрадушнымі дзядзямі Сьцёпамі, якія пераводзяць бабульку цераз вуліцу, а да таго ж адважна змагаюцца са зладзеямі? У каго спытаць, як прайсьці да патрэбнага месца, параіцца або нават і проста папытацца часу? Найзручней у міліцыянта. Словам, народ міліцыю паважаў, *мянтамі* яе не называў, масава чытаў міліцэйскую газэту «На страже Октября», пра што сьведчыў яе тагачасны наклад, і не хадзіў на чырвонае сьвятло, чым зьдзіўляў сваіх суседзяў у былым СССР. У першыя перастроечныя гады тагачасныя нефармалы любілі паўтараць, што міліцыя — з намі, бо гэта нашы, беларускія, вясковыя пераважна хлопцы. Напэўна, так яно й было.

Але вось настаў кастрычнік 1988 году. Дзяды. Масавы мітынг на Маскоўскіх могілках у Менску. На сумленьні тагачаснага міністра МУС Віктара Піскарова першы развод народу зь міліцыяй, першыя сутычкі, вадамёты і сьлезацечны газ. Гэта тады да групы дэманстрантаў, загнаных дубінкамі ў поле, падбег запыханы юнак і пракрычаў слова трывогі — *мянты*! З таго часу экзатычнае блатняцкае слова, якое раней азначала ўсяго толькі дасьведчанасьць апавядальніка ў тэрміналёгіі крымінальнікаў, увайшло ў беларускую мову як паўнапраўная і часта ўжывальная лексэма. *Мент* стаў пэрсанажам нашага жыцьця.

А пасьля быў Лукашэнка, які разбэхаў міліт-

цэйскія штаты да нічым не апраўданых памераў, што прывяло да дыскваліфікацыі ахоўнікаў парадку. Пасьля былі разгоны мірных дэманстрацыяў, пабоішчы і арышты на вуліцы проста за беларускую мову або — за карыя вочы. І вось ужо сёньня нікога ня зьдзівіць выгляд міліцыянта, які ўтаропіўся ў акно трамвая, калі побач тэрарызуе публіку п'яны бамбіза. Я бачыў, як два патрульныя ў Менску прайшлі міма чалавека, што ня мог падняцца зь зямлі. Але каб міліцыянт пераводзіў цераз вуліцу бабульку, я ня бачыў даўно. І спытацца ў міліцыянта, каторая гадзіна, не прыходзіць у галаву. Затое, калі мы з калегам гаворым на тралейбусным прыпынку, а міма праходзіць міліцэйскі нарад, для мяне стала зусім натуральным напаўголасу папярэдзіць сябра: «Асьцярожна, *мянты*!»

# Мех

*Рыгор Барадулін*

Хоць прымаўка мімаходзь зазначае: «*Век жыць — ня мех шыць*», але й мех шыць, каб ні зярнятка не прапаролася вострым носікам, ні цяжкое пакладзіва не прарвала яго, — трэба ўмець.

Ад *мяха* пайшлі потым і мадэрныя сумкі, і баулы, і розныя ахіналы.

Пастухоў і вандроўнікаў *мех* ратаваў ад дажджу, ад морасі, ад пылу.

Капюшоны ўсіх фасонаў — унукі *мяха*, а торбачкі — як бы дачушкі.

З маленства гучыць мне весялінка: «*Ажаніўся мяшок, узяў торбачку, туды-сюды павярнуў — цмок у мордачку!*»

Ад *мяха* — *мяшэчнікі*, тыя бедачыны, якіх голад крывавых рэвалюцыяў і войнаў гнаў па сьвеце. Пасьля вайны ўдовы — прыгоньніцы калгасаў — на сваіх плячах несьлі першы мірны ўраджай у *мяхах*. *Мех* быў адзінкай вымярэньня — *мех мукі, мех жыта, мех бульбы*...

Падчас паўстаньняў, барацьбы беларусаў за волю *мяхі*, насыпаныя пяском, былі надзейнымі сьценамі змагароў.

Адказная і шанавітая, так бы мовіць, пасада *механошы*, валачоўнікаў і скамарохаў.

У паэтаў «*мех*» гукае рыфму на «сьнег» і «сьмех». Пра недакладную многасьць кажуць — «*мех з торбачкай*», пра марныя намаганьні — «*чубяцца за мех, а ў мяху — сьмех*». Ён — нясумны мэтад кайнасьці: «*Грэх — у мех, а сам — наверх*».

Завязаны пад самае горла *мех* нагадвае сноп. Не такая й далёкая радня — абодвум зярняты дарагія.

## Меч

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Меч* — адзін з элемэнтаў нашага нацыянальнага герба «Пагоня» і знак вялікакняскай улады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Выявы *мяча* почасту сустракаюцца на гербах беларускае шляхты.

На адным з праектаў герба бальшавіцкай

дзяржавы таксама быў *меч*, які быццам бы Ленін загадаў прыбраць, каб паказаць міралюбны характар бальшавікоў, маўляў — «*перакуём мячы на аралы*». Скасаваны так званым правадыром *меч* ім жа самім і быў укладзены ў рукі ЧК, пасьля чаго гэтую зброю пачалі называць *карным мячом рэвалюцыі*. 70 гадоў ён лютаваў у Беларусі паводле прынцыпу «*мой меч — твая галава з плеч*».

*Скрыжаваць мячы. Падняць меч. Прыйсьці зь мячом. Дамоклаў меч.*

*Мечнік* — службовая асоба і ганаровае званьне ў Вялікім Committee Княстве, а таксама ваяр зь *мячом* і збройнік, які вырабляў гэты тып узбраеньня.

*Меч*, *мечападобны*, *мячовы*, *мечаваты*.

Вобраз *мяча* — адзін з асноўных атрыбутаў вуснае народнае творчасьці. «*Я ж тых маскалёў мячом пасяку*», — сьпяваюць сьвяточнымі зімовымі вечарамі калядоўнікі.

*Мечыслаў* — беларускае імя, у якім чуецца: *мечаны* славай альбо ўслаўлены *мячом*.

«*Біце ў сэрцы іх — біце мячамі, не давайце чужынцамі быць!*» — напісаў у вечна надзённым вершы «Пагоня» Максім Багдановіч.

## Міліцыя

*Рыгор Барадулін*

*Міліцыя* — з лаціны, дзе *militia* — войска.

Хадзіў анэкдот — навічку-*міліцыянту* заданьне: прыдрацца, прычапіцца да слупа. І той пачынае: «Акапаўся, абзавёўся сувязямі, п’еш і чашачкі ўніз перакульваеш».

Самагоньнікі падзяляліся на ўчасткі. У кожнага *міліцыянта* быў свой участак — «і сыт, і п’ян, і нос у табацы».

Апошнім часам *міліцыянтаў* трохі прылюдзілі, далі эўрапейскую форму. Але ўсё роўна: абцасы зьбітыя, на каленях — «мяшкі», а пад вачыма — «торбы» ад змаганьня зь «зялёным зьмеем».

Беларусь, і асабліва Менск, перасягае самыя разьвітыя краіны па колькасьці *міліцыянтаў* на чалавека. Гэта ня лічачы розных АМОНаў, спэцназаў, супэрсакрэтных ахоўных органаў. Каго ад каго бароняць?

## Міні

*Сяргей Шупа*

Слоўца *міні-* ўваходзіць у склад шмат якіх складаных словаў — *міні-бар*, *міні-дыск*, *міні-кампутар*, *міні-футбол*. Аднак калі сказаць проста *міні*, гэта будзе азначаць толькі адно — *міні-спадніцу*.

Спадніца *міні* зьявілася пасьля аднаго з найбольшых сацыяльных выбухаў — у канцы 60-х гадоў — і сама была немалым сацыяльным выбухам. Гэта была праява сэксуальнай рэвалюцыі, якая прайшлася тады трыюмфальным шэсьцем па нашых абшарах. *Міні* былі выклікам шэраму пурытанству савецкага грамадзтва, дзе нават інтымныя пачуцьці грамадзянаў кантраляваліся парткамамі, прафкамамі і працоўнымі калектывамі.

*Міні* давалі магчымасьць жанчынам адважна, агрэсіўна, безаглядна падкрэсьліць сваю жаноцкасьць, зьвярнуць на сябе ўвагу нават тады, калі ўсе іншыя сродкі не дапамагалі. *Міні* выклікала агульнае павышэньне колькасьці адрэналіну на душу мужчынскага насельніцтва. Цалкам магчыма, што хвалі папулярнасьці *міні* супадаюць у фазе з хвалямі павышэньня нараджальнасьці. Часам *міні* бываюць прычынаю драматычных здарэньняў, бо жанчына ў *міні* ў месцах аўтамабільнага руху стварае аварыйную сытуацыю.

Мода на *міні* часам суціхала, на іх месца прыходзілі розныя мідзі і максі — але хто пра іх памятае? *Міні-спадніца* сталася неўміручаю і сёньня ўжо амаль не залежыць ад праяваў моды. І, каб пераканацца, што беларускія жанчыны — найпрыгажэйшыя ў сьвеце, трэба выйсьці на вуліцы сьпякотным летам.

## Могілкі

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Адзінае месца на сьвеце, дзе ўсе роўныя, — *могілкі*. Кожны мае аднолькава зямлі.

У Беларусі *могілкі* называюць яшчэ: *могліцы*, *клады*, *пагост*, *цьвінтар*, *кладзішча*. На *могілкі* ідуць на Радаўніцу і на Дзяды, ідуць у дні жалобы і проста, як кажуць, «да сваіх».

«Нас можа зьнішчыць толькі той, — кажа герой старажытнай легенды, — хто знойдзе і разбурыць нашыя *магілы*». На адным пісьменьніцкім зьезьдзе Адам Мальдзіс распавёў,

як шукаў ён на старых каталіцкіх *могілках* у вёсцы Валынцы *магілы* першых беларускіх драматургаў Цяцерскага і Марашэўскага. *Могілкі* былі спляжаныя. *Магілы* раскапаныя. Чарапы павешаныя на палкі.

У Полацку зруйнавалі *могілкі* і пабудавалі аэрадром. У Менску на месцы *Старажоўскіх могілак* — кінатэатар. У Віцебску на могілках зрабілі дзевяціпавярховы дом з крамай «Дзіцячы сьвет» і плошчу Перамогі.

У 80-я гады беларуская моладзь у Менску праводзіла свае нелегальныя сходкі на *Кальварыйскіх могілках*. Там, побач з магіламі продкаў, было бясьпечна. Небясьпечна было сярод жывых. Гэтая ж моладзь ішла да забытых магіл паўстанцаў Каліноўскага на *Вайсковых могілках*. Пры *Маскоўскіх могілках* у Менску міліцыя зьбівала дубінкамі і труціла газам людзей, якія на Дзяды ў 1988 годзе ішлі да *магілы* Ўладзімера Караткевіча. Каб не пусьціць іх на *могілкі*, каб ня сталася таго, пра што бард Алесь Камоцкі — на словы таго ж Караткевіча — прасьпяваў: «Бацькі з *магіл* цяплом дыхнулі, каб дзецям жыць лягчэй было».

## Музэй

*Ігар Бабкоў*

Для Багушэвічавага мужыка ўвасабленьнем беларускай долі быў суд. Што б ён ні рабіў, адкуль бы ён ні выходзіў і куды б ён ні скіроўваўся — ён патрапляў у суд: з адвакатамі, судзьдзямі, штрафамі, судовымі выканаўцамі. Нашаніўцы

пачатку XX стагодзьдзя выбралі сабе іншую долю — *музэй*.

Зь віленскага *Беларускага музэю* пачалося адраджэньне. Паэты, рэвалюцыянэры і дзяржаўныя дзеячы аднолькава зачаравана глядзелі на памяткі даўніны, шукаючы ў іх натхненьня і падтрымкі.

Усё XX стагодзьдзе беларуская культура зьбірала гэтыя памяткі мінулага. Найлепшыя нашыя кнігі — менавіта пра гэта.

Нядаўна мы зразумелі, што мы жывыя і што ў нас ёсьць будучыня. Мы выйшлі на вуліцу... Вечар... Разьбітыя ліхтары... Зграі амонаўцаў адлоўліваюць апошніх дэманстрантаў. Заўтра суд.

Хто будзе судзьдзямі і хто падсуднымі, мы ўжо ведаем.

## Мурок

*Валянціна Мароз*

Ёсьць у суворага пазычаньня зь нямецкае — слова *мур* — роднаснае беларускае *мурок*. Якое тым цікавае, што ня сталася звычайным варыянтам з памяншальна-ласкальным суфіксам *-ок-*, а зажыло самастойным жыцьцём. *Мурок* — ня толькі маленькі *мур*, а таксама такое *мураванае* жытло, якое чалавек вызнае за часовае. Таму ў гэтым слове чуецца адценьне несамавітасьці, непаўнавартасьці, але разам з тым і пэўнае ўдзячнасьці (служыла ж, давала прытулак!). Пры неспрыяльных варунках у *мурку* можна прачасаваць і ўсё жыцьцё. Але калі ўзьбівацца

на што лепшае, то беларус пэўна ж памкнецца не ў раскошны *мур*-палац, а ва ўтульную драўляную хату. Ці ня тое пацьвярджаюць густыя зарасьнікі нежылых катэджаў пад гарадамі ды мястэчкамі, з гарачкі набудаваныя ў часы перабудовы...

Беларус дыстанцыюецца і ад будынкаў-*муроў* — халодна-афіцыйных установаў сталінскага тыпу. Нашы вясковыя гараджане асвойвалі горад і гарадзкое жытло словам *цагляны*: цагляны дом, цагляная кладка, сьцены з цэглы. Муранымі заставаліся толькі сьцены Берасьцейскае цьвердзі. Ды жылі спрадвечна-легендарныя муры разбураных вежаў і замкаў.

Сфармуляваны ў 1990-х лёзунг Беларускага народнага фронту «Беларусь — наш дом, наш храм» забірае ўвагу сваёй людзкасьцю, адпаведнасьцю спрадвечным памкненьням беларуса ўзьбіцца на ўласнае прыватнае жытло. Каб маглі праставаць беларусы з савецкага *мурка* — несамавіта-часовага прытулку — у свае драўляныя і цагляныя хаты — наш дом, назва якому — Беларусь!

## Мытня

*Уладзімер Арлоў*

*Мытня* — старажытнае беларускае слова, якое ў ягоным цяперашнім значэньні можна сустрэць ужо ў дакумэнтах часоў князя Вітаўта. Ахоўваючы эканамічную прастору Вялікага Княства Літоўскага, *мытні* стаялі на яго межах

і тады, калі айчына нашых продкаў уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітае.

На *мытнях* служылі *мытнікі*. Яны зьбіралі з падарожных адмысловую плату — *мыта*.

Калі Беларусь апынулася ў кіпцюрох дзьвюхгаловага расейскага арла, слова *мытня* на два стагодзьдзі амаль цалкам зьнікла з ужытку, працягваючы існаваньне адно ў гістарычных слоўніках.

Але слова гэтае выявіла дзівосную жыцьцяздольнасьць — як толькі Беларусь вярнула сабе незалежнасьць, яно загучала з вуснаў беларускамоўных дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Чуючы пры абмеркаваньні заканадаўчых актаў слова *мытня*, расейскамоўная камуністычная большасьць парлямэнту ўкведена круціла носам. Адзін з дэпутатаў, колішні генэрал, аднаго разу ўзьлез на трыбуну й пачаў пратэставаць — маўляў, гэтую *мытню* прыдумалі нацыяналісты, «іё ніхто ні панімаіт», а асабіста ў яго, генэрала, гэтае слова выклікае асацыяцыі не зь дзяржаўнай мяжою, а з мыцьцём і лазьняй.

Прамінула колькі гадоў, і словам *мытня* ўжо анікога ня зьдзівіш. На далёкіх ад міжнародных стандартаў беларускіх *мытнях* адбываюць сваю дзяржаўную службу то сонныя, як восеньскія мухі, то, наадварот, чамусьці празьмерна ўвішныя беларускія *мытнікі*. Яны бяруць законнае *мыта*, што цяпер завецца «*мытным* зборам», і *мыта* незаконнае, што спрадвеку завецца хабарам.

Лінгвістычных уяўленьняў адстаўнога генэрала ўжо ніхто й не згадае, але ў нечым ён, безумоўна, меў рацыю — пасьля блізкага знаёмства зь беларускай *мытняй* хочацца добра памыцца.

# Мэгафон

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Мэгафон* — рэч — ведаюць усе. *Мэгафон* — слова — далёка не. Яго пачасту блытаюць з рупарам, хоць гэты галяндзкі тэрмін абазначае звычайную трубу з пашыраным канцом, якая ў сапраўднасьці — толькі частка *мэгафона* разам зь мікрафонам, электрычным сілкавальнікам і ўзмацняльным прыстасаваньнем.

Слова *мэгафон* паходзіць з грэцкай мовы і літаральна перакладаецца як «вялікі гук».

За савецкім часам права на вялікі гук мелі толькі тыя, у чыіх руках была ўлада. Узровень гэтага гуку залежаў ад месца, якое займаў прамоўца на герархічнай партыйнай лесьвіцы. Магутнасьць *мэгафона* была максымальна дазволеным узроўнем гуку для народу. Але ўжываць гэтае прыстасаваньне народ (у асобе трэнэраў, настаўнікаў фізычнага выхаваньня або пляжных інструктараў) мог толькі ў часе спартовых спаборніцтваў ці турыстычных зьлётаў. У астатніх выпадках *мэгафоны* ўжывала так званая народная міліцыя.

Сапраўды народным *мэгафон* зрабіўся толькі са зьяўленьнем надзеі на дэмакратыю. Гэта ён узмацняў голас прамоўцаў 30 кастрычніка 1988 году. Ён заклікаў удзельнікаў на першыя мітынгі апазыцыі, стаяў у пікетах, браў удзел у фармаваньні калёнаў дэманстрантаў і праводзіў перадвыбарную агітацыю.

З другога боку барыкадаў яго спрабавалі перамагчы *мэгафоны* абаронцаў спачатку савецкай,

а потым прэзыдэнцкай улады. Гэтая вайна *мэгафонаў* і спарадзіла сынонім слова *мэгафон* — мацюгальнік.

Нават у той час, калі апазыцыя здолела прабіцца да мікрафонаў, *мэгафон* ня траціў свайго значэньня. Ён стаўся сапраўдным узмацняльнікам жывога чалавечага голасу. *Мэгафоны* мела і мае кожная больш-менш арганізаваная група ці суполка, я ўжо не кажу пра рухі і партыі.

*Мэгафон* — адна з тых рэчаў, якую ўдзячныя нашчадкі ўжо ў XXI стагодзьдзі маглі б ушанаваць помнікам.

## Мэліярацыя

*Валянцін Акудовіч*

Гісторыю Беларусі ў XX стагодзьдзі збольшага можна ўкласьці ў пяць словаў: рэвалюцыя, вайна, *мэліярацыя*, Чарнобыль і незалежнасьць. За кожным з гэтых словаў стаяць апакаліптычныя падзеі, але я наважуся сьцьвярджаць, што найвялікшая зь іх пазначаецца словам *мэліярацыя*. Пасьля *мэліярацыі* ў нас няма і ўжо ніколі ня будзе той краіны, якую Багушэвіч назваў жаночым імем Беларусь.

Літаральна за некалькі дзесяцігодзьдзяў раней сарамліва схаваная за балацінамі, хмызамі й купамі дрэваў краіна выгалілася да небакраю, зрабілася адкрытай і плоскай, як пляншэт, на якім пад транспарцір накрэсьлены простыя лініі каналаў. Аніякі землятрус ня змог бы нагэтульк зьмяніць ляндшафту Беларусі, як зьмяніла яго *мэліярацыя*...

Але ж ці толькі ляндшафт зрабіўся іншым? *Мэліярацыя* не была адно касмэтычнай дзеяй. Не. Гэта была апэрацыя па зьмене, калі можна так сказаць, полу краіны. Пасьля яе завяршэньня Беларусь разьвіталася са сваёй жаночай сутнасьцю.

Чалавеку мэдыцына мяняе пол ужо досыць даўно. Але, здаецца, упершыню падобнае было прароблена з цэлай краінаю. І хаця праз плястычныя маніпуляцыі жанчына можа прыдбаць сабе пэніс, а мужчына — грудзі, але ж жаночы пэніс ня здольны апладніць улоньня, а з цыцак мужчыны ня выцісьнеш і кроплі малака для немаўляці.

Напэўна, сяго-таго мае апошнія словы трохі зьбянтэжаць. Буду шчыры — мяне таксама бянтэжыць мэтафара Беларусі як жанчыны з пэнісам. Якая звонку выдае на мужчыну, але ня здольная ні праліць жыцьцядайнага семя, ні прыняць яго ў сябе.

І я б вокамгненна зьмяніў яе на іншую, каб празь перамену мэтафараў можна было вярнуць жыцьцядайнасьць зьнявечанаму *мэліярацыяй* чэраву краіны, якую Багушэвіч калісьці назваў жаночым імем Беларусь.

## Мэтро

*Зьміцер Бартосік*

У перакладзе з грэцкай мовы слова μητρόπολις (*metropolis*) азначае «горад-маці» ці «сталіца». Французскі выраз *chemin de fer métropolitain* — сталічная чыгунка — зь цягам часу скараціўся

да проста *мэтрапалітэну*. У 1984 годзе сваё *мэтро* зьявілася і ў Менску.

А першы ў сьвеце *мэтрапалітэн* быў адкрыты ў Лёндане, тады, калі пад Менскам ішлі баі паміж паўстанцамі Каліноўскага й расейскай арміяй. Цяжка спалучыць гэтыя падзеі ў адным часе: заклік «У нас няма дваран» і абвестку «Асьцярожна! Дзьверы зачыняюцца» — такую, здаецца, далёкую гісторыю і такі сучасны від транспарту.

У XX стагодзьдзі *мэтро* разглядалася ня толькі як зручны транспарт. Гэта быў яшчэ і моцны сродак савецкай манумэнтальнай прапаганды. Ад «Плошчы Леніна» мы праз «Кастрычніцкую» ехалі да канцавой станцыі «Маскоўская» і ганарыліся сваёй далучанасьцю да клюбу мэгаполісаў. Да букету менскага паветра дадаўся цёплы, смалісты пах шпалаў, а ў лексыкон менчукоў паступова ўваходзілі новыя фразы: «Сустрэнемся ў *мэтро*», «Трэба пасьпець на апошні цягнік», «Ля якой станцыі вы жывяце?».

З набыцьцём незалежнасьці была нават ідэя, што мэтро аўтаматычна станецца прапагандыстам беларушчыны. Але станцыяў «Кальварыйская» або «Цівалі» мы так і не дачакаліся. Ня стала нашае *мэтро* й дзейснаю базаю незалежнага прафсаюзнага руху.

Паводле былых савецкіх плянаў у 1999-м мела пачаць працаваць трэцяя, апошняя лінія. Але *мэтро* — штука дарагая. Можа, менавіта на трэцяй лініі мы калі-небудзь пачуем: «Станцыя «Каліноўская». Наступная станцыя — «Плошча 25 Сакавіка». Каб ужо ніколі не праехаць паўз сваё.

# Мяжа

*Ігар Бабкоў*

Для сёньняшняга беларускага вуха слова *мяжа* гучыць амаль што трагічна. *Межы* Беларусі дасюль няпэўныя і неабароненыя. Мы фатальна *адмежаваныя* ад Захаду. На гэтым кірунку стаяць *памежныя* слупы й бытуюць *памежнікі*. Мы ўсё яшчэ знаходзім сябе на *памежжы* між Захадам і Ўсходам. Апазыцыя *разьмежаваная*. Яе лідэры *абмежаваныя* ў рэсурсах.

У XX стагодзьдзі *межаў* было зашмат. Іх сьціплы пералік дасюль застаецца ўлюбёным заняткам беларускай культуры. Пасьля Рыскага міру дзяржаўная *мяжа* прайшла па жывым целе народу.

Але беларусы, маючы дасюль столькі *межаў*, якія падзяляюць, у глыбіні душы працягваюць марыць пра іншую *мяжу* — тую, што злучае, зьбірае і яднае. Менавіта пра гэтую, сабраную *мяжой* прастору, калісьці сказаў Ян Чачот: «Маю кавалачак зямлі, на які магу паставіць лесьвіцу ў неба».

# Н

## Народ

*Сяргей Навумчык*

Найчасьцей слова *народ* выкарыстоўваецца палітыкамі супрацьлеглых поглядаў, прычым кожны зь іх шчыра верыць у сваё права спасылацца на *народ* як на крыніцу ўласнае рацыі. У Менску выдаюцца «*Народная газета*» і «*Народная воля*» — з палярна супрацьлеглым разуменьнем таго, што азначае гэтае паняцьце.

Можа, *народ* — проста сынонім насельніцтва, якое Быкаў аднойчы назваў словам *людзтва* — з усімі ягонымі праведнікамі і нягоднікамі, незалежнікамі і інтэгратарамі? Калі мы пагаджаемся з гэтым, то мусім прызнаць і тое, што «воля *народу*» можа быць вызначаная як сярэдняе арытмэтычнае. Але з гэтага непазьбежна вынікае, што *народ* можа памыляцца.

Другі падыход — разумець пад *народам* тую частку насельніцтва, якая актыўна імкнецца да пераменаў. Пад пераменамі звычайна маюць на ўвазе незалежнасьць, дэмакратыю і рынкавыя рэформы. Менавіта такая трактоўка была пакладзеная ў назву *Народнага фронту* яго стваральнікамі.

Доўгі час слова *народ* спалучалася з азначэньнем «савецкі» — і надаваліся яму самыя станоўчыя якасьці. А вось Багдановіч на пачатку XX стагодзьдзя прамовіў: «*Народ, Беларускі Народ! Ты цёмны, сьляпы, быццам крот*»... Паэты не атаясамлівалі *народу* і Беларусі. У «Малітве» Арсеньневай: «*Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай краіну нашу і наш народ!*». Нават граматычная форма ў звароце выяўляе першынство краіны («свабоднай», «шчасьлівай»), і толькі потым дадаецца — *народ*.

Надыдзе нарэшце час, калі і дэмакратыя, і незалежнасьць з мэтаў ператворацца ўва ўмовы існаваньня. Магчыма, тады паняцьці *народ* і *Беларусь* будуць для нас непарыўныя...

## Нацыяналіст

*Рыгор Барадулін*

*Нацыяналіст* — чалавек, верны сваёй *нацыі*, сваёй Радзіме, свайму народу.

Гэта савецка-імпэрская прапаганда зрабіла з *нацыяналіста* нейкае пудзіла, нейкага тэрарыста, бо ён падрываў і без таго рыхлы падмурак імпэрыі, якая займала як не шасьціну зямное кулі.

Любіць сваю мову й карыстаецца ёю — *нацыяналіст*. Любіць, шануе й ведае сваю гісторыю — *нацыяналіст*. Хоча жыць у сваёй этна-дзяржаве як вольны чалавек — *нацыяналіст*.

Савецкая прапагандовая машына перакрэсьлівала паняцьце *нацыяналіст* на *інтэрнацы-*

*яналіст*. Але *інтэрнацыяналіст* утвораны ад *нацыяналіста*. Атрымлівалася, што будавалі мост уздоўж ракі.

Савецкія войскі, што падбухторвалі не адну краіну на так званую рэвалюцыю, называліся *воінамі-інтэрнацыяналістамі*.

Пройдзе час, няхай сабе й нямала, а слову *нацыяналіст* будзе вернутая ягоная першапачатковая шана. *Шчыры нацыяналіст перад сумленьнем чыст*.

## Ніва

*Сяргей Дубавец*

*Ніва* — вельмі кароткае і вельмі невыразнае слова, у ім губляецца сэнс. Мовазнаўцам тут цяжка зачапіцца за гукі, каб растлумачыць паходжаньне слова. *Ніва* можа зьляцець з вуснаў у часе п'янога мармытаньня як частка папулярнага выразу «*ніва*-прос». Адны этымолягі зьвязваюць *ніву* са словамі *ніз* і *ніцма*. І тады паўстае цэлы шэраг прыкладаў з розных моваў, і ўсё зводзіцца да цяжкіх хваробаў і напасьцяў. *Ніва* — неварань, значыць, сьмерць. Іншыя этымолягі кажуць, што гук [н] мог прышчапіцца ў працэсе таго самага мармытаньня, калі чалавечы рот сам карэктуе й спрашчае сутыкненьні розных словаў так, як яму лягчэй вымаўляць. І тады паўстае іншы шэраг прыкладаў, дзе ўсё зводзіцца, наадварот, да рэчаіснасьці і жыцьця.

Па-беларуску *ніва* — гэта поле, прычым як звычайнае поле, так і поле дзейнасьці. У другім

варыянце *ніва* гучыць узьнёсла. Нельга сказаць, што прафэсар Цюцюкевіч дабіўся посьпехаў у полі кардыяхірургіі. Таму кажуць — на *ніве* кардыяхірургіі.

Паміж простым і ўскосным сэнсамі слова існуе канфлікт. Гэтак у рэдакцыю газэты «*Наша ніва*» часьцяком зьвяртаюцца аграрнікі, абураныя тым, што газэта ня піша «пра сяло». Канфлікту спрыяе й тое, што выходзяць як мінімум тры беларускія газэты з падобнымі назвамі. Акрамя названай, згадаю яшчэ беластоцкую «*Ніву*» і прэзыдэнцкую расейскамоўную «Белорусскую *ниву*», якая сапраўды піша пра аграрныя справы. Што да абураных чытачоў «*Нашай нівы*», дык яны й ня ведаюць, што выяўляюць тым самым сваю неабазнанасьць і неадукаванасьць. Яны забыліся, што яшчэ ў школе ім распавядалі пра першую беларускую газэту, у якой супрацоўнічалі Янка Купала і Якуб Колас і якая стала расплодзішчам нашага нацыянальнага адраджэньня ў XX стагодзьдзі.

А яшчэ ёсьць савецкі джып «*Ніва*» і савецкі камбайн «*Ніва*». Праўда, у гэтых словазлучэньнях галоўнае слова ўсё ж ня «*Ніва*», а «савецкі». Разам з краінай, якая насіла такую назву, адыходзяць у нябыт і ейныя мэханізмы. Савецкія джыпы на нашых дарогах усё больш саступаюць месца проста джыпам. А ў беларускім калгасе ў 1998-м зьявіўся першы амэрыканскі камбайн.

# Нэўтралітэт

*Кастусь Бандарук*

*Нэўтралітэт*, *нэўтральны* паходзяць з лаціны. *Neuter* азначае «ні той, ні другі», *neutralis* — які не належыць ні таму, ні іншаму.

*Нэўтралітэт* у міжнародным праве — становішча дзяржавы, якая не бярэ ўдзелу ў вайне на чыім-небудзь баку, ня можа быць тэатрам ваенных дзеяньняў або дысьлякацыі войскаў, а ў мірны час не ўваходзіць у ваенныя і палітычныя блёкі. Пра *сталы нэўтралітэт* гаворыцца, калі дзяржава ня ўдзельнічае ў войнах, але захоўвае права на абарону, а ў мірны час праводзіць міралюбную замежную палітыку. Такой краінай мела быць Беларусь адразу пасьля абвяшчэньня сваёй незалежнасьці ў задуме далукашэнкаўскага кіраўніцтва.

*Нэўтральнай* можа быць нікім не занятая, нічыйная прастора паміж двума бакамі, зона або вада. *Нэўтральнымі* бываюць сьвятло, колер або хімічная рашчына, які не дае ні лужнай, ні кіслай рэакцыі.

*Нэўтралізаваць* — гэта значыць аслабіць чый-небудзь уплыў, узьдзеяньне, напрыклад, у дачыненьні да дзяржавы, арміі, арганізацыі або канкрэтнага чалавека.

У міжчалавечых адносінах *нэўтралітэт* тычыцца дзеяньняў, а ня думак. У думках мы заўсёды на чыім-небудзь баку. Дзейнае неўмяшаньне ў чые-небудзь клопат, барацьбу або спрэчкі не заўсёды бывае дадатным і мае шэраг адценьняў. Яно можа быць праявай дальнабач-

насьці, такту, бесстароннасьці, памяркоўнасьці ў ацэнках, але таксама халоднага разьліку, абыякавасьці да чыёй-небудзь крыўды або нават праявай відавочнага зла. Адсюль прымаўкі: *мая хата з краю — я нічога ня знаю*; *гэта мне ані баліць, ані сьвярбіць*.

Неўмяшаньне ў чужы клопат можа быць выклікана й маладушнай, баязьлівай перастрахоўкай, каб не зрабіць памылковага выбару, не пацярпець, стаўшы на пройгрышным баку. Аб гэтым у Сьвятым Пісьме гаворыцца: «Дзеля таго, што ты цёплы, а не сьцюдзёны ані гарачы, Я выкіну цябе із вуснаў Маіх» (Адкр. 3, 16).

*Нэўтралітэт* добры толькі да пэўнай меры. Калі, аднак, сытуацыя гэтага патрабуе, трэба выразна акрэсьліцца і стаць на нейкім баку.

## Нябожчык

*Юрась Бушлякоў*

*Нябожчык* — той, хто ўжо ня мае сваёй долі на гэтым сьвеце. *Нябожчык* ідзе ад праславянскага **ne-bogъ*, дзе гэтая другая частка **bogъ* азначае долю. Словы, аналягічныя нашаму *нябожчыку*, маюць заходнія славяне, а таксама ўкраінцы.

Але беларускі *нябожчык* — гэта ня толькі памерлы, на нашай моўнай глебе разьвілося ў *нябожчыка* яшчэ адно значэньне — нейкае запрапалае некуды рэчы. *Тапор мой ужо нябожчык* — значыць, загубіўся і, як той памерлы, ня мае сваёй долі на гэтым сьвеце. Як герой прозы Аляксея Кулакоўскага — *нябожчык* Іван — усё

жыцьцё марыў ён пра шчасьце, ды не дачакаўся, памёр, небарака.

*Нябожчыкі* ў нас усе добрыя. Праўда народная сьцьвярджае, што пра *нябожчыкаў* ня трэба гаварыць благога. Па *нябожчыках* у нас галосяць — і з галашэньня, якое прычыніў *нябожчык*, неўспадзеўкі бачыш, як расхінаецца беларуская душа і вылівае беларускія словы. У савецкую нерэлігійную пару ў нашым *нябожчыку* па-ранейшаму, як 100, і 200, і болей год назад, чуўся *Бог*. І кожнага разу *нябожчык* прыносіў з сабою прысутнасьць *Бога*. Пад канец XX стагодзьдзя апошнюю *нябожчыкаву* дарогу ўсё часьцей ізноў, як і было здавён на хаўтурах, ачольвае крыж. З крыжом і ў *Божай* прысутнасьці беларусы праводзяць на новую долю таго, хто пакінуў наш сьвет.

## Нядзеля

*Валянцін Акудовіч*

У Бібліі сказана: «І завяршыў Бог да сёмага дня справы Свае, якія Ён рабіў. І адпачываў у дзень сёмы ад усіх справаў Сваіх, якія рабіў» (Быц. 2, 2). А паколькі чалавек створаны паводле вобразу і падабенства Божага, то ў сёмы дзень тыдня людзі таксама адпачываюць. Іншымі словамі, нічога «*ня дзелаюць*». Адсюль і *нядзеля*.

Адпачывае Бог. Адпачывае чалавек. Але нехта ж мусіць рупіцца пра тварэньне быцьця ў *нядзелю*... Імя гэтага руплiўцы дакладна назваў Фрыдрых Ніцшэ: «Д’ябал — толькі адпачынак

Бога ў сёмы дзень тыдня». Ужо ж, напэўна, менавіта ў *нядзелю*, калі спрацаваны Бог суцішыўся ў ціхамірным забыцьці, д'ябал спакусіў Адама і Еву ўчыніць першародны грэх. І тады нарадзіўся чалавек. Усе мы дзеці *нядзелі*, і грэх наш бацька.

Якраз з-за гэтага ў сёмы дзень тыдня мацней, чым звычайна, звоняць званы і сьвятары ў сваіх казанях як ніколі палымяна заклікаюць да чысьціні і цноты. Але чалавек цнатлівы толькі ў працы, а ў *нядзелю* працаваць — грэх. І гэта зусім слушна, бо грэх патрабуе вольнага часу, а яшчэ — багата пладоў з дрэва спазнаньня дабра і ліха. Таму ў *нядзелю* на стале — і чарка, і скварка. А за чаркай і гулянка, і юр, і, здараецца, сварка.

Пакуль Бог адпачывае — мы сьвяткуем *нядзелю*. Сьвята першароднага граху — самай вялікай падзеі з усіх, што здарыліся пасьля таго, як Усёмагутны Творца аддзяліў сьвятло ад цемры.

## Нядзеля

*Анатоль Вярцінскі*

*Нядзеля*. Цудоўна рыфмуецца са словам *надзея*. *Нядзеля* — гэта надзея на адхланьне, адпачынак, на вольную часіну ды яшчэ, паводле даўняй народнай традыцыі, на магчымасьць хоць крыху разгавецца. Якому беларусу ня згадваецца часта з душэўнай цеплынёй коласаўская «Раніца ў *нядзельку*»: «Дзень быў сьвяты. Яшчэ ад раньня блінцы пякліся на сьняданьне...»?

*Нядзелька* — сьвяты дзень, а калі сьвяты дзень — кожная *нядзеля*, то пагатоў сьвятыя *нядзеля Вербная*, сьветлыя дні Пасхі і Тройцы. Ды вось дзень Сьвятой Тройцы ў 1999-м ня толькі ня стаў сьвяточным, урачыстым, а наадварот, зрабіўся чорным, крывавым. У апошнюю *нядзелю* траўня загінулі на тых самых крывавых берагах Нямігі ні ў чым не вінаватыя юнакі і дзяўчаты. Пралілася кроў і ў *нядзелю*, 17 кастрычніка таго самага году, ужо на беразе Сьвіслачы, калі «Марш Свабоды» скончыўся гвалтам над імкненьнем людзей быць свабоднымі грамадзянамі свабоднай краіны, мець сваю *нядзелю*.

## Няма

*Валянцін Акудовіч*

Пармэнід сьцьвярджаў, што ёсьць адно тое, што ёсьць, і ніякага «*няма*» — *няма*. Але чалавек на свае вочы бачыць, як усё былое пакрысе зьнікае ў адсутнасьці самога сябе.

Прычым у кожнай мове існуе слова *няма*, але, бадай, ніводнае зь іх не параўнаецца з нашым. І не сьпяшайцеся мяне ўпікаць за местачковы патрыятызм. Залішне шмат беларускае *няма* ўвабрала ў сябе таго, што ня здарылася, не адбылося, не знайшлося. Залішне шмат у ім таго, што добра распачыналася, але зьнікла дазваньня ў невараці.

Пакуль іншыя народы прырасталі здабыткамі, мы мацаваліся стратамі. І цяпер мы багатыя

на *няма*, як ніхто. У нас *няма* гісторыі, *няма* мовы, *няма* свабоды, *няма* ладу і, магчыма, хутка ня будзе дзяржавы. Дый пра саміх беларусаў хто ўпэўнена скажа: ці то яны ёсьць, ці то іх *няма*?

Аднак хто ведае, можа, гэтае слова ўвабрала ў сябе ня толькі нашу долю, але і наш лёс? Можа, самім лёсам нам наканавана адбыцца менавіта праз *няма*, якое мы выношваем усярэдзіне саміх сябе ўжо цэлае тысячагодзьдзе? Колькі за гэты час вусьцішнае «нішто» праглынула імпэрыяў, народаў, культураў, якія ганарліва раскашавалі сярод сваіх здабыткаў і перамогаў? Ад іх ужо даўно й знаку не засталося. А мы, зьбіральнікі стратаў і паразаў, затуленыя сваёй адсутнасьцю, перакрочваем у трэцяе тысячагодзьдзе, магчыма, якраз дзеля таго, каб засьведчыць наша вялікае *няма* як самы надзейны шлях праз час і быцьцё.

## Няміга

*Сяргей Шупа*

*На Нямізе* снапы сьцелюць галовамі,
Малоцяць цапамі сталёвымі,
На таку жыцьцё кладуць,
Веюць душу ад цела...

Стагодзьдзямі *Няміга* была сымбалем трагедыі. Паўзабыты боль шматвяковай менскай гісторыі, падземная рака (якую, як Стыкс, ня бачыў ніхто з сучасьнікаў), дарога сьмерці — так адгукаецца ў нашых душах слова *Няміга*.

Напоеныя крывёю воды *Нямігі* стагодзьдзямі дыхалі пякельным смуродам, плодзячы немачы й хваробы. Людзі спрабавалі зь ёю ваяваць. Яе — яшчэ сто гадоў таму — здушылі ў трубах, яе засыпалі, забрукавалі, залілі асфальтам, забудавалі бэтоннымі спарудамі. Аднак яна працягвае жыць — у цемры, у падзем'і, у іншасьвеце. Яе нельга зваяваць, як нельга зваяваць Сьмерць.

На полі, колішнім замчышчы, на падмурках першай менскай царквы было наладжанае шумлівае гульбішча, без агледзінаў нават на царкоўнае сьвята, калі людзі замест таго, каб супакоіцца ў душы, спакушаліся на танныя весялосьці.

Праз тысячу гадоў, на захадзе XX стагодзьдзя *Няміга* зноў сабрала крывавае жніво.

## Няpускі

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Калі адна мая знаёмая напрыканцы 1970-х наведала Беласточчыну, адным з галоўных уражаньняў было наступнае: тамтэйшыя беларусы цьвердзілі, што яны *рускія*. «Дык вы расейцы?» — пыталася мая знаёмая. «Не, мы не маскалі», — адказвалі тыя.

У беластоцкіх слова *рускі* было прывязанае да праваслаўя — *рускай* (але не расейскай) веры.

Зусім іншае значэньне слова *нярускі* мела ў БССР, дзе словы *рускі* і *расеец* былі поўнымі сынонімамі. «*Што ты як нярускі!*» — казалі чалавеку, які рабіў нешта не паводле агульнапры-

нятых у пэўнай сытуацыі і ў пэўным асяродзьдзі нормаў. «*Сем раз нярускі*» — характарызавалі асобу дзіўных, незразумелых паводзінаў.

*Нярускім* мог быць названы нават той, хто гаварыў па-беларуску або на трасянцы. «Гавары на нармальнам языку. *Што ты як нярускі?*» — почасту чуў беларускамоўны грамадзянін ад местачковага трасяначніка.

Індывід, які ўжываў згаданыя фразы, як бы адразу сам станавіўся *рускім*, што ў СССР азначала — вышэйшым сярод аднолькавых, лепшым сярод роўных. Слова *нярускі* нельга перакласьці на іншыя мовы сьвету. Калі б, скажам, у той самай Югаславіі харвату сказалі: «Што ты як ня сэрб», — той бы, напэўна, з годнасьцю адказаў: «А я й ня сэрб!»

Са зьяўленьнем *новых рускіх*, пасьля развалу СССР, мелі б зьявіцца й новыя беларусы. На жаль, гэтага, за вельмі рэдкім выняткам, не адбылося, а таму й няма *новага нярускага*, які мог бы сказаць: «Я — беларус!»

# О

## Орган

*Сяргей Дубавец*

Калі ў сярэдзіне 1980-х мне давялося працаваць у сакратарыяце газэты «Гомельская праўда», я ня раз чуў ад рэдактара «пастановачную» фразу: «Вы працуеце ў *органе абкому партыі*!» Ключавым тут было слова *орган*, а сама фраза заключала ў сабе адначасова і папрок, і заклік. *Орган* увасабляў нечую неабмежаваную ўладу. Прычым калі *орган* вымаўляўся ў множным ліку, гэтая ўлада рабілася яшчэ й таемнай. Калі кагосьці забіралі *органы*, лёс небаракі быў незайздросны. Калі нехта *працаваў у органах*, ён станавіўся першым, каго баяліся, і апошнім, да каго зьвярталіся ў самай важнай патрэбе.

Парадокс заключаўся ў тым, што *орган* абазначаў яшчэ й розныя часткі чалавечага цела. У кожнага з нас былі СВАЕ *органы — зроку* і *слыху*, *нюху* і *дотыку*. Былі таксама і *палавыя органы*, што ў савецкай рэчаіснасьці і сыстэме стэрэатыпаў магло зрабіць сытуацыю з удзелам слова *орган* пікантнай. Прычым усё было ў лексычным сэнсе неяк пераблытана: *органы* ўтваралі *арганізм*, а з *арганізмаў* вырасталі *арганізацыі*...

З спробаў «беларусізаваць» *орган* прыгадваецца хіба што прыстаўное *в-* на пачатку слова. Слуцкая раёнка 1937 году на першай старонцы апісвала «*палавыя ворганы кныра*» — гэта была сур'ёзная асьветніцкая праца зь сялянствам, якому належала ў сьвятле рашэньняў *партыйных органаў* павялічыць пагалоўе сьвіней.

Сёньня ў жывым беларускім маўленьні слова *орган* стараюцца пазьбягаць, на розныя лады падшукваючы яму заменьнікі. Дэмакратычныя газэты перасталі быць *органамі пэўных арганізацыяў*, *органы ўлады* найчасьцей называюцца ўстановамі... Хіба што ў арганізьме яшчэ пакуль падаюць прыкметы жыцьця *органы нюху і дотыку*.

# П

## Падаткі

*Рыгор Барадулін*

*Падаткі*... Слова гэтае наводзіла жах на кожнага чалавека, і ў першыя гады бальшавіцкай улады, і асабліва пасьля вайны 1941—45 гадоў. Кажу «пасьля вайны», а на думку прыходзіць, што вайна бальшавікоў з народам ніколі і не канчалася.

*Падаткі* — *аддаваць, падаць, даніна, подаць*. І міласьціна — таксама *подаўка*.

*Падаткамі*, ды такімі вялікімі, абкладаліся аднаасобнікі, саматужнікі, каб змусіць іх ісьці ў калгасны прыгон, у першабытную арцель-сябрыну. *Падаткамі* абкладалася ўсё — ад жывёлы да расьліны: каровы й сьвіньні, куры й трусяняты, яблыні й вішні, кусты агрэсту й клубніцаў.

За нясплату *падаткаў* забіралі апошнюю кароўку, карміцельку ўсёй сям'і, гаспадар якой загінуў на фронце ці ў партызанах. Хадзіў нават сумны жарт: шкілет — самы прыкладны савецкі *падаткаплатнік*, бо здаў мяса, воўну, яйцы...

Другой паводле жаху фігурай пасьля энкавэдыста быў *падатковы інспэктар*. Гэта ён у суправаджэньні ўчастковага міліцыянта вёў за сабою лямант, роспач. Гэта яго клялі мёрт-

вымі клятамі, хоць ён быў толькі выканаўца скурадзёрнай улады. І хадзіла сумная загадка: не сабакі, а брэшуць і кусаюць за пяткі. Хто? — *Падаткі*.

## Падарожжа

*Сяргей Шупа*

*Падарожжа* — слова кніжнае. Звычайна ніхто з нас, ні з нашых блізкіх і знаёмых у *падарожжы* не бывае. Звычайна мы ходзім на прагулянкі, у вандроўкі, езьдзім у паездкі, туры, ваяжы — але не ў *падарожжы*. У *падарожжы* людзі выпраўляліся даўней — для гэткіх людзей Скарына некалі выдаў «Малую *падарожную* кніжыцу».

Прамовіўшы слова *падарожжа*, мы надаем апавяданьню спэцыфічны сэнс — таемны, містычны, іранічны, паэтычны. Часта гэтак называюцца кнігі: «*Падарожжа* ў XIX стагодзьдзе» Адама Мальдзіса — пра пошукі пагублянага ў мінуўшчыне беларускага сусьвету. «*Падарожжа* на новую зямлю» Міхася Зарэцкага 1929 году — пра пошукі прымроенай Беларусі, якой яна магла б быць, калі б пайшла несавецкім шляхам.

*Падарожжа* этымалягічна — гэта стан быцьця ў дарозе. Найбліжэй яно стаіць да польскага *podróż*, на манер якога, пэўна, і было ўтворанае. І яшчэ *падарожжа* — знак супольнага руху: з тымі, каму з табой *па дарозе*. І тут, мабыць, закладзена найглыбейшая беларуская сымболіка гэтага слова. Беларускае *Падарожжа* — гэта бясконцыя пошукі саміх сябе ў прасторы й часе, бясконцы шлях да сваёй сутнасьці.

# Падаянка

*Валянціна Мароз*

Янка Брыль са слоў сталінскага вязьня Міколы Хведаровіча занатаваў такое: «Жанчыны ня толькі ехалі за мужамі ў ссылку, але і каля турмаў далёкіх некаторыя аціраліся, куды б яго ні перавялі. *Падаянкі* перадавалі».

Слова *падаянка* ў Брылёвым кантэксьце — харчовая *перадача* вязьню, а можа й ахоўніку, каб ласкавейшы быў. У нашай мікалаеўскай гаворцы спрадвеку існавала *падаянка* толькі са значэньнем «хабар» — тое, што прызначана чужому. Але за савецкім часам у вёсках стала распаўсюджвацца асуджальна-ацэначнае: «Цяперашнім часам гарадзкія дзеці летам да бацькоў прыяжджаюць аддыхаць, а зімою — *падаянкі* браць». Тут маюць на ўвазе сала, мяса, сыр ды масла. Атрымліваецца нешта накшталт савецкае харчразьвёрсткі, толькі экспрапрыююць не наезныя чужакі, а свае крэўныя.

*Падаянка* пакуль знаходзіцца па-за беларускімі лексыкаграфічнымі даведнікамі. А якасьць і вартасьць гэтага шматзначнага слова паказвае на ягоную функцыянальную прыдатнасьць у сучасным беларускім асяродку. І найвыразьней бачыцца, што актуалізавацца будзе значэньне «хабар». Бо вельмі ж увішна навучыліся беларусы прапаноўваць сваё, не адчуваючы пагрозы ад суседзяў-заграбайлаў. І дажыліся да таго, што *падаянкаю* ў руках у пустадомка сталася сама наша Краіна-Беларусь.

# Пазыкі

*Рыгор Барадулін*

*Пазычаць* — значыць браць у некага на пэўны час ці грошы, ці што з гаспадаркі. Але аддаць назад *пазычанае* — трэба. Вярнуць ці гэтулькі ж, колькі бралася-*пазычалася*, ці з адсоткамі — гэта ўжо як дамаўляліся. Бо: калі вінен — аддаць павінен.

У *пазычанта* мусіць быць на вуснах мёд, хоць на сэрцы — лёд. Як просяць, тады і жнуць, і косяць. *Пазыкі* ня ходзяць безьязыкі.

*Пазычаць* яшчэ азначае і пажадаць. Той, хто *пазычаў*, звычайна жадаў дабра таму, каму *пазычаў*. *Пазыка* — рэч добраахвотная. Кожны вольны *пазычаць*, даць у доўг нешта ці ня даць. Бо часам усё ішло, бы ў згодзе з прымаўкай: аддаў рукамі, а хадзі нагамі. Хочаш займець злосьніка — *пазыч* грошай.

Бальшавікамі *пазыка* была ўзьведзеная ў дзяржаўны ранг. Называлася яна добраахвотнай, а ў сапраўднасьці была абавязкова-прымусовай. Колькі за гады так званых пяцігодак было аб’яўлена *дзяржаўных пазыкаў*, выпушчана аблігацый! Прымушалі падпісвацца нават школьнікаў. Памятаю, як плакала мама, калі яе падпісвалі на ўвесь галодны аклад прыбіральніцы. Плацілі ёй нейкія 30 рублёў, і гэтыя 30 вылічваліся на працягу году.

Колькі ні *пазычала* савецкая ўлада — назад не вяртала. Аддавалі рукамі, а хадзіць нагамі не было куды.

## Палітынфармацыя

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Палітынфармацыя* — гэта казкі жыцьця.

Тлумачальны пяцітамовік беларускай мовы падае: *палітынфармацыя* — гэта «паведамленьне пра бягучыя палітычныя падзеі ўнутрыдзяржаўнага і міжнароднага жыцьця». Гучыць бяскрыўдна, як Сі-Эн-Эн ці Бі-Бі-Сі, і таму жыхар XXI стагодзьдзя, напэўна, не даўмеецца, што *палітынфармацыя* — гэта час, адабраны ў чалавека дзеля добраахвотна-прымусовай палітычнай адукацыі, якая мелаператварыць яго ў будаўніка камунізму. У катэгорыю будаўнікоў не траплялі немаўляты і глухія пэнсіянэры. Праз катаргу *палітынфармацыі* праходзіла ўсё насельніцтва краіны. *Палітынфармацыі* чыталіся дзе заўгодна: у ленінскіх пакоях, чырвоных кутках, школах, рабочых бытоўках, на палявым стане і нават у космасе. *Палітынфармацыю* можна было ігнараваць, але нельга было прапусьціць. Пасьля адпаведных *палітынфармацыяў* увесь савецкі народ спачатку да бяспамяцтва любіў, а потым люта ненавідзеў югаслаўскага лідэра Ёсіпа Броза Тыта, кітайскага Мао Цзэдуна, сваіх Цішку Гартнага, Васіля Шаранговіча, Міколу Галадзеда... Пасьля *палітынфармацыяў* савецкі чалавек разумеў, як і чаму апынулася ды пачало ўжываць сілу савецкае войска ў братніх Вугоршчыне (1956) і Чэхаславаччыне (1968), а таксама ў нябратнім Аўганістане. *Палітынфарматары* ніколі не памыляліся...

Казкі жыцьця — савецкія казкі для дарослых.

# Паліцай

*Леанід Галубовіч*

Слова *паліцай* у мяне як у паэта выклікае далёкую асацыяцыю з *паліцай*. А вось слова *міліцыя* асацыюецца як з дубінкай, так і з мыліцай.

Яшчэ з маленства ўбівалі ў нашыя галовы: *паліцыя* і *паліцыянты* — гэта чужое і варожае, а «наша міліцыя нас сьцеражэ». Асабліва ў п'яных і цёмных закутках, дадаў бы я ад сябе.

Аднак і па сёньня ніхто ў маёй вёсцы ня скажа нічога дрэннага пра былога *паліцая*, майго далёкага дзядзьку Мікалая, што ахоўваў сваё і людзкое ад партызанскіх рабункаў. І ўсе толькі зайздросьцяць, як добра ён дажывае век у Брытанскім каралеўстве, пішучы ім лісты на іх матчынай мове, якую яны смакуюць, перачытваючы вечарамі ў хаце маёй цёткі Мані.

Сястра ж цёткі жыве ў Маскве, на Кашырскай шашы, побач з падарваным домам, і ўсё кляне тую іх міліцыю. Там жа побач, у Люберцах, служыў міліцыянтам мой колішні аднаклясьнік Валодзя. Ахоўваў не сваё і ня так, як трэба. Дык цяпер сядзіць у адной камэры са сваімі расейскімі супольнікамі.

А мае знаёмцы браты Грушы служаць у раённай міліцыі, выслужваюцца перад начальствам, хоць блізкія людзі і шэпчуцца, што хлопцы «хорам грушы абтрасаюць»: «Тутэйшыя: чужое абтрасуць, а сваё і затопчуць».

Карацей кажучы, *паліцыя* ахоўвае людзей у дзяржаве, а міліцыя — дзяржаву ад людзей. І дзе

пануе закон, там *паліцыя* незаўважная, а дзе беззаконьне — там зь міліцыяй не разьмінуцца.

О, як я сумую па сваім далёкім дзядзьку Мікалаю...

## Паляк

*Юрась Бушлякоў*

*Паляк* — *польскі* чалавек, у ягоным нацыянальным назове чуецца *поле*. Этнонім *паляк* паявіўся ў далёкім XI стагодзьдзі, *паляк* — ад *poljaninъ*, так зваўся жыхар Велікапольшчы: і адтуль, дзе Познань, Быдгашч, Гнезна, шырылася імя й стала агульным назовам *палякаў*.

Беларусы стагодзьдзямі ведалі *палякаў* як *ляхаў* — гэтае імя суадносілася зь *лядам*. *Ляхі* — насельнікі вольных ад лесу прасьцягаў — *лядаў*. Людзі зь ляскага краю сяліліся ў нас яшчэ да Крэўскае уніі. І нашыя продкі ведалі, па чым пазнаць такога чалавека. Казалі: *па тым, што на чэраве ў ляха бляха*. І прыглядаліся, і вучыліся ў ляхаў, напрыклад, у тых мазурскіх буднікаў, якія прыйшлі ў наш край на лясны промысел і асталяваліся на Палесьсі. А польская мова, займеўшы на нашай зямлі правы, насычалася сокамі мовы беларускае...

І з польскім уплывам прыбаўлялася ў нас палякаў. Аднак і даўней, і ў новы час нямала палякаў парабілася зь беларусаў. У XX стагодзьдзі мэтады былі або адміністрацыйныя, або касьцельныя. «*Будзь паляк, як людзі, інакш — дрэнна будзе*», — у вершы Вінцука Адважнага

крычыць гэтак жонка мужу — у заходнебеларускай вёсцы за польскім часам ідзе перапіс... Пасьля вайны, праређжаныя савецкімі высылкамі, колішнія польскія грамадзяне двойчы масава выяжджалі ў Польшчу. Колькі сярод тых рэпатрыянтаў было беларусаў, якія між двух камуністычных рэжымаў выбіралі польскі, ніхто дакладна ня скажа...

Гавораць, што чалавек, які ня ведае гісторыі, асуджаны на тое, каб перажыць яе зноў. На шчасьце, у раскіданых па краіне даўнейшых шляхецкіх вёсках нярэдка сустрэнеш людзей, якія, цэнячы сваю польскасьць, памятаюць пра беларускую Бацькаўшчыну й не забываюцца на клопат сваіх пачціvых папярэднікаў — стаяць за сваю й за нашую свабоду.

## Паляндвіца

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Клясычны беларускі стол. На ім сярод іншага бульба, хлеб, капуста, кілбасы. Асаблівае месца на гэтым стале займае *паляндвіца*, *паляндрыца* альбо *паляндзьвіца*. Той, хто аднойчы скаштаваў хоць бы скрылёк гэтага чырванаватага вэнджанага ці сяўранага, або, як цяпер кажуць, вяленага мяса, той пры наступнай нагодзе абярэ яго за сталом у ліку першых.

У жыцьці беларусаў *паляндвіца* заўсёды адыгрывала адну істотную ролю. Яна стаяла ў ліку тых нешматлікіх прадуктаў, якія былі і на магнацкім, і на шляхецкім, і на сялянскім сталах.

Вось толькі багацейшыя мелі яе, калі хацелі, а беднейшыя — на сьвята. *Паляндвіцу* найчасьцей ужывалі летам. Побач з кіндзюком, сяўранымі кумпякамі і кілбасамі яна лёгка дажывала да наступных Калядаў, калі зноў рэзалі вепрука, бралі паляндвіцу, салілі, націралі часнаком, перцам ды іншымі духмянасьцямі, абвязвалі палатном і вешалі ў сухім месцы...

*Паляндвіца* — адзін з тых рэдкіх прадуктаў, якія, патрапіўшы на гарадзкі расейскі стол, не губляў свайго беларускага імя. Чаму? Бо ніхто з нашых усходніх суседзяў гэткага ласунку папросту ня робіць. Відаць, таму памыліўся аўтар «Этымалягічнага слоўніка расейскай мовы» Макс Фасмэр, які напісаў, што *паляндвіца* робіцца зь ялавічыны.

Злучыў з правінцыяй сталіцу,
На стол паклаўшы *паляндвіцу*, —

напісаў адзін з нашых паэтаў, і да гэтых радкоў, далібог, цяжка нешта дадаць.

## Паляшук

*Андрэй Дынько*

Казка пра *палешукоў* і палевікоў, беларускі міт пра вынаходзтва калёсаў і плыта, выводзіць *паляшуцкі* род ад старэйшага з добрых братоў, цалкам станоўчага, толькі ня кемлівага і не энэргічнага. Ён застаўся жыць у пушчы, бо стаміўся выцярэбліваць зь нетраў. Так і цяпер жывуць, — падсумоўвае казка.

Для географаў *Палесьсе* — гэта шырокая паласа, ад Падляшша аж пад Калугу. Калі, аднак, спытацца ў старэйшых людзей, не прыбітых той каляніяльнай мадэрнізацыяй, якую Беларусь перажыла ў апошнім стагодзьдзі, дзе жывуць *палешукі*, — дык пад Берасьцем адкажуць: «То там, за лісом, кулу Малурыты». Зь берагоў Рыты вас адашлюць за Дывін, з Дывіну — над Прыпяць, і гэтак далей.

*Палешукі* жывуць скрозь — і нідзе. Як адзначаюць этнографы, у беларускім Заходнім Палесьсі самі сябе называюць *палешукамі* толькі ў пары вёсак на паўднёвай Піншчыне.

Ёсьць у слове *паляшук* нешта непачэснае. Нездарма апантаны ідэяй стварэньня чацьвертай усходнеславянскай нацыі авантурыст Мікола Шаляговіч пры канцы 80-х не рашыўся выкарыстоўваць этнонім *палешукі*, уваскрашаючы летапісных яцьвягаў.

Калі ў Якуба Коласа дзед — жыхар зусім не паўднёвай Піншчыны — кажа: «*Палешукі* мы, а не чалавекі», — ён, відавочна, прамаўляе, што называецца, не сваім ротам. Ён паўтарае чужыя словы, агучвае ідэалягемы калянізатараў, навязаныя тутэйшым людзям, якія зацята не хацелі сябе называць ніяк.

*Паляшук*, у каляніяльным значэньні гэтага слова, гэта не драўлянін, а дрыгавіч. Гэта — істота з дрыгвы, цемры, нішчымніцы. Бязмоўнае, дагістарычнае стварэньне, якое магутны асьвечаны расейскі або савецкі арол, усадзіўшы кіпцюры ў сьпіну, выцягвае з багны, пераўтварае. Мэліяруе, то бо паляпшае. Людзей на балоце прымусілі бачыць сябе нічым не адрознымі ад

расейцаў. Нічым, апроч сваёй забітасьці і адсталасьці.

Акадэмічны тлумачальны слоўнік на слова *паляшук* дае цудоўны прыклад з драматурга, а ў вайну — рэдактара часопісу «Партызанская дубінка» Гурскага: «Вы — сібірак? Не. *Паляшук*».

## Памяць

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Памяць* — гэта я, і *памяць* — гэта мы.

*Памяць*, як і людзі, бывае вечнай і кароткай, маторнай і зрокавай, слабой і моцнай.

Савецкая школа ўжывала чалавечую *памяць* для выхаваньня будаўнікоў камунізму і таму патрабавала ведаць *на памяць* клятву юнага піянэра, колькасьць ордэнаў на сьцягу камсамолу, склад палітбюро ЦК КПСС, вершы пра Леніна. Але ў сапраўднасьці гэта была *антыпамяць*, у якой гублялася *памяць* пра вартае.

У той самы час яна, як магла, вытручвала гістарычную памяць народу, выбівала з *памяці* ягоную нацыянальную сьвядомасьць. У выніку *памяць* беларуса пакрысе бяднела: зь яе вылятаі несавецкія падзеі, імёны народных герояў, зь яе вылятала родная мова і нацыянальныя арыенціры. Спытайце ў беларуса, да прыкладу, якога вялікага паэта ён можа назваць без разважаў, і вы, у бальшыні выпадкаў, пачуеце імя чалавека з суседняй дзяржавы.

Адна зь першых гістарычных кніжак пра

нашу гісторыю (для чытача 80-х) называлася «*Памяць* пра легенды». Аўтар Кастусь Тарасаў, схаваўшыся за слова *легенды*, вярнуў *памяць*.

Кароткі пэрыяд вяртаньня *памяці* пасьля развалу СССР напоўніў *памяць* іншым зьместам і пачаў патрабаваць прыпомніць ня толькі забытае супольнае, але й прыватнае: спазнаць свой радавод, вызначыць сваё месца ў гісторыі свайго народу і адсюль — у сёньняшняй рэальнасьці.

Нашая *памяць* цяпер — гэта ўжо іншая *памяць*, *памяць*, у якой жывуць бітва пад Воршай і шляхецкая вольніца, БНР і Слуцкі збройны чын, Курапаты і Чарнобыль, змаганьне за нацыянальную школу і разагнаныя ўладамі дэманстрацыі.

## Парадак

*Ігар Бабкоў*

У Беларусі *парадак* наводзілі пераважна чужынцы. Самі беларусы ўладкоўваліся і прыладжваліся, але марна. Як толькі яны вярталіся ў свой родны кут, да іх прыходзіў з захаду ці з усходу новы *парадак*. І ўсё даводзілася пачынаць нанава.

У выніку ў самім слове за стагодзьдзі назьбіралася столькі агрэсіі, гвалту, бязладзьдзя і беззаконьня, што ніхто зь сёньняшніх дэмакратычных беларускіх палітыкаў не адважваецца яго ўжываць. Затое ўжываюць недэмакратычныя і небеларускія.

Зрэшты, словазлучэньне *навесьці парадак* —

каляніяльная калька з расейскага палітычнага мысьленьня. У Расеі ўжо тры стагодзьдзі «*парадак* наводзяць» цары і рэвалюцыянэры, камуністычная намэнклятура і посткамуністычная алігархія. Цяпер за гэтую справу ўзяліся генэралы.

У Беларусі ў хаце *прыбіраюць* і *прыбіраюцца*, дзяржаву *выбудоўваюць*, з праблемамі *даюць сабе рады*. Таму, як паказвае практыка, чым болей у Беларусі парадку, тым менш згоды і тым больш міліцыі.

## Партызан

*Міхась Скобла*

Францускае слова *партызан* прыжылося ў беларускай мове, утварыўшы цэлы куст аднакаранёвікаў: *партызаніць*, *партызанскі*, *партызаншчына*...

Пасьля Другое сусьветнае вайны Беларусь у «дружнай сям'і рэспублік-сясьцёр» назвалі «рэспублікай-*партызанкай*».

Славуты купалаўскі верш-праклямацыя «*Партызаны*, *партызаны*, беларускія сыны...» як бы нагадваў *савецкім партызанам* пра *партызанаў іншых*, напрыклад, пра зеленадубаўцаў, якія ў 1920-х гадох змагаліся з бальшавікамі за адзіную непадзельную і незалежную Беларусь.

Пра савецкіх *партызанаў* напісаныя цэлыя бібліятэкі ўхвальных мэмуараў. Але сымбалічна, што першым *партызанскім* летапісцам у Беларусі выступіў небезьвядомы Цанава — наркам

нутраных справаў — на чыім сумленьні тысячы нявінных ахвяраў.

У безьлічы мэмуарных хваласьпеваў ці не адзіным за савецкім часам дысанансам выглядае верш Ларысы Геніюш:

*Партызаны* ж, тыя *партызаны*,
Што ім сёлы, енк і боль людзкі,
толькі б мосьцік недзе быў узарваны
ды ляцелі з рэйкаў цягнікі.

Да гэтай пары ў беларускіх лясох захаваліся *партызанскія* зямлянкі.

А сьпелыя бары — нашы саборы,
а белакурыя гаі — нашы сьвятліцы.

І заўжды гатовыя абараніць беларусаў самаахвярныя бярозы ды сосны — *партызанскія* сёстры.

## Пашпарт

*Алена Ціхановіч*

З *пашпартам* беларусы сталі жыць толькі ў XX стагодзьдзі. Першапачаткова, у позьнім Сярэднявеччы, слова *пашпарт* азначала дазвол на праход, праезд.

Савецкі *пашпарт* у 30-я гады пачаў уводзіцца для больш строгага парадку ўліку і кантролю. Вяскоўцам *пашпартоў* не давалі аж да 50-х — тым самым калгасы трымалі іх ва ўмовах прыгоннага права.

Шматлікія *пашпартысты* й *пашпартыст-*

*кі* на сваіх *пашпартных* сталох вялі заўзятую перакоўку ўсіх нацыянальных традыцыяў іменаслову на адзін лад: так нарадзіліся раней нечуваныя звароты «Нурсултан Абішэвіч» ці «Ўрал Рамдракавіч». Так і беларускі Янка, ці Ян, застаўся толькі ў песьні. Векавечныя радаводныя дрэвы пайшлі ў сукі... Як казаў паэт:

Каб не ўніжаць аўтарытэту,
Ён Рэпу справіў на Рэппо.

Савецкі *пашпарт*, як і мараль, меў двайное аблічча: адзін нутраны, другі — замежны. Даўно заўважана: чырвоны *пашпарт* памежнікі ў Эўропе бяруць, як жабу. Уладальнікі новага, сіняга *пашпарта*, як кажуць, «з капустаю» на вокладцы, падарожнічаюць ня з большай прыемнасьцю. На старонках гэтага дакумэнта шукаюць ня толькі належную візу, але й дзіўны запіс: «*Пашпарт* прыгодны для шматразовых выездаў ува ўсе краіны сьвету». Адзін польскі памежнік, пабачыўшы гэта, заўважыў калегу: «Напэўна, у іх ёсьць і *пашпарты*, прыгодныя, каб ставіць на іх патэльні».

*Пашпарт* з «Пагоняй» не пасьпеў стаць пазнавальным на межах. Але тыя, хто яго прыхаваў, берагуць для XXI стагодзьдзя.

## Паэт

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Калі на пачатку 90-х у Беларусь пачалі прыяжджаць дзеці нашых эмігрантаў, яны заўважылі, што *паэты* тут вядомыя так, як у

краінах іхнага пражываньня кіназоркі альбо рок-сьпевакі. Гэта, вядома, перабольшаньне, але ў ім ёсьць рацыянальнае зерне. Цяжка адшукаць у Беларусі чалавека, які не назваў бы двух-трох майстроў нашай *паэзіі*. У той самы час лёгка адшукаць таго, хто блытае Купалу і Коласа альбо ніколі ня чуў пра Алеся Гаруна ці Макара Краўцова.

У той самы час ня кожны заняты саветчык назаве імя аўтара БССРаўскага гімну Міхася Клімковіча, гэтаксама як заняты камуніст ня ведае, што ягоны партыйны гімн «Інтэрнацыянал» ёсьць у беларускім перакладзе таго самага Купалы.

*Паэта*, *паэтка*, *паэзія*, *паэтычны*, *апаэтызаваны*. Усе яны маюць аднаго грэцкага продка — слова ποιητής, што больш-менш адпавядае нашаму *пясьняр*.

## Пекла

*Міхась Скобла*

У 1937 годзе рыхтавалася чарговае пісьмо Сталіну ад савецкага народу. На гэты раз правадыру білі чалом беларусы. Але іхнае прызнаньне пад пільным вокам выдавала на дывэрсію: на вялікай чырвонай кнізе золатам было выціснута «Вялікаму Сталіну ад беларускага народу». Адпаведныя службы сьцямілі, што загаловак будзе чытацца ў Маскве, і ў саюзную сталіцу «*ад*» беларускага народу не паехаў. Паехаў «*от*»,

дзеля якога ўвесь эпічны ліст працоўных быў перакладзены на расейскую мову.

Так бацька народаў і не зазнаў нашага *пекла*, напісанага шасьцю паэтамі і падпісанага двума мільёнамі грамадзянаў Савецкай Беларусі.

Пакуль ліст выдрукавалі 20-тысячным накладам, двое з аўтараў і тысячы падпісантаў ужо сядзелі. Кожны *пякельнаю* працаю ў кар’еры ці на лесапавале набліжаў прыйсьце камуністычнага раю, кожнага ганялі як Марку па *пекле*.

Геенаю вогненай, дзе гаспадарыць пачварны Люцыпар з паплечнікамі-*пякельнікамі*, палохалі дзяцей і пужаліся самі. Людзі казалі: «*Хто курыць — таго да пекла тураць, а хто нюхае — той сам да пекла трухае*».

Адна вясковая бабулька называла могілкі раем і пра пярэбары пад вечныя сосны казала з палёгкай. А ўсё таму, што жыцьцё падавалася ёй сапраўдным *пеклам*.

Хапала *пеклаваньня* ў жыцьці. Ці не таму беларусы з асэнсаваньнем *пекла* ў мастацтве трохі прыпазьніліся.

Толькі ў 1990-я гады прачыталі па-беларуску Дантава *пекла*, а мастак Алесь Пушкін намаляваў сваё *пекла* на сьценах царквы ў родным мястэчку Бабры. Вернікі засталіся задаволеныя і Таемнай Вячэрай, і выявамі апекуна храму сьвятога Міколы Цудатворцы. А вось вялікая фрэска, на якой паказаны Страшны Суд, выклікала ў настаяцеля царквы пэўную насьцярогу, дакладней, фрагмэнт фрэскі, дзе ў *пекле* ў адпаведнай кампаніі апынуўся чалавек — лысы, вусаты ды пры гальштуку. Той самы, што называе сябе праваслаўным атэістам.

# Пераклад

*Ян Максімюк*

Папрасіць «*перакласьці* кніжку з паліцы на стол» можам любога чалавека, прытым з абсалютнай упэўненасьцю, што кожны раз атрымаем такі самы вынік «*перакладу*», калі толькі чалавек захоча выканаць нашу просьбу. Папрасіць «*перакласьці* кніжку зь нямецкай на беларускую» можам далёка ня ўсіх, а прытым без найменшага спадзеву, што вынік дзеяньняў атрымаецца аднолькавы ў кожнага *перакладчыка*. У гэтым сэнсе літаратурны *пераклад* — непаўторны, як і сам арыгінал.

Няма рэцэпту, як зрабіць добры *пераклад*. Усе *перакладчыкі* шукаюць свайго ўласнага шляху паміж полюсамі доўгага ланцужка дыхатамічных правілаў. Прыкладам: а) *пераклад* павінен перадаваць словы арыгіналу — *пераклад* павінен перадаваць ідэі арыгіналу; б) *пераклад* павінен адлюстроўваць стыль аўтара — *пераклад* павінен адлюстроўваць стыль *перакладчыка*; в) *пераклад* павінен чытацца як тэкст, сучасны эпосе аўтара — *пераклад* павінен чытацца як тэкст, сучасны эпосе *перакладчыка*; г) *перакладчык* можа дадаць нешта ад сябе — *перакладчыку* нельга такога рабіць. І так далей, і да таго падобнае.

Ясна тут адно: калі б у *перакладзе* ішлося пра зьмену словаў аднае мовы на словы іншае, ён наўрад ці меў бы якую-небудзь цікавасьць як для чытачоў, так і для саміх *перакладчыкаў*. *Перакладаецца* заўсёды нешта значна большае за словы, фразы й абзацы — *перакладаецца*

сьвет, закадаваны ў адной мове, на яго адпаведнік у іншай мове. Дзьвюхмоўны слоўнік у гэтай працы — усяго адзін з дапаможнікаў, прытым, мабыць, ня самы важны.

Гісторыя беларускага літаратурнага *перакладу* — гэта ўваднячас і гісторыя інтэлектуальнага змаганьня за захаваньне свайго беларускага сьвету ў сусьвеце нацыянальных культураў. Гэта перш-наперш змаганьне за тое, каб ня зжэр беларускага сьвету сьвет расейскі. Каб ня зьнікла назусім беларуская ўражлівасьць да сусьвету, якая знаходзіць сваё выяўленьне ў самабытным беларускім слове. Каб беларусам ня трэ было шукаць адпаведнага беларускага слова праз расейска-беларускі (ці, можа, польска-беларускі альбо ангельска-беларускі) слоўнік.

## Печ

*Рыгор Барадулін*

*Печ* — бадай ці не галава ўсёй хаце, хіба што покуць можа зь ёй зраўнавацца па важнасьці, але покуць — больш ганаровае паняцьце. Нездарма ж гавораць: танцаваць трэба ад *печкі*. Корань слова зразумелы — ад *пячы*, *выпякаць*. Першаснае прызваньне *печы* — *выпечы* хлеб, рознае *печыва*. Толькі «гад печаны» не ад *печы* паходзіць.

У *печы* гатаваліся стравы, *печ* грэла хату, і ад *печы* ішоў цёплы дух. *Печ* з прыхаду нечым нагадвала чалавечую галаву: чалесьнік — чало, паднябеньне, як у роце; засланка, як даланёю,

засланяла свой рот залатымі зубамі жару. Чарэнь — гэта ужо з чэравам сваяк. У пяколку ў попеле ахоўваліся гарачыя вугалькі, ад якіх курцы прыкурвалі, зь якіх будзілі агонь: падпаліць лучынай лучнік, распаліць на чарэні ў *печы*.

*Печка* была зімовым курортам, пра гэта ў «Тарасе на Парнасе» — Зэўс «грэў на *печы* стары плечы ды нешта ў барадзе шукаў». Альбо ў народных прыпеўках: «А на *печы* пры лучыне дзеўкі грошы палічылі, налічылі шастака і купілі мужыка. А на *печы* пры лучыне маці грошы палічылі, налічылі кучку і купілі сучку». Асучасьненая *печ* — гэта грубка, пазьней камін. Клалі печы *печнікі*. Сапраўды на *печы* добрыя рэчы. Печ ласкава грэе і ўспаміны.

## Піва

*Аляксандар Лукашук*

Халоднае, сьвежае, неразбаўленае, густое, бурштынавае, бочкавае, пеннае — памятаеце рэкляму: *піце піва пеннае*!

Што добра пад *піва*? Сушаны лешчык, салёны абаранак, вараныя ракі, сяброўская гутарка пра ўсё на сьвеце.

*Піва* прыдатнае для ацэнак: *зь ім піва ня зварыш* — не дагаворысься, не паразумеесься. А вось выправіцца «*да Абрама на піва*» значыць — да праайцоў, на той сьвет. Хоць на тым сьвеце, паводле наяўных зьвестак, *піва* няма — там амброзія (тым, хто заслужыў). У Бібліі *піва* ня згадваецца ані разу, хоць у Чэхіі можна купіць

кухаль з тэкстам *піўнога* варыянту малітвы «Ойча наш».

*Піўніцай* на працягу XX стагодзьдзя ў Беларусі называлі адмысловы склеп для захоўваньня *піва*, квасу, малака, гародніны; *піўніцы* былі драўляныя і мураваныя. *Піва* зь *піўніцы*, пэўна, смачнейшае, чымся зь сёньняшняй жалезнай лядоўні.

Бровары — даўняя прыкмета беларускіх мястэчак. Неяк адзін слуцкі патрыёт хваліўся: раней казалі «*піва* няма, толькі слуцкае», а цяпер слуцкае *піва* — самае смачнае. *Піва* ня ёсьць для беларусаў нацыянальным напоем, як для чэхаў ці баварцаў, дзе вараць тысячы гатункаў і выпіваюць сотні літраў за год, наладжваюць *піўныя сьвяты* ды *піўныя путчы*. Але ў Беларусі апошнім часам *піва* становіцца прадметам нацыянальнай гордасьці: наша *піва* — лепшае за расейскае, смачнейшае за польскае, таньнейшае за літоўскае.

*Піва* — паказчык таго, што ўсё ў парадку, пацІху, як цяпер кажуць — нармалёва.

*Хадзем на піва!*

## Пляцоўка

*Анатоль Вярцінскі*

Дзіцячая, будаўнічая, стартавая і пасадачная... Меншая сястра *пляцу*. Праўда, зь іншым функцыянальным прызначэньнем.

Калі ўзяць *пляцоўку дзіцячую*, то ў адрозьненьне ад *пляцу*, які мае чамусьці ўласьцівасьць

induced перaтвaрaцца іншым разам з *пляцу* Волі, Незалежнасьці ў *пляц* няволі і залежнасьці, быць месцам, дзе дарослыя дзядзькі — яны ж правадыры — праводзяць вайсковыя парады ды ладзяць агляды сваіх сілаў на страх унутраным і замежным ворагам, — у адрозьненьне ад гэтага *дзіцячая пляцоўка* зь яе горкамі, лесьвічкамі, карусэлямі зьяўляецца, наадварот, месцам, дзе юныя грамадзяне могуць свабодна гуляць і забаўляцца ды аднaчасова атрымліваць навыкі, так бы мовіць, мірнага суіснаваньня, урокі таго, як жыць у згодзе і паразуменьні адно з адным.

Што датычыць *пляцоўкі будаўнічай*, то незалежна ад яе памераў і тапаграфіі тут усё вырашае адзін чыньнік — хто будоўлю заказвае, хто праектуе, ну і, вядома ж, хто прараб — вольны будаўнік ці раб. У першым выпадку будзе ўзьведзены трывалы і дыхтоўны дом. У другім — пабудаваная з горам напалам якая-небудзь хаціна-камуналка, якая пры першым жа землятрусе дасьць трэшчыны або разваліцца зусім.

*Пляцоўка стартавая* і *ўзьлётная, пляцоўка пасадачная*. Яны часта не супадаюць, не атаясамліваюцца, што і меў на ўвазе народ, калі казаў: высока падляцеў, ды нізка сеў; прыехаў тузам, а паехаў з канфузам; няпраўдай можна далёка пайсьці і ўвесь сьвет абысьці, а назад дадому зь ёй ня вернесься.

# Постаць

*Леанід Галубовіч*

Яшчэ зь вясковага дзяцінства помню — зіма, шарая гадзіна, а ты адзін у хаце, замкнуты знадворку, бездапаможны, галодны, сплаканы. Усё ўзіраесься ў сутоннае акно, і вой як ёкае тваё дзіцячае сэрца, калі раптам за шыбаю прамільгне знаёмая *постаць* маці або бацькі. Гэта й ёсьць твае найпершыя *постаці*...

Па часе давядуць яны табе, што ўсякае жыцьцё даецца з Боскай ласкі. І ўжо Бог стане той тваёй патаемнай *постацьцю*, якая жыцьме ў табе толькі за кошт веры. І будзе велічнай нагэтулькі, наколькі моцнай будзе гэтая вера.

За згаданымі трыма зьявяцца *постаці* тваіх школьных настаўнікаў, якія ў сваю чаргу адкрыюць табе *постаці* слынных людзей навукі, культуры й гісторыі. Сярод іх будзе шмат чужых і часовых імёнаў. Такіх, як Іван Жахлівы, Сувораў, Маркс і Энгельс, Ленін і Сталін, Дзяржынскі...

І ўсё ж паступова, як з туману, пачнуць выяўляцца й свае, пасоўваючы чужых наўзбоч памяці. Так увойдуць у тваё жыцьцё Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, Ларыса Геніюш, Уладзімер Караткевіч.

Больш за 40 гадоў мінула з той шарай зімовай гадзіны... І цяжка паверыць, што пішу я гэтыя словы ў Менску, у сваёй кватэры на вуліцы Кастуся Каліноўскага, што ў мяне ёсьць дачка-пяціклясьніца, зь якой можна своеасабліва

пакалямбурыць наконт яе ўзаемаадносінаў з падлеткамі.

— Каго любіш? — пытаюся.

— Люблю Беларусь! — не міргнуўшы вокам, какетліва вольнічае яна.

— Тады ўзаемна, — кажу я не без іроніі, але з падтэкстам.

Так, спакваля, у чалавечым жыцьці паўстае й самая важная *постаць* — Айчыны.

## Прадразьвёрстка

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

У беларускай літаратуры ёсьць мёртвае слова *харчразьвёрстка*, што ў народзе заўсёды называлі *прадразьвёрсткай*. Чужая зьява — чужое слова. Нялюбыя, зьненавідныя.

*Разьвёрстка* — плянавае разьмеркаваньне чаго-небудзь. Адсюль *прадразьвёрстка* — плянавае разьмеркаваньне прадуктаў харчаваньня, якому ў бальшавікоў папярэднічала канфіскацыя гэтых самых прадуктаў. Таму *прадразьвёрстку* праводзілі ўзброеныя *прадатрады*. У савецкай літаратуры пісалася, што гэтыя атрады складаліся з прыемных маладых людзей-рамантыкаў, якія марылі пра сусьветную рэвалюцыю і дзеля яе не шкадавалі ні сябе, ні іншых. Гісторыя ж сьведчыць, што гэтыя «рамантыкі» пакідалі пасьля сябе галодных, знэрваваных людзей, якія нярэдка бралі ў рукі зброю і ішлі ў лес, каб адтуль давесьці рамантыкам, што жыцьцё — больш празаічная і сур’ёзная рэч.

Савецкая гістарычная навука называла гэтых людзей бандытамі, а беларуская вёска чакала ад гэтых партызанаў заступніцтва.

Едзе, едзе *прадразьвёрстка*,
Ужо вёска блізка,
А на самым першым возе
Сядзіць камуністы.
Цьвіце, цьвіце чарамшына,
А ў ёй балахоўцы.
Парубалі *прадразьвёрстку*
Маладыя хлопцы.

## Прайдзісьвет

*Рыгор Барадулін*

Ад мамы памятаю: «Сьвет хітрасьцю *пройдзеш* — назад ня вернесься».

*Прайдзісьвет* — кажуць на чалавека, які любіць ашукаць, абхітрыць, збрахаць, нагаварыць сем бочак арыштантаў, шмат абяцаць, але нічога ня спраўдзіць.

Раней часьцей ужывалася слова *пройда*, *прайдоха*. Чытаем у краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны Бялькевіча: «Ой, *пройда* гэста баба!». У слоўніку беларускае мовы Насовіча: «Гэты *пройда* ўсё знаіць. Глядзі, не кажы нічога нашаму *пройду*!».

*Пройда* яшчэ і ў значэньні «ня так перакажа» і «прадасьць». Зноў жа ў слоўніку Насовіча таксама пасьля *пройды* стаіць слова *прайдзі-сьвет*. Праз злучок напісана. І даецца тлумачэньне:

«вопытны хітрэц, *прайдоха*» — «*Прайдзі-сьвета* гэтага нічым не спанталычыш, не спаймаеш».

Самыя выбітныя беларускія майстры прыгожага пісьменства ўжывалі і ўжываюць слова *прайдзісьвет* з адмоўным адценьнем. Апошнім часам слова *прайдзісьвет* крыху пацесьнена словам *прахвост*. *Прахвост* ад нямецкага *Profoss* — асоба на вайсковых караблях, якая сочыць, каб пільнаваліся статуту, і карае парушальнікаў.

Адно слова цягне за сабою цэлы куст словаў. Блізкае да *прайдзісьвета* слова *баламут*. Цікава, як мяне заўсёды папраўляла мама: «Не баламут, а беламут», — гэта той, хто белае муціць.

## Прамень

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Слова *прамень* Вацлаў Ластоўскі памылкова выводзіць ад слова *прамы* і падае цэлы шэраг вытворных — *праменны*, *прамянее*, *прамяністы*, *прамяністасьць*, *праменьчык*...

«*Прамень*» і «Новы *прамень*» — часопісы для моладзі, друкаваныя органы Беларускага студэнцкага зямляцтва ў Чэхаславаччыне ў 1926 годзе. Сярод аўтараў выданьня — Леапольд Родзевіч і Ўладзімер Жылка.

*Прамень*. *Прамень* сонца, думкі, сьвятла, цеплыні. *Промні* ад арэолу над галавой сьвятых. *Промні* славы. *Промні* вачэй каханай... Так было спрадвеку, і нават паэты ня надта адважваліся ўжываць гэтае слова ў адмоўным значэньні. Але гэта зусім не азначае, што *промняў* цемры, зла й нядолі не існавала.

Масьціў шляхі вялікі Ленін,
Шляхі шчасьлівіць мудры Сталін,
Каб з пакаленьня ў пакаленьне
Людзкое з путаў вызваленьне
У *прамяністыя* йшло далі.

Так у 30-я гады пісаў Янка Купала. Гэтыя *прамяністыя* далі сталіся для нашага народу ня толькі *промнямі* крамлёўскіх зорак ці *промнямі* сонца на БССРаўскім гербе, яны сталіся *промнямі* чарнобыльскай радыяцыі.

## Прапіска

*Алена Ціхановіч*

*Прапіска* — знак і штамп савецкага прыгоннага права, калі толькі дзяржава вырашае, дзе чалавек мае права жыць.

Дзяржаве было выгадна, каб сяляне працавалі ў калгасах за «палачкі» — і сяляне ня мелі пашпартоў, а значыць, не маглі разьлічваць на *гарадзкую прапіску*. Маглі разьлічваць толькі тыя, хто прыяжджаў у горад па дзяржаўнай патрэбе — зноў жа, на цяжкую ці спэцыфічную працу. Напрыклад, у міліцыю ці ахову турмы вяскоўцаў бралі і бяруць.

Патрэбная *прапіска* надавала чалавеку, лічы, шляхецкую годнасьць — з-за *прапіскі* жаніліся і выходзілі замуж, што надзвычай пашырыла практыку шлюбаў з інтарэсам. Такія шлюбы, праўда, часта канчаліся разводам і перадзелам мэтраў. «Прайдзісьвет!» ці «Афэрыстка!» —

неслася ўсьлед тым, хто пакідаў няшчасныя гарадзкія сем'і ля разьбітага карыта.

Зрэшты, *прапіска*, як і ўсё ў дзяржаве, прадавалася і куплялася. Аднаслоўныя аб'явы гучалі так: *прапішу*.

Нідзе не *прапісаны* чалавек стаў ізгоем грамадзтва. Для такіх вынайшлі спэцыяльную мянушку — бомж. У бамжы была простая дарога тым, хто меў хоць пару гадоў *прапіскі «на нарах»*.

Як бамжы, так і *прапіска* перайшлі сёньняшняй Беларусі ў спадчыну: пазбыцца і таго, і другога нялёгка. Толькі моцная эканоміка і цывілізаванае заканадаўства даюць чалавеку магчымасьць выбіраць, якое месца лічыць сваім домам.

## Праўда

*Сяргей Шупа*

*Праўда* адносная, *праўда* ў кожнага свая, і ў тым, што гэтыя *праўды* могуць адмаўляць адна адну — няма нічога дзіўнага. Абсалютнаю лічыцца ісьціна.

*Праўда вочы коле* — гэта вельмі трапна. *Праўда перамагае* — а гэта ўжо вельмі сумнеўна.

Пакрыўджаныя, якія мараць пра тое, каб «людзьмі звацца», заўсёды прагныя *праўды* і справядлівасьці. Гэткіх *праўдашукальнікаў* у нас звычайна лічаць дзівакамі — прагматычны розум уважае, што ўсё роўна *ніякай праўды ня знойдзеш*, толькі клопату набярэсься на сваю галаву.

Гэтае, здавалася б, нэўтральнае слова ў найноўшай гісторыі непазьбежна набывала сацыяльную афарбоўку. У Беларусі гэта пачалося, мабыць, з «*Мужыцкай праўды*» Кастуся Каліноўскага. А ў розных савецкіх анталёгіях «Казкі народаў СССР» беларуская народная творчасьць вельмі часта была прадстаўленая толькі адной казкай — «*Ленінская праўда*». Гэткае адметна беларускае *праўдашукальніцтва* ўжо ня раз заводзіла наш народ у глухія куты гісторыі.

Слова *праўда*, як і даўгі шэраг іншых «гучных» словаў — народ, памяць, радзіма, мір — было зьняслаўленае таталітарнымі рэжымамі, асабліва геаграфічна нашым — савецкім. *Праўдаю* звалася тое, што адпавядала патрабаваньням рэжыму, нават самая апошняя мана і хлусьня. Найяскравей гэты факт выяўляўся ў форме й зьмесьце галоўнай бальшавіцкай газэты, якая так і звалася — «*Правда*». Тое, што *праўдаў* шмат і ўсе яны могуць быць розныя, давалі нам зразумець і назовы шматлікіх іншых, драбнейшых газэтаў — «*Комсомольская правда*», «*Мінская праўда*», «*Гродненская...*», «*Магілёўская...*», «*Піянерская...*». Былі «*праўды*» і іншамоўныя — літоўская «*Tiesa*» і нават орган ФРГэшных камуністаў — «*Die Wahrheit*». Аднак людзі ўсё адно ведалі, што ў гэтых «*праўдах*» *праўды* няма.

Квінтэсэнцыю таталітарнага разуменьня *праўды* трапна ўхапіў Джордж Оруэл. Установа, якая ў ягонай антыўтопіі займалася фальшаваньнем гісторыі і дэфармацыяй рэальнасьці, называлася *Міністэрствам Праўды*. Шкада, што Оруэл не дажыў да сёньняшняга дня — як бы хацелася прагулянца зь ім па менскіх праспэктах...

# Праўда

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Праўда адна*, але *ў кожнага свая праўда*.

*Праўда* паходзіць ад стараславянскага слова *правъ*, якое мае безьліч значэньняў і вытворных.

*У нагах праўды няма* — кажуць таму, хто *ходзіць у пошуках праўды*.

*Шукальнікі праўды* найчасьцей былі першымі кандыдатамі ў турмы, на высылку, на расстрэл.

*Па праўдзе кажучы*, ня кожны хоча *глядзець праўдзе ў вочы*, бо *праўда вочы коле... Што праўда, то праўда...*

У XIX стагодзьдзі наш народ меў адну *праўду: «Мужыцкую»*. У XX-м стала многа маленькіх *праўдаў*: «*Сельская праўда*» — у Жабінцы, «*Дняпроўская...*» — у Дуброўне, «*Дзьвінская...*» — у Дрысе, у Нароўлі — «*Прыпяцкая...*», у Астраўцы — «*Астравецкая...*», у Пінску — «*Палеская...*». «*Ленінскіх праўдаў*» было дзьве: адна ў Віцебску, другая — у Ельску. Але ўсе гэтыя тутэйшыя «*праўды*» мелі за першакрыніцу адзіную — маскоўскую.

*Горкая праўда, чыстая праўда, голая праўда, сьвятая праўда*.

XX стагодзьдзе пакіне па сабе *праўду* пра Чарнобыль і Курапаты, пра Беларускую Народную Рэспубліку і Беларускую краёвую абарону, *праўду* пра камунізм і *праўду* пра РБ.

Паэты ведаюць, што рыфма адкрывае таямніцу кожнага слова... На слова *праўда* рыфмы няма.

# Праца

*Міхась Скобла*

*Працавіты, выпрацоўка, працоўны, беспрацоўны, супрацоўнік.* А мудры Насовіч падае яшчэ з паўтузіна словаў, ад якіх нашыя вушы ўжо пасьпелі адвыкнуць: *працаваньне*, *працаваны*, *працавітка* і нават *працавітачка* — гэтак называлі маладзіцу, у якой работа спорылася ў руках і якая за бяседным сталом высьпеўвала:

Гарэлачкі, акавітачкі
Дзеля мяне, *працавітачкі*...

Завіхаліся людзі на ўласнай зямлі, даглядалі сваю гаспадарку, і адносіны да *працы* былі паважныя, самавітыя. *Працуем — смак чуем, праца з балота робіць залота, праца гадуе — а лянота марнуе...*

Ды зьявіліся калгасы, і час, праведзены ў полі ці на таку, стаў называцца *працадзень*. Паводле колькасьці *працадзён* дзяржава вызначала, каго павесіць на дошку гонару, каго ўзнагародзіць мэдалём «*За працоўную доблесьць*», а каго й зрабіць нават *Героем сацыялістычнай працы*.

Слова *праца* ўваходзіла ў набор абавязковых ідэалягемаў. Любы кіраўнік *працоўнага* калектыву мусіў мець чырвоную кніжачку за пазухай і ведаць, што і як гаварыць у мікрафон ці перад камэрай. Як той прараб зь вершу раньняга Ўладзімера Някляева:

Давай пішы з абзацу,
Ці як у вас там звычна:
Навечна слава *працы*! БССР! І клічнік!

Але ў адным выпадку звычайнае слова *праца* ўсё ж заслугоўвае на вялікую літару. Гэткі назоў мела зэльвенская раённая газэта, дзе зрэдку зьяўляліся вершы Ларысы Геніюш.

Яшчэ пры жыцьці аўтаркі.

## Працадзень

*Уладзімер Арлоў*

*Працадзень* — слова, якое ёсьць толькі ў мовах народаў былога Савецкага Саюзу і якое архіскладана перакласьці на любую мову гэтак званага далёкага замежжа.

Тлумачальны слоўнік беларускае мовы паведамляе, што *працадзень* — гэта адзінка ўліку працы ў калгасах, якая вызначала долю калгасьнікаў у даходах.

У творчай спадчыне песьняра сацыялістычных перамогаў Петруся Броўкі ёсьць узьнёслыя радкі:

Насыпаем сваё збожжа,
Ганарымся працаднямі.
Хутка вернецца машына
І ў наступны пойдзе рэйс.

Дзе народны паэт бачыў калгасьніка, які ганарыўся сваімі *працаднямі* — застаецца загадкаю. Хіба ў вар'ятні.

Вельмі часта матэрыяльным эквівалентам *працадня* былі нават не крыха збожжа й ня колькі бульбінаў, а ўсяго толькі крывыя палачкі ў зашмальцаваным сшытку калгаснага «ўчотчыка».

Але адначасна кошт *працадня* бываў і надзвычай высокі — за падслуханую сэксотам размову пра нішчымныя калгасныя *працадні* можна было атрымаць 10 гадоў сталінскіх лягераў.

*Працадзень* сьпісалі ў архіў сацыялістычнага будаўніцтва толькі ў 60-я гады. Але калі наш унікальны рынкавы сацыялізм будзе разьвівацца хуткімі тэмпамі, зноў можна чакаць увядзеньня яшчэ зусім сьвежага ў памяці беларусаў *працадня*, пра які прыгоннае калгаснае сялянства склала па-народнаму трапную прыпеўку:

*Працадзень* наш, *працадзень*,
Зноў у сраку цэлы дзень...

## Прыблуда

*Павал Марціновіч*

Назоўнік *прыблуда*, бясспрэчна, славянскі. Як і бальшыня саміх *прыблудаў*, што стала апекаваліся ў Беларусі мас-мэдыямі, асьветаю, кнігадрукаваньнем, войскам, бясьпекаю, міліцыяй.

На схіле XX стагодзьдзя мы перажываем зорны час *прыблудаў*. «*Прыблуды* з-пад Нявы крывавай», — пісаў нацыянальны прарок.

Слова гэтае, аднак, напаўлегальнае. Рэпартэр не ўжыве яго ў «Панараме». *Прыблуда* ў тэлеэтэры ці ня выкліча нацыяналістычных асацыяцыяў, любы намёк на чужынскае нахабства — як жаба ў горле для тых, у каго ў Беларусі рэальная ўлада.

Улада, што й сама прыблукала, *прыблудзіла* да гэтых асобаў выпадкова. Як дурныя і, апроч таго, чужыя грошы. Улада ня тубыльцаў, улада *прыблудаў*.

## Прыватнік

*Рыгор Барадулін*

Лацінскае слова *privatus* — *прыватны*, неафіцыйны, пазбаўлены пасады, асаблівы, асабісты, хатні. Адсюль і *прыватнік* — самастойны, самавіты, прадпрыемец, гандляр, спэц у любой прафэсіі, які не зьвязаны зь якім бы там ні было прадпрыемствам, зь дзяржаўнай службай.

*Прыватнік* зазвычай выконвае індывідуальны заказ для пэўнай асобы альбо для якога калектыўнага заказчыка. *Прыватнік* — перш за ўсё самастойны і незалежны гаспадар. *Прыватнікі*, як і аднаасобнікі, саматужнікі, былі як ня першымі ворагамі калгаснага прыгоннага ладу. *Прыватнікаў* імкнуліся абкласьці такімі падаткамі, каб зьнішчыць іх як канкурэнтаў розным майстэрням ад дзяржавы. Бо *прыватнікі* дбалі пра якасьць. Часьцяком *прыватнікі* насілі лягерныя ватнікі, а дзяржслужбакі — кісялёвыя фракі.

У Беларусі адбылася своеасаблівая *прыватызацыя*. Як назваць яе — ці партызанскай, ці цыганскай, як на конскім базары? І зьявіліся нязвыклыя *прыватнікі* — некалькі ўладатрымцаў *прыватызавалі* цэлую дзяржаву. Гэта ўжо *прыватнікі* новага кшталту. Гэта, як некалі

называлі працаўнікоў адпаведных органаў, — «людзі асобага складу».

## Прымус

*Рыгор Барадулін*

Нават пасьля самага багатага застольля беларусы могуць сказаць: «Піць-есьці было, толькі *прымусу* не было». А *прымус* гэты жаданы, бо ласкавы. Гаспадары *мусілі*, так бы мовіць, *прымушаць* гасьцей болей піць, болей есьці ўгаворамі, прыгаворамі, прыбабунькамі. І Максім Багдановіч у «Вершах беларускага складу» пісаў:

Ды красна бяседа ня ўзорамі,  
А ласкавымі прыгаворамі;  
Не ядвабнымі абрусамі,  
А ласкавымі *прымусамі*.

Але словы па часе шматсэнсяцца, набываюць новыя адценьні.

За савецкім часам слова *прымус* набыло асноўнае значэньне. *Прымушаць* — *прымусова* заганяць у камуністычны рай. *Прымусовыя мэтады*, так бы мовіць, перавыхаваньня. *Прымусовая праца*.

І ўзьнікла новае слова — *прымусоўка*. Давалі, прысуджалі пэўны тэрмін *прымусоўкі*, працаваць за «дзякуй», будаваць «сьветлае заўтра».

За савецкім часам быў такі тэрмін — *добраахвотна-прымусова*. Жыцьцё сапраўды было, як у казцы: чым далей — тым страшней. У паэме «Над ракой Арэсай» Янка Купала пісаў:

Але ступіў тут бальшавік —
Ён зьменіць гэты край!

Чыталася дваяка: бальшавікі *прымушалі* зьмяніцца ўсё. І дасягнулі шмат. І ласкавы беларускі *прымус* рабіўся пакараньнем, утаймаваньнем бунтоўных. Калі ўзяць беларускую абрэвіятуру, дык атрымліваецца калямбурна: *прымус — пры МУС*, гэта значыцца пры Міністэрстве ўнутраных справаў.

Ня столькі сьмешна, колькі сумна.

## Прыпынак

*Валянцін Акудовіч*

У жыцьці гарадзкога чалавека, які ня мае свайго аўтатранспарту, транспартны *прыпынак* займае надзвычай істотнае месца. На *прыпынку* ля жытла ці працы чалавек бывае часьцей, чым дзе-кольвек яшчэ, акрамя жытла ці працы. З гэтага найбліжэйшы *прыпынак* псыхалягічна абжываецца як свая ўласнасьць і неўпрыкмет становіцца своеасаблівай прыватнай тэрыторыяй.

І хаця на *прыпынку* звычайна шмат людзей, аднак кожны зь іх тут застаецца сам-насам, быццам на бязьлюднай высьпе. І дзе яшчэ, як не на *прыпынку*, урбанізаваны чалавек штодня далучаецца да адкрытай прасторы вялікага космасу, ад якога ўва ўсе астатнія часы яго адгароджваюць столі і скляпеньні?

У Менску шмат каго з актыўных удзельнікаў апазыцыйных мітынгаў пасьля іхнага заканчэньня міліцыянты й так званыя «людзі ў цывільным» хапалі менавіта на *прыпынках* або паблізу іх. Можа, гэтак адбывалася менавіта таму, што нідзе чалавек далей не адгароджаны ад людзей, нідзе ён нагэтулькі адзінотны, як на *прыпынку*.

Неяк пасьля «гарачай вясны» 1996-га году я міжволі прыслухаўся да размовы двух хлопцаў, бо яны гаварылі па-беларуску. «Дык, кажаш, на якім *прыпынку* цябе хапанулі?» — запытаўся адзін. «На Чырвонаармейскай, — адказаў другі ды ў сваю чаргу пацікавіўся: — А цябе?» — «Аж на Варвашэні».

Між іншым, гэтая размова адбывалася таксама на *прыпынку*, каля станцыі мэтро «Ўсход». І я, пакуль падыходзіў тралейбус, пасьпеў падумаць: «Для многіх людзей майго пакаленьня той ці іншы *прыпынак* назаўжды застаўся ў памяці як месца першай сустрэчы з каханай. А гэтыя хлопцы ўжо ніколі не забудуць ані *прыпынку* «Чырвонаармейская», ані «Варвашэні». Бо тут іх упершыню зьняволілі за любоў да Бацькаўшчыны».

## Пуга

*Леанід Галубовіч*

Гнуткае ядлоўцавае *пужальна*, ці *пугаўё*, з прывязанай сырамяцінай — гэта й ёсьць *пуга*. Што, пэўна ж, займела свой род ад слова *пужаць*.

І хоць бальшыня з нас *пужаныя*, ды хочацца верыць, што ня ўсе мы запалоханыя.

Посьвіст сырамяціны помны нам, асабліва вяскоўцам, ад малых гадоў. *Пужкі* са сьвістам апускаліся на азадкі рагатай скаціны, на сьпіны задыханых коней, якіх прысьпешвалі балаголы, седзячы ў грузных павозках. Бо менавіта пастухі й фурманы мелі свае *пугі* і валодалі правамі на карыстаньне імі.

Аднак некаторыя лупцавалі бедную скаціну вельмі жорстка й беспрычынна — ці то з уласнай дурноты, ці то з плебэйскай фанабэрыі.

Так бацьку майго люта біў фашыстоўскі баўэр у Нямеччыне, а пасьля, разьюшаны ад сівухі, бацька сам няшчадна біў маю маці. Затым ужо білі мяне.

Цяпер б’юць маіх знаёмых на дэманстрацыях, і сам я, бываючы не ў гуморы, раблю прачостку сваёй шкадлівай дачцэ.

І ўжо ня важна — хто каго й чым б’е: *пугаю*, дубінкаю, кулаком ці абразьлівым словам.

Няўжо бяз *пугі* мы ня можам і ня хочам зрушвацца са сваіх месцаў? Дарма што 15 гадоў запар гаварылі нам пра свабоду й дэмакратыю. Аказалася — марна й безвынікова. Як *пугаю* па вадзе.

Словам, бяз *пужкі* ў нас зноў застой.

О, фурманы, вазьніцы, пастухі, паганятыя — не выпускайце ж з рук *пужак* сваіх! Каб не застойваўся чалавек! І не затойваўся народ.

Доўгая й пякучая, як памяць, сырамятная *пуга* хай ня дасьць супыну вечнаму руху.

# Путч

*Уладзімер Арлоў*

Слова паходзіць ад нямецкага *Putsch* і азначае спробу дзяржаўнага перавароту.

Пасьля няўдалага гітлераўскага піўнога *путчу* і прыходу да ўлады чорных палкоўнікаў у Грэцыі Заходняя Эўропа гучных *путчаў* ня ведала. *Путчы* адбываліся пераважна ў Афрыцы, Азіі ды Лацінскай Амэрыцы, дзе іх часам бывала, як грыбоў у дажджлівую восень.

Але пры канцы стагодзьдзя выявілася, што такі экзатычны плод, як *путч*, можа высьпець і ў нашых геаграфічных шыротах. У жніўні 1991 году на практыцы даведаліся пра *путч* і народы Савецкага Саюзу, які ўжо рыхтаваўся «даць дуба».

Кажуць, у буфэце менскага Дому ўраду тады вокамгненна зьніклі гарэлка і каньяк. Зачыніўшыся ў кабінэтах, беларускае чынавенства ўсіх узроўняў сьвяткавала капцы перабудове.

Палітолягі схільныя лічыць *путчам* і антыканстытуцыйны лістападаўскі пераварот 1996 году ў Беларусі.

Наступствы пераможных *путчаў* ува ўсіх кутках сьвету аднолькавыя: захоп улады, дыктатура, рэпрэсіі, зьнікненьне актыўных апазыцыянэраў.

*Путчысты* панічна баяцца адзіноты. *Путчысты* сьняць кепскія сны. *Путчысты* ведаюць, што іх чакае або ўчынены былымі хаўрусьнікамі новы *путч*, або зьдзейсьненая народам рэвалюцыя. Вынік звычайна аднолькавы — турэмная камэра і прысуд.

# Пыл

*Анатоль Вярцінскі*

Чаго добрага, а *пылу* ў беларусаў заўсёды было досыць. *Пыльныя* сьцяжыны-дарогі, *пыльныя* пятачкі-вулачкі, *пыльныя* ляды, палеткі ды гэтыя самыя выратавальныя соткі.

А яшчэ беларусам пускалі слоўны *пыл* у вочы, пудрылі мазгі розныя дабрадзеі. Многіх сьцерлі і ў лягерны *пыл*. *Пыл* той, тыя попел і прах балюча стукаюць у нашыя сэрцы.

Выпала на долю беларусу зьведаць больш, чым каму-небудзь, і *пылу* радыяактыўнага, чарнобыльскага, гэтых самых альфа- і бэта-часьцінак, так званых часьцінак гарачых. Мабыць, меў рацыю паэт, калі пэсымістычна зазначыў:

Змагацца з *пылам* —
Тое, што быць Пірам,
Сілаў усё меней,
А *пылу* ўсё многа:
Пірава перамога.

Ды, з другога боку, момант ісьціны надыходзіць тады, калі асядае *пыл*.

# Пяцігодка

*Вольга Караткевіч*

*Пяцігодка* — гэта пяць гадоў, пражываных савецкімі людзьмі за тры—чатыры гады, з усімі наступствамі ад перавыкананьня пляну.

У *пяцігодцы* ўсе гады аптымістычныя: трэці — вырашальны, чацьверты — вызначальны, *пяты* — канчальны. *Пяцігодка* — гэта *пяцігадовы плян* разьвіцьця народнай гаспадаркі, яскравы прыклад дасягненьняў савецкай генэтыкі, спалучэньне неспалучальнага — патрэбаў камуністычнага будаўніцтва і эканамічных законаў.

Камунізм ня зьнік, а перарадзіўся ў рынкавы сацыялізм. Кіраўнікі краіны зноўку гавораць пра *пяцігодку*. Адну беларусы ўжо пераҗылі. Наступная, відаць, завершыцца датэрмінова. «Хоць нашы колы ледзь рыпяць, а цягнуць воз батыры. Што скрасьці мусілі за *пяць* — раскралі за чатыры», — слушна заўважыў Сокалаў-Воюш.

# Р

## Раб

*Міхась Скобла*

Ледзь толькі ўзяўшы ў рукі буквар, савецкі першаклясьнік чытаў па складох: «Мы-не-*ра-бы*», — і выводзіў у пропісях пад дыктоўку настаўніцы тое ж самае, вывернутае на ліхі бок: «*Ра-бы*-ня-мы».

У падручніку па гісторыі вучань абавязкова знаходзіў выяву асілка, што ледзь ня цалкам складаўся з напружаных цяглiцаў і мусіў пэрсаніфікавацца ў вачох падлетка ў *раба*, які рве путы.

Галоўная песьня эпохі таксама пачыналася з галодных і *рабоў*. Пераствараючы «Інтэрнацыянал» па-беларуску, Купала абышоўся без *рабоў* і аднакаранёвых словаў, і верш загучаў адчувальна выразьней, чымся ягоны расейскі варыянт:

Паўстань, пракляцьцем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум збунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг!

Але кайданы й ланцугі неўзабаве зноў спат-

рэбіліся для незьлічоных ворагаў народу, што абжывалі краіну з *рабаўласьніцкім* ладам: архіпэляг ГУЛАГ.

У першыя дзесяцігодзьдзі савецкае ўлады зьявілася цэлая плойма словаў з агульным пачаткам: *раб*фак, *раб*селькоры, *раб*сіла. Савецкі народ як бы пастулова прызвычайваўся да слова *раб*.

Беларусы прызвычаіліся мо больш за астатніх, бо нават скарочаную назву сваёй краіны ўпарта пішуць не Беларусь, як таго патрабуе адпаведная норма закону, а ўсяго толькі — *РБ*.

## Рада

*Сяргей Шупа*

*Рада*. Адно з словаў, якое вызначае цывілізацыйны кантэкст Беларусі. Слова *рада* — старабеларускае, запазычанае праз польскую зь нямецкай мовы. Яно прыйшло ў Беларусь у пару эўрапеізацыі, калі нашая краіна — Вялікае Княства Літоўскае — далучылася да заходняй палітычнай культуры. Галоўны кіраўнічы орган дзяржавы атрымаў назоў *Рада княства*. Местамі кіравалі *мястовыя рады*, у іх засядалі *райцы* на чале з бурмістрамі.

Ад слова *рада* вытварылася шмат іншых — *радзіць*, *нарада*, *парада*, *дарадца*, *раднік*, *радны*. *Даць рады*, *няма рады*...

Але нашыя старадаўнія *рады* зьніклі разам з нашым Княствам. У XX стагодзьдзі на зараньні новай палітычнай эпохі на нашых землях зноў

узьніклі *рады* — Беларускай Рэспублікі. Разам зь імі завяліся і ўсходнія адпаведнікі *радаў* — *саветы*. *Саветы* прыйшлі разам з расейскай рэвалюцыяй. Само слова *савет* у расейскай мове не сваё — яно прыйшло з царкоўнаславянскай як калька з грэцкага, бізантыйскага арыгіналу. Палітычнае супрацьстаяньне *радаў* і *саветаў* ва ўмовах Беларусі адлюстроўвала барацьбу эўрапейскай і бізантыйскай палітычных традыцыяў. Перамагла ўрэшце другая, і таму даўгія гады ў беларускай мове панавалі *саветы*.

А вось нашыя суседзі гэтую барацьбу выйгралі. Украінцы і палякі ўсе саветы называлі *радамі*, літоўцы — *тарыбамі*. Толькі дысыдэнты і эміграцыя пакідалі за расейскай зьявай расейскі назоў. Тое самае адбываецца сёньня і ў нас. Усё беларускае, замежнае, усясьветнае — *рады*. Усё савецкае ці постсавецкае — *саветы*. Законны парлямэнт канца стагодзьдзя — *Вярхоўны Савет Беларусі* — гэта апошні атавізм савецкага ладу. Гэты назоў мае адысьці разам з стагодзьдзем, якое яго спарадзіла. А ў новым стагодзьдзі адгорнем новую старонку. *Дамо рады*.

## Радыё

*Рыгор Барадулін*

Адрэдагаваныя хваіны з чашачкамі й дратамі прыйшлі ў беларускія месты й мястэчкі ў 30-я гады. Аблавухія чорныя грыбы рэпрадуктараў вырасьлі над пляцамі. *Радыё* — яно й сьпявала, яно й чытала вершы, яно паведамляла навіны, а

болей за ўсё агітавала за савецкі рэжым. Гэта ж бабка казала — «пры новым прыжыме».

*Радыё* склала сур'ёзную канкурэнцыю пеўню. Па ім, па *радыё* вызначалі час, *радыё* слухалі для супакою настрою. Пра гэтае нават папеўка: «Мая мілка захварэла, ледзь нагамі рухае — толькі выйдзе на парог, *радыё* паслухае...»

Пасьля вайны кожнае, бадай што, трэцяе слова — *радыёслоўе* — было «Сталін». Жылі бедна, бацька загінуў, а тут на ўсю сьцюдзёную хату — «Сталін, Сталін, Сталін...» — араторыя. Мама вырывае вілку з разэткі ды толькі абрывіста: «...Сралін».

У 60-я праз тры дні паўтаралі літрадыёмантаж, названы вершам Максіма Танка «Выканана партыі заданьне»...

Найбольшай крамолай лічылася слухаць *радыёгаласы* — чужое *радыё*, якое казала праўду пра імпэрыю зла. Мацнеў ідэалягічны маразм, мацнеў прапагандысцкі голас *радыё*. Ажно на *радыё* Ўладзімеру Юрэвічу, які выдатна вёў перадачу «Жывое слова», дзеці прыслалі загадку: «Ня піўшы і ня еўшы, крычыць, як ашалеўшы. Хто? — Беларускае *радыё*».

## Рай

*Міхась Скобла*

Паводле ўяўленьняў старажытных беларусаў, птушкі зь першым подыхам зімы адляталі не на поўдзень, а ў *вырай*, у *рай*, апусьцелы пасьля выгнаньня Адама ды Евы. Паднябесным птушы-

ным хорам выпраўляліся ў краіны вечнага хараства і шчасьця.

У *раі* раскашавалі ня толькі *райскія* птушкі. На маляваных цыратах мастачкі Алены Кіш упоруч з экзатычнымі жывёлінамі паважна пахаджаюць і нашы цыбатыя буслы.

*Рай* быў марай беларуса пра жыцьцё ў дастатку. Пра заможнага чалавека казалі, што яму *рай адамкнуўся*. А які-небудзь здушаны працай селянін, ідучы ў нядзелю да касьцёлу ці царквы, не мінаў і карчмы, паўтараючы як апраўданьне прыказку: *рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць*.

*Рай* часам здаваўся не такім ужо недаступным. Бо нават разбойніка на крыжы суцяшаў Хрыстос: «Праўду кажу табе: сёньня ж будзеш са мною ў *раі*» (паводле Лукі Сьвятога Дабравесьця 23:43).

А Якуб Колас прызнаваўся: «Нашча чарачку кульнуць, нібы зранку ў *рай* зірнуць». Ды, кульнуўшы і зірнуўшы, беларус і ў Эдэмскім садзе працягваў жыць зямнымі турботамі і звыкла задумваў беларусізацыю *раю*. У адваротным выпадку пагражаў пакінуць блаславёнае месца, як у вершы Ўладзімера Караткевіча:

Ад палеткаў *райскіх* лёгкай ступой
Збочу я да пякельных катлоў,
Калі першы жа ангел на мове маёй
Мне ня скажа: «Братка, здароў».

За нейкай сваёй патрэбаю і сёньня ходзіць якая-небудзь бабулька па зачараваным коле: райгазэта, райвыканкам, райсабес. *Рай* і бес сутыкнуліся ў апошнім слове, а таму цяжка бабульцы дашукацца праўды.

## Раскоп

*Мікола Пачкаеў*

*Раскоп* — «месца, у якім праводзяцца археалягічныя *раскопкі* культурнага слою». Нараджаныя ў зьбезабліčаных местах і мястэчках падсавецкае Беларусі, у *раскопах* мы шукалі нашага «культурнага слою». Тады, з-пад шуфляў, нам адкрывалася адвечнае аблічча нашага нібы зруйнаванага краю, што чакаў нас гэтак доўга, а цяпер вяртаўся літаральна з падзем'я.

З *раскопу* зноў паўставалі магутныя падмуркі, карані нашае нязнанае Бацькаўшчыны — Ратуша, кляштар дамініканаў, Сьвятадухаўская царква. Тут, у Верхнім горадзе, утварылася славутая «Талака». Ад падмуркаў-каранёў пачыналася адраджэньне. З *раскопаў* мы вярнулі наш «культурны слой».

У старасьвецкай камяніцы на вуліцы Бэрнардынскай, адпрацаваўшы ў *раскопе*, мы штодня складалі нашыя шуфлі — у кутку, насупраць бел-чырвона-белых сьцягоў, якія потым несьлі на Дзяды.

## Расхадуха

*Міхась Скобла*

Апошнюю чарку за бяседным сталом у розных народаў спрадвек называлі па-align рознаму. Нашы суседзі, палякі, пілі «*czapkowego*», расейцы — вялікія аматары ўкленчыць шкляному богу —

пілі чарку «*стременную*», пры стрэмені, пасьля чаго госьць мусіў закінуць нагу на каня, пілі й «*на посошок*», стоячы на парозе.

Беларусы ж апошнюю чарку ахрысьцілі бадзёрыста —*расхадуха*, і, выпіўшы яе, павінны былі разыходзіцца па хатах. А паколькі ў савецкай імпэрыі час ад часу арганізоўваліся кампартыйна-паспалітыя рушэньні супраць п'янства, то слова *расхадуха* апынулася ў разрадзе крамольных і не патрапіла ў нарматыўныя слоўнікі. А шкада.

І сёньня на дзяржаўным радыё можна пачуць саладжавую песеньку ў выкананьні псэўдафальклёрнага гурту:

> Чарка на пасашок — на марозе кажушок,
> А за ёю новая — чарка аглаблёвая...

Зрэшты, і апошніх чарак можа быць некалькі. Асабліва калі сабралася добрая сябрына, не апарожнены дарэшты посуд на стале, а над душою, як гасьцінная гаспадыня, стаіць у думках прыказка: *пі ды еж, бо як памрэш — калом не ўвапрэш*.

Пашануйце знаёмых, выпіце аглаблёвую, а калі застольле й сапраўды мае скончыцца, узьніміце чарку-*расхадуху* за веліч і сілу беларускага духу.

## Ровар

*Ян Максімюк*

Нічога, што слова чужое, але як жа яно дарагое!

Калі табе сем гадоў і ты дастаеш ад бацькоў

сапраўдны, «дарослы» *ровар* — ты ня толькі стаесься шчасьлівым уласьнікам, якому пачынаюць зайздросьціць твае *бязроварныя* сябрукі. Ты таксама бярэш адразу некалькі прыступак у дарослясьць. Жыцьцё для цябе пачынае рухацца шпарчэй, як і ты сам у прасторы.

А калі твой *ровар* мае лапку, на якую можаш яго абаперці й паставіць дзе заўгодна, а да таго званочак, лямпачку й дынама, а яшчэ набор ключоў у адмысловай скураной сумачцы пад рамай — немагчыма адразу й прыдумаць, чаго яшчэ можна было б жадаць. Калі б жыцьцё ўвесь час было такое, як у тыя *першароварныя* дні!

У нас на Беласточчыне польскія *ровары* мелі ўсе гэтыя дадатковыя снасьці. А вось у савецкіх «веласіпедах» пад назовам «Урал», якія таксама можна было купіць у крамах у Бельску, Гайнаўцы ці нават у Нарве, не было лямпачак, дынамаў і лапак. «Уралы» былі таньнейшыя за польскія самакаты і лічыліся куды горшым набыткам. Нават узьнікла зьдзеклівая прысьпеўка пра кавалераў на «Ўралах». Рэфрэн гучаў прыблізна так: «*Каханая, чакай, я к табе прыеду рускім роварам «Урал»*». Прыехаць на ім завідна да дзяўчыны ў суседнюю вёску яшчэ было можна, але як жа вярнуцца дахаты недзе пад поўнач?

Пяшчаная разьежджаная дарога ў полі альбо лесе, зрэдзьчасу жвіроўка, у вёсках брукаванка — ня надта каб было дзе разагнацца *роварам* на Беласточчыне ў 60-я і 70-я гады. Дый цяпер асфальтовак пабольшала не нашмат. Але народ езьдзіў на *роварах* часта й густа. *Ровар* — аўтамашына дзятвы й бядоты. У згаданым часе аднаго й другога на Беласточчыне было адволі.

Дзядулі, што помнілі «першага й другога

немца», казалі, што цяперашнія рускія й польскія *ровары* — гэта барахло ў параўнаньні зь нямецкімі. «Нямецкі, о-то-то быў *ровар*!» — пераконвалі. Але колькі я ні прыглядаўся да іхніх самакатаў, на якіх яны езьдзілі нядзелькамі ў царкву, мне ніколі ня ўбачыўся ні адзін «о-то-то» *ровар*...

Мабыць, усе «о-то-то» *ровары* існуюць адно ў нейчым дзяцінстве...

## Розум

*Анатоль Вярцінскі*

Гэта тое, што перш за ўсё робіць чалавека чалавекам. Таму яго і вызначаюць як *homo sapiens*, таму мы найперш і зьяўляемся боскімі стварэньнямі. Самая сумная канстатацыя ў дачыненьні да каго-небудзь з нас: «*Бог яму розуму ня даў*». Яшчэ гавораць: «*Калі Бог хоча каго пакараць, ён пазбаўляе яго розуму*».

Праўда (гэта яшчэ адзін сумны факт), ня кожнаму дадзена жыць ды кіравацца *сваім розумам*. Менавіта сваім, уласным, а не чужым — пазычаным у суседа, у так званага старэйшага брата ці перанятым у наваяўленага правадыра.

*Розум* — пільны вартавы жыцьцёвага ладу. Сон *розуму* нараджае пачвар. Ён, *розум*, супастаўляе факты, параўноўвае зьявы, асэнсоўвае досьвед, праводзіць мяжу паміж праўдай і хлусьнёй, паміж рэальнымі рэчамі і хімэрамі, робіць высновы.

*Розум* — перадумова духоўнасьці і аснова творчасьці, стваральнай дзейнасьці. Менавіта

*розуму* належыць галоўнае інжынэрнае правіла, згодна зь якім эканоміць можна на ўсім, акрамя падмурку.

*Розум*, як нехта тонка заўважыў, ня будзе ставіць пытаньня: даганяць ці адставаць, разлучацца ці аб'ядноўвацца. Ён будзе выходзіць з таго, што лепей, а што горш, што дабро, а што зло. Ён з магчымых варыянтаў выбірае аптымальны.

На пастамэнце помніка Пушкіну, якім маскоўская мэрыя абдарыла менскія гарадзкія ўлады, некалькі дзён красаваўся напісаны юначым почыркам крылаты пушкінскі радок: «Няхай жыве *розум*, хай зьнікне імгла». Сапраўды, няхай.

## Рокаш

*Павал Марціновіч*

У мове XX стагодзьдзя *рокаш* — паўстаньне, мяцеж, забурэньне — слова архаічнае і досыць рэдкае. Ува ўжытак яно вярнулася зь лёгкай рукі Караткевіча.

*Рокаш* сваім гучаньнем выклікае ў памяці ланцужок вугорскіх словаў: чардаш, Лаяш Кошут, Каспар Бэкеш і нават гуляш. Сапраўды, яно паходзіць ад назвы поля ў Вугоршчыне, на якім ладзіліся апазыцыйныя соймы.

У 80-х гадох у Наваполацку малады бардадраджэнец падказаў тутэйшаму *рок*-гурту як бы аднакарэнную назву *рокаш*. Ці не таму гурт набыў у сваім часе вядомасьць?

Юныя паэты разьвіваюць сваю этымалёгію, як у балядзе аднаго пачаткоўца «*Рокаш*»:

> ...І з рокатам ужо імчаць паўстанцы
> Па непакорнай ранішняй зямлі.

Станіслаў Суднік, якога лёс вайскоўца закінуў быў у Казахстан, засноўвае там беларускамоўнае выданьне «*Рокаш*». У час чужынскага зьдзеку зь беларушчыны гэта быў крык, але ня енк, што жыве Беларусь. Гэта быў выклік.

Падчас новага наступу, ужо на беларускую дзяржаўнасьць і мову, спадар Суднік бярэ пад сваю апеку газэту «Наша слова».

Менскае «Наша слова» — орган ТБМ — палкоўнічкі, аднак, пахіснулі, хістанулі, зьнішчылі. Спадар Суднік аднавіў выданьне ў Лідзе — бліжэй да прашчуравых замкаў, дзе ў змрочных лёхах калісь высьпяваў не адзін *рокаш*.

Марудна, часам неўпрыкмет, слова набывае бунтоўнае моцы. Прыўкраснае слова *рокаш*.

## Рубель

*Антаніна Хатэнка*

Цяпер, зблудзіўшы ў папяровай пустыні пустых «*рублёў*», што мільённа задурваюць нам галовы, я мройна згадваю іншую, існую стыхію, увянчаную *рублём* — стыхію беларускага разнатраўя.

Бухматыя купы салодкага водару — аж вінецца ў галаве — плывуць у тумановую далеч вечароў, закалыханыя задумнай песьняю.

Толькі чутныя ў празрыстай цішы працяжныя жаночыя галасы: «Яне! Ты *рублём* добра вазок уціснуў? Каб жа мы не скаціліся!»

А *рубель* спрытна ўкладаецца акурат пасярэдзіне пахучага й мяккага раю і ахоўвае, беражэ раўнавагу. Звычайная жардзіна, якой падпарадкуюцца ганарыстыя снапы й залатая салома, і захмялелае буяньне ды раскоша зёлак, палеглых у спакой, каб не скаціцца, не зваліцца.

Куды ж мы коцімся-валімся ўсе грамадою пад уціскам бязважкага, амаль нерэальнага «*рубля*»?..

Пра тое думаць ня варта! Бо ад нашага думаньня анічога тут — у прасторы «*рубля*» — не залежыць. Ходзіць ды ходзіць сябе панам «*рубель*», які даўно стаў голым жабраком. І да свайго аднайменьніка, што трымае копы здабытку, яму, няўклюду, і носам не дастаць! Бо грошы нашыя, цяпер «*рублёвыя*», — суцэльнае расьцярэб'е.

І мы, блуканцы па сьвеце ў заробках, уцекачы ад «*рубля*», што прыціскае да долу прыніжэньня ды зьнявагі...

Як жа тут не згадаеш настальгічна-сапраўднага значэньня слова *рубель* — сілы, моцы і ўпартасьці? Як не засумуеш па тым ладзе-складзе, калі шчыльненька, сьцяблінка да сьцяблінкі, *рублём* вяршыцца заможнасьць. Якую ня дай Божа растрэсьці!

Гэтак, пэўна, і грошы маюць здольнасьць зьбіраць, назапашваць энэргію народу, укладзеную ў працу. Але нешта важнае, істотнае мы згубілі, растрэсьлі, калі расьцярушвае годнасьць «*рубель*». Мабыць, не адчуваем тае залатое сярэдзіны, дзе чынна й горда дзейсьніць сваю місію *рубель*.

# Рыба

Сяржук Сокалаў-Воюш

*Рыба*, як меркаваў Макс Фасмэр, — гэта табуістычная назва больш старажытнага *zъvь*, якім у выніку сугучнасьці са словам *зваць* рыбакі стараліся не карыстацца.

У XX стагодзьдзі *рыба*, а дакладней, выраз *пайсьці на рыбу* набыў іншае табуістычнае значэньне. *Выезд на рыбу* для мужчынаў нярэдка азначае выезд на п’янку. З вудамі, *рыбнікамі*, сачкамі і іншым *рыбацкім* прычындальлем бяруць яны яшчэ пляшачку горкай і адпачываюць недзе на беразе возера ці рачулкі. Адпачываюць ад жыцьця, дзе ў спробе разьвязаць свае праблемы почасту даводзіцца *біцца як рыба аб лёд*. Цешацца прывідам свабоды. *Чуюцца як рыба ў вадзе*, а сапраўдная *рыба* — тут ужо, казаў той, рэч дзясятая.

Усім знаёмыя выразы: *лавіць рыбу ў каламутнай вадзе*. *Ні рыба ні мяса*. *Ноччу рыбу лавіць* — кажуць пра дзіця, якое мочыцца ў ложак. *Прысьніць буйную рыбіну* — пра ўдачу.

«Вось і ўзьядналіся» — называўся гумарыстычны малюнак у адным з нумароў газэты «Літаратура і мастацтва». На малюнку вялікая *рыбіна* праглынула малую. Чытач бачыў у вялікай *рыбіне* Расею, а ў малой — Беларусь.

Тыя беларусы, якія хочуць быць больш расейцамі, чым самі расейцы, кажуць: *ріба*. «Пайду пасматрю, какая там *ріба*», — фраза, пачутая мной на полацкім базары. Тым разам *рыба* была прывазная — марская.

# Рэвалюцыя

*Віталь Тарас*

Слова *рэвалюцыя* за савецкім часам звычайна ўжывалася побач са словам *кастрычнік*. *Рэвалюцыя* паходзіць ад лацінскага *revolutio*, што ў перакладзе азначае «пераварот». Зьдзейсьніўшы яго, бальшавікі ахрысьцілі спакойны восеньскі месяц, калі, здаецца, прырода адпачывае, пачаткам новай эры. А каб не было сумневу, увялі дэкрэтны час і новы каляндар, паводле якога *кастрычніцкая рэвалюцыя* здарылася... у лістападзе.

Як мэлянхалічна пісаў Купала з нагоды 10-годзьдзя ўтварэньня БССР:

*Рэвалюцыя*. Воля.
Верх узяў пралетары...
Беларусь, як жабрачка,
Брыдзе зь «бежанства» хмарай.

Імем *рэвалюцыі* раскулачвалі й высылалі зь Беларусі ў Сібір сялянаў, зьнішчалі нацыянальную інтэлігенцыю, мову, гісторыю.

Пступова *рэвалюцыя* зрабілася штампам — звычайным, шэрым, як той восеньскі дзень, калі масы людзей у шэрай вопратцы шпацыравалі пад чырвонымі штандарамі перад аднолькавымі трыбунамі ў тысячах аднастайных з выгляду савецкіх гарадоў. З вышыні трыбунаў людзей віталі, так бы мовіць, правадыры *рэвалюцыі* — мажныя, пешчаныя, з азызлымі тварамі. І не было ў *рэвалюцыі*, як сьпявалася ў адной савецкай песьні, заканчэньня...

Потым была «перабудова», якую таксама называлі *рэвалюцыяй*.

А наагул XX стагодзьдзе атрымалася багатым на *рэвалюцыі* — навукова-тэхнічную, кампутарную, сэксуальную. Савецкага Саюзу гэты *рэвалюцыйны* «бум» як быццам не закрануў. Тлумачальны слоўнік беларускае мовы да слова *рэвалюцыя* дае такі прыклад з часопісу «Беларусь»: «Аўтаматы сыстэмы Чарвені для набіўкі запалкавых карабкоў зрабілі цэлую *рэвалюцыю* на камбінаце».

А напрыканцы стагодзьдзя выбухнулі сьпеўная *рэвалюцыя* ў краінах Балтыі ды аксамітная — у Чэхаславаччыне. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

## Рэха

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Уся гісторыя продкаў *рэхам* адгукаецца ў нашчадках. Часам гэтае *рэха* прыемнае й шчаснае, а часам горкае й балючае. *Рэха* Полацкай зямлі. *Рэха* Вялікага Княства і Беларуска-польскай канфэдэрацыі — Рэчы Паспалітай. Этапы нашае велічы, якія толькі ў выглядзе *рэха* дакаціліся да Расейскай імпэрыі і ейнага пераемніка СССР. Ёсьць у гэтым *рэху* й свая лыжка мёду, але й мёд гэты — таксама *рэха*.

Слова *рэха* прыйшло да нас з грэцкай праз лацінскую й нямецкую. Там яно было *эхам*, але недзе на парозе Беларусі затрымцела ўсхваляванае слова і, падхапіўшы вібрант [р], пачулася

народнаму вуху як *рэха*. Гучнае й раскоцістае, яно даносіць да нас сьмех, сьпеў, гамонку, роспач і крык пра дапамогу. *Рэха* заўсёды эмацыйнае, і мне часам нават дзіўна, што яно прыжылося ў ціхмяных, параўнаўча зь іншымі — скупых на адкрытыя выбуховыя эмоцыі беларусаў. Гэта, дарэчы, чувацьува ўласнабеларускіх адпаведніках *рэха* — *водгуку*, *водгульлі*, *водгаласе*, *водгаласку*, *голасе*, *адгалоску*, *адгалосьсі*, *розгаласе*, *адпеве*, *пошчаку*, *водзыўках*, *адгуку*. А вось пазычаны *рэзананс* гучыць больш жорстка. У *рэху* чуюцца *брэх*, *грэх*.

У параўнаньні з расейскім *эхо* — мяккім, згубленым у моўных цянётах, нашае *рэха* напоўненае нейкім магічным унутраным зьместам. Сядзьце самотна ў пакоі і скажыце два гэтыя словы з інтэрвалам. *Эхо*... *Рэха*... А потым шчыра прызнайцеся самому сабе, якое з двух вам бліжэйшае, якое больш зьмястоўнае, больш глыбокае.

# С

## Сабака

*Юрась Бушлякоў*

*Сабака* — жывёліна свойская. У незапомную пару прыручыў быў чалавек *сабаку*, і адгэнуль там, дзе ёсьць людзі, заўсёды знойдзецца *сабака*. Ці то з іранскіх, ці то зь цюрскіх моваў прабралася да нас само гэтае слова — *сабака*. *Адзін сабака, два сабакі* — мы гаворым па-беларуску, і нас пры гэтым выпрабоўвае, як некалі пісаў Дубавец, мужчынскі род нашага *сабакі*.

Але ж *сабака сабаку* ня роўны: ня з кожнага *сабачаняці* вырасьце пагрозьлівы *сабачуга*. Маленькага *сабачку* дык аж да сьмерці зваць будуць *шчаняткам*, а можа, *цюцькам*, *цюлікам* — пяшчотна й па-свойску. І як тут не прыхінуцца, ня зблізіцца да чалавека? Нездарма ж кажуць, што *сабака* — найлепшы чалавеку прыяцель. Людзі, праўда, ці раз на нашых вачох выяўляюць сваю падступнасьць — вытнуць *сабаку* кіем ці вышлюць паміраць у космас. Або возьмуць імя гэтае — *сабака* — і пусьцяцца ганіць ім розных нягоднікаў, злосьнікаў і шкоднікаў. Пры чым тут *сабака*? А пры тым, што не адкажа. Словам, жывецца *сабакам* па-рознаму: ёсьць нешчасьліў-

цы, а ёсьць і лёсікі. У XX стагодзьдзі беларускія *сабакі* асвойталіся ў гарадзкіх кватэрах: як быў раней *сабака* львом на сваёй вуліцы, дык цяпер прынамсі на сваім паверсе.

Выгадаваўшы *сабаку*, я добра разумею нашага Язэпа Пушчу — у варунках савецкае «свабоды» ён пісаў «*Лісты да сабакі*». «*Нашто ж мне падхалімам быць, крывіцца і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?*» — такога ня скажаш першаму-лепшаму: пра гэта дзелісься з блізкім. Язэп Пушча меў сябра. Сябра, які слухае, здольны зразумець і ня ўмее выдаваць.

## Савет

*Віталь Цыганкоў*

*Савет* — пазычаньне з расейскай, якое прыйшло ў нашую мову толькі як абазначэньне ўладнай структуры, стала абазначэньнем цэлай эпохі, ладу жыцьця. «За *саветамі*» — казалі й кажуць у Заходняй Беларусі, як «за немцамі», «за палякамі».

У слове *савет* уся гісторыя Беларусі XX стагодзьдзя — *савецкі*, *саветызацыя*, *антысавецкі*, *саўковы*.

У 20-я гады органы кіраваньня яшчэ называлі калі-нікалі нармальным словам *рада*, а саму Беларусь — *радавай*. «Чырвоным рубінам зьзяе *Радавая* Беларусь на мяжы СССР і імпэрыялістычнага Захаду» — аптымістычна абвяшчаў лёзунг. Але паступова з працэсам *саветызацыі*

жыцьця й мовы *савет* выцясьняе спрадвечную беларускую *раду*. У 1927 годзе зьяўляецца газэта «*Савецкая* Беларусь», а пасьля пачатку працэсаў над «нацдэмамі» слова *рада* ў *савецкай* Беларусі канчаткова становіцца сымбалем усяго *антысавецкага* і контрарэвалюцыйнага.

Далей гэтае выразнае разьдзяленьне толькі замацавалася й дайшло да канца 80-х, калі новыя адраджэнцы адплацілі *савету* той самай манэтай. Цяпер *савецкім* падкрэсьлена называецца ўсё расейскае й *савецкае* паводле сваёй сутнасьці й духу, а *радай* — усё беларускае й міжнароднае. Так, мы кажам: *Рада* Бясьпекі ААН, *Рада* Эўропы, *Рада* БНР, але — *Савет* вэтэранаў і, на жаль, Вярхоўны *Савет*. Памятаю, як у 1992 годзе падчас паартыкульнага абмеркаваньня тэксту новай Канстытуцыі Станіслаў Шушкевіч пераконваў дэпутатаў: сапраўды, няма слова «советовать» у беларускай мове, але *савет* настолькі замацаваўся ў нашай сьвядомасьці й рэчаіснасьці, што давайце яго пакінем. Большасьць прагаласавала за *савет* — гэта было знакам, гэта было сымбалем. Беларусь і цяпер застаецца *краінай саветаў*.

## Сала

*Алена Ціхановіч*

Праапэравалі адну жанчыну. Сказаў ёй доктар *сала* ня есьці. А яна: «Нашто ж мне, доктар, тады жыць, каб скваркі ня зьесьці?»

«*Бяз бульбы і бяз сала куса няма яды для бе-*

*ларуса*», «*Выпі чарку, зьеж скварку*» — у гэтым разуменьне здаровага падыходу да жыцьця.

*Сала* належыць рацыёну народу, які прывык цяжка і ўсмак працаваць, сытна і ўсмак пад'есьці. І заўсёды мець запас, кубелец *сала*, нацёртага часнаком, перасыпанага кменам і сольлю.

*Сала* — унівэрсальнае. На лусьце хлеба, на патэльні паміж яечняй, на ражончыку пры цяпельцы. *Сала* — гэта *сала*. Кавалак дому, узятага ў дарогу, сагрэе, накорміць, ня дасьць прапасьці. Асабліва калі дарога зьнянацку, не па сваёй волі, як высылка, этап, вайна ці турма.

Скурка ў *сале*, як прыпеў у песьні — скурку смаляць, скрабуць, чысьцяць да белага, так, каб можна было і бяззубаму дзеду ці дзіцяці даць пасмактаць. Матулі сьведчаць, што многія зь беларускіх дзяцей у ліку першых фразаў гаварылі: «Дай *шала*».

Пра беларускіх песьняроў ходзіць такі фальклёрны жарт, дасюль не друкаваны: «Якуб Колас крычаў уголас, каб Янка Купала дастаў кусок *сала*».

*Сала* зразумелае абсалютна ўва ўсіх славянскіх мовах. Яго варыянт *sadło* даў падставу меркаваць, што пайшло ўсё ад слова *садзіць*, бо *сала* — гэта тое, што садзіцца на мяса. А колькі яго села ці нарасло, мераюць пальцамі. Кажуць: такі парсюк быў, *сала* на тры пальцы. Хто разьбіраецца ў *сале*, лічыць за найлепшае *сала* з прорасьцю — бел-чырвона-белае.

# Салавей

*Рыгор Барадулін*

*Салавей* — маленькая шэранькая птушачка з анёльскім голасам. *Салаўіны* сьпеў зачароўвае, змушае забыцца на ўсё нялюдзкае й змрочнае. У няволі не сьпявае. Быццам бы, каб *салавей* сьпяваў і ў клетцы, яму выколваюць вочы — гэта ўжо мэтады вядомых органаў. *Салавей* — сымбаль паэта. Паэта ўтрапёнага, асабліва калі паэт *салаўём* заліваецца перад каханай альбо *салавее* ад няспаньня, шукаючы рыфму на запаветнае слова, рыфму сьвежую, сваю. Праўда, ад *салаўіных гаёў* у нашай паэзіі цямнее ў вачох. *Салавей* сьпявае песьні сьвету і людзям, а людзі, у сваю чаргу, пяюць песьні пра *салаўя*. Такі шчыры дуэт атрымліваецца. Песьні пра *салаўя* й самыя ўзвышаныя, кшталту:

> *Салавей, салавей*,
> Што на сьвеце саладзей,
> Ці гарэлка, ці мядок,
> А ці ў дзеўкі перадок?

У «Дэкамэроне», памятаеце, дзеўчына лавіла хлапечы *салаўя*, а ў часе хрэсьбіннай песьні дзед цікавіўся іншым:

> А дзед бабу разуваў,
> Пад ножачку паглядаў.
> — Ой, бабулька, што за зьвер,
> Я ж баюся, каб ня зьеў?
> — Ці ж ты ў лесе не бываў,
> Чорных зьвяроў не відаў,
> Ты, дзядулька, не рабей,

Гэта *птушка-салавей*.
Ён і сьвішча, і пяець,
І спакою не даець.

А згадайце аповесьць Зьмітрака Бядулі, якая так і называецца — «*Салавей*». Высякаюцца лясы, алешнікі, усё цяжэй і цяжэй *салаўю* віць гнязьдзечка. Але трэба старацца так жыць, каб у душы *салаўі* сьпявалі.

## Самагонка

*Рыгор Барадулін*

*Самагонка*, *саматужка*, *самаробка*, *юруха*, *весялуха*, *кустоўка*. Колькі ласкавых назваў для аднаго паняцьця!

*Самагонку* ў Беларусі гналі пры ўсіх рэжымах. *Катлянку* — у катлах (мела прысмак гарэлага). *Паравую* — спэцыяльнымі апаратамі рабілі. Каб стала чыстай, як сьляза, *самагонку* пераганялі праз вугаль, праз рачны пясок. У такой тонкай справе, як гнаньне *самагонкі*, вялікае значэньне меў зьмеявік.

Некалі камуністыя пачыналі новы рух у кустах-раёнах — скарачэньне свайго партыйнага апарату. Дык дзядок слухаў, слухаў лектара дый заўважыў: «Апарат яно скараціць можна, толькі зьмеевіка не чапайце».

А ў кустах-пералесках *кустоўку* гналі. Бальшавікі выдавалі ўказ за ўказам супраць *самагонкі*, а людзі сьпявалі:

*Самагоначку* мы гонім,
*Самагоначку* мы п’ем,

Нам апараты разьбіваюць,
А мы новыя куем.

Глынуўшы першаку, прыгаворвалася: *і сьвяты б паскакаў, каб самагонкі паспытаў*. *Самагонка* была й застаецца самай трывалай валютай. Яе называюць *вадкі даляр*. Гэта *самагонка* падказвае словы скакухам і пяюхам:

Ашалела галава,
Ашалелі ногі,
А каб гэтай галаве
Прычапілі рогі.

*Самагонка* можа зрабіць каго хочаш і бедным, і багатым, і бязрогім, і рагатым.

## Самазванец

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Самсон Самасуй — герой аповесьці Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» — тыповы *самазванец*, які суе сам сябе на кіраўнічыя пасады.

Звонку *самазванцы* — людзі сьціплыя. Дый навошта выхваляцца, калі плоймы падданых штодня ўзносяць цябе да нябёсаў. Але чым больш хістаецца пад нагамі глеба ў *самазванца*, тым часьцей ён пачынае блытаць «мы» і «я» — «я зрабіў», «я задумаў», «я вырашыў».

У тлумачальным слоўніку беларускае мовы знаходзім вытворныя: *самазванства* й *самазваны* — той, які самавольна, незаконна прысвоіў

сабе чужое імя, званьне. «Стрэльбай грукнуў у дзьверы, — падае слоўнік прыклад з Аркадзя Куляшова, — “Выходзь да мяне, // Гаспадар *самазваны*, на ганак!”».

## Самвыдат

*Алег Дзярновіч*

*Самвыдат* — бяз гэтага слова немагчыма ўявіць сабе гісторыі беларускай незалежнай думкі 70–80-х гадоў XX стагодзьдзя. Менавіта ў *самвыдаце* былі сфармуляваныя тыя асноўныя канцэпцыі і ідэі, якія вылучылі пазыцыі беларускага грамадзтва ў канцы 80-х — першай палове 90-х гадоў, гэта значыць у пэрыяд грамадзкага ажыўленьня і адносных свабодаў.

У беларускую мову гэтае слова прыйшло як калька з расейскага слова *самиздат*. І, у адрозьненьне ад шмат якіх іншых калек, *самвыдат* — гістарычны тэрмін, і яму, відаць, і надалей гарантавана месца ў беларускай мове. Ангельцы і французы ўвогуле не перакладаюць гэтага слова і на пісьме перадаюць яго проста лацінскімі літарамі. Большая блізкасьць расейскага і беларускага словаў *издать* і *выдаць* паўплывала на тое, што ў нашай мове гэтае слова замацавалася ў перакладной форме.

Сам жа расейскі тэрмін *самиздат* паходзіць ад «*самому себя издать*» і характарызуе незалежную *выдавецкую* актыўнасьць, найперш у Маскве і тагачасным Ленінградзе, пачынаючы з 1960-х гадоў. Расейскі *самиздат* мае багатую кніжную традыцыю, у тым ліку і перадрукаў

заходніх *выданьняў*. Быў створаны самадастатковы арэал паралельнага мастацтва. Але ў 1982–86 гадох пад хваляй рэпрэсіяў маскоўскі *самиздат* практычна зьнікае.

У Беларусі ж незалежная *выдавецкая* дзейнасьць у першай палове 80-х, наадварот, толькі актывізуецца, прычым актывізуецца праз спробы стварэньня пэрыёдыкаў. З папярэдніх гадоў мы ведаем асобныя прыклады *выдавецкай* актыўнасьці: «Блакітны ліхтар» (Наваполацак, 1971—74, да гэтага праекту меў дачыненьне Вінцэсь Мудроў), «Мілавіца» (1974—76, Уладзімер Арлоў), «Падсьнежнік» (1963—64, Мікола Ермаловіч), «Гутарка» (1975—76, таксама Мікола Ермаловіч).

А ў першай палове 80-х новыя *выданьні* зьяўляліся практычна кожны год. Што важна, ня толькі ў сталіцы, але ў Горадні, Маладэчне, Віцебску, Слоніме. У Беларусі ішоў адлік свайго часу, адрозны ад часавымярэньня ў Расеі ды іншых частках СССР. Нават тады гэта былі розныя краіны.

Гісторыя зноў пажартавала зь беларускім *самвыдатам*, ці, як яго цяпер у нас усё часьцей называюць, з пазацэнзурным друкам. У час, калі *самвыдат* меў бы сысьці з гістарычнай арэны, недзе з 1995 году ён зноў адрадзіўся ў Беларусі: як рэакцыя на ўціск свабоды слова ў розных частках краіны зьяўляецца ўсё больш новых незалежных *выданьняў*. Іхныя стваральнікі нават і ня думаюць пра афіцыйную рэгістрацыю ў найбліжэйшы час. А фонды незалежных архіваў папаўняюцца гэтым неацэнным сьведчаньнем нашае сучаснае гісторыі. Беларусь бярэ з сабой *самвыдат* у XXI стагодзьдзе.

# Самота

*Валянцін Акудовіч*

Наўрад ці яшчэ ў якой мове слова *самота* мае столькі ж, як і ў нас, сынонімаў альбо проста падобных па сэнсе словаў.

Сум, нуда, жаль, роспач, маркота, скруха, паныласьць, смутак, жальба, шкадоба, ростань, туга, адзінота... І гэта толькі тое, што згадалася адразу, а колькі засталося? Вось яшчэ адно — вусьціш. Гэта стан бязьмежнай *самоты*, калі сэрца чалавека раптам працінае жах сьмерці і небыцьця.

Але ці можам мы з гэтага казаць, што беларуская мова — гэта мова *самоты*? Мяркую, што можам. І на карысьць гэтага меркаваньня ўся беларуская паэзія, у якой, калі пільна ўгледзецца, няма нічога іншага, апроч жалю, тугі, смутку.

Долю мы выбіраем самі, лёс нам наканаваны мовай. Мы ня можам быць іншымі ад таго, чым ёсьць нашая мова. І як бы калі шчасна ні склалася для Беларусі гульня гістарычных падзеяў і на які б заможны лад аднойчы ні ўпарадкаваўся наш дабрабыт, мы назаўсёды застанемся *самотным* народам.

Дарэчы, калі хтосьці староньні пытае, чаму гэта беларусы цураюцца роднай мовы, з чаго яны на злом галавы кідаюцца ад яе хоць у якую іншую, то я зазвычай удакладняю — яны не ад мовы ўцякаюць, а ад таго лёсу, які наканаваны ім мовай.

Але і ня трэба ганіць тых, хто эміграваў ад нас у больш утульныя лёсы. Тыя людзі хутчэй

вартыя шкадобы. Бо якая гэта пакута — жыць з сэрцам, набрынялым *самотай*, і не знаходзіць, колькі ў той мове ні шукай, словаў, каб гэтую *самоту* вымавіць хаця б самому сабе.

Нездарма ў нас кажуць: лёсу на кані не аб'едзеш.

## Санацыя

*Міхась Скобла*

Першаснае значэньне слова *санацыя* для беларускага вуха гучыць зьдзекліва. Дайце веры, усталяваны начальнікам польскай дзяржавы Юзафам Пілсудзкім *санацыйны* рэжым для беларусаў-заходнікаў мусіў азначаць «аздараўленьне», «лекаваньне». *Санацыя* павінна была палекаваць беларусаў ад беларускага слова ў школах, ад беларускае казані ў касьцёлах; мелася прапісаць занядужалым насельнікам «крэсаў усходніх» антыбеларускія варшаўскія рэцэпты. А ў выніку — дарэшты выветрыць зь беларускіх галоваў подумкі пра беларускую дзяржаўнасьць. Вось дзе ўжо сапраўды «такія дактары вымуць душу без пары»!

Беларушчына заганялася ў Бярозу-Картускую, дзе чуйна драмала ў чаканьні волі. За кратамі сядзелі паэты і палітыкі, мастакі і выдаўцы, грамадоўцы і простыя грамадзяне. Таму ў *санацыі* чуецца яшчэ й сон нацыі.

Вернемся ў думках у Заходнюю Беларусь і пройдземся разам з паэтам Юркам Голубам па вуліцах Горадні, каб пачуць, як уначы каля

кляштару пры *санацыі* Польшчы «зноўку гісторыя кашляе, як прамоклы падпольшчык».

Сёньня ў будынку прыгаданага кляштару месьціцца турма, дзе эстафэту вязьняў *санацыйнага* рэжыму пераймаюць вязьні рэжыму лукашэнкаўскага, які сіліцца зацягнуць Беларусь на яшчэ адны, гэтым разам — паўночна-заходнія крэсы.

Сэрца Пілсудзкага пахаванае на віленскіх могілках Росы і прадбачліва заслоненае шматтонным, таўшчэзным панцырам труньніцы. На гладкай каменнай паверхні выразна відзён сьлед куляў — як пасьмяротная падзяка за *санацыю*.

## Саюз

*Віталь Цыганкоў*

«*Саюз* непарушны рэспублік свабодных зьяднала навекі вялікая Русь» — гэта, бадай, першая асацыяцыя, якая прыходзіць у галаву пра слова *саюз*. Пераклад гімну СССР гучыць настолькі ж ненатуральна, наколькі чужародным для беларускай мовы зьяўляецца слова *саюз*. Гэта якраз адно з тых небеларускіх па сваім паходжаньні словаў, якія займаюць неадэкватна вялікае месца ў сучаснай беларускай мове і рэчаіснасьці.

Ня менш чужародныя для беларускай дзяржаўнасьці і незалежнасьці і палітычныя зьвязы, якія называліся і называюцца словам *саюз*.

У 1990-я ў *саюзу* паступова адваёўвае пазыцыі ўведзены ў літаратурную мову ў XX стагодзьдзі *зьвяз*. Апроч таго, ужываюцца словы *злучэньне*,

*таварыства*, *аб'яднаньне*, *хаўрус*, *згуртаваньне*, *суполка*, *задзіночаньне*. Як здаецца, слова *саюз* хутка трапіць у тую ж сытуацыю, у якой апынулася роднаснае яму духам слова *савет*, што ўжываецца цяпер для азначэньня менавіта небеларускіх — савецкіх альбо расейскіх рэаліяў.

*Савецкі Саюз* застанецца *саюзам*, гэтаксама як *саюз Беларусі і Расеі*, а эўрапейскае аб'яднаньне нацыяў мы называем *Эўразьвязам*.

## Свабода

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Свабодка*, *Свабоданька* і *Свабодачка*, *Слабодка* і *Слабада*...

Добры, вольны й праўдзівы — *свабодны*. Злосны, паднявольны й хлусьлівы — *несвабодны*.

Лексыкограф Памва Бярында пісаў у XVII стагодзьдзі, што *свабода* — гэта *вольнасьць*, *свабоднасьць*, *наслаждзеньне*, *любадараваньне* і *любачэсьце*.

У 1920-я Вацлаў Ластоўскі вызначыў: «*Свабода — свая воля, вольнасьць*», і дадаў найменьне носьбітаў *свабоды*: *свабоднік*, *свабодніца*.

У 70-я пазыўнымі беларускай «*Свабоды*» былі радкі з Купалавага вершу:

Бясьсьмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!

Беларускія вернікі штодня зьвяртаюцца да Бога з адной малітвай: «Зрабі *свабоднай*, зрабі шчасьлівай краіну нашу і наш народ!»

## Сельпо

*Вінцэсь Мудроў*

*Сельпом* — слова гэтае ў гутарковай беларускай мове скланялася — называлі счарнелы, перабудаваны з кулацкай хаты гандлёвы пункт, які адначасова быў і своеасаблівым жаночым клюбам.

Жанкі штодня зьбіраліся там у чаканьні падвозу хлеба ды абменьваліся плёткамі. Дамінантнай фігурай у клюбе была загадчыца *сельпа*, зьвяртаючыся да якой нават старыя цёткі ўжывалі імя па бацьку:

— А пакажы ж ты мне, Міронаўна, вунь тую адзежыну...

Прыкладна раз на месяц у *сельпо* прывозілі гарэлку, якую вяскоўцы ў той жа дзень і раскуплялі. Загадчыца дзеля парадку адну скрыню прыхоўвала і... траціла спакой.

Праз тую гарэлку *сельпо* ўвесь час рабавалі, але рабілі гэта не вяскоўцы, а прышлы люд — мо якія мэліяратары ды электралінейшчыкі. Выкрадалі звычайна скрыню пітва ды кілё чакалядных цукерак на закуску.

Выпіўшы гарэлкі, рабаўнікі часьцяком тут жа й засыналі, прытуліўшы галовы да паточаных шашалем *сельпоўскіх* сьценаў.

З канца 60-х гадоў на вёсках пачалі ўзводзіць цагляныя крамы, але іх ужо сталі называць пагарадзкому — магазынамі. І *сельпо* такім ладам разам зь селькорамі паволі сышло ў нябыт.

## Сібір

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Шлях многіх беларусаў у ХХ стагодзьдзі пралёг праз *Сібір*. Упершыню *Сібір* прыгадваецца пэрсыдзкім гісторыкам XIII стагодзьдзя Рашыдам ад-Дынам. Адны навукоўцы лічаць гэтае слова мангольскім, другія — калмыцкім, якуцкім, табольска-татарскім або нават гунскім. Адны цьвердзяць, што так называлася старажытнае насельніцтва краю, другія — сталіца тамтэйшага ханства, трэція выводзяць *Сібір* ад слова са значэньнем зарасьніку і вільготнай мясцовасьці.

Калі Расейская імпэрыя, а потым СССР былі турмой народаў, то *Сібір* — турмой турмаў. Таму нас ня цешаць зьвесткі, што ў *Сібіры* жывуць беларусы.

Царызм высылаў туды нашых адраджэнцаў: Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка. Бальшавікі адпраўлялі туды бітым шляхам Міколу Ўлашчыка, Масея Сяднёва. Праз *Сібір* прайшоў прэзыдэнт БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Калі развальваўся СССР, людзі з палёгкаю жартавалі, што цяпер, калі *Сібір* застаўся ў іншай дзяржаве, людзей ня будзе куды высылаць.

Калі кіраўніцтва РБ узяло курс на ўзьядналаньне з Расеяй, жарт пачаў траціць сэнс.

У XXI стагодзьдзе мы ўваходзім з пэрспэктывай працягваць асваеньне яшчэ неабжытых тайговых абшараў.

Ніколі ня бачыў чалавека, які б радасна ўсьміхнуўся пры слове *Сібір*.

## Скарга

*Валянцін Акудовіч*

Што мы сапраўды добра ўмеем, дык гэта наракаць і *скардзіцца*. І так да гэтай гаротнай мовы прызвычаіліся, што цяпер ужо нават паміж сабой не гаворым, а толькі крыўдуем: на галечу, недарод, сьпёку, начальства ды іншую халеру.

Натуральна, што мы й прэзыдэнта выбіралі не па якіх там адмысловых здольнасьцях, а каб лепей за іншых умеў наракаць і *скардзіцца*... І не памыліліся ў сваім выбары. На каго ён толькі ні крыўдаваў за пару прэзыдэнцтва — на апазыцыю, паветраныя шары, NATO, прафсаюзы, засуху, карупцыю, Пазьняка, сусьветны імпэрыялізм — усяго да ранку не перабярэш.

Але, што праўда, мы таксама пяць гадоў у шапку ня спалі — як толькі на свайго абраньніка ні наракалі, да якіх толькі міжнародных супольнасьцяў ні зьвярталіся са *скаргамі* на яго...

Іншаземцы даюць веры нашым і нашага прэзыдэнта *скаргам* — абураюцца, спачуваюць, раяць. Сьмеху варта. Зрэшты, а скуль ім ведаць,

што як мы спынімся наракаць і *скардзіцца*, дык нам адразу мову адыме. Бо на іншыя словы мы ўжо невядома калі забыліся. Засталося адно на ўсе выпадкі — *скарга*.

## Склад

*Вінцэсь Мудроў*

Адметнае месца — *склад*. Кожны раз, заходзячы туды, зьведваеш хваляваньне. У прыцемку таямнічымі спарудамі вымалёўваюцца груды мяхоў і цьмяна-блізкія пізанскія вежы ўбітых адно ў адно вёдраў, ільсьняцца круглявыя бакі мэталёвых бочак, тут жа над галавой вісяць хамуты, цюлькаюць вераб'і, і ў паветры пахне прэлай аўчынай і мышамі.

У *склад* завітваюць ня проста так, а з пэўнай мэтай, трымаючы ў потнай руцэ паперку, паводле якой можна атрымаць патрэбную рэч. Загадчык *складу* заўсёды бярэ гэтую паперку без задавальненьня. Ці то таму, што яму шкада разьвітвацца з майном, ці то таму, што майно тое давядзецца шукаць у бясконцых *складзкіх* лябірынтах. І наведнік з тае прычыны пачувае сябе ня надта ёмка.

І вось дзіва дзіўнае! Нас, беларусаў, ужо ня першы год на розныя галасы запрашаюць увайсьці ў *склад* Расейскай Фэдэрацыі. *Склад* той дарэшты разрабаваны, але тое-сёе там засталося, і, убіўшыся туды, мы будзем мець дасхочу дармавой нафты, газу ды іншых даброцьцяў.

Такім чынам, *складзкія* брамы рассунутыя, шырокай плоймай, нібыта пара з лазьні, вырываецца парахавы дым, і загадчык *складу* — сівы ды прапіты дзядзька — трымае ў руцэ цяжкую завалу на знак таго, што выйсьці са *складу* Расейскай Фэдэрацыі нам ужо не давядзецца.

## Скуранка

*Рыгор Барадулін*

Слова гэтае ўвёў ува ўжытак кастрычніцкі пераварот 1917 году. *Скуранка* стала ўніформай рознага гатунку камісараў, якая іх вылучала з нармальна апранутых людзей, розьніла ды адмяжоўвала. Вядома, страх павагі не гарантуе, і тых жа пыхліва-апэрэтачных камісараў часьцяком называлі: *камісраі*.

Савецкая паэзія абрыфмавала *скуранку*, проза абманумэнталіла, драматургія абтрагедыла. Толькі ў народзе паказалі сутнасна *скуранку*:

Ведаем мы камуністых,
Ведаем бальшавікоў —
Яны ходзяць у *скуранках*,
Дзяруць *скуру* з мужыкоў.

Гэта пра *скурадзёраў*.

Мода на *скураныя* паліто й курткі находзіць хвалямі. Апошняя хваля з турэцкага рынку захлынула беларускія вуліцы. Слова *скуранка* амаль забылася, а пашырыўся назоў *куртка са скуры*, *скураная куртка*.

## Соль

*Рыгор Барадулін*

У беларусаў ёсьць такія прыслаўкі: «*І да мяса трэба закраса*» або «*Недасол у місе — перасол на сьпіне*». Бяз *солі* ў любой страве і ў любой справе прэсна. Гэта Хрыстос сказаў апосталам: «*Вы будзеце сольлю зямлі*».

Спрадвеку *соль* у Беларусі была завозная. Чумакавалі чумакі беларускія, па *соль* едучы да Чорнага мора. А як выявілася, у Беларусі сваёй *солі* залягала гэтулькі, што можна паўсьвету засаліць.

Шкада, што радовішчы *солі* знайшлі на самых багатых землях Случчыны. Па-савецку — гэта значыць па-барбарску — пачалі здабываць *соль*, сапсавалі тэрыконамі прыгожыя краявіды. Ёсьць пагроза *засаліць* землі да Балтыі. Ужо цяпер вынайдзены савецкі гібрыд — *салёная* хвалёная слуцкая бэра. Ёсьць небясьпека, што пустапарожнія шахты могуць проста абрушыцца.

*Засаліць* бы ў бочках усіх савецкіх кіраўнікоў, што так пазьдзекаваліся з багатай зямлі, каб нашчадкі памылак не паўтаралі.

## Соткі

*Алена Ціхановіч*

Яшчэ ў Коласавай «Новай зямлі», якая пісалася на пачатку XX стагодзьдзя, беларусы мералі запаветную зямлю маргамі, крыху раней — валокамі й дзесяцінамі. Усё гэта — адзінкі яшчэ

дамэтрычных сыстэм мераў: дзесяціна крыху большая за гектар, морг — гэта прыблізна дзьве траціны гектара.

У савецкі час ува ўжытак прыходзіць новая, драбнейшая мера — *сотка*, *сотая* доля гектара — 10 на 10 мэтраў. Але паколькі такі лапік зямлі для сялянскай нацыі — рэч несур'ёзная, слова замацавалася выключна ў множным ліку — *соткі*. Так пачалі называць уласныя прысядзібныя, а пазьней і дачныя надзелы, а ніяк не калгасныя. Савецкая ўлада давала ўва ўласныя рукі, як правіла, ад шасьці да пятнаццаці *сотак*.

*Соткі* — гэта працяг калектывізацыі, абезьзямельваньня гаспадара, гэта бізун і пернік усёй сацыяльнай палітыкі: нездарма стала замацаваліся выразы — *прырэзаць соткі* або *абрэзаць соткі*. Або — *адабраць соткі*.

На *сотках* і сёньня выяўляецца ня столькі сялянскасьць і працавітасьць народу, колькі яго прага да выжываньня. Жывіцца з *сотак* прыходзіцца ня толькі рабочым, настаўнікам ці пэнсіянэрам, але й былым старшыням Вярхоўнага Савету, чыя пэнсія чамусьці не падпадае пад індэксацыю.

Не сакрэт, што й мазалі беларускіх пісьменьнікаў нажываліся на *сотках*-дзялках той самай Лысай Гары, што ўвайшла ў славуты твор 70-х гадоў. Аўтар з мноства красамоўных дэталяў апісваў пагалоўнае пісьменьніцкае захапленьне градамі. З усіх іх ён вылучае хіба толькі Яўгенію Янішчыц, пра якую кажа:

А паміж іншым, анікалі —
Ні ў сьветлых снах, ні наяву —

Ні свой палац, ні *соткі* ў полі
Ня лезьлі ёй у галаву.

Прападае на *сотках*, палівае *соткі*, апалола *соткі*, хай бы тыя *соткі* прапалі — гэта найбольш частотны лексыкон кожнага дня.

*Соткі* — гэта сынонім паняцьця *свая зямля* для беларусаў канца XX стагодзьдзя.

## Сочыва

*Антаніна Хатэнка*

Калі па ўсёй краіне плыве водар сьліваў ды яблыкаў, што вараць гаспадыні — выплывае аднекуль зь нетраў памяці смачнае слова — *сочыва*. Чаму яно заблудзілася ў вяках і саступіла месца назову *варэньне* — складана зразумець. Але *варэньне* — усяго ж толькі нешта звaранае, яно не паўстае ўва ўспамінах сонечным бурштынавым смакоцьцем. Яно прыземленае, не надоранае магіяй пераўвасабленьня...

Затое *сочыва* — бруеньне, жывая сіла й гаючасьць *соку*, сакавіты пах і колер саду, ацяжэлага салодкім набыткам. Здаецца, і ня звaранае, не перапрацаванае тое сонца, утрыманае энэргіяй у яблыку. Здаецца, прамянее й сьвеціць радасьць ураджаю, а значыць — нараджэньня.

Але зьдзіўлёна ўспырхваюць вейкі ў гандлярак, як папытаеш *сочыва* — і даводзіцца даўка прамаўляць: варэньне.

Затое ўсоладзь п’юць хараство старавечных словаў маладыя павяртанцы да этнічных ка-

ранёў. Быццам бы апраўдваюць і ўваскрашаюць існыя значэньні ды гучаньні. Бывае, ганарыста залятаюць у кавярню й заказваюць — печыва! *сочыва*! марозіва! Пакутніца-афіцыянтка адно вачыма міргае.

Здаецца, ужо даўно нацыянальны арганізм ня здатны ператраўляць нашае жорсткае варэннае трасянкі. А мы ўсё зацята варым, варэнім... Замест таго, каб насалоджвацца жывымі *сокамі* мовы ды зямлі — *сочывам*.

## Спадарства

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Як толькі ні зьвярталіся адзін да аднаго нашыя людзі ў XX стагодзьдзі. Пан і пані, васпан і васпані, сам і сама, грамадзянін і грамадзянка. У пачатку стагодзьдзя Вацлаў Ластоўскі пісаў: «Апошнімі часамі маецца паварот да старога *гаспадар* як да эпітэту ў знак ветласьці». Але прыйшлі бальшавікі са сваімі «таварышамі», і паварот не адбыўся.

Слова *спадар* — старажытнае, вядомае прынамсі з XVI стагодзьдзя. Яго ўжо з 1920-х пачаў вяртаць у актыўны ўжытак Янка Станкевіч. *Спадар, спадарыня, спадарскі, спадарства*. *Спадарыч* — сын *спадара*, *спадарычна* — дачка альбо проста незамужняя жанчына, у адрозьненьне ад замужняй — *спадарыні*.

Слова *спадар* паходзіць ад праславянскага **gospodarь* і, апрача названых значэньняў, выступае ў нашай мове як сынонім слова *Госпад*.

«*Спадару* Божа, чыстая вада твая, ачысьці цела маё грэшнае», — чытаем у кітабах — рэлігійных кнігах беларускіх татараў. Асабліва актыўна слова *спадар* і вытворныя ад яго ўжываліся ў мове беларускае эміграцыі. Савецкія пасквілянты ўжывалі і ўжываюць гэтыя словы ў іранічна-зьдзеклівым сэнсе.

Затое беларус беларуса цяпер ужо інакш як *спадаром* не называе.

## Спадчына

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Спадчына* — усё тое, што мы маем ці мелі.

Існае і зьнішчанае, адноўленае і створанае, прыватнае і супольнае.

*Сумная спадчына*, *багатая спадчына*, *бедная спадчына*, *невядомая спадчына*, *неабжытая спадчына*. У кожнага народу свая *спадчына* і сваё слова: па-ўкраінску *спадщина*, па-польску *spadek*, па-літоўску *paveldas*, па-латыску *mantojums*, па-расейску *наследство*.

Беларускае слова *спадчына* стала вядомае ўсяму савецкаму народу дзякуючы песьняроўскай песьні на словы Купалы. Затое пра саму сваю *спадчыну* большасьць беларусаў па-ранейшаму ведае зусім мала. На пачатку XX стагодзьдзя наш народ пачаў абжываць сваю *спадчыну*. Працы Доўнар-Запольскага, Ластоўскага, Эпімах-Шыпілы, Карскага, Янчука, Ляўданскага, Шчакаціхіна, Сержпутоўскага паказвалі беларусу, на якой *спадчыне*, на якім грунце ён

павінен стаяць у гэтым жыцьці. Але гэтыя людзі былі рэпрэсаваныя саветамі, а адкрытую імі *спадчыну* замкнулі ў спэцсховах гісторыі.

Афіцыйнай *спадчынай* беларусаў былі абвешчаныя толькі рэакцыйны прыгнёт з боку польска-літоўскіх фэадалаў і прагрэсіўны прыгнёт з боку расейскага царызму, а таксама курная хата, лапці, каўтун у валасах і сацыялістычны росквіт. Тыя, каго такая *спадчына* не задавальняла, падлягалі зьнішчэньню.

Канец XX стагодзьдзя і развал Савецкага Саюзу адрадзілі масавую *цікавасьць да спадчыны*. *Часопіс* «*Спадчына*», *клюб* «*Спадчына*», перадача радыё «Свабода» «*Неабжытая спадчына*» — трывалыя парасткі вяртаньня, якія пачалі адраджаць нацыянальную сьвядомасьць. Але беларусы мелі неасьцярожнасьць абраць сабе ўзрослага *на савецкай спадчыне* прэзыдэнта. У XXI стагодзьдзе краіна ўрываецца з боем за свае годнасьць, імя, права, за сваю *спадчыну*, у якой жыве будучыня.

## Спакуса

*Рыгор Сітніца*

Яшчэ ад тых часінаў, калі Адам адкусіў ад забароненага яблыка, слова *спакуса* неадступна перасьледуе ягоных нашчадкаў.

*Спакуса* вабіць няўцямную малечу цягнуць у рот усялякую бліскучую і прывабную дрэнь, *спакуса* кліча падлетка, навісаючы над суседзкім

парканам чужымі, а значыць, і смачнейшымі яблыкамі.

*Спакуса* не дае заснуць палкім юначым мроям, прымушаючы гадзінамі прастойваць ля нейчага акна ці пад'езду, *спакуса* шчыміць пажадаю, *спакуса* вярэдзіць сквапнасьцю, *спакуса* соладка ные прагаю славы і ўлады.

*Спакуса* быць першым, абраным, багатым, самым галоўным, асноўным і неадольным, жаданьне валадарыць на вясковай вуліцы ці ў двары мікрараёну, панаваць сярод братвы Аўтазу, Сельгаспасёлку, Грушаўкі ці выглядаць «крутым дзедам» у вачох казармавых салаг і духаў.

*Спакуса* апярэдзіць спаборніка, падставіўшы яму нагу на спартовай дыстанцыі. Ці *спакуса* зьняславіць суперніка, ілжыва абвінаваціўшы яго ў тым, што, не адолеўшы *спакусы*, нібыта скраў на пасадзе кіраўніка краіны ажно цэлую скрыню казённых цьвікоў.

*Спакуса* пераконваць раз-пораз у тым, хто тут гаспадар, сувора грымнуць па стале ці па вуху калгаснага трактарыста, уладна паказаўшы на дзьверы абрыдлым замежным амбасадарам, а то і ўдала скарэктаваўшы кірунак залётнага паветранага шарыка.

*Спакуса* кіраваць плыняй ракі ці палётам футбольнага мячыка, «чэснымі гражданамі», «вашывымі блохамі» ды іншым «атрэб'ем».

*Спакуса* кіраваць гісторыяй, вызначаючы лёсы асобаў і лёс усяе нацыі, тым самым *спакусіўшыся* на ўладу, дадзеную толькі Богу.

Не ўвядзі нас у *спакусу*, але збаў нас ад злога...

# Сталоўка

*Віталь Цыганкоў*

*Сталоўка* (як сьцьвярджае тлумачальны слоўнік — прадпрыемства грамадзкага харчаваньня) зьявілася ў 1920-я гады як сымбаль новага сацыялістычнага побыту. Тут няма буржуазнай эксплюатацыі, ніхто не прыслугоўвае табе за сталом, ты сам падаеш сабе ежу.

Тлумачальны слоўнік ураўноўвае словы *сталовая* і *сталоўка*, але кожны тут пачуе і адчуе відавочныя адрозьненьні. *Сталоўка* гучыць больш дэмакратычна. Польская *stołówka* падобная да беларускай, а ўкраінская *їдальня* — да чэскай *jídelny*.

*Сталоўка* бывае школьная, студэнцкая, заводзкая, міністэрская. *Сталоўкі* на прадпрыемствах і ўва ўстановах былі месцам, дзе рабочыя і навуковыя супрацоўнікі праводзілі самы чаканы час працоўнага дня — абед. Цяпер у раней шматлікіх НДІ, калі яны і выжылі, *сталовак* амаль не засталося — гэтая плошча часьцей за ўсё здадзеная ў арэнду камэрцыйным фірмам. Амаль не засталося *сталовак* і на вуліцах Менску ды іншых буйных гарадоў Беларусі. Бальшыня зь іх ператварылася ў дарагія рэстараны або крамы.

Адзінае месца, дзе *сталоўкі* ня толькі захаваліся, але і часам нават палепшылі сваю якасьць, гэта дзяржаўныя міністэрствы. Першая сярод іх — у будынку Савету міністраў — галоўная *сталоўка* краіны, дзе кормяць лепш за многія рэстараны.

У 1990-я ў Беларусі, як ува ўсім сьвеце, зьявілася «*сталоўка* па-амэрыканску» — «Макдоналдз». Праўда, выбар страваў там зусім не такі багаты...

## Старасьвеччына

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Старасьвеччына* — слова, зразумелае кожнаму беларусу. Ад яго пахне памяцьцю стагодзьдзяў, магнацкімі замкамі й палацамі, шляхецкімі маёнткамі, засьценкамі й фальваркамі, гаспадарскімі сялібамі й вясковымі хатамі. Увесь побыт продкаў хаваецца ў гэтым слове з высакароднай сівізной у валасах.

«Ад некалькіх гадоў стала ў мяне звычаем выяжджаць на тыдзень-два ў які-колечы закутак Беларусі для апазнаньня роднай *старасьвеччыны*», — пачынае першую ў нашай літаратуры фантастычную аповесьць «Лябірынты» Вацлаў Ластоўскі. Гэта быў 1923 год, а ўжо праз колькі часу Андрэй Мрый укладае ў вусны бальшавіцкага кар'ерыста й недавучкі Самсона Самасуя словы пра *старасьвеччыну* і іншае буржуйскае хаўбосьце.

Мінуўшчына, даўніна, даўняе, былое, а агулам — больш як два тузіны сынонімаў у нашай мове знаходзім на *старасьвеччыну*, пры ўсяго двух вытворных: *старасьвецкасьць* і *старасьвецкі*. Савецкае мовазнаўства ўвесь час імкнулася надаць слову *старасьвеччына* нэгатыўнае адценьне. Варта пачытаць тлумачальныя слоўнікі,

у якіх побач з гэтым словам знойдзеш азначэньні: не сучасны, старамодны, адпаведны свайму (не цяперашняму) часу. Але хіба не адпавядае цяперашняму часу *старасьвецкая* капліца, *старасьвецкі* парк, урэшце, *старасьвецкі* рэцэпт якой-небудзь стравы?..

Канец стагодзьдзя пачаў вяртаць *старасьвеччыне* ейныя законныя правы. Праекты рэгенэрацыі старых мястэчак, аднаўленьня разбураных помнікаў, спробы вяртаньня каштоўнасьцяў, нарабаваных цягам фашыстоўскай і бальшавіцкай акупацыяў краю, пачалі ўлучаць *старасьвеччыну* ў нашае жыцьцё, а значыць, вяртаць народу ўсьведамленьне таго, што ён быў, ёсьць і будзе гаспадаром абшараў з такой сучаснай і такой *старасьвецкай* назвай Беларусь.

## Стома

*Валянціна Мароз*

Ясная прастата, відавочнасьць слоўных сувязяў, чамусьці да часу схаваных ад цябе, адкрываецца заўсёды як вялікае дзіва.

Так атрымалася са словам *стома* — маміным прозьвішчам, найменьнем яе немалога роду. Вельмі доўга асацыяцыі неяк зашорана скіроўваліся на адно — беларускага актора Зьдзіслава *Стому*: ці не зямляк, ці не сваяк?

А цяпер нават дзіўна, як гэта жылі сабе паасобку этымалягічна тоесныя — прозьвішча-намінацыя *Стома* ды агульны назоўнік *стома* — «страта сілы пасьля цяжкое працы альбо

душэўных мукаў». Можна меркаваць, што іх разьядноўвала актыўная функцыянальнасьць аднакаранёвых *стомленасьць, утомленасьць, натомленасьць*. Вось і сучаснае беларускае грамадзтва зноў спаралізавала беспрасьветная *стомленасьць* — ад невырашальных праблемаў, дробязных турботаў, распаношанае гнюсаты й хамства. *Стомленасьць стамляе*, ператвараючы жыцьцё ў шэры будзень.

Выйсьце ж трэба шукаць у ахвярнай *стоме*, празь якую мы, беларусы, нарэшце мусім дайсьці да пераможнае радасьці. Спатрэбяцца немалыя высілкі, каб выпраставаць з апатычнае *стомленасьці* на выратавальную *стому*. Бо *стома* — гэта стан здаволенасьці пасьля рупнае, цяжкое працы. *Стома* — засяроджанасьць на сабе, калі ўся істота настроеная на адпачынак дзеля вяртаньня выдаткаванае сілы-моцы. *Стома* навальваецца, але ня здушвае, яна ўзносіць, уздымае, растварае ў слодычы адпачынку.

Сэмантычна раскошнае ды завершанае *стома* змушае да рамантычна-высокага асэнсаваньня беларускага прозьвішча, да якога й ты далучаны праз свайго, хто ведае ў якім калене, продка.

## Страха

*Ігар Бабкоў*

Чатыры сьцяны — гэта яшчэ ня ўсё. Мацуюцца бэлькі, падымаюцца кроквы, і, нарэшце, прыходзяць *страхары* са сваімі *страхоўкамі* ды кладуць *страху*. Нават калі *страха* новая,

празь яе дыхае неба. *Падстрэшша* — першая прыступка да неба, блізкае і жаданае беларускае надзем’е.

Чаго толькі ні захоўвалася на *падстрэшшах* нашых хат — кнігі, старыя газэты, непатрэбныя рэчы. У першай палове XX стагодзьдзя пад *страху* пераносілі кросны і верацёны, старую вопратку, сапсаваныя гадзіньнікі і прасы. Пасьля Другой сусьветнай вайны туды патраплялі беларускія граматыкі і міжваенныя кнігі, рукапісы і цэлыя архівы.

*Падстрэшшы* і сталіся нашымі архівамі. Мышы і ластаўкі там былі архівістамі, кот — дырэктарам, а кроплі дажджу — наведнікамі і чытачамі. Потым усё гэта расшуквалася і рэстаўравалася, пераносілася ў музэі і прыватныя калекцыі. Мы паступова забывалі пра паходжаньне нашых скарбаў, забывалі пра *страху* і *падстрэшша*. Але варта памятаць: ад войнаў і ператрусаў, ад ідэалягічных кампаніяў і разнастайных чыстак у Беларусі ёсьць свой прытулак — на *падстрэшшы*, бліжэй да неба.

## Струк

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Струк* — слова-загадка. Паходжаньне гэтага назоўніка, вядомага ўсім славянскім мовам, незразумелае. Так, прынамсі, цьвердзяць аўтарытэтныя навуковыя выданьні.

Напраўду, ніводнае зь іх не фіксуе таго значэньня слова, якое бытуе ці не ўва ўсёй Беларусі.

*Струк* — мужчынскі чэлес, найчасьцей — дзіцячы. Выглядае, што якраз гэтае значэньне звузіла ўжываньне слова ў нашай тапаніміцы й антрапаніміцы.

Вытворнае ад *струк* — *струкаваты* — мае ў нашай мове тры тлумачэньні: «які мае шмат *струкоў*», «падобны да *струка*» і «кучаравы». З гэтым апошнім і была зьвязаная прозва бацькі Якуба Коласа — Міхала Міцкевіча, які меў кучаравыя валасы і адпаведную мянушку — *Струк*.

Напэўна, ад падобнай мянушкі ўтварылася некалі прозьвішча *Струкаў*. Рыгор *Струкаў* — вайсковы дзяяч часоў грамадзянскай і Другой сусьветнай войнаў з-пад Вяліжу. Расеец Дзьмітры *Струкаў* — мастак, археоляг і пэдагог XIX стагодзьдзя, які ў 1864 годзе наладзіў экспэдыцыю ў Беларусь, у часе якой зрабіў безьліч замалёвак нашых мястэчак, помнікаў архітэктуры, іншых збудаваньняў, а таксама твораў выяўленчага мастацтва, сярод якіх і Крыж Эўфрасіньні Полацкай — адна зь нямногіх мастацкіх выяваў гэтага хрысьціянскага сымбалю Беларусі. Міхал *Струк* — герой мінулай вайны з Мазыршчыны.

У беларускай тапаніміцы гэтае слова досыць рэдкае. *Струкачоў* — вёска недалёка ад Кармы, і *Струкі* — каля Буда-Кашалёва на Гомельшчыне.

# Стрэс

*Антаніна Хатэнка*

Сьцятыя вусны, сьціснутыя кулакі, сашчэпленыя сківіцы, ссунутыя пахмурыя бровы, сасьлеплыя вочы — *стрэс*. Растрэскваюцца маланкі *стрэсу*, і мы гасім іх у сабе: каб не высоўваліся. Мы, бывае,ператвараемся ў хісткія цені, здатныя адно жаліцца й стагнаць, — берагаем ад сябе вакольле. Куды ж ужо болей — здагадваемся — ва *ўстрэсеную* прастору нашае Краіны? Уключаеш радыё — трасе *стрэс*, высьвечваеш экран тэлевізара — навальваецца *стрэс*, разгортваеш газэту — апынаесься ў абдоймах *стрэсу*. Вытрасены зьмест жыцьця, абтрэсенае, як дзічкі, хараство. *Стрэс* палымяным дротам абвівае цела. *Стрэс*, аголены боль, як выгінастая зьмяюка, прапаўзае між мною й людзьмі, мною й родам, між мною й дзяржаваю. *Стрэс* расшчапляецца на агністыя аскепкі, якія колка ўпіваюцца ў думкі. *Стрэс* выкручваецца, зьвіваецца злоснаю спружыністаю гадаўкаю, скрыўджана шыпіць і надзімаецца, адтапырыўшы ганарлівыя вусы. Пякучае драціньне *стрэсу* абпальвае душы. Сьвет робіцца чырвона-пагрозьлівым альбо шэра-чорным. Ад злосьці ажно зялёна ўваччу. *Стрэс* бязьлітасна б'е токам пагрозаў ды зманлівых абяцанак па валокнах нэрваў. Мы — Краіна пад высокаю напругаю. А *стрэс* пакручвае сабе хвастом ды ўладарыць — правіць шыкоўны баль нашага растрасаньня, аздобленага смакаўною трасянкаю. А як добра *стрэсу* валодаць *раСТРЭСеным* на маўклі-

выя панурыя купкі баязьліўцамі! Ці ж мы ўсе *страсянутыя*? Нясем жа, рассыпаем па сьвеце *ўСТРЭСеныя* думкі й пачуваньні — і трасемся звыкла ў калатуне. А чаго, братове, дрыжым? — каб хто спытаў... Вусаты *стрэс*, разьюшаны, з уздыбленаю гняўліва поўсьцю й сьмяротным шуганьнем у вачох усяго толькі навучае нас вытрасаць з вантробаў *стрэс* — страх быць Сабою на сваёй зямлі.

## Ступа

*Рыгор Барадулін*

*Ступа* — папярэдніца жорнаў, сродак перамяшчэньня Бабы-Ягі, правобраз ракеты. Мядзьведзь у казцы просіць яму паслаць на начлег рад каменьня, рад паленьня, жалезную *ступу* пад галаву.

На першы позірк, дужа ўсё проста: прадзяўбаная адтуліна ў калодзе ці стаўпе (адсюль, можа, і само слова *ступа*) ды абчасанае ўруччa, якое таўкачом завецца. Але ў простасьці заўсягды адмысловасьць і дасканаласьць.

Засыпаюцца зярняты ў расшчэрыну *ступы*, і таўкач таўчэ, *сту́пае*, *ступа́е*, *наступае*. Зярняты неахвотна расстаюцца са сваёй унікальнай па трываласьці апраткай. Зрабіўшыся голымі, пачынаюць звацца «крупамі». Крупы прасяныя, ячныя, груца. З круп — крупеня. Калі мала іх у катле гатуецца, кажуць: «Крупіна за крупіной ганяецца з дубіной». Пастава маладзіцы, якая таўкла крупы, выклікала гарэзьлівыя думкі,

таму й сьпявалася: «Ой ты, мая Домна, прыйдзі ка мне цёмна. Твая *ступа*, мой таўкач, будзем крупы абтаўкаць».

*Ступа* заўсягды прыходзіць на помач у гады войнаў, рэзрухаў. Паступова *ступы* саступілі дарогу тэхніцы, але ў музэях нагадваюць, што іхныя мірныя жаролы былі задоўга да жаролаў ракет і гарматаў, і думаецца, ня гэткі ўжо й дурны быў той дурань, што насіўся са *ступаю* — пра жыцьцё думаў.

## Суботнік

*Рыгор Барадулін*

*Суботнік*, калі тлумачыць даступна — савецкае прыгоннае права. Чалавек працуе пяць дзён за мітычны заробак, а ў *суботу* працуе зусім бясплатна.

Вось як тлумачыцца гэтае прыгоннае права ў савецкіх даведніках: «Добраахвотнае і бясплатнае калектыўнае выкананьне якой-небудзь грамадзка карыснай працы ў нерабочы час». А вяршыняй усяго — *камуністычны суботнік*: «Бясплатная работа на карысьць грамадзтва ў нерабочы час як праяўленьне камуністычных адносін да працы».

А ўсё, здаецца, пачалося зь бервяна, якое нібыта нёс сам Ленін з найлепшымі прадстаўнікамі пралетароў.

І лягло гэтае бервяно на дзесяцігодзьдзі на плечы «гегемонаў» і «гнілой інтэлігенцыі». *Суботнікаў* было мала, яшчэ ж і *нядзельнікі* былі.

Яны дастасоўваліся да сьвятых дзён, асабліва да Вялікадня, Тройцы, Калядаў...

Людзей саветызаваных ад вар'яцтва ратаваў хіба жарт. Быў і такі (а на *суботніках* працавалі «за таго хлопца» — зноў жа, мітычнага хлопца).

Малады муж кожны раз прыходзіў дадому пад раніцу. На пытаньне жонкі «дзе быў?» адзін адказ — «працаваў за таго хлопца». І вось аднойчы жонка ўзяла й прыйшла пад раніцу. Муж з рэўнасьцю: «Дзе была?» А жонка: «А сёньня той хлопец за цябе працаваў».

Думаецца, савецкія ідэолягі ламалі галовы над тым, як бы зрабіць тыдзень васьмідзённым. Тады б ужо камунізм пабудавалі як піць даць.

## Суполка

*Віталь Цыганкоў*

Прыстаўка *су-* стварае прыцягальнае поле еднасьці, зьяднанасьці, гармоніі. Прыслухайцеся — *су*айчыньнік, *су*грамадзянін, *су*гучча, *су*ладзьдзе, *су*моўе, *су*сьвет.

У расейскай мове нічога падобнага да *суполкі* паводле гучаньня няма, таму ў расейскамоўнай прэсе паняцьце *суполка БНФ* альбо не перакладаецца ўвогуле, альбо тлумачыцца як «первичная организация». Прыгадваю, як у Вярхоўным Савеце ў пачатку 90-х адзін намэнклятурны дэпутат абурыўся, што ў законе аб меншасьцях было ўжытае паняцьце «*нацыянальная супольнасьць*». «Навошта нам гэтыя *суполкі* ў закон уводзіць?» — запытаўся пільны дэпутат.

Гэты эпізод зусім не выпадковы, бо слова *суполка* выклікала ў партыйнай намэнклятуры часоў канца СССР заканамерную і абгрунтаваную падазронасьць.

У 1920-я гады *суполка* ўжывалася вельмі шырока. Вацлаў Ластоўскі ў сваім слоўніку прыводзіць наступныя прыклады: *суполка шаўцоў, краўцоў, выдаўцоў*. *Суполкамі* называліся нават сялянскія каапэратывы. Пры канцы 80-х гэтае слова, зноў актуалізаванае ў мове маладымі адраджэнцамі, набыло трывалую рэпутацыю апазыцыйнасьці. «Майстроўня», «Талака», «Тутэйшыя» — усё гэта былі *суполкі*, якія замацавалі за словам шлейф андэграўнду і нефармальнасьці. Давяршыла карціну зьяўленьне *суполак БНФ*. Дый цяпер нікому ня прыйдзе ў галаву назваць *суполкай* калгас альбо групу чыноўнікаў, паколькі *суполка* — гэта аб'яднаньне вольных людзей...

## Сухоты

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Гэтая хвароба падбіралася да беларусаў спакваля. У XIX стагодзьдзі яна забрала ад нас паэта Ўладзіслава Сыракомлю і Віктара Каліноўскага — старэйшага брата вялікага Кастуся.

У XX стагодзьдзі — Максіма Багдановіча, Івана Луцкевіча, Алеся Гаруна, Казіміра Сваяка, Алеся Бурбіса... Сьпіс можна доўжыць і доўжыць.

*Сухотнік*, *сухотніца*, *сухотны*. Сынонім сухотаў, якога, дарэчы, не фіксуюць шмат якія

беларускія слоўнікі — *тубэркулёз*. Яшчэ адзін сынонім — *мадуха* — запісаў на Полаччыне Вацлаў Ластоўскі. У бальшыні іншых славянскіх моваў слова *сухоты* гучыць так, як і ў нас.

У 1928 годзе ў Менску заснаваны і дагэтуль працуе *Беларускі навукова-дасьледчы інстытут вывучэньня сухотаў*.

Навука цьвердзіць, што рост *сухотных* захворваньняў почасту зьвязаны з пагаршэньнем умоваў чалавечага жыцьця. Гэтага, калі можна так сказаць, баромэтра нельга падмануць ані паказчыкамі эканамічнага росту, ані прапагандысцкай рыторыкай. Канец XX стагодзьдзя ў Беларусі адзначаецца павелічэньнем колькасьці *сухотнікаў*...

## Сіянізм

*Віталь Тарас*

Паводле Тлумачальнага слоўніка беларускае мовы, *сіянізм* — гэта «рэакцыйныя ідэалёгія і палітыка яўрэйскай буржуазіі, якія адрозьніваюцца ваяўнічым шавінізмам, расізмам, антыкамунізмам і антысаветызмам. Ад назвы гары *Сіён* паблізу Ерусаліму».

Слова *сіянізм* было страшнейшае за словы *нацыяналізм* і *фашызм*, якія афіцыйна быў разгромлены ў 1945-м. І ўсё з-за «бязродных касмапалітаў» ды лекараў-забойцаў, якія хацелі атруціць таварыша Сталіна...

Ідэя барацьбы зь *сіяністамі* ня згасла й пасьля сьмерці «бацькі народаў». Напрыклад, у

Беларусі выкрывалі прыкметы сусьветнае жыдамасонскае змовы ў нацыянальным беларускім дэкоры і нават у выявах сьняжынак, шукалі *сіяністкія* матывы ў творчасьці сусьветна вядомых мастакоў Марка Шагала й Барыса Заборава. У выніку імя вялікага нараджэнца Віцебску Шагала яшчэ доўга выкрэсьлівалі зь беларускіх энцыкляпэдыяў, а Барыс Забораў апынуўся ў Парыжы.

Для дзясяткаў тысячаў нараджэнцаў Беларусі Ізраіль стаўся «новай радзімаю». Голда Мэір, Мэнахэм Бэгін, Шымон Пэрэс нарадзіліся ў Беларусі або маюць тут карані.

Што да ўласна *сіянізму*, дык пасьля стварэньня ізраільскае дзяржавы ён выканаў сваю гістарычную задачу і заняў належнае месца ў шэрагу шматлікіх «ізмаў» XX стагодзьдзя.

## Сэкс

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Ты ўжо рассталася з уборам
І ў ложка шлюбнае лягла,
Свой сорам, свой жаноцкі сорам,
Дрыжачая, перамагла.
Ды абясьсіленай душою
Ты можаш аднаго жадаць, —
Каб семя бурнае мускное
У нетрах цела пахаваць.

Гэтак на пачатку стагодзьдзя ўводзіў тэму *сэксу* ў нашу літаратуру Максім Багдановіч.

А ў Савецкім Саюзе *сэксу* не было. Прынамсі, такі выгляд рабілі афіцыйныя асобы. На пачатку савецкай улады ў камсамольскіх асяродках ішлі вялікія спрэчкі. Больш адсталыя цьвердзілі, што каханьне павінна быць «з чаромхай», гэта значыць з заляцаньнямі й манерамі. Іншыя, перадавыя, выступалі за каханьне «без чаромхі», свабоднае й без буржуазных цырымоніяў.

Па меры абуржуазьліваньня рэвалюцыйных элітаў тэма *сэксу* ў літаратуры пачала лічыцца непрыстойнай.

Тым часам нараджальнасьць, наяўнасьць абортаў, падпольная прастытуцыя, згвалтаваньні ды колькасьць хворых на вэнэрычныя хваробы даводзілі, што *сэкс* у жыцьці краіны ёсьць. Іншая рэч які...

Само слова *сэкс* прыйшло ў нашу мову хіба ў апошняй чвэртцы XX стагодзьдзя. Раней ужываныя выразы й словы *полавы акт*, *полавыя зносіны*, *злучэньне*, *суполеньне*, а таксама вулічныя жарганізмы займелі сынонім.

У 60-х *сэкс* у літаратуру вярнуў Уладзімер Караткевіч («Леаніды ня вернуцца да зямлі»). Напрыканцы XX стагодзьдзя Рыгор Барадулін паставіў гэтай тэме й веку кропку сваім зборнікам «Здубавецьце». А на вясельлях усё пяюць:

Гарманіст, гарманіст,
Пакладзі мяне пад ніз,
А я ўстану пагляджу,
А ці добра я ляжу.

Свабода пісаць і гаварыць пра *сэкс* прыйшла з развалам камуністычнай сыстэмы. Цяпер усе прызнаюць: *сэкс* у нас ёсьць! Як той казаў: і за гэта дзякуй.

# Сьвет

*Ігар Бабкоў*

Што такое *сьвет,* дакладна не растлумачыць ніхто.

Раней *сьвет* быў блізкі, далёкі і заўсёды белы. У беларускім фальклёры *пайсьці ў белы сьвет* — значыць пайсьці ў нікуды, не выбіраючы сьцежак, пайсьці за вачыма.

Праз слова *сьвет* прас*ьвеч*вае *сьвят*ло, а таксама *сьвят*асьць. Гэта хіба самае прыгожае й далікатнае слова ў беларускай мове. Нездарма Стральцоў назваў сваю апошнюю кнігу «Мой *сьвеце* ясны».

Але ў XX стагодзьдзі слова пачынае губляць свой абсяг і сваю зразумеласьць. Нашыя вочы, а значыць, і нашая мова бачаць наваколье значна больш канкрэтна й дакладна. Мы існуем у горадзе, у грамадзтве, на Зямлі, нарэшце — у *сусьвеце*.

Што ж ёсьць тады ўласна *сьвет*, і ці ня зьнікне ўвогуле гэтае слова з нашае штодзённае гаворкі, застаўшыся ў слоўніках з адзнакаю «паэтычнае» або «састарэлае»? Вядома, ня зьнікне. Гарады руйнуюцца, народы і дзяржавы нараджаюцца й паміраюць, грамадзтвы эвалюцыянуюць, а *сьвет* — застаецца.

# Сэксот

*Аляксандар Лукашук*

Гэтае слова ня мае нічога супольнага з *сэксам*. Сынонімы чэкісцкага скароту «*секретный сотрудник*» — паведамляльнік, інфарматар, стукач, даносчык, даказчык.

Тайныя памочнікі паліцыі існуюць ува ўсіх грамадзтвах — у асноўным гэта люмпэны, асобы з крыміналізаванага асяродзьдзя, чыя дзейнасьць гэтым асяродзьдзем абмяжоўваецца. У таталітарных грамадзтвах стукачы становяцца неадымнай часткай дзяржаўнага мэханізму.

Савецкая ўлада зрабіла данос агульнадзяржаўнай справай. Партыя абвясьціла, што галоўны вораг — унутраны. Паўлік Марозаў стаўся культавай фігурай у дзіцячым садку і школе, у чытанках і падручніках. Здрада была перакваліфікаваная ў геройства, пільнасьць абвешчаная найвышэйшым абавязкам, за данос узнагароджвалі пасадай, кватэрай, ордэнам.

Паводле некаторых падлікаў, да 3% савецкіх людзей былі тайнымі паведамляльнікамі карных органаў; колькасьць добраахвотных памочнікаў не паддаецца падліку. Нярэдка *сэксотамі* станавіліся ня толькі з жаданьня выслужыцца, зрабіць кар'еру, але і пасьля запалохваньня і шантажу. У пэўным сэнсе *сэксоты* — самі ахвяры нялюдзкай улады.

Даносчык выклікаў агіду ў грамадзтве. У 70-я гады гэтую акалічнасьць скарыстаў савецкі КГБ пад старшынёўствам Андропава: чэкісты распаўсюджвалі чуткі пра дысыдэнтаў, быццам тыя

стукачы, і такім чынам эфэктыўна разбуралі дзейнасьць групаў супраціву і кампрамэтавалі асобных дзеячоў.

У краінах Сярэдняй Эўропы пасьля падзеньня камунізму былі абвешчаныя імёны даносчыкаў, сталі вядомыя выпадкі, калі мужы даносілі на жонак, вучні на настаўнікаў, сьвятары на вернікаў, якія прыходзілі да споведзі. У Беларусі застаюцца засакрэчанымі нават прозьвішчы сталінскіх *сэксотаў*, ня кажучы пра навейшыя генэрацыі брэжнеўска-гарбачоўскага і лукашэнкаўскага часоў. У кніжцы «За кіпучай чэкісцкай работай» я даў некаторыя прозьвішчы і мянушкі памагатых катаў. За некалькімі выняткамі, ні самі яны, ні іхныя дзеці асабліва не пакрыўдавалі. Рэакцыя грамадзтва — вяла-абыякавая.

Тыя, каму гэта баліць, у большасьці сваёй сьпяць у безыменных магілах Курапатаў, Поўначы і Сібіру. Не забудзьмася пра іх.

# Т

## Таварыш

*Алена Ціхановіч*

Са словам *таварыш* згадваеш пераменлівасьць моды: так бывае і ў лексыконе.

Асабліва зацёрся *таварыш*, калі стаў адзіным унівэрсальным зваротам да людзей усіх станаў. Гэта быў савецкі тытул роўнасьці, знак таго, што няма ні паноў, ні шляхты — усе *таварышы*. Напачатку ў гэтым быў новы смак і новы шык. Гэта было рамантычна. Паэтычна. Толькі ў Купалы гэта было «мой мілы *таварыш*, мой лётчык», а бальшавіцкі трыбун Маякоўскі ўжо зьвяртаўся да новага ўдзельніка грамадзкага дыялёгу: «Ваше слово, *товарищ* маузер».

Жанчыны таксама былі *таварышамі*. Зварот «*таварыш* Сакалоўская» ўспрымаўся, як сама Сакалоўская ўва ўборы мужчынскага пакрою.

Але кожны новы пінжак некалі становіцца старамодным. Яго даношваюць хіба тыя, каму ён асабліва дарагі. Ці — каму не да спадобы новае.

Памятаю, у час актыўнага вяртаньня да словаў *спадар/спадарыня* Янка Брыль падзяліўся

са мною: «Хай сабе вяртаюцца, але навошта ж на «*таварыша*» нападаць? Яго нельга выціснуць зусім». Пісьменьнік згадаў, што ў жывой народнай мове, у адрозьненьне ад афіцыйнай традыцыі, ад гэтага слова і форма жаночага роду – *таварышка*, і дзеяслоў – мы зь ім *таварышуем*.

Сёньня *таварыш* у савецкім пакроі — як слова-зварот — адыходзіць. Вяртаецца яго дасавецкі сэнс. Нагадаю, корань гэтага слова — *тавар* — мае цюркскае паходжаньне. Здаўна ўсе тыя, што мяняліся таварам, мелі да яго супольнае дачыненьне і ўвогуле супольную справу, былі й застаюцца *таварышамі*...

## Талака

*Рыгор Барадулін*

Цёплае слова. Наскае, даўнае. *Талака* — гэта сумесная праца, добраахвотная ў сваёй аснове. *Талакой* будаваліся беларусы. *Талакой* жалі й касілі. Песьня нагадвала гаспадару пра пачастунак:

> Талачу, талачу — не талочыцца,
> Не даюць гарэлкі — выпіць хочацца.

Гэта пра *талаку* вясёлыя выслоўі: згаварыўшыся, і бацьку забіць можна; усім кагалам і бацька з жыгалам.

Горад *Талачын* на Беларусі ў гонар *талакі* — *талакой*, відаць, будаваўся.

Напярэдадні развалу савецкай імпэрыі ўзьнікла моладзевая суполка «*Талака*», якая рупілася пра духоўнае адраджэньне. З «*Талакі*» выйшлі выбітныя грамадзкія дзеячы, творцы літаратуры й мастацтва, уніяцкія сьвятары.

## Талеранцыя

*Ігар Бабкоў*

Слова *талеранцыя,* нібы паўлін, напоўніцу засьвяціла сваімі пёркамі адно ў эпоху Шушкевіча. Беларускі народ, які адрадзіў сваю дзяржаўнасьць, быў, відавочна, ня самым вядомым, ня самым багатым і шчасьлівым, але затое самым, самым *талерантным*. Слова *талеранцыя* было занадта прыгожае і занадта выгоднае, і таму пачало ўжывацца направа й налева з сэнсам і безь яго. Слова сталася паступова візытнай карткаю маладое беларускае дзяржавы і, як шмат хто спадзяваўся, пропускам у сям'ю вольных эўрапейскіх народаў.

Але гэтага не адбылося, і слова так надакучыла, што і яно само, і яго зьмест пачалі выклікаць лёгкую агіду. А з пачаткам дыктатуры яно ўвогуле зрабілася пустым паняткам.

У сёньняшняй беларускай сытуацыі анічога, што можна было б назваць *талеранцыяй*, проста не засталося. Затое пачалі набіраць вагу іншыя словы: апазыцыя, супраціў, барацьба. Валянцін Акудовіч нават напісаў эсэ «Вайна культураў як крыж на магілу *талеранцыі*». А шкада, прыгожае было слова.

# Талерка

*Антаніна Хатэнка*

Калі вам пашчасьціла гуляць хоць раз на сапраўдным вясельлі, то, ведама ж, не забудуцца вясельныя маршы. Гэтак, бывае, ляскацяць, зьвіняць пляскатыя *талеркі*, б’ючыся адна аб адну, што й маршалак не перакрычыць, зазываючы да стала.

Быццам усе гукі сьвету зьбіраюцца ў мэталёвыя блішчастыя дыскі, і каму тут у галаве, што сьцішацца аркестравыя *талеркі*, адплывуць у памяць маршы і застанецца сям’я сам-насам з клопатам пра іншую *талерку* — сваячку тых сьпеўных і вясёлых каваных віртуозам-кавалём ладкаў, — *талерку*, якую трэба штодня поўніць спажываю. Гэта ж колісь годна казалі ў нашых краёх: «Госьць, ня дзьміся, еж, што ў місе». А цяперака мы паціху ўсталявалі культ вялікавяльможнай *талеркі*. Каб жа нашая *талерка* была паўнейшаю, чым суседзкая, ды смачнейшым на ёй усё здавалася.

Сышло ў нябыт «Госьць, ня дзьміся, еж, што ў місе». Гэтак жа сышоў у нябыт гонар тых шляхетных *талерак*, што цяпер зіхацяць парцалянаю ў зьнямелых залях былых палацаў. Здаецца, яшчэ тыя, княжыя, адмысловыя *талеркі* памятаюць сваё паходжаньне, роўнае дарагім нашым старажытным грашам — *талерам*.

Затое ў нас ганарова над вокнамі паблісківаюць дыскі *талерак* спадарожнікавае сувязі, ды недзе пад самымі нябёсамі, кажуць, зьяўляюцца зрэдзьчасу *талеркі* іншаплянэтнікаў. Ім тут

раскоша, сярод нашага *талеркавага* энтузіязму ды нязбытнай *талерантнасьці*.

Толькі мы *не ў сваёй талерцы* — у нашым часе і ў нашай краіне. Але тое нам вырашаць. Не іншаплянэтнікам.

Ніхто ж *на талерачцы* волі й шчасьця не падасьць.

## Тарашкевіца

*Сяргей Шупа*

Слова *тарашкевіца* няма ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы. Яго няма наагул ні ў якім беларускім слоўніку XX стагодзьдзя, нават у энцыкляпэдыі «Беларуская мова». Слова-прывід. Слова-фантом.

Разам з тым — гэта, безумоўна, слова XX стагодзьдзя, і абазначае яно рэальную зьяву — адзін з варыянтаў беларускай літаратурнай мовы.

Сёньняшні афіцыйны правапіс, які ўжываецца ў школах, афіцыйным друку, кнігавыдавецтве на тэрыторыі Беларусі, у супрацьлегласьць *тарашкевіцы* часам завецца *наркамаўкай*. Ён успрымаецца як нэўтральны, нічым не афарбаваны, усім прывычны ад школьнай лавы. *Тарашкевіца* сёньня — гэта знак заангажаванасьці — сацыяльнай, культурнай, палітычнай. Або таксама прыкмета нетутэйшай беларускасьці (зь іншай прасторы або зь іншага часу).

На пачатку стагодзьдзя, калі фармаваўся наш правапіс, ніякіх варыянтаў і альтэрнатываў не

было. Браніслаў *Тарашкевіч* зафіксаваў першыя здабыткі моўнай нармалізацыі ў 1918 годзе ў сваёй «Граматыцы». Наўрад ці ён тады мог сабе ўявіць, што ад ягонага прозьвішча празь дзесяцігодзьдзі будзе ўтворанае новае слова...

Вось жа тады — на пачатку стагодзьдзя — *Тарашкевічаў правапіс* быў адзіны й натуральны. *Тарашкевіцай* напісаная ўся клясычная беларуская літаратура — зь мяккімі знакамі пісалі Купала й Колас, Багдановіч і Гарэцкі, Жылуновіч і Чарвякоў.

Але ў 1933 годзе Савет народных камісараў БССР — у духу іншых павеваў таго часу — увёў дэкрэтам іншы правапіс. На той момант нэўтральным, усім звыклым быў менавіта *правапіс Тарашкевіча*, дапрацаваны іншымі моваведамі — Лёсікам, Станкевічам, Некрашэвічам, Байковым. Ён быў натуральны, як паветра, а ўжо на яго фоне новы правапіс успрымаўся як моцна палітычна афарбаваны — фактычна гэты правапіс ператварыў самабытную беларускую літаратурную мову ў нейкі беларуска-расейскі гібрыд. Аднак з часам ён стаўся звыклым і нармальным, што нямала прычынілася да заняпаду беларускай мовы наагул. Такі стан рэчаў датрываў да нашых дзён.

На пачатку 80-х *Тарашкевічаў правапіс* вярнуўся зь нябыту. Тады і ўзьніклі тэрміны-антыподы — *тарашкевіца* і *наркамаўка*. Аднак антыподы яны ўяўныя: і адно, і другое — гэта ўсё беларуская мова. Настане час, калі беларуская мова зойме належнае ёй месца ў жыцьці краіны, і тады ўсе варыянты непазьбежна зьліюцца ў адзін. Толькі настане гэта, як і шмат чаго іншага, ужо ў XXI стагодзьдзі.

# Тата

*Віталь Цыганкоў*

Слову *тата* тлумачальны слоўнік дае вельмі простае вызначэньне: «тое, што і бацька». Вызначэньне, зь якім ніяк ня хочацца пагаджацца. Слова *бацька* ў параўнаньні са словам *тата* мае зусім іншую тэмпэратуру шчырасьці. Бацькам можна назваць свайго *тату*, але *татам* называюць звычайна толькі свайго бацьку. Да таго ж толькі слова *тата* нарадзіла столькі прыгожых і пяшчотных утварэньняў: *татачка, татуля, татка, татулька, татуся* і нават *татуська*.

*Тата* — слова старажытнае, як сам сьвет. У многіх мовах яно гучыць вельмі падобна: *тата*, *папа*, *дад*, *дада* і гэтак далей. Розьніца тут такая самая, як паміж беларускім *гаў-гаў* і ангельскім *баў-ваў*... Тыя ж самыя гукі розныя народы чуюць па-рознаму. *Тата* — гэта імітацыя першых гукаў дзіцяці: эгаістычныя бацькі чамусьці вырашылі, што першыя словы немаўляткі павінны быць *мама* і *тата*. Хаця хто ведае, што ён там насамрэч гаворыць.

Сапраўды, розьніцы ў паходжаньні слова *тата* ў розных мовах няма, але розьніца ў катэгорыях нацыянальнага вельмі моцная, нават сымбалічная. Паміж «папой» і «*татам*» такая ж дыстанцыя, як паміж «чашечкой кофе» і «кубачкам кавы». Для многіх беларусаў гэтая дыстанцыя непераадольная.

# Трактарабудаўнік

*Аляксандар Лукашук*

У гэтым слове можна расчуць ці ня ўсю гісторыю стагодзьдзя, якое з натужным завываньнем матораў і сінімі атрутнымі выкідамі, перамолваючы траву й падлесак, пакідаючы па сабе чорныя рваныя раны, няўмольна й бязьлітасна паўзло празь Беларусь. З усходняй сталіцы яна ўяўлялася бездаражжу, што патрабуе акультурваньня; там з ахвотай перакладалі радкі самахарактарыстыкі пра «пана сахі і касы».

*Traho* па-лацінску — «цягну». Савецкі *трактар* цягнуў за сабою калектывізацыю з раскулачваньнем і голадам, мэліярацыю са зьнішчэньнем рэчак ды лугоў, выкарчоўваў зь вёсак будучыню і на дзесяцігодзьдзі заганяў юнакоў і дзяўчат у катушкі вечна п’яных інтэрнатаў *трактарабудаўнікоў*.

Хто бываў у цэхах *Менскага трактарнага заводу*, той не забудзе тамтэйшай мёртвай зямлі й паветра, і твары старых рабочых — зямлісташэрыя, быццам працяг жалезных прыладаў. *Трактарабудаўнік* стаўся вяршыняй эвалюцыі пана сахі і касы.

Танную прадукцыю менскіх *трактарабудаўнікоў* ахвотна куплялі фэрмэры Азіі, Афрыкі і Амэрыкі; шмат дзе й сёньня першая асацыяцыя на слова *Беларусь* — *трактар*.

Калі рабочыя заводу выбіраліся ў цэнтар, яны казалі — едзем у горад. *Трактарны пасёлак* з палацам культуры, стадыёнам «*Трактар*», *бульварам трактарабудаўнікоў*, парткамам на правох райкаму ўспрымаўся як гета. Тут матэ-

рыял нацыі перамолваўся ў насельніцтва. Тут асобу прыраўноўвалі да функцыі. У такіх гетах нарадзіўся моўны кентаўр — трасянка.

Я ніколі ня бачыў ніводнага чалавека ў цьвярозым стане і тым больш нападпітку, які б сказаў пра сябе: «Я — *трактарабудаўнік*». У знакамітай піўной *трактарнага пасёлку* такі зварот да суседа мог бы скончыцца фатальна.

*Трактарабудаўнік* — кентаўр XX стагодзьдзя, а кентаўраў, як вядома, няма.

## Трасянка

*Рыгор Барадулін*

Слова *трасянка* бярэ свой пачатак зь сялянскага побыту. Калі вобмаль было ласага, мурожнага ці поснага сена, яго страсалі з саломай, каб дацягнуць да травы, і елі *трасянку* і каровы, і коні.

Другое значэньне слова *трасянка* ўзьнікла ў выніку спачатку палянізацыі, а потым у асноўным як вынік павальнай русіфікацыі, асабліва за савецкім дыктатам.

З маленства помню — бабуля Маланьня кпіла з падшляхтункоў, з «пшэвруценцаў», як яна іх называла, якія казалі: «Едэн конь бялы, а другі вараной».

Пры камуністычным рэжыме верхнія слаі чынавенства былі завезеныя з Расеі, а сярэдні і ніжэйшы слаі русіфікаваліся саматужна. І шырылася *трасянка*.

Асабліва каларытная *трасянка* была ў чырвоных памешчыкаў. Дома іншы ў асноўным

гаварыў больш-менш па-беларуску, а ўжо на нарадах — ад раёну і вышэй — стараўся «па-рюсски». І тады перлі пэрлы кшталту «вобразна гавара», «нада апрадзяліцца». Слова, схопленае на ляту з вуснаў чарговага генэральнага сакратара, даводзілася да абсурду. «Образна гавара, мы праступілі да копкі бульбы». «Образна гавара, мы зжалі азімыя».

*Трасянка* была выведзеная й на ўзровень Вярхоўнага Савету. Яна пачала называцца *дземянцееўкай*.

Апошнім часам з вуснаў кіраўніка рэжыму прагучала адкрыцьцё, што ў Беларусі на ўрадавым узроўні — не *трасянка*, а новая расейская мова, яе беларускі варыянт. Тут ужо расейцам трэба сказаць усьлед за Тургеневым: «Как не впасть в отчаяние...»

*Трасянка* мае таварнае кляймо «Зроблена ў СССР. Рамонту не падлягае». У нармальнай цывілізаванай дзяржаве мова асноўнай нацыі — дзяржаўная. А ў нас, пакуль дзяржава будзе нагадваць нешта стрэсенае, *трасянка* будзе квітнець на прасьмех адукаваных народаў. Стрэс ад камуністычнай ідэалёгіі амаль невылечны, асабліва ў нашай беларускай рэчаіснасьці.

## Туалет

*Алена Ціхановіч*

«Гэны генэрал прыехаў са сваім клязэтам. Шпакоўня такая, у нас на двары стаяла. Ён сядзіць, а салдат ахоўвае», — такое было найбольшае ўражаньне ад сустрэчы зь немцамі-аку-

пантамі адной беларускі, якая памятае вайну дзяўчынкай.

Іншая цётка, вярнуўшыся з-за мяжы, на пытаньне «што найбольш уразіла» адказала: «*Туалет*. Я б хацела там памерці, на той ружовай кафлі».

Ну што ж, цётка не такая ўжо і арыгінальная: замежныя турысты, калі траплялі ў *туалеты* на нашых вакзалах, таксама хацелі памерці.

*Ту-а-лет* — як французскі выгук вялікай сацыяльнай эвалюцыі — нейк слаба прабіваўся ў лясістую Беларусь. З усіх першасных патрэбаў тутэйшага чалавека над ім вісела й цяжэла, уважалася за галоўнае адна — патрэба працы. Лёзунг «нішто чалавечае...» увасабляўся ў самай куртатай форме: да́мы з усіх *туалетаў* часьцей патрабавалі ватоўку й боты, *туалетнае мыла* пэрыядычна было дэфіцытам, *туалетная папера* нейкі час прадавалася па сьпісах — толькі для вэтэранаў.

Праўда, у СССР мільённымі накладамі выходзілі газэты. Затое грамадзкіх прыбіральняў было надзвычай мала.

Даступнасьць прыбіральні робіць чалавека лёгкім і свабодным. Недаступнасьць — ператварае задавальненьне патрэбаў у экзэкуцыю патрэбамі... Таму многіх вязьняў і затрыманых пазбаўляюць *туалету*. У куце кожнай турэмнай камэры стаяла й стаіць — як сымбаль бруду, пакутаў і прыніжэньня — параша.

Беларускія аўтобусы, што коцяць дарогамі Эўропы, па-ранейшаму спыняюцца ўляскох, каб пасажырам схадзіць да ветру. «*Платны туалет*» застаецца страшным пудзілам.

На берасьцейскім памежжы *туалеты* ў

цягнікох зачыняюцца на некалькі гадзінаў. Далей — залежыць, у які бок паедзеце. Там, дзе цярпяць, сьмярдзіць парашай. Там, дзе паўсюль *туалеты*, лунае дух свабоды.

## Тутэйшыя

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Слова *тутэйшыя* «Вялікалітоўска-расійскі слоўнік» Яна Станкевіча не падае зусім. Няма яго і ў «Расейска-крыўскім» слоўніку Ластоўскага. Затое адзін зь першых савецкіх слоўнікаў — «Беларуска-расейскі слоўнік» Некрашэвіча і Байкова — ужо перакладае слова *тутэйшы* расейскім «здешний», а пяцітомны Тлумачальны слоўнік беларускай мовы тлумачыць: *тутэйшы* — «той, хто родам з гэтай мясцовасьці, жыве тут, не прыежджы».

Недасьведчаны чалавек можа зрабіць са сказанага выснову, што слова *тутэйшы* — новае, і гэткім чынам трапіць у зман.

Станкевіч і Ластоўскі не фіксуюць гэтага слова з адной простай прычыны. У прадмове да мюнхэнскага выданьня Купалавай драмы «*Тутэйшыя*» чытаем: «...тэрмінам *тутэйшыя* народ наш за даўгую эпоху навалы на яго нацыянальных перасьледаў і дэнацыяналізацыйных напораў з розных бакоў прызвычаіўся абазначаць самога сябе як нейкім своеасаблівым нацыянальным псэўданімам». Урэшце аўтар прадмовы прыходзіць да думкі, што тэрмін *тутэйшыя* трэба ўжываць у зна-

чэньні «нацыянальнае і, шырэй, наагул ідэйнае бесхрыбетнасьці». А вось расейскае «здешний», паводле слоўніка памянёнага Станкевіча, трэба перакладаць як *туташні*. Прынамсі, так яно гучыць яшчэ ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага.

Я ж закончу радкамі зь беларускай паэзіі:

Ці сэнс шырэйшы, ці вузейшы,
Шукаць адрозьненьняў дарма —
Калі ты ёсьць, і ты — *тутэйшы*,
То значыць, што цябе няма.

## Тушонка

*Рыгор Барадулін*

*Тушонка* — кансэрваванае тушанае мяса. Спрадвеку беларусы пасьля ўбоінаў парсюка рабілі запасы да новай навіны на старое чэрава. Тут і вэнджаныя кумпякі, і вантрабянкі, і кіндзюкі, і *тушонка*.

*Тушонка* была прыдатная ў дарогу, з *тушонкай* быў смачны лусьцень, які даваўся гаспадару на ворыва, на касьбу. *Тушонка* была адметнай закусьсю, не сварылася яна ні зь першаком, ні з куплёнкай. У паэзіі сталай рыфмай зрабілася «*тушонка* — самагонка».

На памяці пасьляваеннага жыхарства самым дарагім прысмакам была амэрыканская сьвіная *тушонка* ў бляшанках. І так яна, сьвіная *тушонка*, паядналася з Амэрыкай у сьвядомасьці шмат каго, што пісьменьнік Мікола Гамолка

ў сваім фантастычным па мерках 1960-х гадоў рамане так апісваў сьняданьне амэрыканскага мільянэра: мільянэр у Гамолкі еў халодную сьвіную *тушонку* з бляшанкі, еў халодную, бо ня меў часу падагрэць на электраплітцы — трэ было сьпяшацца рабіць бізнэс.

У Беларусі апошнім часам *тушонку* закручваюць у шкляныя слоікі. Яна ідзе зь вёскі ў горад як гуманітарная дапамога сынам ды дочкам ад бацькоў. Праўда, трэба сказаць, што менее *тушонкі*, бо цяжка трымаць сьвіньні, няма чым карміць. «Сьвіньні зводзяцца, а сьвінства плодзіцца».

Можна хіба рабіць *тушонку* з абяцанак-цацанак кіраўнікоў дзяржавы, але такой *тушонкай* — што закусіш? Хіба што кукіш...

## Тхло

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Тхло* — алегорыя нашага жыцьця ў XX стагодзьдзі.

Нарматыўнае тлумачэньне слова: *тухлы*, гнілы пах — *тхліна*. Ненарматыўнае: рыба, якая *затохлася* пад лёдам. Унармавана, мы — незалежная дзяржава, неўнармавана — *тхло*.

Зіма. Адліга. На лёдзе зьяўляецца вада. Потым раптоўны моцны мароз, які блякуе доступ паветра ў падлёдныя плыні... Рыба зьбіраецца ў касякі. Здаецца, сваёй масай яна хоча праламаць ледзяную вязьніцу і глынуць волі.

Рыбы зьбіраецца больш, а кісларода становіцца менш. Рыба *затыхаецца*, *тохне*, дохне.

Дзеясловы *тохнуць* і *дохнуць* маюць тое самае паходжаньне. Яны радня словаў *дух*, *дыхаць*.

Часам рыба й сапраўды ламае лёд і вырываецца на волю. Але што ёсьць воля на паветры для таго, у каго воля — вада, і што ёсьць воля — вада, калі ў ёй немагчыма жыць...

Людзі цікуюць *тхло*. Там, дзе рыба не зламала лёду, яны прасякаюць палонкі... Калі ў палонку трапляе чалавек, ён становіцца палонным. Калі з палонкі пачынае выплёхвацца мора рыбы — гэта таксама палон. Чалавек можа вырвацца са свайго палону. Рыба — не. Яна дохне. Такую здохлую на марозе рыбу можна есьці.

Але ёсьць рыба, непадуладная *тхлу*. Яна проста ўмарожваецца ў лёд і чакае спрыяльных умоваў.

А вось ці існуе рыба, якая паміж *тхлом*, умарожваньнем і сьмерцю выбірае сьмерць — невядома...

## Тытунь

*Сяргей Харэўскі*

Слова *тытунь* паходзіць з турэцкае мовы. Гэта расьліна, зь якой вырабляюць прадукт, каб дагадзіць адной з самых старых і шкодных звычак чалавека. Менавіта з Турэччыны да нас і патрапіў *тытунь*, які стаўся неадымнай часткаю мужчынскае тоеснасьці беларусаў. Яшчэ два стагодзьдзі таму падарожнікі з Расеі

дзівіліся, што нашыя мужчыны не вымаюць з рота люлькі.

Пазытыўнае стаўленьне да *тытуню* зьмянілася ў нядаўнія часы. Чым далей адыходзілі ваенныя ўспаміны, тым больш людзей кідала паліць. Зьявілася грэблівасьць: «Усё курыш! Каб на табе поўсьць курэла...» У 70-я да барацьбы з *тытунём* падключылася й савецкая агітацыя. «Болей курыш, менш працуеш», — дакаралі на ўсе лады плякаты, якія навыперадкі распавядалі пра трагічныя наступствы старадаўняе звычкі... Пра шкоднасьць *тытуню* нарэшце дазналіся ўсе. Але ж і ў крамах яго станавілася ўсё болей. Яго вялікасьць *тытунь* пры ўсіх агітацыях стаў адным з асноўных складнікаў савецкага бюджэту...

У Беларусі паўсюдна расьцілі разнавіднасьць *тытуню* — махорку. Папулярнаю была махорка «Пяхлец». Напоўніцу працавалі *тытунёвыя* прадпрыемствы ў Горадні, Менску ды Віцебску. Чаго толькі там ні выраблялі — *тытунь* для паленьня, жваньня, нюханьня ды розныя прэпараты... У цэнтры Менску ганарліва зіхцела шыльда крамы «*ТЫТУНЬ*». Ну дзе там было не курыць!

У беларускай мове таксама ўжываецца слова *табака* і вытворнае ад яго — *партабак*. За савецкім часам дасьціпны люд кпіў з сацыялістычнае гаспадаркі гэтак: «Дажыліся лайда́кі — ні хлеба, ні табакі...»

Пад канец XX стагодзьдзя свой *тытунь* у Беларусі амаль зьвёўся, ледзь пыхкаюць тыя фабрыкі, даўно няма ў сталіцы прыгожай *тытунёвай* крамы... Але *тытунёвага* дыму не паменела. Цяпер яго вязуць з усіх кутоў сьвету,

пра што паведамляюць шматлікія рэклямы на месцы колішніх камуністычных транспарантаў: «Winston», «Marlboro», сумнавядомая «Magna»... Дык курыць ці не? Гэтае пытаньне прападзе, бадай, толькі разам з *тытунём*...

## Тэлевізар

*Сяргей Шупа*

*Тэлевізар* у беларускай хаце стаіць у найвыгаднейшым месцы, на покуці — дзе раней віселі абразы. *Тэлевізар* цалкам прыцягвае на сябе ўсю ўвагу. Калі раней людзі дзяліліся гэтай увагаю між сабою або бавілі час за кнігай, сёньня яны загіпнатызавана ўтаропіліся ў *тэлевізар*, у «яшчык», у «мутнае вока». Некаторыя знаходзяць у сабе сілы вырвацца з гэтай аблуды — прынцыпова не глядзяць *тэлевізара* або нават выкідаюць яго — часам і праз акно. Аднак такім людзям *тэлевізар* і так нічым бы не пагражаў.

Часта чуюцца справядлівыя нараканьні, што беларусы — дэнацыяналізаваны народ, ня ведаюць і не шануюць сваёй гісторыі, мовы, культуры. Велізарную ролю ў гэтым нацыянальным заняпадзе адыграла і надалей адыгрывае татальнае панаваньне ў *тэлевізійнай* прасторы Беларусі расейскіх *тэлеканалаў*. Яны выхоўваюць ужо трэцяе пакаленьне жыхароў Беларусі. Беларуская *тэлевізія*, што ніколі не задумвалася як нешта адметнае і самабытнае, выглядае як пародыя на расейскую і ніякай канкурэнцыі ёй скласьці ня можа. Нават беларускае савецкае

слова *тэлебачаньне* — гэта калька з расейскага «телевидение», гібрыднага перакладу з заходніх моваў.

*Тэлевізар* заняў сваё месца ў палітычнай, сацыяльнай і матэрыяльнай культуры беларусаў. На золку *тэлекультуры*, у 1960-я гады, калі *тэлевізары* былі рэдкасьцю, суседзі й знаёмыя сыходзіліся «*на тэлевізар*», прыбраўшыся, нібы ў тэатар. *Тэлевізар* стаў хадавым прадуктам беларускай прамысловасьці — добра куплялліся нашыя «Нёманы», «Віцязі», «Гарызонты». Беларуская апазыцыя марна дамагаецца часу ў *тэлеэтэры*, часам дзеля гэтага нават хадзілі «*браць тэлевізію*», а ўлады ўпікаюць апазыцыі, што, маўляў, ёй — абы зрабіць *карцінку для заходніх тэлеканалаў*.

У XXI стагодзьдзі на зьмену *тэлевізійнай*, хутчэй за ўсё, прыйдзе культура кампутарная, што можа яшчэ болей паглыбіць створаную *тэлевізіяй* сацыяльную праблему — адчужэньне паміж людзьмі. Застаецца толькі заклікаць саміх сябе і ўсіх навокал — замест *тэлевізара* давайце часьцей глядзець у вочы сваім блізкім.

# У

## Ударнік

*Рыгор Барадулін*

Толькі людзі пачцівага веку ведаюць ці цьмяна памятаюць, што такое *ўдарнік*. Тлумачальны слоўнік беларускае мовы, выпушчаны за савецкім часам, тлумачыць: «перадавы работнік сацыялістычнай вытворчасьці, які перавыконвае нормы».

*Ударнікі* былі на заводах, у калгасах, нават у літаратуры былі паэты-*ўдарнікі*. Ударалі па бездарожжы, па бескультур'і. Чым і па чым ударалі — гэта было няважна. Галоўнае — каб былі ўдары.

*Ударнікам* яшчэ называлася частка затвора агняпальнай зброі, прызначаная для ўдару па капсулі патрона.

Пра *джазавага ўдарніка* размовы быць не магло. Джаз — спараджэньне капіталістычнага пекла.

Такую аскоміну набілі *ўдарнікі працы*, што ў народзе кпілі весела: «Размах рублёвы, а ўдар храновы».

З раніцы да зьмярканьня па радыё гучала: «Ідуць, ідуць *ударнікі* камуністычных брыгад,

прад імі адкрываецца шырокі далягляд». Лірыка — падай і рыдай.

У той час было такое віно «Санцадар», мацнейшае за сонечны ўдар, дык і сьпявалі: «Не праходзіць дзень бяздарна. Санцадарна — дужа ўдарна. Мы ўсе *ўдарнікі* — мы санцадарнікі». Так сьпявалі мы ў цёплых студэнцкіх кампаніях.

## Улётка

*Генадзь Бураўкін*

Слова гэтае прыжылося й атрымала даволі шырокі ўжытак у дэмакратычным асяродку ў 1990-я гады, гады грамадзкага змаганьня за ідэі нацыянальнага адраджэньня. Яно стала своеасаблівай заменаю афіцыйнай *лістоўцы*, што азначае, як гаворыцца ў даведніках, «друкаваны або рукапісны лісток звычайна злабадзённага палітычнага зьместу».

Слова *ўлётка* падаецца мне паводле гучаньня больш узьнёслым і намнога мякчэйшым, чым халоднае, строгае — *лістоўка*. А калі яшчэ прыгадаць, што самым непасрэдным чынам *улёткі* зьвязаныя з шматтысячнымі менскімі шэсьцямі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і з апазыцыйнымі мітынгамі, — дык можна лёгка вызначыць іх прыкметнае месца ня толькі ў палітычных слоўніках нашага часу, а і ў ня надта ахайных міліцэйскіх пратаколах.

І сам корань слова, паяднаны з *палётам*, *лётам*, выглядае тут у пэўным сэнсе сымбалічным. Шырока разьлятаюцца на крылах *улётак*

і напаміны аб слаўнай гісторыі роднага краю, і сумная статыстыка пакутаў і няўдачаў сёньняшняга дня, і палымяны заклік да працы ў імя народнага шчасьця й волі.

Вельмі хацелася б, каб у XXI стагодзьдзі філялягічна-рамантычнае слова *ўлётка* асацыявалася яшчэ й з высокім *узьлётам* змагарнага духу беларусаў, заслужанага аўтарытэту мілай Бацькаўшчыны.

## Утульнасьць

*Валянцін Акудовіч*

Чалавеку толькі здаецца, што ён прагне Бога, грошай, свабоды. Насамрэч ён усюды і заўсёды прагне аднаго — *утульнасьці*. Іншая рэч, што нехта пачувае сябе *няўтульна* бяз Бога, нехта — бяз грошай, а хтосьці — без свабоды.

Але што найперш скажа вернік, калі адшукае сьцежку да Бога? Падзякуе Богу за прытулак у вечнасьці. А што перадусім зробіць жабрак, калі трохі ўзаб'ецца на грошы? Прыдбае сабе катух. А чым зоймецца вызвалены ад прыгнёту, як толькі здабудзе свабоду? Пабудуе ўласны дом.

Чалавек ня птушка, ён ня любіць бясконцасьці прасторы і *беспрытульнасьці* волі. Таму чалавек увесь час будуе сьцены і акрэсьлівае межы.

Мяжа — гэта зусім ня тое, што разьядноўвае людзей. Мяжа — гэта тое, што *атуляе* чалавека ад скразьнякоў бязьмежжа.

Чалавек можа знайсьці сабе *прытулак* дзе заўгодна. Але кожны, хто здалёк вяртаўся на радзіму, ведае, што адразу за памежным слупом

робіцца і זацішней, і цяплей, нават калі ён вяртаецца ў непагадзь.

І што б там ні казалі іншыя, але нашая прага незалежнай краіны паходзіць не зь любові да свабоды ці зь якойсьці там эканамічнай карысьці, а з патрэбы *беспрытульнага* сэрца, што прагне, як уласным домам, *атуліцца* Беларусьсю ад скразьнякоў бязьмежжа.

## «Ура!»

*Андрэй Лапцёнак*

Калі даведваесься пра паходжаньне слова *ўра*, дык колішняя савецкая традыцыя крычаць на дэманстрацыях «*Ура, таварышы!*» пачынае выглядаць недарэчнай. Слова *ўра* — цюрскае і па-нашаму азначае «бі»... «Бі, таварышы!» — далятае з рэпрадуктараў. «Бі!» — нясецца ў адказ голас шматтысячнага натоўпу.

«Наперад!», «За мной!», «За Радзіму! За Сталіна!» — дзясяткі крывавых, прымітыўных баявых воклічаў рэхам адгукаюцца ў памяці. Кіно і літаратура, ад вайны германскай да грамадзянскай, ад фінскай да аўганскай — чаргавалі велічныя камандзірскія прамовы з панурым хорам тых, што ідуць на сьмерць. «*Morituri te salutant!*» — казалі калісьці рымскія глядыятары свайму імпэратару, ідучы ў бойку. «Тыя, што ідуць на сьмерць, вітаюць цябе!»

Зьмяняліся часы, не зьмяніліся людзі. Імем тырана на вуснах яны прамаўлялі вітальнае слова богу вайны. Тыя, хто выжыў, упарта цягнуць гэтыя воклічы з крывавай мінуўшчыны

ў наша сёньняшняе жыцьцё, спадзеючыся павярнуць кола гісторыі, з надзеяй на выпадковы посьпех.

Выклічнік «*Ура*!» як баявы вокліч войскаў пры атацы чуўся скрозь, дзе ступала нага расейскага жаўнера — у Вугоршчыне, Чэхаславаччыне, Польшчы, у Аўганістане і Чачэніі...

«*Ура*! — мы крычалі пры рашучай атацы з энтузіязмам, горача!» — кажа знаёмы вэтэран. «Крычалі ад страху альбо каб надаць болей сьмеласьці і ўпэўненасьці!» — прызнаецца ягоны сябра. Ад трэцяга ардэнаносца можна пачуць, што і ў першым, і ў другім выпадку слова гэтае крычыцца як мага даўжэй, пакуль хапае паветра. Таму ў асноўным чуецца толькі працяглае «А-а-а-а!» — крык, які крычыцца зь любой нагоды.

## Усходнік

*Уладзімер Арлоў*

Тлумачальны слоўнік беларускае мовы паведамляе, што *ўсходнік* — гэта студэнт альбо навуковец, які займаецца *ўсходазнаўствам*. Але дастаткова пацікавіцца, хто такі *ўсходнік*, у першага сустрэчнага, каб пераканацца, што ў сьвядомасьці беларусаў гэтае слова мае зусім іншы сэнс.

*Усходнік* — гэта ніякі не навуковец і не жыхар нейкага экзатычнага *ўсходу*, а наш брат-беларус, якому выпала жыць у той частцы краіны, што пасьля Рыскай дамовы 1921 году апынулася пад саветамі.

Беларусы, што жылі недалёка ад мяжы, але ўжо з другога ейнага боку, бачылі, як *усходнікі* аралі калгасную зямлю трактарамі, выходзілі на палеткі прыбраныя, як на сьвята, і часта, павярнуўшыся ў той бок, куды сядае сонца, нібы па камандзе заводзілі песьню пад гармонік.

Знаходзілася нямала тых, хто пазіраў на гэткае бесклапотнае жыцьцё з зайздрасьцю і таксама хацеў зрабіцца *ўсходнікам*. Але нікога з тых, хто пераходзіў мяжу, сваякі ўжо ня бачылі — ні на трактары, ні з гармонікам, ні наагул.

Пасьля верасьня 1939 году ўсе беларусы апынуліся ў адной дзяржаве, і хутка стала зразумелым, хто замаўляў песьні пра калгаснае шчасьце.

Слова *ўсходнік* зрабілася амаль што сынонімам чалавека незаможнага, а часам і проста галяка. Але былі і *ўсходнікі* іншага кшталту: прысланыя з цэнтру чэкісты, міліцыянты, кіраўнікі рознага калібру. Стаўленьне да такіх *усходнікаў* нярэдка ўвасаблялася ў кулі, якая помсьціла за дэпартаваных сваякоў, за разрабаваную падаткамі гаспадарку, за зьняважаную нацыянальную годнасьць.

З часам выразны падзел грамадзтва на *ўсходнікаў* і заходнікаў зьнівэляваўся. Але напрыканцы XX стагодзьдзя ўлады вырашылі нагадаць, хто ёсьць хто. Да 60-годзьдзя гэтак званага вызвольнага паходу Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь краіну абклеілі плякатамі, на якіх насельніцтва радасна вітала вызваліцеляў з *усходу*. Каб радасьць была яшчэ мацнейшаю, *усходнікі*, што цалаваліся на плякатах з заходнебеларускімі братамі, не скідалі касак ды моцна трымалі вінтоўкі.

# Ф

## Футбол

*Віталь Цыганкоў*

*Футбол* і палітыка — дзьве рэчы, у якіх разьбіраюцца ўсе бяз вынятку. *Футбалістаў*, як і палітыкаў, зацята крытыкуюць людзі, якія самі ня могуць, вобразна кажучы, патрапіць па мячы. «Ты куды б’еш?», «Ну што гэта за пас?» — і гэтак далей.

Па-ангельску *foot* — нага, а *ball* — мяч. *Футбол* быў і застаецца ў Беларусі самым масавым і папулярным відам спорту, хоць тут у нас няма такіх выдатных посьпехаў, як, напрыклад, у гандболе, цяжкай атлетыцы ці гімнастыцы. Дый беларускія заўзятары ніколі не вылучаліся такой адданасьцю і фанатызмам, як грузінскія альбо ўкраінскія. Нават у 1982 годзе трыбуны сталічнага стадыёну «Дынама» не заўжды былі запоўненыя дарэшты, хоць у тым годзе менскае «Дынама» стала чэмпіёнам СССР.

У сярэдзіне 80-х міліцыянты на стадыёне адбіралі ў маладых людзей бэсэсэраўскія сьцягі, як цяпер адбіраюць бел-чырвона-белыя. Беларуская міліцыя ўвогуле вылучалася нейкай асабліва тыповай для беларусаў строгасьцю.

Міліцыянт мог — на стадыёне! — зрабіць заўвагу альбо нават затрымаць заўзятараў, якія, на ягоную думку, занадта горача выяўлялі свае эмоцыі.

У пачатку 90-х у юных фанатаў, далёкіх ад нацыяналізму пэтэвэшнікаў і школьнікаў, галоўным поклічам стала «Жыве Беларусь!», якое яны пачалі скандаваць замест «Дынама — Мінск». А галоўным і, на жаль, адзінкавым зорным часам беларускага *футболу* можна назваць перамогу нацыянальнай зборнай над чарадзеямі гэтай гульні галяндцамі — 1:0. Зрэшты, я ж казаў: кожны думае, што ён разьбіраецца ў *футболе* і палітыцы...

## Фуфайка

*Антаніна Хатэнка*

Некалі па заходнебеларускіх вёсках кабеты фарсілі ў плюшавіках, аздобленых футравымі манто.

Шляхетна плыла мая матуля па вуліцы — як пава. А на стрэчу ёй — гэткія ж упэўненыя, годныя сялянкі-пані. І ўсім было няўцям, што найлепей маладзіцы й дзяцюку, на думку новай улады, пасуе *фуфайка*. Гэткая цёплая, зручная, без фасонаў і выкрутасаў, — аднолькавая на ўсіх *фуфайка*. Апранаха, што вызваляе ад комплексаў і прэтэнзіяў. Унівэрсальная прыдумка новага ладу.

Здаецца, не засталося па вёсках і мястэчках людзіны, што ня ўлезла б, як у ракавіну, у *фу-*

*файку*. У *фуфайцы* настаўнік або аграном — ужо не гнілая інтэлігенцыя, а паўнапраўны «член обшчаства». *Фуфайка* — як візытоўка ў «сьветлае будушчае»...

*Фуфайка* ганарыста ўскараскалася нават на дзіцячыя плечы. Нібыта прырасла да беларускае нацыянальнае паставы. І ўрэшце — відочна стала праяваю нашае маўклівае пакоры. *Фуфайка* дзе трэба — прыгорбіла, дзе належыць — прыхавала гордасьць стану.

Чалом, чалом савецкай вызваленчай *фуфайцы*! Сымбалю нашае аднолькавасьці й прыніжанасьці. Лягернаму ратунку ад сьцюжаў. Чалом вынаходніку самае перадавое ўніформы ў сьвеце — ватоўкі, якая пазбаўляе ад усялякага цяжару адметнасьці, якая ўшчэнт вынішчае індывідуальнасьць, непатрэбную «настаяшчаму чалавеку», вызваляе ад сябе самога.

І мы ў *фуфайцы* самі не свае. Надзіманыя, а значыць — падманныя.

# Х

## Хабар

*Сяргей Навумчык*

Слова *хабар* паходзіць зь цюрскай мовы. *Хабар* у ХХ стагодзьдзі — гэта зусім ня тое, што было ў мінуўшчыне. Пляшка самагону брыгадзіру ад бабулькі, каб даў каня ўзараць соткі пад бульбу. Мех той самай бульбы ад брыгадзіра — начальніку рамонтнай майстэрні, каб па-за чаргой давёў да ладу трактар. Скрыня каньяку ці зуброўкі начальніку маскоўскага глаўку ад менскага міністра, каб уключылі ў плян дабудову якога-небудзь прамысловага гіганта. У такіх выпадках *хабар* выглядаў спосабам выйсьці зь лябірынтаў сацыялістычнай эканомікі, адміністрацыйнай сыстэмы ці так званага «самага справядлівага правасудзьдзя». І ніхто ня кіне каменя ў маці, якая несла *хабар* пракурору, каб вызваліць несправядліва засуджанага сына.

Але было і інакш, і *хабарам* магла выступаць — пэўны факт — калекцыйная стрэльба за дзясяткі тысячаў рублёў, якую Машэраў ад ЦК КПБ падараваў Леаніду Брэжневу на ягоны чатырохзорны юбілей.

У апошнія пяць гадоў XX стагодзьдзя ў *хабару* зьявілася слова-спадарожнік — такса. Любая паслуга — ці то паступленьне ў інстытут, ці то пазачарговае атрыманьне візавага штампіка ў пашпарце — мае свой дакладны грашовы эквівалент.

Заўважана, што *хабарніцтва* буяе там, дзе ўлада начальства, а ня ўлада закону.

## Халява

*Рыгор Барадулін*

Бот складаецца зь перадоў, заднікаў, падэшвы, запяткаў, альбо абцасаў, і самае галоўнае — з *халявы*. *Халявы* могуць быць кароткімі й даўгімі, калянымі, наглянцаванымі, мяккімі ірховымі, суровымі іхтовымі. *Халявы*, можна сказаць, — аблічча ботаў. Адсюль і прыказка: *відаць пана па халявах*. А пра тое, калі ад ботаў толькі засталіся *халявы*, кажуць: «Пан у ботах, а сьлед босы».

І на пачатку XX стагодзьдзя, і асабліва ў сярэдзіне яго адмысловую ўвагу шаўцы аддавалі *халявам*: каб сонечных зайчыкаў ганялі, як люстэркі — так патрабавалі заказчыкі.

Апошнім часам слова *халява* было адарвана ад ботаў і пачало ўжывацца ў іншым сэнсе. *Халява* — значыць дармаўшчына. *На халяву* — гэта значыць на дурня напіцца, наесьціся ці чым палатацца.

Стуардэсы любяць анэкдот. Міжнародная лінія. Разносяць выпіўку, закусь... Падыходзіць

стуардэса да саўка і прапануе выпіць ды падмацавацца. Ён у адказ: «Бабак няма», — і так некалькі разоў. Тады стуардэса зьвязалася з сваім аэрапортам, там растлумачылі, што бабкі — гэта гатоўка, грошы. І ўжо сьмела падыходзіць стуардэса да саўка дый кажа: «*Халява*, сэр». Прасьвятлеў савок і пачаў даваць два пляны — па выпіўцы і закусі. Сапраўды, як у прыказцы: *піў, як у бот ліў*.

Таго, хто любіць жыць *на халяву*, завуць *халяўшчык*. Відаць, у нас насьпела ўжо неабходнасьць стварыць таварыства *халяўшчыкаў* і назваць яго «*Халява*». Адны й тыя ж на прэзэнтацыях, на прыёмах, на ўгодках. Гэта *халяўшчыкі* кажуць: «*На халяву* й гарчыца салодкая».

## Хапун

*Віталь Цыганкоў*

*Хапун* — красамоўнае сьведчаньне трагічнай пераемнасьці беларускай гісторыі XX стагодзьдзя, калі добра вядомыя словы набываюць новы сэнс і новае жыцьцё.

Калі сёньня журналісты апісваюць падзеі, зьвязаныя з вулічнымі масавымі акцыямі апазыцыі, то *хапун* — найлепшае слова для перадачы экспрэсіі моманту. Затрыманьне, рэпрэсіі, перасьлед — усё гэта недастаткова, усё гэта занадта агульна і бесстаронна. *Хапун* — іншая рэч, ад слова адразу вее гарачынёй падзеяў. Сказаў «*хапун*», і адразу ўсё зразумела, адразу ў галаве паўстае маляўнічая карціна разгону мітынгу

альбо дэманстрацыі, калі людзі ў цывільным вылоўліваюць удзельнікаў акцыі ў дварах альбо на вуліцах. Гэта якраз тое, што журналісты дый самі актывісты такіх акцыяў называюць найчасьцей *хапуном*.

*Хапун* — гэта калі бяруць усіх без разбору, не зважаючы, хто ўдзельнік, а хто проста цікаўны мінак. Калі на працягу дня некалькі чальцоў Цэнтравыбаркаму атрымліваюць позвы ў пракуратуру альбо затрымліваюцца ў аўтамабілях, гэта таксама *хапун*, толькі трошкі іншага кшталту.

Самы вялікі і страшны *хапун* адбываўся ў Беларусі ў 1930-я гады, калі ўначы чорныя варанкі вывозілі людзей назаўсёды. Калі ў канцы 1980-х сталі шырока гаварыць пра маштабы сталінскіх рэпрэсіяў, слова *хапун* у гэтым кантэксьце ўпершыню зьявілася ў беларускай прэсе.

Зразумела, што пяцітомны тлумачальны слоўнік 1977—84 гадоў выданьня ня кажа нічога пра сталінскія рэпрэсіі. *Хапун* мае там два наступныя значэньні. Першае — «тое, што і *хапуга*». Але другое значэньне ня можа ня ўразіць: *хапун* — «атрад карнікаў». Слоўнік дае прыклад: «У вёскі пацягнуліся паліцэйскія і нямецкія атрады праводзіць аблавы... Гэтыя атрады называлі *хапунамі*» (М.Лынькоў). Вось такія гістарычныя паралелі. А беларуска-расейскі слоўнік Яна Станкевіча сягае яшчэ глыбей: «*Хапун* — паводле народнага павер'я: чорт, які хапае жыдоў у ноч пад Новы год».

Так што *хапун* мае багатае мінулае ў нашай мове і рэчаіснасьці. І, здаецца, багатую будучыню.

# Хартыя

*Вольга Караткевіч*

Хартыя нясе з сабою дэкляратыўнасьць. *Хартыя* суадносіцца са словам *грамата* й паходзіць ад лацінскага *charta*, якое, у сваю чаргу, ад грэцкага *chartion* — памяншальнае формы ад *chartes*, што азначае «папера». Слова *chartion* у множным ліку і ёсьць *хартыя* — такім чынам, шмат папераў ці дакумэнтаў.

Першапачаткова *хартыяй* называлі старажытны рукапіс або матэрыял, на якім пісалі, — папірус ці пэргамэнт. У першых нашых летапісах ужо фігуравала гэтае слова — *хартыя*. У Сярэднявеччы слова *хартыя* азначала дакумэнт, грамату, якая давала або пацьвярджала правы або вольнасьці.

Добра вядомая «*Вялікая хартыя вольнасьцяў*» — грамата, паводле якой ангельскі кароль Джон Безьзямельны ў 1215 годзе змушаны быў прызнаць абмежаваньні каралеўскае ўлады на карысьць фэадальных баронаў. Ангельскі *чартызм* таксама ад *хартыі*. «*Народная хартыя*» — гэта праграмны дакумэнт *чартызму*. Зь ёй ангельскія рабочыя ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя патрабавалі роўнасьці.

У беларускі кантэкст XX стагодзьдзя слова *хартыя* прынесла хваля рэвалюцыяў. Назоўнік *хартыя* займеў патэтычны характар. Прыкладам, «*хартыя Леніна*». І нават паэтычны — вось што пісаў беларускі паэт Мікола Хведаровіч:

> Раскрыты старонкі праўдзівых законаў,
> Якія наш прадзед спрадвеку шукаў.

Праменныя літары зьзяюць іх сёньня
Славутаю *хартыяй* ленінскіх спраў.

Але ня «*ленінская хартыя*» стала самай слыннаю ў XX стагодзьдзі. Найперш — *Хартыя*, або Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, прынятая падчас канфэрэнцыі ААН у Сан-Францыска. Гэтая *хартыя* набыла моц 24 кастрычніка 1945 году.

«*Хартыя-77*» была прынятая ў сьнежні 1976 году і абвешчаная 1 студзеня 1977-га. Гэта — ініцыятыва чэскіх і славацкіх дысыдэнтаў.

Пазьней у Эўропе паўстала яшчэ адна *хартыя* — беларуская «*Хартыя-97*». Яна дзейнічае як грамадзкая ініцыятыва і выступае ў абарону незалежнасьці Беларусі і павагі да правоў чалавека. Нашая «*Хартыя-97*» вельмі дэмакратычная — там нават няма кіраўнічага бюро. Усе актывісты і актывісткі называюцца *хартмэнамі*.

## Хата

*Сяргей Шупа*

Дарога да нас слова *хата* была вельмі даўгая і таямнічая — дасьледнікі выводзяць яго паходжаньне ці то з старажытнавугорскай мовы, куды яно трапіла з мовы авэстыйскай, ці то з гоцкай.

Для беларусаў слова *хата* зрабілася адным з самых родных і дарагіх. *Хата* — нешта цёплае, роднае, блізкае і зразумелае, у адрозьненьне ад халодных абстракцыяў кшталту *народ*, *дзяржа-*

*ва*, *айчына*. *Свая хатка як родная матка*. *Як у сваёй хатцы* — кажа беларус пра месца, дзе адчувае сябе добра і ўтульна.

З *хаты* пачынаецца гаспадарка і гаспадар. *Хата* — галоўны асяродак існаваньня, прастора назапашваньня жыцьцёвых скарбаў. *Хата* — гэта канкрэтны пункт лучнасьці чалавека зь зямлёю. *Хата* бароніць ад варожага сьвету, ад прыродных і чалавечых стыхіяў, аднак часам гаспадар мусіцьісьці ў сьвет, каб бараніць сваю *хату* і тое, што ў ёй.

Яшчэ ў сярэдзіне XX стагодзьдзя сялянская *хата* была пераважным тыпам жытла беларусаў. З прыходам урбанізацыі беларусы паперасяляліся ў дамы, кватэры, камуналкі, хрушчоўкі. Аднак мінуў час, і слова *хата* перабралася за беларусамі ў горад. Гэтак сёньня — нават калі гавораць па-расейску — называюць любое сваё жытло.

У *хаце* родзяцца і гадуюцца дзеці, у *хаце* кахаюцца, жывуць і паміраюць. У *хаце* прымаюць гасьцей — і частуюць іх, чым хата багата. З *хаты* чалавек сыходзіць у сьвет — каб зноў і зноў вяртацца. *Дахаты*.

## Хатынь

*Сяргей Дубавец*

*Хатынь* — назва беларускай вёскі, якая сымбалізуе тыя 136 нашых вёсак, што ў мінулую вайну былі спаленыя разам зь людзьмі і больш не адрадзіліся. За савецкім часам *Хатынь* стала са-

мым яркім і вядомым знакам Беларусі ў сьвеце. Яе называлі ў адным шэрагу з чэскімі Лідзіцамі, літоўскім Пірчупісам, францускім Арадурам. Але нідзе ў іншых краінах фашысты не спалілі столькі вёсак, колькі ў Беларусі.

Чаму менавіта *Хатынь* абралі спачатку фашысты, а пасьля — савецкая прапаганда?

Па-першае, перад тым, як вёску спаліў украінскі карны батальён, недалёка адсюль партызаны забілі нейкага фашыстоўскага чына. І спаленьне *Хатыні* было адказам на акцыю савецкіх партызанаў. Цяпер мы ведаем, што такі правакацыйны характар насіў увесь партызанскі рух, кіраваны з Крамля.

Па-другое, прычына ў сугучнасьці, у гульні словаў: *Хатынь* — Катынь. Катынь — месца на Смаленшчыне, дзе напярэдадні вайны чэкісты расстрэльвалі палонных афіцэраў польскага войска. Сугучнасьць дазваляла савецкай прапагандзе затуліць факт сталінскага генацыду фактам генацыду фашыстоўскага.

У часе перастройкі *Хатынь* паступова перабралася ў шэраг новых сымбаляў беларускай трагедыі XX стагодзьдзя і заняла сваё месца паміж Курапатамі й Чарнобылем. Што да паспалітага народу, дык ён застаўся да гэтых сымбаляў абыякавым.

Памятаю у Менску канца 1970-х такую сцэну. Жанчына, магчыма, прыежджая, разам зь дзіцем доўга разглядала значкі ў кіёску «Саюздруку». Нарэшце яна сказала: «Мне, пожалуйста, два значка — колокольчик и машинку». «Які калакольчык?» — пытаецца кіяскёрка. «Да вон тот, где *Хатынь* написано».

# Хлеб

*Рыгор Барадулін*

«*Хлеб* наш надзённы дай нам сягоньня!» — моліць людзтва Ўсявышняга ўжо якое тысячагодзьдзе.

*Хлеб* — аснова жыцьця. *Хлеб* надзённы і хлеб духоўны. На ім трымаецца людзтва. *Хлеб* зь зерня — кроплі Вечнасьці, а зерне сьведчыць пра неўміручасьць жыцьця.

Подавы *хлеб*, каравай вясельны — паўтараюць аблічча сонца.

«У поце аблічча свайго» сказаў Госпад чалавеку зарабляць *хлеб*.

*Хлебам* вымяраецца праца, *хлебам* вымяраецца багацьце, *хлебам* вымяраецца вартасьць *хлебароба*.

На дзяжу садзяць маладую, каб плоднаю была. Праз кажух вітаюць гасьця, каб быў багатым і касматым, як густая рунь.

Не пералічыць усіх ідыёмаў, выразаў у мове, зьвязаных з *хлебам*.

*Зарабіць на хлеб*, *мець на хлеб*, *жыць на ласкавым хлебе*...

*Падхлебіцца* — значыць падлашчыцца. *Падхлебнік* — па-сучаснаму — падхалім. *Хлебнік* — карміцель.

Перш чым адкроіць лусту, бохан цалуюць і ксьцяць нажом.

*Хлеб-соль* — жадаюць, заходзячы ў хату.

«*Хлеб* на зямлі гаспадар», а людзі — «соль зямлі», — як сказана ў Сьвятым Пісьме.

## Хмара

*Рыгор Барадулін*

*Хмара, хмурынка, хмарка*. Нябёсы і *хмурацца*, і *хмарацца*. На *хмары*, як на агонь і ваду, можна глядзець бясконца. *Хмары* ніколі не надакучаць, *хмары* ніколі не падобныя, яны зьменлівыя, яны рознаабліччныя.

Глядзець на *хмары* — значыць чытаць думкі вышыні, бо нябёсы думаюць *хмарамі*. *Хмары* — думкі бяз словаў. Думкі бываюць сьветлыя і ценяпадныя, вясёлыя і цяжкія, адпаведна такія ж і *хмары*. У Эклезіяста: «Таму ня жаць, хто сочыць за *хмарамі*».

У чалавека, як і ў нябёсаў, бывае *хмарны* настрой, *хмарны* стан душы. Казачны кілім-самалёт — гэта добрая *хмара*, якая ўздымае і акрыляе мару, робіць яе блізкай недасяжным абсягам прадоннае вышыні. *Хмары* кунежаць сонца. Дождж сьмяецца праз *хмары*. *Хмары* вяшчаюць, *хмары* прарочаць, *хмары* караюць. Чарнобыльская *хмара* засланіла нашую радасьць. *Хмары*, як людзі, і людзі, як *хмары*, — думаюць, маючы сподзеў на лепшае. Ахінуты *хмараю*, Усявышні зьяўляўся перад Богаабранцам.

## Хуліган

*Сяргей Дубавец*

Слова *хуліган* першымі згадкамі назаўсёды зьвязанае зь дзяцінствам. «Ат, *хуліган*!» — ухвальна ківалі галавою дзядзькі, калі паўгадовы

хлопчык пачынаў поўзаць, адразу парушаючы задуманы дарослымі маршрут. «Сярожа, *не хуліганы*!» — казала бабуля на чарговае свавольства ўнука. Пасьля, калі да дзіцячай кампаніі наведваліся *хуліганы* з суседняга двара, слова патроху набывала тое нядобрае гучаньне, зь якім увайшло ў Крымінальны кодэкс. Там яго падзялілі на дробнае *хуліганства*, простае *хуліганства* і злоснае *хуліганства* — з асобым, так бы мовіць, цынізмам. Сэнс слова расшыфроўваўся тут як грубае парушэньне грамадзкага парадку.

Сёньня названыя артыкулы часьцяком інкрымінуюцца за справы палітычныя — за насьценныя антылукашэнкаўскія графіці, дэмантаж помніка сувораму акупанту або і проста за пікеты і дэманстрацыі. Такая практыка жыва нагадвае сталіншчыну 30-х гадоў.

Паэт Антон Бялевіч ва ўспамінах апавядае пра рэдактара пухавіцкай раёнкі Панкратава, які ў раённым клюбе пачаў разам з усімі танцаваць. Далей цытата:

«І раптам, як бура, у клюб уварваўся першы сакратар райкому партыі таварыш Хіжынкаў:

— *Фуліган*! — наскочыў ён на Панкратава. — Ты не рэдактар, а *фуліган*! Ты аўтарытэт камуніста топчаш тут».

Неўзабаве ў рэспубліканскай прэсе зьявіўся артыкул «Пухавіцкай газэтай кіруюць варожыя людзі!». Ішоў 36-ы год. Няцяжка здагадацца, што стала зь вясёлым рэдактарам.

Літара *ф* у цытаваным *фуліґане* наводзіць на думку, што ў беларускай мове ён зьявіўся адносна нядаўна. Напэўна, у расейскай таксама. Скажам, у слоўніку Бракгаўза *хуліган* фігуруе

як запазычаны з ангельскай. А этымоляг Фасмэр удакладняе: слова паходзіць ад ірляндзкага прозьвішча *Хуліган*. Энцыкляпэдыя «Брытаніка» называе нейкага *Патрыка Хулігана*, які ў 1898 годзе добра *нахуліганіў* у Лёндане. Выходзіць, слова — раўналетак XX стагодзьдзя.

Што б там ні ўчыніў той бузацёр Патрык, а ягонае імя сёньня шырока гуляе па плянэце разам зь піўнымі і футбольнымі, паветранымі, вулічнымі і кампутарнымі, тэлефоннымі і фінансавымі, мясцовымі і заежджымі, айчыннымі і міжнароднымі і яшчэ Бог ведае якімі парушальнікамі грамадзкага спакою — *хуліганамі*.

## Хутар

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Наконт паходжаньня слова *хутар* ёсьць некалькі вэрсіяў. Паводле адной зь іх *хутар* — запазычаньне са старанямецкай, дзе яно мела значэньне часткі акругі, паводле другой — з вугорскай, у якой яно азначала мяжу. У Беларусі *хутары* існавалі з XVI стагодзьдзя. Старадаўнія фальваркі або засьценкі — чым былі не *хутары*?

Ад *хутару* ідуць: *хутаранец, хутаранін, хутаранка, хутарок, хутарны, хутарскі, хутарэц*.

Асаблівае месца ў гэтым шэрагу займае слова *хутарызацыя*: перасяленьне сялянаў зь вёсак на *хутары*. Бальшавікі лічылі *хутаранаў* апірышчам самадзяржаўя. А вось самі *хутаране* лічылі

сябе апірышчам сваёй сям'і і стваральнікамі ўласнага дабрабыту і дабрабыту краіны. Апантаны ідэяй «купіць зямлі, прыдбаць свой кут», Міхал з Коласавай «Новай зямлі» марыў пра *хутар*. Тады як героі Мележа, Чорнага, Зарэцкага жыцьцё паклалі на змаганьне з *хутаранамі*. І зьнішчылі *хутаранаў* як дробнаўласьніцкую варожую клясу, а хто супраціўляўся — расстралялі.

Гэта быў пачатак канца дбайнага гаспадараньня на беларускіх абшарах. На зьмену яму прыйшлі калгасы й саўгасы, дзе ўсё было супольнае, гэта значыць — нічыё. А гаспадарлівасьць перавандравала на гэтак званыя прысядзібныя ўчасткі, якія дапамаглі выжыць, але зусім не пасаблялі жыць.

# Ц

## Цемрашал

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Цемрашал* — слова вясёлае. Яно — асноўны атэістычны тэрмін, пры дапамозе якога савецкая прапаганда вяла барацьбу з рэлігійнасьцю масаў. Слова *цемрашал* прыдумаў Уладзімер Дубоўка на ўзор расейскага *мракобес*. Чаму слова ўзьнікла ў XX стагодзьдзі — ня ведаю. Ці то раней у Беларусі гэткай зьявы, як *цемрашальства,* не было, ці то зьява была, ды заставалася безназоўнай.

*«Цемрашалы* настойліва ўбівалі ў галовы сваіх ахвяр: несупрацiўленьне злу, нянавiсьць да зброі, сьвяшчэннасьць і непарушнасьць законаў сэкты», — чытаем прыклад у тлумачальным пяцітамовіку беларускае мовы.

У розныя гады XX стагодзьдзя *цемрашаламі* ў Беларусі абвяшчаліся розныя людзі: *цемрашал* Будны, *цемрашал* Цяпінскі, *цемрашал* Сваяк. Усе яны былі рэлігійнымі дзеячамі ды працавалі на нашую культуру. А вось рэлігійны дзяяч Сымон Полацкі, які шмат сілаў паклаў на культуру расейскую, *цемрашалам* не абвяшчаўся.

Вясковыя бабулі на слова *цемрашал*, хутчэй за ўсё, нездаўменна паціснуць плячыма — маўляў, пра што гэта?

## ЦК

*Сяргей Навумчык*

У слоўніку беларускай мовы адно слова пачынаецца гэтымі дзьвюма літарамі — *цк* — *цкаваць*. *ЦК* ж як абрэвіятуры не было ў слоўніках — і, відаць, ужо ня будзе. Хоць на працягу трох чвэрцяў XX стагодзьдзя менавіта *ЦК* вызначаў лёсы людзей і народаў, цкаваў і ўзьвялічваў, распачынаў войны і плянаваў перасоўваньне рэк. *ЦК* панаваў дзесяцігодзьдзямі, а сканаў — за адзін жнівеньскі дзень 1991 году.

Для пісьменьніка, акадэміка ці дырэктара заводу ўвайсьці ў склад *ЦК* лічылася больш прэстыжным, чымся ў Вярхоўны Савет — бо ўключэньне ў *ЦК* было найвышэйшаю ступеньню партыйнага даверу. Затое выключэньне з *ЦК* было ня проста стратаю прывілеяў, а прадвесьцем публічнай ці нават фізычнай сьмерці.

Наагул, розных *ЦК* было шмат — у кожнай саюзнай рэспубліцы, акрамя *ЦК* кампартыі і *ЦК* камсамолу, былі яшчэ і *ЦК* галіновых прафсаюзаў. Але ўсе яны былі толькі часткаю бюракратычнае піраміды, на вяршыні якой знаходзіўся *ЦК КПСС* на чале з Палітбюро.

Звычайны беларус слова *цэка* амаль не ўжываў, бо просты чалавек меў дачыненьні з начальствам зусім іншага маштабу — з брыгадзірам, старшынём калгасу, участковым.

Некалі ў энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі *ЦК* будзе стаяць у адным шэрагу з такімі паняцьцямі, як ЧК і Чарнобыль.

## Цнатлівасьць

*Андрэй Дынько*

*Цнота*, то бо *часнота*, спачатку была якасьцю мужчыны, чэснага ваяра. Яе можна было заслужыць сьмеласьцю, разумнай стрыманасьцю, сілай духу, адданасьцю. Пра гэта сьведчыць і лацінскі адпаведнік *цноты* — *virtus*, ад *vir* — «мужчына»; гэта значыць — «заслуга мужчыны». Мужчынскае неўнікнёна ставала агульначалавечым, і *цнота* паступова стала абазначаць дабрачэснасьць увогуле, каб урэшце ня ўнікнуць дэвальвацыі ў *цнатлівасьць*, уласьцівасьць хутчэй жаночую.

Добра быць *цнатліваю* дзяўчынаю, кепска быць *цнатлівым* хлопцам.

Мужчыны дамагаюцца ад жанчын *цнатлівасьці*. Мужчынам падабаецца разбураць. Бо разбурэньне — гэта авалодваньне. Зруйнаваць — значыць апанаваць. Расейцы насадзілі сваю ўладу ў Беларусі, ламаючы ўсе нашы *цноты* — ад цэркваў і ратушаў да ляндшафтаў і правапісу. Калі Купалава «Раскіданае гняздо» мэтафара, дык гэта мэтафара зваяванай і падуладнай краіны. Паніч дурыць галаву Зосьцы, а Сымонка грае на скрыпачцы... Імпэрская ідылія!

Ёсьць нешта рамантычнае ў слове *цнота* і нешта трагічнае ў слове *цнатлівасьць*.

Беларусы й цяпер застаюцца ў стане вартай

жалю мужчынскай *цнатлівасьці*. Вобразна кажучы, у Беларусі няма алькагалізму, у Беларусі спойваюць малалетак.

## Цукар

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Цукар* — слова заходняе, нямецкае. Затое сам *цукар* мы маем свой — беларускі, зроблены з *цукровых буракоў*. Хто зь беларусаў ні прайшоў бураковага выхаваньня! Побач з калгасьнікамі стаялі на полі літарай Г і зьбіралі салодкі ўраджай рабочыя, студэнты, школьнікі, вайскоўцы й навукоўцы. Хто-хто, а яны добра ведаюць горкую цану збору *цукровых буракоў*. У савецкія часы нашыя буракі з ідэйных прычынаў здалі свае салодкія пазыцыі ідэйна блізкаму кубінскаму *цукроваму трысьнягу*, зь якога братні кубінец выробляў і прысылаў нам жоўты *цукар*.

Апрача *цукровых буракоў*, у Беларусі вядомыя *цукровы гарох* і *цукровы боб*. Ад слова *цукар* паходзяць *цукернік, цукраварня* і *цукерка*. Прымаўка кажа, што саладзейшыя за *цукар* для беларуса толькі сон і каханьне.

Дома дзеці бралі *цукар* у лыжку, грэлі яе на агні. *Цукар* плавіўся, пеніўся, і зь яго выплаўляліся брунатныя, хрумсткія з прысмакам дыму лізунцы. Падфарбаваныя ў розныя колеры, але зробленыя тым самым спосабам пеўнікі на палачках прадавалі на вуліцах цёткі.

А ў гэты самы час іншыя дарослыя бралі 20 грамаў дражджэй, 10 літраў вады, 5 кіляў *цукру* і... Але гэта ўжо не пра *цукар*.

# Цывілізацыя

*Валянцін Акудовіч*

*Цывілізацыя* — гэта калі куды вокам ні кінь, усюды відаць ня створанае Богам, а зробленае рукамі чалавека.

Напрыканцы XX стагодзьдзя зямная куля, як цесны пакой, спрэс застаўленая людзкім наробкам. І гэты рукатворны сьвет ужо мае сваю веру — тэхнічны прагрэс, свайго Бога — атамную бомбу, свой судны дзень — ядравы апакаліпсіс.

Тут усё амаль як і ў тым, нерукатворным. З адной толькі розьніцай — Бог стварыў белы сьвет для птушак, зьвяроў, Адама і Евы, а чалавек выштукаваў *цывілізацыю* выключна дзеля самога сябе.

6 мільярдаў людзей штодня завіхаюцца ля камбайна сусьветнай *цывілізацыі*, каб забясьпечыць хлебам і камфортам свой біялягічны від. Пэўна, з гэтага можна цешыцца. Ах, што за асілак гэты маленькі чалавек, які стварыў такую магутную *цывілізацыю*!

Але хай кожны сам у сябе спытае: а ці варты я, каб асабіста дзеля мяне, дзеля майго кароткага існаваньня гіганцкі малох *цывілізацыі* бяз роздыху перамолваў на друз той жыцьцядайны сусьвет, што аднойчы быў створаны Богам?

Я таксама спытаўся ў сябе, і мне зрабілася вусьцішна.

# Цэгла

*Сяргей Харэўскі*

Безь яе няма ані добрай печы ў вясковай хаце, ані трывалага падмурку. З *цэглы* складзены палацы ды вязьніцы. У Максіма Танка яна — сымбаль няволі: «...Шэрай *цэглай* шэра муры глядзелі». А ўва Ўладзімера Дубоўкі — гэта сымбаль стварэньня:

— Выдатна,— кажа майстар,— малайчына! —
калі паклаў ён першую *цагліну*.
Ён для другой
раствору кельняй кінуў...
Якая урачыстая часіна!

Гэтае слова, як і многія іншыя, прывандравала да нас разам з вандроўнымі дойлідамі зь Нямеччыны. *Цэгла*, кахля, цыгель... А датуль *цэглу* звалі плінфаю. З тых плінфаў складзены Сафійскі сабор у Полацку.

*Цэглу* выраблялі ў Беларусі там, дзе была гліна. *Ца-Гліна*. А гліна была паўсюль. Таму ў кожным мястэчку існавалі адмысловыя прадпрыемствы — *цагельні*. Толькі ў Менску іх было зь дзясятак. На *цагельнях* выраблялі і *цэглу*, і дахоўку, і кахлю. Кожная *цагліна* ганарыста пазначалася фірмовым кляйном гаспадара *цагельні*: Макарэвіч, Сьляпян, Рубенчык... Прадукцыя менскае *цагельні* Авэрбуха нат атрымала залаты мэдаль на сусьветнай выставе 1909 году ў самім Рыме...

*Цэгліна* — цяжкая ў руках. *Цаглінка* — маленькая ў вялікім муры. *Паўцагелак* — прыдат-

ны куды падаткнуць, але непаўнавартасны, ня цэлы... *Трывалы, як цагляны. Плыве, як цэгла.*

За гады савецкае ўлады ўсе *цагельні* былі закрытыя. Паўсталі вялізарныя заводы. Аднак *цэглы* станавілася ўсё меней, а дахоўка ды кахля зьвяліся наагул. Пачалі вырабляць белую, сылікатную *цэглу*, якая хутка цьвіце й крышыцца. Зь яе паналяплялі ў 60-я цэлыя раёны хрушчовак. Нарэшце, і гэтая *цэгла* стала дэфіцытам. Савецкія дамы пачалі складаць з бэтонных блёкаў. Дом блёчны ці *цагляны*? — пытаюцца беларусы. *Цагляны*, вядома, лепшы. Здаравейшы, цяплейшы.

## Цярэшка

*Рыгор Барадулін*

Асабліва на Полаччыне захавалася даўняя, лічы, паганская традыцыя *жаніць Цярэшку*. Усе ўдзельнікі гэтай каляднай дашлюбнай гульні моладзі становяцца ў два шэрагі, па чарзе выбіраюцца «дзед» і «баба».

Спачатку «дзед» ловіць «бабу». Пачынаецца вясёлая прыгода, усе падпяваюць:

Дзед бабу лавіў, лавіў,
Ляшчыньнік ламіў, ламіў.
Ляшчыньнік ня ломіцца,
Бабулька ня ловіцца.
— А здайся, бабулька, здайся,
На лепшых не заглядайся.
І тыя ж ня лепшыя —
Ёсьць за мяне й меншыя...

Па традыцыях паганства словы ня дужа выбіраюць:

Пастаі, бабулька, у кутку,
А я разганюся ды ўткну...

Мэлёдыя традыцыйная, а словы дасьціпныя і юрлівыя.

Дзед бабе чугай пашыў,
На начы сем раз прасіў.

Калі «дзед» зловіць «бабу», «баба» пачынае лавіць «дзеда»:

Пастаі, дзядулька, у кутку,
А я табе штонікі вытку...

Калі «дзед» і «баба» ўзаемна папераловяцца, тады пачынаецца застольле — бліны, каўбасы, розныя прысмакі і, вядома, гарэлка свайго вырабу. Над закусьсю мудрылі дзяўчаты, стараліся, каб смачней. Гарэлка была клопатам хлопцаў.

Дзеці таксама *жэняць Цярэшку*. У іх таксама застольле, праўда, не пяршак, а так званая «перагонка» на стале. Ну, вядома, дзеці не сьпявалі:

Цярэшку бяда стала —
З кім яго жонка спала?
У садку зялёненькім,
З казачком малодзенькім.
Цярэшка цярэжыла —
На печы ня ўлежала...

Так моладзь рыхтавалася да сямейнага жыцьця, вясёла і незаклапочана. Клопат прыйдзе пасьля.

# Ч

## Чалавек

*Анатоль Вярцінскі*

*Чалавек* — *чало* і *век* — асобіна, што мае *чало* — мае свой адметны воблік і мае сваё месца ў часе і гісторыі.

Звацца *чалавекам* — было вышэйшым духоўным, грамадзкім, нацыянальным ідэалам для Купалы.

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што *чалавек* я, хоць мужык.

І далей:

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім сьляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Гэта адвечнае імкненьне беларусаў было ўважана і знайшло ўвасабленьне ў словах Устаўнай граматы Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 году, а потым у артыкулах Канстытуцыі ад 15 сакавіка 1994 году, у якой чорным па белым запісана: «*Ча-*

*лавек* зьяўляецца найвышэйшай каштоўнасьцю грамадзтва і дзяржавы».

Як склаўся лёс гэтых гуманных вясновых актаў — вядома. Уладам пэўнага тыпу больш зручна і выгадна гаварыць з папулісцкім патасам ад імя народу і імем народу, і вельмі нязручна і цяжка вельмі вымаўляць гэтае простае і добрае слова — *чалавек*.

## Чарга

*Рыгор Барадулін*

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, між іншым, дае й такое значэньне слова *чарга*: «група людзей, якія чакаюць атрыманьня чаго-небудзь у парадку *чарговасьці* і разьмяшчаюцца звычайна адзін за адным».

Гэта — агульнае вызначэньне *чаргі*, амаль нармальнае. Але на працягу савецкай улады слова *чарга* мела своеасаблівы сэнс. У слоўніку пра гэта падсподна вырвалася: «група людзей, якія чакаюць атрыманьня чаго-небудзь».

Не «чаго-небудзь», а ўсяго, пачынаючы ад хлеба й солі і канчаючы месцам на могілках!

У савецкі час у *чэргах* нараджаліся, у *чэргах* паміралі. Прыкладам, адзін чалавек выстойваў *чэргі*, каб накупляць хоць трошкі гарэлкі на памінкі па жонцы. *Чарга* задушыла — сканаў сам да памінак.

У *чэргах* выхоўваліся ў духу адданасьці ідэям. У *чэргах* раскашавалі сэксоты — людзі казалі амаль усё, што думалі. Органы бясьпекі

давалі заданьне сэксотам на распаўсюджваньне «патрэбных» чутак, плётак пра асобаў, якія не падпарадкоўваліся рэжыму.

*Чарга* была на ўсё: на кватэру, на стол, на тэлевізар, асабліва — на дэфіцыт. А дэфіцытам рабілася ўсё.

*Чаргу* выручаў блат. Згадваецца, як у менскім ЦУМе хлопчык румзаў: «Тата, купі!..» Тата: «Не магу, няма». А малы ў адказ: «Тады купі па блату!»

І не займалі толькі *чаргу* пленумы партыі, яны дзяліліся на *чарговыя* й *нечарговыя*. Людзям заставалася адно ўсьміхацца. «*Чарга — як качарга, вырабі ўсё, што нельга і льга*».

*Чарга* — па *чарговы* дэфіцыт.

## Чарга

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Чарга*, *чаргаваньне*, *чарговасьць*. У гэтых словах парадак жыцьця чалавека — сьпіс справаў на тыдзень, месяц, год. Правілы паводзінаў за сталом: у *першую чаргу* тое, потым другое, потым трэцяе. Першы тост за нагоду, другі за Беларусь, трэці за каханьне.

У складзе савецкай імпэрыі беларусы спазналі *чэргі* па ежу, па жытло, па заробкі, па адпачынак ці да лекара. Адпаведна час нарадзіў *чарговыя* выразы: *жывая чарга*, *у першую чаргу*, *па-за чаргой* і *без чаргі*. Бальшыня зь іх тычыцца канкрэтнай сацыяльнай групы.

Так, *па-за чаргой* або *без чаргі* маглі нешта ат-

рымаць людзі ўлады альбо іхныя халуі. Выключэньні з правіла — вэтэраны вайны, маці-гераіні і хворыя-калекі ды двойчы героі сацыялістычнае працы, якія пачасту выклікалі абурэньне ў тых, хто стаяў у *чарзе*.

Затое *выстаяць чаргу* ці *жывая чарга* — прывілей людзей, не абцяжараных уладай.

Савецкая *чарга нумар 1 — чарга* ў маўзалей, куды прадстаўнікі прыўладных вярхоў краіны заходзілі *без чаргі* — як замежныя турысты.

*Хто апошні? Скажыце, што я за вамі. Вы тут не стаялі* — выразы, народжаныя *чэргамі*.

Яшчэ адно значэньне слова *чарга*: пэўная колькасьць боезапасу, выпушчаная з аўтаматычнай зброі за адзін прыём. *Кулямётная, аўтаматная чарга*.

Сьведкі сталінскіх расстрэлаў згадваюць, што, апрача разавых пісталетных стрэлаў, зь месцаў забойстваў чуліся й *кулямётныя чэргі*.

## Чарніла

*Уладзімер Арлоў*

*Чарніла* — сучасны адпаведнік старабеларускага *атраманту*.

У 60-я гады XX стагодзьдзя слова *чарніла* пачало імкліва губляць свой ранейшы сэнс, перавандроўваючы ў слэнг. У малодшых клясах сярэдняе школы мы ведалі, што *чарніла* — гэта тое, чым мы пішам, зьмесьціва нашых шкляных або парцалянавых *чарніліцаў*. У старэйшых клясах мы ўжо спрэс карысталіся шарыкавымі

самапіскамі й добра засвоілі, што *чарніла* — гэта паганае таннае віно: «Пладова-ягаднае», «Яблычнае», «Прамень», «Вэрмут».

Украінскія вытворцы забясьпечвалі беларускіх аматараў *чарніла* папулярным гатункам «Біле міцне». Азэрбайджан шчодра паіў Беларусь «Агдамам» і «Санцадарам». Беспрасьветна густы «Санцадар» меў поўнае права звацца *чарнілам* і ў першасным сэнсе гэтага слова. Недапітым «Санцадарам» можна было без праблемаў напісаць ліст.

На пачатку 90-х гадоў быў час, калі здалося, што *чарніла* зьнікае з нашых крамаў, саступаючы свае пазыцыі напоям, якія мелі большыя падставы афіцыйна менавацца віном. Але новыя вятры дзьмулі нядоўга. Паводле шматлікіх просьбаў працоўных і нават без рэфэрэндуму *чарніла* трыюмфальна вярнулася і разам з гарэлкаю зрабілася адным з асноўных прадуктаў харчаваньня для катастрафічна вялікай часткі насельніцтва.

Што праўда, пры гэтым *чарніла* набыло, так бы мовіць, сувэрэнны прысмак. На месцы колішніх «агульнасаюзных» назваў на налепках зьявіліся найменьні кшталту «Белая вежа» або «Водар мяты», празваны ў народзе «Морда мятая».

Пад канец 1990-х паўпустыя паліцы айчынных крамаў аздобілі магутныя батарэі пляшак з надзіва моташным паводле водгукаў спэцыялістаў *чарнілам* «Александрыя». Пітушчы электарат замілавана перахрысьціў «Александрыю» ў «Родзіну празідэнта», а найбольш дасьціпныя жлукты любоўна перайменавалі новы напой у «Сьлёзы Галіны Радзівонаўны».

Паведамленьне пра тое, што якраз гэтае пітво ўпрыгожвае сьвяточны стол грамадзяніна Лукашэнкі, зь незалежных крыніцаў пакуль не пацьвердзілася.

## Член

*Сяргей Дубавец*

Царкоўнаславянскае слова *член* у гутарковай беларускай мове гучыць як звышэмацыйнае. Вінаватая ў гэтым прыналежнасьць слова да комплексу фізіялягічных тэрмінаў. Таму *член* не эстэтызуецца ў нас гэтаксама, як, скажам, зона або орган. *Палавы член* і *член КПСС* або *член-карэспандэнт* — для беларускай мовы гэта непераадольнае збліжэньне звышэмацыйнага і эмацыйна нэўтральнага ў адной аманімічнай пары. Прычына, відавочна, у прадузятым стаўленьні беларуса да ўсяго цялеснага, найперш зьвязанага з эротыкай і сэксам. Вось чаму ўжо першыя рэфарматары і нармалізатары беларускай мовы імкнуліся разьвесьці амонімы на два розныя словы. Вацлаў Ластоўскі прапаноўваў *члены цела* называць *чэлесамі*, а *членаў таварыства* — *чальцамі*. Да сёньня яшчэ нельга сказаць, што гэтыя наватворы прыжыліся. Але ўжо шмат хто карыстаецца імі.

На хвалі моўнага адраджэньня часоў Дэклярацыі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусі замест *члена* з агульнае маўклівае згоды пачаў шырока выкарыстоўвацца *сябар*. Гэты факт пацьвярджае зноў жа зусім не імкненьне адстароніцца ад ра-

сейскае мовы, а згаданае эстэтычнае непрыманьне звышэмацыйнага *члена*. Праўда, *сябар* на месцы *члена* стварае для карыстальніка беларускае мовы пэўныя праблемы. Сябар партыі або калегіі адвакатаў гучыць хутчэй як «прыхільнік», а ня «ўдзельнік партыі ці калегіі».

Яшчэ больш блытаная сытуацыя стварылася з *членам цела*. Дзякуючы «Дамавікамэрону» Адама Глобуса прыдуманае Ластоўскім слова *чэлес* устойліва асацыюецца цяпер з мужчынскім палавым органам і ні з чым іншым. Таму спроба Васіля Сёмухі выкарыстоўваць гэтае слова ў перакладах біблійных тэкстаў у шырэйшым значэньні прыводзіць часам да анэкдатычных вынікаў. Словы пра патрэбу даглядаць і берагчы *чэлесы* свае могуць успрымацца з эратычным падтэкстам.

Акрамя ўжо згаданага *ўдзельніка*, «Слоўнік сынонімаў» прапануе яшчэ і *супольніка*, і *партнэра*. Але й тут поўнае дакладнасьці няма. Не эўфэмізуецца ў беларускай мове *член*. І канца пошукам пакуль не відаць. У такіх выпадках сытуацыя, відаць, зрушыцца не мэханічнай заменай аднаго слова на другое, а зьменаю стэрэатыпаў, якія пануюць у грамадзтве, і самога грамадзтва. Некалі жывая плынь беларускае мовы, безумоўна, знойдзе прымальныя для ўсіх назовы згаданых паняцьцяў. І гэта ўжо ня будзе эстэтычна чужое і звышэмацыйнае слова *член*.

# Ш

## Шахматы

*Андрэй Дынько*

Старая беларуская *шахматная* школа спаткала свой «*мат*» — а *мат* па-пэрсыдзку і арабску значыць «сьмерць» — пад нацысцкімі кулямі ў менскім і віленскім гетах. Новых *шахматыстаў* разьмеркавалі ў Беларусь з Расеі ў рамках праграмы аднаўленьня разбуранай гаспадаркі. Тады ў Беларусь прыбылі гросмайстры Суэцін і Баляслаўскі, будучая віцэ-чэмпіёнка сьвету Кіра Зварыкіна, а таксама будучы міжнародны майстар Якаў Сакольскі, якому судзілася распрацаваць самы беларускі *шахматны* пачатак.

Калі ў сыцылійскай абароне ці ангельскай партыі наперад сунуць пешку (якую па-беларуску, паводле Ластоўскага, можна называць таксама ніжнікам) ад слана (або вышніка), у францускай абароне — ад каралевы (або кралі), у стараіндыйскай — ад каня, але асьцярожна, на адну клетку, дык у беларускім дэбюце Сакольскага першым жа ходам пешка вырываецца ад каня аж на дзьве клеткі наперад — b4!

Дэбют Сакольскага — пачатак цалкам алягічны. Здаровы *шахматны* глузд патрабуе напачатку захопліваць цэнтар, а не мітусіцца на

флянгах. Дэбют Сакольскага па вялікім рахунку — досыць прымітыўная пастка, разьлічаная на недасьведчанага працаўніка, які адкажа на ф'янкета белых каралеўскай пешкай, а пасьля абароніць гэтую пешку канём ды страціць яе. Два разы ў такую пастку ня трапіш. Дэбют Сакольскага — па-дзіцячаму авантурны.

Як трэнэр Сакольскі дасягнуў большых посьпехаў, чым як тэарэтык. Ён выхаваў першага гросмайстра-беларуса Віктара Купрэйчыка. Сьледам за Купрэйчыкам прыйшлі Барыс Гельфанд і Ільля Сьмірын. Праўда, як прыйшлі, так і пайшлі, дакладней, паехалі ў Ізраіль. Разам зь яшчэ 90 000 беларускіх жыдоў. Ні той, ні другі дэбюту Сакольскага ўжо не ўжывалі.

Купрэйчык жа заслужыў славу нашай школе *шахматаў*, але большасьці людзей ён памятны тым, што — адзіны з чальцоў Алімпійскага камітэту — ён наважыўся выступіць проці абраньня Аляксандра Лукашэнкі на старшыню гэтай арганізацыі ў 1997 годзе.

Жаданьне беларускага «*шаха*» ажыцьцявілася, але ніхто яшчэ не абверг той праўды, што надмернае імкненьне да арыгінальнасьці ўрэшце ўсё ж вылазіць бокам, як тая пешка ў шалёным дэбюце Сакольскага.

## Шлюб

*Рыгор Сітніца*

У беларусаў можна *шлюб* узяць ці проста пабрацца. Людзі нашага краю ў *шлюб* уваходзяць, *шлюб* ладзяць, да *шлюбу* ідуць або, як пяецца

ў даўнейшай песьні, — маладую дзеўчыну да *шлюбу* вядуць.

Але ў нас ніколі ў *шлюб* не ўступаюць, як можна, прыкладам, уступіць зьнянацку ў «законны брак» альбо яшчэ ў штосьці больш непрыстойнае і брыдкае. Ці ж не таму на беларускім вясельлі адным з найлепшых тостаў было зычаньне маладым, каб іхны *шлюб* ніколі не ператварыўся ў брак.

Як ні спрабую перакласьці па-беларуску расейскія «узы брака», выходзіць зусім невясёлае — *шлюбныя путы*.

Бываюць *шлюбы* паводле каханьня ці паводле разьліку, бываюць таемныя, фіктыўныя ці авантурныя — «безь мяне мяне жанілі». Бываюць *шлюбы* ўзаемна жаданыя і шчасьлівыя, няшчасныя, прымусовыя, няроўныя і нават трагічныя. Кшталтам таго, што гвалтам навязваюць чужыя аблуды-сваты нашай маладой цнатлівай нявесьце-Беларусі зь перастарэлым ды невылечна-распусным і хранічна-нецьвярозым суседам-жаніхом, які даўно ні на што ўжо ня варты са сваім шматлікім пярэстым гарэмам, але ж да чужога і маладзейшага ўсё яшчэ агідна ласы.

І калі даць веры, што *шлюбы* вяршацца на нябёсах, дык крый нас Божа ад гэткага *шлюбу*, за якім ужо і не хаваючыся паўстае бессаромна-пажадлівае мурло суседзкага браку, ад якога, як ведама, калі і нараджаецца нехта, дык адно нямоглыя і недаўгавечныя байструкі.

# Шлях

*Сяргей Дубавец*

Калі б мяне папрасілі адным словам выказаць увесь беларускі лёс зь ягоным бясконцым цярпеньнем і рэдкім шчасьцем, я б вымавіў слова *шлях*. Бо *шлях* — гэта й ёсьць лёс, які мы праходзім *шляхам жыцьця* або *шляхам гадоў*. Увесь наш досьвед і сэнс нашага руху па зямлі ўвабрала гэтае слова. Таму цэлая беларуская газэта або кніга можа называцца кароткім знакавым словам «*Шлях*». Каб адчуць гэтую знакавасьць, варта параўнаць *шлях* з нэўтральным, амаль службовым словам *дарога*. Дарога вядзе да школы, а *шлях* — да асьветы, дарога — да лякарні, а *шлях* — да ацаленьня, дарога — да царквы, а *шлях* — да Бога. *Шлях*, у адрозьненьне ад дарогі, не бывае просты, кароткі або лёгкі. Ён — біты, пакручасты, *Чарнобыльскі шлях*.

> Па беларускім *бітым шляху*,
> Б'ючы ў кайданавы званы,
> Брыдзе чужынец, а зь ім побач
> Хто?
> — Беларускія сыны!

Дарогі сыходзяцца, разыходзяцца і сыходзяцца зноў, *шляхі* разыходзяцца назаўжды.

Калі чалавек гаворыць: «Падкажэце, калі ласка, просты *шлях*», — гэта значыць, што ён не адчувае розьніцы з расейскім словам «путь». Нельга сказаць, напрыклад, пра «русский путь», а пра *беларускі шлях* толькі й можна гаварыць. Няма ў нас і вытворных, кшталту расейскага

«путник», бо па нашым *шляху* ідуць усе беларусы — падарожнікі і дамаседы, старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны, багатыя і бедныя. *Шлях* наш — усіхны.

Асабіста мне слова *шлях* уяўляецца дужым круглатварым і чорнабародым словам-царом, якое ўзвышаецца над сынанімічным шэрагам: дарога, тракт, шаша, гасьцінец… *Шлях* — вялікшы і мудрэйшы за іх.

Шмат хто кажа, што *шлях* беларусаў ляжыць да саміх сябе. Але ніхто ня ведае, куды ён прывядзе.

## Шорты

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

*Шорты* — ангельскае слова, што і на мове арыгіналу, і ў перакладзе азначае кароткія нагавіцы да калена ці карацейшыя, зробленыя ў розных стылях, якія носяць у нефармальных абставінах альбо падчас заняткаў спортам.

Яшчэ ў 70-х гадах пра дарослага чалавека ў *шортах* сказалі б, што ходзіць голы, і, казаў той, як дурня абсьмяялі б. Нават на крымскія пляжы ў 30-градусную сьпёку людзі валакліся ў доўгіх нагавіцах. Што ўжо там у Беларусі, дзе сярэдняя тэмпэратура летам зазвычай і да 20 градусаў не сягае. На Захадзе было ня лепш, але там усё ж хутчэй дапялі, што парыцца трэба ў лазьні, а сьмярдзець потам і наагул ня трэба.

У Беларусі ўласна *шорты* першымі надзелі дзеці. Але й перад тым яны насілі кароткія на-

гавіцы са шлейкамі праз рамёны, якія сьпераду зашпіляліся на гузік. Гэтыя нагавіцы так і называлі: штаны са шлейкамі. А яшчэ такія штаны былі часткай піянэрскай формы.

Першым дарослым чалавекам, які зьявіўся ў Беларусі ў шортах, быў будучы забойца амэрыканскага прэзыдэнта Джона Кенэдзі — Лі Гарві Освальд, які жыў у Менску на пачатку 60-х гадоў. Першыя ж спробы дарослых беларусаў адзецца ў *шорты* былі зробленыя хіба ў 70-х. Тады гэтых незвычайных людзей затрымлівала, а часам і арыштоўвала міліцыя, каб запатрабаваць апрануцца, «як людзі». *Шорты* на дарослым чалавеку сталіся прымальнымі толькі ў сярэдзіне 80-х, калі камуністычная сыстэма пачала дыхаць на ладан і айцам народу стала не да змаганьня з заходнімі ўплывамі на побыт савецкага чалавека. Яны ліхаманкава пачалі шукаць сабе месца ў новых гістарычных варунках — і знайшлі. Цяпер і яны, а многія зь іх людзі ня бедныя, ходзяць у часіну летняе сьпёкі ў кароткіх нагавіцах — *шортах*. Яны спрэс паслугоўваюцца замежнымі словамі тыпу *сатэліт*, *пэйджмэйкер*, *біпэр*, побач зь якімі *шорты* выглядаюць бязьвінным ягняткам.

Цяперашнія беларускія ўлады таксама нічога ня маюць супраць *шортаў*. Калі беднасьць і падаткі сьцягнуць з чалавека апошнія штаны — гэта будзе не канец, застануцца... *шорты*.

## Шыпшына

*Алена Ціхановіч*

У дваццатых гадох XX стагодзьдзя зьявіўся верш Уладзімера Дубоўкі, які назвалі прароцтвам:

О, Беларусь, мая *шыпшына*,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасьцеш.

Спачатку лічылі, што тут Дубоўка ўгадаў колеры будучага БССРаўскага сьцяга; потым — чарнобыльскую навалу. Сам аўтар перапісваў верш, мяняючы *шыпшыну* на лясную ружу й дамешваючы ў лірыку камуністычную ідэалёгію. Урэшце высьпеў мастацкі плод — *шыпшына* засталася паэтычным сымбалем Беларусі.

Недзе на ўзьлеску — недатыкальна-спакусьлівая, калючая, павабная, як незалежнасьць.

Пры дарозе — запыленая, абарваная, скораная, як прададзенае дзявоцтва.

Так і Беларусь пры дарозе эўрапейскай гісторыі — ува ўсіх на шляху: хто ідзе — залюбуецца, хто захоча — ушчыкне.

*Шыпшына*, ці *шыпшыньнік* — слова-алітэрацыя: у ім і шэпт, і шоргат, і гудзеньне пчолаў, і шына, і машына.

*Шыпшына* надта прыдатная для навучаньня: зь першых крокаў дзеці павінны ведаць, што ружы колюцца, зь першых беларускіх словаў — што [ш] і [ч] у нас заўсёды цьвёрдыя. І што гэта заўсёды мілагучна.

Менавіта таму *шыпшына* так разраслася ў паэзіі:

Адчыні, мая дзяўчына,
Адчыні, мая *шыпшына*,
Будзе добра уначы нам.

## Шыцьцё

*Алена Ціхановіч*

*Шыць*, як жыць. Як араць ці касіць.

«*Наша Сора то шые, то пора*», — так у мове замацаваўся трывалы малюнак беларускага побыту, як правіла, местачковага. Прафэсійныя кравецкія навыкі найчасьцей перадаваліся ў спадчыну ў габрэйскіх сем'ях, але без уменьня *шыць* не пражыла ў XX стагодзьдзі ніводная беларуская жанчына.

*Шылі*, *вышывалі*, *перашывалі*, *падшывалі*, пераніцоўвалі... Адсюль пайшло гаваркое слова *падшыванец* — падлетак, які хутка расьце, чые штаны ў латках, надточаныя. Мала хто з *падшыванцаў* меў у парадку свае школьныя *сшыткі*. Пра лёгкую апранаху кажуць: *ветрам падшытая*. У папулярным фільме камплімэнт неардынарнай жанчыне гучаў так: «Вы ж у нас не з канвэеру, вы ў нас *індпашыў*...» Доўгі час перадавіц вытворчасьці прэміявалі адрэзамі на сукенку ці блюзку. Машынка «Зынгер» у вёсцы была прадметам гонару і зайздрасьці, і не адна сям'я паехала ў Сібір проста таму, што нехта на

гэтую машынку паклаў вока, а потым пацягнуў з дому раскулачаных.

*Шыцьцё* — залатое рамяство, але жанчыны абшываюць сябе і свае сем'і, як правіла, не ад багатага жыцьця. *Швейная машынка* — ня што іншае, як прыкмета натуральнай гаспадаркі. І натуральнае жаданьне многіх — вырвацца з кола гэтай неабходнасьці. У сваіх успамінах пра візыт Купалы ў Чэхаславаччыну колішняя праская студэнтка згадвае тайную просьбу Купаліхі: «Завядзі ты мяне ў краму, дзе можна купіць пару гатовых блюзак». У час надыходу джынсаў мы таксама спрабавалі перагнаць Захад на *швейных машынках* — тады штаны-падробкі называлі самастрокамі.

*Швейная* тэрміналёгія пранікла ўва ўсе тэматычныя пласты мовы: *як нітка за іголкай*, *ваду напарсткам насіць*, *шыта белымі ніткамі*... Або — *шыць справу*. Тут майстрамі была пэўная катэгорыя мужчынаў, якія ўмелі іголкі заганяць пад пазногці.

У Койданаве, дзе й цяпер працуе адна з найбуйнейшых у Беларусі *швейных фабрык*, дзяўчат і жанчын сталі жартам абзываць шпулькамі. Так і кажуць: *са шпулькай ажаніўся*.

# Ь

## Ь

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Гэта ня слова і нават ня гук.

Гэта — *знак*.

Адно зь ягоных значэньняў — *мяккасьць*.

Ён забірае на сябе частку *мяккага* характару беларуса, бо *мяккасьць* характару сёньня — гэткі самы крымінал для нацыі, як ужываньне *мяккага знаку* — крымінал для ўладаў. Цьвёрдага ў сваёй веры ў Бацькаўшчыну беларуса можна пазнаць па колькасьці *мяккіх знакаў* у тым, што ён піша.

Чым больш мы перадаем *мяккасьці* словам, тым цьвярдзейшыя мы самі.

«Сьпяваюць "Песьняры"», — з гонарам казаў беларус у 70-х.

«Сьцяна», — цьвёрда напісаў на вокладцы сваёй кнігі Васіль Быкаў.

У сЬвеце згінаў
не згінайце сЬпінаў.
ЗЬмест непазЬбежнасЬці
у незалежнасЬці.

# Э

## Экстрэміст

*Павал Марціновіч*

Карані слова *экстрэміст* у лаціне — «схільны да скрайніх учынкаў».

Скрайніх учынкаў у Беларусі ў XX стагодзьдзі было няшмат — усюдыісны рэжым перашкаджаў.

У 80-я мянушку прышчэпліваюць да ціхманага беларускага дрэўца: *экстрэмісты з БНФ*; *экстрэміст Алесь Пушкін*; пена *экстрэмісцкая* на хвалях перабудовы.

Страшылка *экстрэміст* упала не на камень, а далучылася да жывучых у народзе страхаў. Страх, што заб'юць органы, што пасадзяць, што прападзе ўклад у ашчаднай касе. Кожны маладзён з «Пагоняю» й сапраўды быў *экстрэмаю* для абываталя. А вось *экстрэміст* — прадпрымальнік, *экстрэміст* — сябар Канстытуцыйнага суду, *экстрэміст* — генэрал-палкоўнік — не гучыць. Сямён Шарэцкі зь ягоным дабрадушным тварам на «*акстраміста*» не выглядае.

Дало маху слова.

# Электрычка

*Алена Ціхановіч*

У чэрвені баранавіцкія *электрычкі* наскрозь прапахліся клубніцамі. У Менск цёткі вязуць завязаныя бялюткімі марлямі кашы, назад — сьвежы хлеб.

*Электрычка* — сымбаль і сродак абмену месцамі. *Электрычкай* пераліваюцца, перацякаюць, перапампоўваюцца самыя вялікія масы людзей і рэчаў — з аднаго асяродзьдзя ў другое: з правінцыйнай стыхіі ў сталічную, гарадзкую. З паветра і прасторы — у тлум і цывілізацыю. І наадварот.

*Электрычка* — ня проста цягнік, які працуе на *электрычнасьці*. Гэта вагоны абкатаныя і абжытыя, дзе дарога складаецца з вольнага і нявольнага выбару — глядзець у акно, чытаць, слухаць, есьці, спаць, гуляць у карты, купіць газэту ці марозіва, даць ці ня даць міласьціну...

Калі вы едзеце з расплюшчанымі вачыма, то *электрычка* перад вамі — і як вялізны групавы партрэт, і як краявід.

Гук *электрычкі* звычайна супакойвае. Голас нябачнага кіроўцы зьнітоўвае словы, парадак якіх на ўсё жыцьцё завучваецца, як пацеры: Фаніпаль, Бярэжа, Станькава, Койданава.

# Эўра

*Аляксандар Лукашук*

*Эўра* — слова *эўрапейскае*, але, на жаль, не беларускае — хоць выглядаць іначай магло.

Якога роду *эўра* — жаночага, мужчынскага ці ніякага?

Папярэдні тэрмін, які прайграў *эўра* — экю — перакладаўся як «эўрапейская грашовая адзінка». *Эўра* — таксама грашовая адзінка, кажуць прыхільнікі жаночага роду і дадаюць ускосныя аргумэнты: марка — жаночага роду; апроч таго, у банках і біржах у канцы стагодзьдзя стала намнога больш брокераў і дылераў у спадніцах — ідзе фэмінізацыя фінансавай сфэры, і *эўра* павінна быць жаночага роду.

Другі пункт гледжаньня — *эўра* больш, чымся проста грошы, і таму найлепшы тут ніякі род, нэўтральнае паняцьце, якое ўсім у *Эўропе* сьвеціць аднолькава, як сонца. Праўда, няясна, што тады рабіць тым мовам, дзе няма ніякага роду, як, напрыклад, латыскай.

Прыхільнікі мужчынскага роду спасылаюцца на Нямеччыну, якая больш за ўсіх зрабіла для ўвядзеньня новай грашовай адзінкі. Немцы кажуць *Der Euro* — ён, мужчынскі род, як і ўва ўсякай цьвёрдай валюты кшталту даляра, фунта, франка. Патрыярхальную ідылію псуе хіба рубель.

Першыя дні актыўнага ўжываньня *эўра* далі такі вынік: па-расейску, напрыклад, гавораць *один евро*, па-польску, па-чэску й па-славацку — *jedno euro*.

Стыхія беларускай мовы дапускае абодва варыянты. Але мы маем прэцэдэнт — эскуда. Гэтая партугальская грашовая адзінка ўжываецца ў беларускай мове ў мужчынскім родзе: адзін эскуда.

Пакуль мы гаворым «адзін *эўра*», моўная практыка вызначыць канчатковы адказ на пытаньне, якога роду *эўра* па-беларуску. Дарэчы, наша мова таксама вызначыць, ці стане *эўра* беларускай валютай — калі гэта будзе сапраўды беларуская краіна, то *эўра*, безумоўна, стане і беларускай валютай, а Беларусь — *эўрапейскай* краінай.

## Эўрарамонт

*Сяргей Харэўскі*

Пра *эўрапейскі памер*, *эўрапейскі стандарт*, *эўрапейскую якасьць* мы сёньня чуем штодня. Ніхто ня скажа пра азіяцкі стандарт, нават калі гутарка ідзе пра японскія машыны або кітайскія тэрмасы.

Паказчыкам найвышэйшага дастатку стаў *эўрарамонт*.

Слова *рамонт* паходзіць з францускае мовы. Гэтае слова прыйшло да нас у XVIII стагодзьдзі разам з францускімі, флямандзкімі ды саксонскімі дойлідамі і замяніла сабою ранейшыя: перарабленьне, адбудову, направу.

*Эўрарамонт* — нядаўні нэалягізм. Ён зьявіўся ў 90-я гады з расейскае рэклямы, у якой мае

пыхлівае адценьне: маўляў, *эўрарамонт* — гэта не як ТУТ, а як ТАМ.

У беларускім разуменьні гэтага слова пыхлівасьці няма. *Эўрарамонт* у Беларусі — гэта толькі якасна й хутка выкананая рапарацыя пры дапамозе найноўшых заходніх матэрыялаў і тэхналёгіяў. *Эўрарамонт* — гэта новыя вокны й дзьверы, столі й падлогі, бясконцы выбар фарбаў і прыладаў. А яшчэ — пераплянаваньне, калі ў стандартнай савецкай кватэры цесную кухню злучаюць з суседнім пакоем.

Калі багатыя беларусы сёньня робяць *эўрарамонты*, устаўляюць *эўравокны* і *эўрадзьверы*, дык паспалітым тое не па кішэні, але й яны шалююць свае буданы на шасьці сотках *эўравагонкай*. Само памкненьне быць *эўрапейцамі* ня сьведчыць пра *неэўрапейскасьць*, а наадварот — пра невынішчальнае жаданьне «людзьмі звацца». Калі гэта адбудзецца, слова *эўрарамонт* выйдзе з ужытку. І якасны *рамонт* будзе звацца проста *добрым рамонтам*.

## Эўропа

*Ігар Бабкоў*

Ніхто ня ведае — далёка яна ці блізка, дзе яна пачынаецца і дзе канчаецца. Ніхто ня ведае — ці яна ўвогуле ёсьць, ці гэта не чарговы міраж падчас шматгадовага блуканьня беларусаў па пустэльні.

Усё XX стагодзьдзе яна была прыязная альбо варожая, але перадусім недасяжная, схаваная за

жалезнай заслонай. Сёньня яна сьвеціць нам, як зорка Вэнэра — недзе здалёк, зь недасягальных вышыняў. Кліча ў дарогу.

Калі мы прыйдзем — мы зразумеем, што сьвяціла ніякая ня зорка, а звычайны ліхтар з правага берагу парыскай Сэны, з вуліцы Гравэраў. Але гэта для іх — звычайны ліхтар. Для нас — зорка Вэнэра, залатое Руно, Эўрыдыка.

# Ю

## Юбілей

*Рыгор Барадулін*

*Юбілей,* альбо гадавіны, угодкі, урачыстасьці з нагоды пэўнае круглае даты чалавека, дзеяча, дзяржавы, установы. *Юбілей* Францішка Скарыны, Кастуся Каліноўскага, паўстаньня пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі, Слуцкага збройнага чыну, БНР, Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Васіля Быкава.

На нулях *юбілею,* як на тых колах, едзе воз гісторыі ў вячніну. *Юбілей* асабліва да спадобы прыйшоўся камуністам. Усё было *юбілейнае*: пачынаючы ад адзначэньня кожных пяці гадоў кастрычніцкага перавароту і канчаючы «*Юбілейнай*» каўбасой, «*Юбілейным*» півам, *юбілейнымі* мэдалямі, якімі абвешвалі вэтэранаў, як старцоў торбамі.

Са старажытнарымскай імпэратарскай пампэзнасьцю ладзіліся *юбілеі* генсекаў, членаў палітбюро, сакратароў ЦК рэспублік, дазволеных Масквой, і блішчэлі партыйныя юбіляры на чырвонасуконных сцэнах у прэзыдыюмах, як бліны тыя, шчодра намазаныя здорам. Мяс-

тэчкі і вёскі з прыгожымі спаконнымі назовамі рабіліся *Юбілейнымі* пасёлкамі.

Дасюль у Менску ды ў іншых гарадах і мястэчках вісяць на сьценах адміністрацыйных будынінаў шматпудовыя чыгунныя *юбілейныя* граматы ЦК КПСС, ЦК КПБ, кішанькових прафсаюзаў.

Калі зірнуць у даўніну, дык *юбілей* даслоўна — «*юбілейны* год», гэта значыць год адпушчэньня і вызваленьня, кожны пяцідзясяты год.

Бальшавіцкі рэжым зьбіраўся быць вечным, і вызваленьне з-пад яго яшчэ дужа далёкае. На жаль, рана казаць «вечная яму памяць».

*Юбілей* добра рыфмуецца са словам *ялей-алей*. Не прасох яшчэ той ялей у гонар бальшавіцкіх паханоў, а падліваецца новы, настальгічны. Сьвежы яшчэ алей на палотнах прыцэкаваных мастакоў, а пэндзлі ўжо гатовыя чакаць новых заказаў.

Можа, хоць у XXI стагодзьдзі будзем мы адзначаць *юбілеі* і Аршанскае бітвы, і *юбілеі* Сапегі, *юбілеі* сапраўднай незалежнасьці дзяржавы Беларусь пад бел-чырвона-белым сьцягам ды зь несупыннай «Пагоняю».

# Я

## Я

*Сяргей Шупа*

«*Я* — апошняя літара ў альфабэце», — казалі нам у савецкай школе, калі мы празьмерна падкрэсьлівалі сваю індывідуальнасьць, асобнасьць, самасьць.

Старадаўняе *АЗ*, прайшоўшы праз тысячагодзьдзі, сталася для нас *Я*.

*Я* — мяне — мне — мяне — са мною — ува мне.

Даўгія гады замест гордага й адказнага *Я* нас вучылі казаць баязьлівае й халопскае МЫ. Так беларусы страчвалі адну з сваіх найкаштоўнейшых якасьцяў — індывідуалізм. Індывідуальнасьць, асобнасьць, самасьць — аснова гонару й адказнасьці, передумова творчасьці й самазахаваньня. Замест індывідуальнай адказнасьці гаспадара беларусам у XX стагодзьдзі спрабавалі прышчапіць калектыўную безадказнасьць хамскага МЫ.

*Я* — гэта гаспадарка, МЫ — гэта калгас. *Я* — гаспадар, МЫ — электарат.

Той, хто кажа пра сябе *Я*, той ведае сабе цану.

Прасіць аб праве «людзьмі звацца» могуць толькі МЫ.

Віленскі мастак Аблажэй аднойчы сказаў: «*Я* — гэта слова, адмытае ад МЫ».

«Быў. Ёсьць. Буду» — у гэтых словах Караткевіча *Я* не прамоўлена. Але хто наважыцца сказаць, што тут не гучыць *Я*.

## Язык

*Андрэй Лапцёнак*

Вялікую важнасьць органа, які забясьпечвае перажоўваньне ежы, глытаньне й смактаньне, адчуваеш яшчэ ў маленстве. Як толькі малое выказвае каму-небудзь сваю дзіцячую крыўду або насьмешку, яно зараз жа чуе: «Не паказвай *языка*!» «Схавай *язык*!» — кажуць спачатку бацькі, пасьля выхавальнікі ў дзіцячым садку.

Пасталеўшы, разумееш, што значыць не казаць абы-чаго, *трымаць язык за зубамі*. Твайго дзеда саслалі пасьля суседзкага даносу. А бабуля дзівілася і ўвесь час паўтарала: «І хто гэта Васіля *за язык цягнуў*!» — маючы на ўвазе дзедавага суседа. Вяскоўцы казалі, што ён ня проста прагаварыўся, а быў як зьмяя і здаў дзеда сьвядома. «Цікава, ці ня быў ягоны *язык* раздвоены, як у зьмяі?» — думалі вясковыя дзеці. Сваякі ж суседа Васіля, які памёр толькі у 80-х, годна баранілі свайго прашчура і сьцьвярджалі, што ўсе плёткі й паклёп на вёсцы нясуць *злыя языкі*.

Пачаткам кар’еры для нашых дзядоў мог стаць і эпізод вайны, калі разьведчыку пашчась-

ціла *ўзяць «языка»*. «*Языком*» называлі палоннага жаўнера арміі непрыяцеля, які павінен быў расказаць важную інфармацыю. Разьведчыку давалі мэдаль.

А канцом кар'еры іншы раз рабіўся эпізод мірнага часу, калі інтэлігенцыя, што марыла пра вольную Беларусь, за чаркай *разьвязвала язык*. У курылках навукова-дасьледчых інстытутаў і іншых установаў, дзе «змагары» маглі абмяняцца думкамі, пры набліжэньні каго непажаданага ўсе *прыкусвалі, закусвалі, глыталі* свае *языкі*. І ня дай Бог, нешта *сарвецца з* твайго *языка*.

Калі ў малога шчаняці пашча пад *языком* чорная, пра такога кажуць, што будзе злым сабакам. «Чорна ў роце» — гэта пра беларуса, які цураецца сваёй мовы.

## Яйка

*Сяргей Дубавец*

*Ab ovo* — лацінскі выраз, які заклікае пачаць з пачатку — даслоўна перакладаецца «зь *яйка*».

*Яйка* можа быць качынае, індычынае, перапялінае ці страўсінае, але беларускае *яйка* перадусім — курынае. Вось чаму, асаджаючы наравістага маладзёна, старэйшы скажа: «*Яйка* курыцу вучыць...»

А яшчэ *яйкі* бываюць велікодныя. Расфарбаваныя ў розныя колеры, іх качаюць на ручніку і б'юцца — чыё крапчэйшае?

*Яйкі* займаюць адно зь першых месцаў у ра-

цыёне беларуса. Іх п’юць сырымі, вараць, смажаць, іх дадаюць у безьліч страваў.

Зь недалёкае гісторыі мінулае вайны кожны з нас ведае словы акупанта, што ўвальваецца ў вясковую хату:

— Матка, *яйка*, — патрабуе ён, пагражаючы аўтаматам.

Не разумею толькі, чаму гэтыя зусім беларускія словы прыпісваюць немцам. Прынамсі, не яны гэта прыдумалі. А ў каго навучыліся? Хто цяпер ведае, можа ў паліцаяў, а можа і ў савецкіх партызанаў.

На Каляды абавязкова пакладзіце ў мех калядоўнікам тры *яйкі* — сымбаль трэцяга тысячагодзьдзя.

## Яма

*Анатоль Вярцінскі*

*Яма*, *яміна*, *ямка* — адно з самых сэмантычна напоўненых словаў нашай мовы. Для беларуса, для яго побытавай сьвядомасьці, гістарычнай памяці гэта — склеп, зямлянка, калдобіна і акоп, падвал і траншэя, нара і роў, канава і яр і, вядома ж, — магіла.

*Жывым у яму не палезеш, не капай ямы свайму бліжняму*. Гэтак гучала спрадвечная мудрасьць народу.

Але насуперак ёй далакопы рабілі сваю чорную справу, стралялі і скідвалі ў *ямы* штабялямі гэтых самых ні ў чым не вінаватых сваіх бліжніх. У выніку гэтай іхняй кіпучай дзейнасьці на

беларускай зямельцы ўтварыліся незьлічоныя *ямы*-магілы. *Ямы*-магілы ў Курапатах, *ямы*-магілы ў ваколіцах Магілёва, Воршы, Вялейкі, Бабруйску, Гомелю.

*Яма*. *Яма* эмацыянальная, *яма* духоўная, *яма* прававая, *яма* маральна-палітычная, і *яма*, у фігуральным сэнсе, ваўчыная — гэта ўжо калі чалавек падыходзіць да бездані, калі ў яго ўжо зьнікае магчымасьць жыць.

«Во трапіў у ваўчыную *яму*, колькі куды ні скачы — ня выскачыш», — горка зазначае ў сваіх перадсьмяротных развагах герой аповесьці Васіля Быкава, якая так і называецца — «Ваўчыная *яма*».

# Слова

*Валянцін Акудовіч*

*Слова* — што тут казаць — Бог. Цуд маўленьня — найвялікшы на гэтым сьвеце. У параўнаньні зь ім нішто нават само стварэньне сьвету. Нявымаўлены і праз маўленьне ня выяўлены сьвет — нешта настолькі жахлівае, што ня мае роўнажахлівага слова.

Узьнікаюць і гінуць галяктыкі, запальваюцца і згасаюць сонцы, плывуць над сьнягамі аблокі, туляцца ў пушчах зьвяры, а ў водах — рыбы. Але бяз *слова* ўсяго гэтага дзіва ніхто ня бачыць, не трымае ў памяці, не беражэ да наступнага дня. І хаця сьвішча вецер, трушчацца камяні, рыкае зьвер, аднак глухая цішыня няўцямнасьці пануе ўсюдна: усё ёсьць — і нічога няма. Жудаснае відовішча. Як быццам чалавек яшчэ не нарадзіўся, а ўжо памёр.

Пакуль сьвет ня быў названы сьветам — яго як не было. Усё, што ёсьць — ёсьць толькі таму, што мае сваё *слова*.

Адам, надаўшы істотам ды існасьцям імёны, вызваліў іх зь вязьніцы небыцьця. І тады ўсё, што было, сталася *словам*, а што ня сталася *словам*, таго не знайсьці.

Натуральна, *слова* — Бог. Спачатку было *слова*. Напрыканцы *слова* зноў ня будзе.

Апакаліпсіс — гэта ня енк, ня лямант, не мальба. Апакаліпсіс — гэта той дзень, калі нам усім разам адыме мову. «Гэта канец сьвету», — пасьпее сказаць чалавек, але ўжо не пачуе ніводнага *слова*.

# Азыль

*Алена Ціхановіч*

У чэскім горадзе Градэц-Кралавэ нарабіў аднойчы пярэпалаху чалавек, што залез на высачэзны фабрычны комін. Думалі — спроба самагубства, выклікалі пажарнікаў, тыя распачалі перамовы. Аказалася, беларус Сяргей Н. такім чынам бараніўся ад вяртаньня на Радзіму. Загадаеце ехаць назад — лепш скочу і заб’юся...

Рашэньне адрэзаць шляхі раўназначнае перавароту каштоўнасьцяў. Раней ты думаў: жыцьцё кароткае, Радзіма вечная. Умомант усё інакш: жыцьцё кароткае і адно, і варта пражыць яго годна.

Загадаць запрагаць коні і за адзін прысест напісаць палянэз. Кінуць у заплечнік пару рэчаў і зрабіць выгляд, што едзеш у вандроўку. Паказаць памежніку пашпарт і затрымаць сэрца, аж пакуль яго зялёная фуражка ня зьнікне за апошнім мостам. Калі адвечная выгада — жыць дома — губляе грунт, выгнаньне становіцца выйсьцем.

Слова *азыль* бярэ карані яшчэ ў лацінскім *asylum* — схованка, бясьпечнае ўкрыцьцё. У падобнай абалонцы слова перайшло у нямецкую, ангельскую, польскую, францускую і безьліч іншых моваў, улучна зь беларускай. Тут *азыль* стаў сынонімам найперш «палітычнага прытулку».

---

Ад рэдакцыі: для гэтага выданьня ўдзельнікі перадачы 1999 году напісалі яшчэ па адным эсэ, прааналізаваўшы словы і зьявы, якія падаюцца ім істотнымі ў XXI стагодзьдзі.

Палітычныя ўцекачы сталі таксама называцца *азылянтамі*.

Гукава і сэнсава *азыль* вельмі блізкі да *экзылю* — ад ангельскага *exile*, што ёсьць «выгнаньне, высланьне з краіны». У мове беларускіх эмігрантаў *экзыль* раўназначны проста эміграцыі. Матывы сыходу могуць быць падобныя: вайна ці дыктатура, страта працы ці пэрспэктывы. Аднак *азыль*, у адрозьненьне ад проста ўладкаваньня за мяжой, прадугледжвае і атрыманьне пратэкцыі ды абароны той чужой дзяржавы, дзе ўцякач апынуўся.

Калі пэрыяд самаўладзьдзя Аляксандра Лукашэнкі пачаў набліжацца да брэжнеўскага рэкорду, Беларусь стала радзіць *азылянтаў*, як бульбу. У годзе пасьля Плошчы 2010-га прытулку ў краінах Эўропы папрасілі паўтары тысячы чалавек. У тым ліку Алесь Міхалевіч, які спрабаваў быў стаць альтэрнатывай першаму прэзыдэнту. Ён, як і іншыя альтэрнатыўныя кандыдаты, адразу з выбараў патрапіў у турму. А вырваўшыся зь яе, заявіў пра катаваньні. Міхалевічаў манэўр з уцёкамі стаў іншым падыходам да рызык палітычнай барацьбы, чым Статкевічава адкрытая самаахвярнасьць. Тым часам у беларускім грамадзтве ўжо, бадай, з роўнай мерай талеранцыі ставяцца як да выбару чалавекам *азылю*, так і да жаданьня нікуды з Бацькаўшчыны не ад’яжджаць.

Чым больш дурной славы здабывае беларускі кіраўнік, тым больш падвышае шанцы тых суграмадзянаў, што *азылю* шукаюць. Урэшце — што асабліва магло б пацешыць *азылянта* са стажам Зянона Пазьняка — нават некаторыя

расейцы, падаючы на *азыль*, сталі называцца беларусамі.

Ну а што наш Сяргей Н. на коміне? Перад чэхамі ў яго не аказалася ніякіх грахоў, акрамя пратэрмінаванай візы. Дадому ён не хацеў, бо пару разоў пасьля акцыяў пабываў у міліцыі. Пажарным удалося яго сьцягнуць, паабяцаўшы напачатку цыгарэту. Сяргей Н. стаў першым беларусам, які за сваю малую правіну атрымаў памілаваньне чэскага прэзыдэнта. Дадому яго не выслалі. У Беларусі засталося на аднаго чалавека менш. Таго, хто мерае сваёй мерай: чым так жыць, лепш скочыць з коміна.

## Аўтазак

*Зьміцер Бартосік*

Гэтага «*изделия*» Менскага аўтамабільнага заводу вы ня знойдзеце ў каталёгах на афіцыйным сайце прадпрыемства. Наўрад ці кіраўніцтва краіны прэзэнтавала яго на міжнародных выставах і інвэстыцыйных форумах. Сумняюся, што гэтая машына экспартуецца за мяжу. Але беларусам гэты аўтамабіль добра вядомы. І нічога, акрамя жаху і гідлівасьці, яго зьяўленьне на вуліцах у людзей не выклікае.

Упершыню яго прэзэнтацыя для шырокай публікі адбылася падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году. Новенькія, пакрытыя брудна-зялёнай фарбай, *паралелепіпэды на колах* выглядалі на Плошчы нейкімі іншаплянэтнымі пасланцамі. Ад кратаў на ветравым шкле стваралася ўра-

жаньне, што гэта не мэханізмы, якія кіруюцца людзьмі, а нейкія *кібаргі*, запраграмаваныя паглынуць у сваё нутро ўсё жывое.

З тае пары бяз гэтых *пачвар* не абыходзіцца ніводная акцыя незалежнага грамадзтва, ніводнае сьвята неабыякавых беларусаў, ніводзін палітычны мітынг апазыцыі. Калі на вуліцы зьяўляецца калёна *аўтазакаў* — гэта пэўная прыкмета таго, што ў горадзе чарговым разам парадак наводзіць будзе зло. Павольна паўзучы пустыннымі вуліцамі, гэтая *пачвара* нагадвае кадры з фантастычнай казкі пра нейкага злоснага троля, што захапіў уладу ў горадзе сонца.

Неяк у Дзень абароны дзяцей Менгарвыканкам прыгнаў *аўтазак* у Цэнтральны дзіцячы парк. І наладзіў бясплатны атракцыён для дзетак і дарослых. Каля *аўтазака* ўтварылася чарга з ахвотных пасядзець на месцы для вязьняў. Я да гэтае пары не магу зразумець, што гэта было. Экскурс у сьветлую будучыню? Акцыя застрашэньня? Ці наверсе так разумеюць лёзунг «Усё найлепшае — дзецям»?

Улада пнецца зрабіць сымбалем гэтай эпохі будынак бібліятэкі, лядовыя палацы ці аграгарадкі. Але больш яскравы сымбаль, чым *аўтазак*, для нашага часу прыдумаць цяжка. У новае стагодзьдзе Беларусь уехала ў *аўтазаку*. Але стартавала з плошчы Каліноўскага.

Ня думаю, што канвэер, дзе руплівыя рукі беларускіх працоўных зьбіраюць гэтую мадэль, хутка спыніцца. Але ёсьць у гэтым сьветлы момант. Яны баяцца, што аднойчы на ўсіх ня хопіць месцаў.

# Герой

*Сяргей Дубавец*

*Герой* не даецца ўпісаць сябе ў шэраг. Ён заўсёды адзін. Учынак *героя* — безаглядны: ці то подзьвіг, ці то вар'яцтва.

З часоў антычнасьці *герой* не зьмяніўся. Адно мяняў месца — то ў літаратуры ўзьнікаў, то ў жыцьці. Калі ў жыцьці *герояў* рабілася зашмат (бо там «заўсёды ёсьць месца подзьвігу»), народ адказваў досьціпам — «герой працы з гемароем у сраццы»...

Але без «*героя нашага часу*» заўсёды было ніяк.

У XXI стагодзьдзі Беларусь ператварылася ў краіну *герояў*. Ікар Ігар Гермянчук, які згарэў у працы, стаўшы для нас цяпер ужо клясычным узорам журналіста, рэдактара, выдаўца. Алесь Бяляцкі, які, нібы Хірам, узводзіць храмы грамадзянскае супольнасьці. Сяргей Каваленка, беларускі супэрмэн Мірон, чалавек-сьцяг...

Аднадзённая рэальнасьць ня можа зьмясьціць у сабе антычных *герояў*, яна з усяе сілы выштурхоўвае іх зь сябе ў паралельны сьвет — за краты або ў сьмерць. Таму *герояў* будзе рабіцца ўсё больш, пакуль рэальнасьць не пашырыцца ў часе і *героі* не пачнуць перабірацца ў літаратуру — як аб'ект любові й нянавісьці, як прадмет нацыянальнага гонару, як прыклад для пераймання.

Пакуль у літаратуры іх няма. Пакуль у кнігах, намінаваных на першую літаратурную прэмію Ежы Ге(д)ройця, жывуць *героі* лірычныя, мар-

гінальныя і адсутныя. Адзіным сярод іх насамрэчным *героем* сучаснай беларускай літаратуры аказаўся Лі Гарві Освальд.

Незалежна ад волі аўтараў яе вялікасьць літаратура сама выбірае сваіх фаварытаў на кожны час. Але незалежна ад часу кожны калі-небудзь спрабуе разгледзець *героя* не ў літаратуры й жыцьці, а ў самім сабе.

## Грэх

*Андрэй Дынько*

«Ты знаеш, што такое *грэх*?» — спытаўся тыран Лібіі Кадафі ў маладога паўстанца, калі трапіў, пасьля свайго апошняга бою, у палон.

Юнак ня знаў.

Або лічыў літасьць над ворагам *грахом*.

Магчыма, гэты ўзрушальны эпізод гісторыі ня здарыўся б, калі б у самога Кадафі калісьці хтосьці запытаўся: «Ты ведаеш, што такое *грэх*?» — напрыклад, у той момант, калі ён, гадоў з трыццаць назад, аддаваў загад узарваць самалёт над Локербі. А ці ў той момант, калі прыдумаў, як «элегантным» спосабам выбіць з палітвязьня X прашэньне аб памілаваньні.

Але дыктатар — прынамсі, знаёмы нам сучасны тып дыктатара, назавем яго Dictator vulgaris — не цярпіць вакол сябе людзей, схільных узьнімаць маральныя праблемы. Ён можа набліжаць да сябе вялікіх бізнэсоўцаў ці сьвятароў, артыстаў і інжынэраў, і сёй-той зь іх успрымае такое збліжэньне за гонар ці шанец, але сярод

гэтага, часамі ў інтэлектуальным ці службовым сэнсе выдатнага кола, якое дапамагае дыктатару разьбірацца, што «выгадна-нявыгадна», што «прыгожа-непрыгожа», «моцна ці слаба», «своечасова ці нясвоечасова», «удала ці памылкова», кола, якое разам з кіраўніком краіны выпрацоўвае рашэньні і нясе за іх адказнасьць, вы ня знойдзеце асобы, якая б мела звычку, з патрэбаю ці без патрэбы, паралельна рабіць бінарную ацэнку: *грэх* ці ня *грэх*, харам ці халяль?

Ёсьць словы, якія на памяці аднаго пакаленьня сталі ўжывацца радзей. Страцілі сваю рэлевантнасьць ня толькі назвы ручнога сялянскага інвэнтару, але і некаторыя абстрактныя панязьці. Слова *грэх* — адно зь іх. Так, ёсьць многа рэлігійных сем'яў, дзе гэтая катэгорыя застаецца асноватворнай, якой яна была для мяне ў маім дзяцінстве. Але ў многіх сем'ях, многіх галовах яна адышла ў пасіўны запас.

Калі я быў малы, *грахі* ўвесь час называліся, пераацэньваліся, мяняліся, яны рэальна існавалі. Гэтая маральная ўстанова падмацоўвала самыя розныя нормы. «Хлебам ня кідаюцца, бо гэта *грэх*». «Красьці — *грэх*». «Ён *зграшыў*». Цяпер мамы і бабулі, хутчэй, скажуць: «Хлебам ня кідаюцца, бо так не прынята». «Красьці нельга». «Яму не павязло». Чаму не прынята? Чаму нельга? Чаму не пашэнціла? Прапала інстанцыя.

І калі 20 гадоў таму можна было пачуць: «Забыцца родную мову — *грэх*», — цяпер нават для выражэньня такога палітычнага дакору з большай імавернасьцю падбяруць іншыя словы.

Тэндэнцыя сэкулярызацыі агульнаэўрапейская. Гэта плата за разьвіцьцё навуковай веды, якая зрабіла наша жыцьцё даўжэйшым, лягчэй-

шым. Катэгорыя *граху* страчвае сваю рэлевантнасьць там, дзе ўсё стае рэлятыўным. Але тое адбываецца таксама і пад уплывам маўленьня і мэнтальнасьці палітычнай эліты ды масавай культуры, якія найбольш фармуюць розумы.

Напрыклад, у амэрыканскай палітыцы і мас-культуры, роўна як і ў ісламскай, пра *грэх* па-ранейшаму публічна гавораць.

Я далёкі ад таго, каб рабіць тут нейкія высновы. Як сказаў калісьці кітайскі мудрэц зь іншай нагоды: прайшло замала часу, каб можна было даць гэтаму ацэнку. Што з таго, што аятала Хамэнэі назваў атамную зброю вялікім *грахом*? Калі Іран нарэшце наскрабе ўрану на бомбу, мула выдасьць новую фэтву. Што з таго, што амэрыканскія палітыкі разважаюць пра *грэх*, змагаючыся за ўладу? Чалавек, які адмаўляе паняцьце *граху*, можа дзеяць справядлівей, чым цынікі з тэалягічнымі імпэратывамі на вуснах. Колькасьць атлусьцелых людзей ня меншая, а большая там, дзе жарлівасьць, нястрымнасьць у спажываньні лічыцца адным са сьмяротных *грахоў*.

Бо сам чалавек па натуры *грэшны*. Хто — без *граху*? *Грэх* — тое першароднае, нязводнае, што прарастае ў нас, як трава-шчотка, трава-сівец — на пяшчанай пусташы.

*Грэх* не вытлумачвае ўсіх праблем сьвету, усіх бедаў жыцьця. Але тым, хто з катэгорыяй *граху* вырас, яна робіць многае ў сабе і ў сьвеце ясьнейшым. У тым ліку і эпізод з Кадафі, калі ў момант свайго канца гэты дыктатар, яшчэ нядаўна без тармазоў, а цяпер разгромлены, гнаны, прыніжаны — звычайны дыктатар на сконе жыцьця свайго, паспрабаваў нагадаць нейкія

мінімальныя агульныя канвэнцыі, прабудзіць у памяці найпрасьцейшы закон чалавечнасьці і запытаўся ў юнака-паўстанца:

— Ты знаеш, што такое *грэх*?

## Гугл

*Віталь Цыганкоў*

Пошукавая сыстэма «*Гугл*» — гэта звыш мільярда запытаў штодня. Як і «Бітлз», «*Гугл*» — прыдуманае слова, наўмысна перакручанае яго аўтарам — мільярдэрам, эмігрантам з Савецкага Саюзу Сяргеем Брынам, адным з двух заснавальнікаў *гугл-імпэрыі*. Назва *Google* пайшла ад слова *Googol*, што азначае дзесяць у сотай ступені.

«*Гугл*» — гэта александрыйская бібліятэка XXI стагодзьдзя, сучаснае сховішча назапашаных чалавецтвам ведаў. Аднак калі ідзеш у бібліятэку, то звычайна ведаеш, што шукаеш — нейкую канкрэтную кнігу, газэту. Калі заходзіш у «*Гугл*», не падазраеш, куды ён цябе прывядзе. Набіраючы словы ў пошуку, ты ня ведаеш, якая з тых тысяч спасылак, што выдасьць «*Гугл*», акажацца найбольш адпаведнай і патрэбнай. Гадамі штодня карыстаючыся «*Гуглам*», я, напрыклад, дагэтуль ня ведаю, паводле якога прынцыпу ён ставіць спасылкі наверх.

Як на маю думку, няма іншага слова, якое б лепш адпавядала сэнсу «слова XXI стагодзьдзя», чым «*Гугл*». Бо «*Гугл*», як нішто іншае, дэманструе пераход ад «чалавека ведаў» да «чалавека запыту». Ці — «чалавека пошуку» або «чалавека

навыку». Калі раней у пашане былі людзі, што маглі ў любы момант дастаць з сваёй разумнай галавы адказ на шматлікія пытаньні, не зьвязаныя зь іхняй прафэсіяй (пра такіх казалі «хадзячая энцыкляпэдыя»), то цяпер гэтая ўласьцівасьць патрэбная хіба што ў інтэлектуальных шоў, на якіх можна зарабіць грошы. Ува ўсіх астатніх выпадках можна пайсьці ў «*Гугл*».

«*Гугл*» робіць роўнымі чалавека адукаванага і чалавека непісьменнага, як калісьці, паводле вядомага выслоўя, усіх зрабіў роўнымі спадар Кольт, вынайшаўшы пісталет.

## Дубінка

*Рыгор Барадулін*

Для пачатку чытаю ў Даля: «*Дубинка* — ослон, кол, толстая палка для обороны, драки. // Тупой, глупый, упрямый человек...»

Хоць беларускаму вуху болей звычна *друччок*, *кій*.

У нашай рэчаіснасьці *дубінка* — як бы табэльная зброя, нешта накшталт жазла ў міліцыянтаў, спэцназаўцаў. Дарэчы, па-беларуску *спэцназ* будзе *спэцпрыз*. Прыз для тых, хто бунтуе, хто ня згодны з хібамі ўлады.

Пра інтэлектуальны і маральны ўзровень тых, хто стаіць у ачапленьні і *дубінкамі* ставіць на правільную дарогу апазыцыянэраў, мітынгоўцаў, казаць ня буду. Гэта ведаюць лепей наймальнікі *дубіншчыкаў*.

Але самая магутная зброя ўва ўсе часы — гэта

вольнае слова. І як ні заціскалі яму рот, слова пілуе краты, рушыць турэмныя муры, зрывае кайданы з рук праўды.

Беларусь магла б імпартаваць *дубінкі* — яшчэ засталіся лясы, хай сабе дужа прарэджаныя. Адна Белавежа чаго вартая.

*Дубінка* стараецца выбіць мазгі, а сама іх ня мае, яна нямая. *Дубіншчык* да паслуг у *дубінкі*, а не наадварот. Гаворыць пратэст, ня ўмее маўчаць нязгода. *Дубінкі* — балючыя знакі прыпынку.

Як ні стараецца *дубінка*,
Рашучы гнеў не заглушыць,
Калі ўсхадзілася іскрынка —
Пажар рашучы будзе жыць!

## Каліновец

*Юрась Бушлякоў*

У XXI стагодзьдзі гэтае слова ўвачавідкі вярнулася да жыцьця. Сьцюжнымі сакавіцкімі днямі й начамі 2006-га грамада адважных азвалася пратэстам у цэнтры Менску. Выбіраючы сваё, не чужое, пратэстоўцы перайменавалі месца чыну ў пляц Каліноўскага. Кінуўшы выклік абрыдламу самадзяржаўю, тыя беларускія людзі й сталі сучаснымі *каліноўцамі* — наступнікамі *каліноўцаў-паўстанцаў*, змагароў супраць усходняе ўлады на нашай зямлі.

А пасьля Плошчы ў салідарнасьці зь Беларусьсю нарадзілася навучальная праграма. Імя Каліноўскага. Яе ўдзельнікі — маладыя *калі-*

*ноўцы* — ехалі й едуць да суседзяў у Польшчу вучыцца ды сталець. Празрыстае, выразнае, запамінальнае слова *каліновец* у новым сваім значэньні разьляцелася па сьвеце. Пра *каліноўцаў-студэнтаў* нямала пішуць, за імі сочаць зычліўцы й скептыкі, іх лёсам цікавяцца паплечнікі й даносчыкі. Яны, *каліноўцы*, ведама ж, розныя — ня толькі зь вераю й ведамі. Імя абавязвае ня кожнага, і прамільгне, бывае, прыкрая вестка, кідаючы цень.

Але не папусьцяцца *каліноўцы*! Навучацца, пасталеюць — і не забудуцца за гады ў суседзяў на сваё. А тады, вярнуўшыся, змагаючы крок за крокам цяжар ранейшых паразаў, далей будуць пісаць гісторыю *каліноўцаў*. Цяпер ужо гісторыю *пераможцаў*.

## Кансультант

*Вольга Караткевіч*

Усяго некалькі гадоў, як у беларускіх крамах да спажыўцоў зьвяртаюцца людзі з бэйджамі *«Прадавец-кансультант»*. Гэты *кансультант* гатовы (і абавязаны) неабмежаваны час расказваць пра якасьці тавару ці паслугі, іх перавагі і нават крыху пра недахопы. У ідэале ў выніку вы, не дачакаўшыся нялюбага пытаньня — «Дык купляеце?», — самі бераце тавар з поўнай упэўненасьцю, што рашэньне гэта — вашае. А перад выбарам — такая пазнавальная экскурсія ў сьвет тавару ці паслугі, вытворцы і г.д. з разьлікам, што вы калі не цяпер купіце, дык пасьля ўсё адно прыйдзеце. Вельмі ж прыцягальным фактарам

зьяўляецца памаўленьне без прамога прыцэлу на кішэню. Зусім не базар!

*Кансультант* — ад лацінскага *consultans* — «той, які радзіць». Слоўнік Аляксандра Булыкі так і тлумачыць: «асоба, якая дае кансультацыі па пытаньнях сваёй спэцыяльнасьці». Паколькі да *кансультанта* дадаецца *прадавец*, значыць, задача *кансультанта* — правільна прадаць. Shop assistant — так вы можаце паклікаць за мяжой *прадаўца-кансультанта*, каб вам памаглі выбраць патрэбную рэч.

*Прадавец-кансультант* — не пасада, але паслуга з адказнасьцю на ўзроўні пасады. Увядзеньне *прадаўца-кансультанта* ў беларускі гандаль — ці не найлепшая задума паламаць закаранелы стэрэатып, што з грашыма разьвітваесься ці ня думаючы, ці шкадуючы.

У адрозьненьне ад проста прадаўца, *кансультант*, толькі глянуўшы на наведніка крамы, ацэніць, калі да таго наблізіцца і, галоўнае, пра што загаварыць — каля якога тавару, зь якой цэнавай катэгорыяй.

Задача *кансультанта* — расказаць, што, для чаго, чаму за столькі і як надоўга. *Прадавец-кансультант* — гэта той чалавек у краме, які ня можа ўцячы, сказаўшы, што вінаватая ўся эканамічная палітыка дзяржавы ці хаця б тававед. З адкрытымі ці вельмі дасьведчанымі спажыўцамі можа, а то й павінен пагаварыць пра абсурднасьць сучаснага экспарту-імпарту, цэнаўтварэньня і суадносінаў «якасьць — цана». І заразом успомніць наступ кітайцаў.

*Прадавец-кансультант* — важная адзінка ў працэсе абмену грошай на тавар — гэта і *тавараввед*, які ведае, што прадаецца, і крыху

*мэрчэндайзэр*, што ўдзельнічае ў плянаваньні выстаўленьня тавару, каб схапіць увагу кліента, і *псыхоляг*, і *пэдагог*, і нават у нечым *анатаміст*.

*Прадавец-кансультант* — гэта *гандляр-асьветнік*. Зьвярнуўшыся да *прадаўца-кансультанта*, вы можаце атрымаць асалоду ад тавару ці паслугі — памацаць, памроіць пра іх ужытак і абмяняцца эмоцыямі што да выніку. Зрабіць вандроўку ў прываблівы сьвет рэчаў ці паслуг. Нібы купіў, нібы тваё, нібы патрэбна. А лепш — безь «нібы».

У Беларусі падрыхтоўка *прадаўцоў-кансультантаў* пачала рэалізоўваецца сумесна з замежным удзелам. Рыхтуюць беларускі гандаль да стандартаў Эўразьвязу, каб паламаць уяўленьне пакупніка аб яго правах у працэсе абмену грошай на тавар ці паслугу, каб гэтыя правы не абмяжоўваліся толькі ўцёкамі з крамы ці магчымасьцю паскардзіцца ў вечна схаванай «Кнізе водгукаў». І разглядаецца праект як адзін з важных кірункаў у фармаваньні цывілізаванага стаўленьня чалавека да сябе, ну а пасьля ўжо й да іншых.

## Кантроль

*Даніл Альпяровіч*

XX стагодзьдзе. Яго канец. Цягнік Бэрлін — Масква. Еду на Радзіму, у Менск. Перад Берасьцем у вагоне пачынаецца мітусьня: памежнікі, мытнікі, як мурашкі — туды-сюды, сюды-туды. У маё купэ заскоквае жанчына-старшына. Я не

памыліўся: не ўваходзіць, а менавіта заскоквае...

— Куды едзем?

— У Менск.

— Нашто?

— Гэта мая Радзіма.

— Што вязем? — гэта ўжо з-за яе шырокіх плячэй пытае мытнік.

— Нічога, толькі неабходнае, — адказваю. — Вось валізка.

— А дзе астатняе? — не задаволіўся мытнік.

— Больш нічога няма, — мой адказ.

Пачаўся надгляд. Той, які завецца шмонам...

Каманда «Выходи с паспортами!» Выйшлі на пэрон, аточаны салдатамі з аўтаматамі. Пачаўся кантроль дакумэнтаў... Такога я больш, дзякаваць Богу, ня бачыў.

Я выглядаў бы вельмі наіўным, калі б быў супраць *кантролю*. Ён патрэбен. Але чаму так няветліва, так жорстка і злосна? Адказу няма.

— Цярпі! — кажу я сам сабе, — хутка гэты зьдзек скончыцца. І на Радзіме нешта ж пераменіцца...

Пасьля таго *кантролю* я ня быў на Радзіме 12 гадоў.

XXI стагодзьдзе. Пачатак... Менскі аэрапорт з ганаровым званьнем «Нацыянальны». Значыць, найлепшы, выдатны.

4-я гадзіна раніцы. Неўзабаве два рэйсы ў Заходнюю Эўропу. Нейкі разумнік вырашыў, што калі ты ў тым кірунку лятаеш, то можаш зь Менску на лётнішча й на таксі дабрацца. Не зьбяднееш... Аўтобусы пачынаюць работу а 6-й. Ветліва.

Заля вылету на другім паверсе. Праезд на эстакаду, што вядзе туды, зачынены. У цемнаватым вэстыбюлі вас сустракаюць тры міліцыянты. Знаёмае пытаньне.

— Куды ляцім?.. Кантроль... Пашпарт, білет. Шчасьліва!

Цягнуся па шырокай лесьвіцы зь цяжкім чамаданам у руцэ ажно на другі паверх.

Зноў *кантроль*, зноў надгляд. Цяпер ужо апаратны... Нават два, калі не лічыць *кантролю* білетаў, ужо другога за раніцу.

Калі б ня ведаць, то можна падумаць: «Якая заможная краіна! Суцэльны *кантроль*. Грошай не шкада». У крамах маладыя дзецюкі лянiва шпацыруюць перад касамі. Пазіраюць насьцярожана і сурова. «Ахова»! Каго ад каго? Амаль у кожным гарадзкім тралейбусе-аўтобусе-трамваі свой *кантралёр*-касір. Як за часы далёкага дзяцінства ў сярэдзіне XX стагодзьдзя.

Час спыніўся. Ці што?

## Лятарэя

*Рыгор Сітніца*

Калісьці ў далёкім паляшуцкім маленстве я ўпершыню пачуў гэтае чужынскае слова, якое за паўдня абляцела нашу вёску разам з шалёнай навіною: «Хахол» выйграў у *лятарэю* прымач «Акіян».

Гэта было, як цяпер кажуць, крута. Ох і зайздросьцілі ж прымаку з суседняе Чарнігаўшчыны «Хахлу», які ў той жа дзень займеў яшчэ адну мянушку — «*Лятарэйшчык*».

«Гэта ж трэба, — казалі адзін аднаму вяскоўцы, — купіў у мястэчку за паўрубля нейкую *лятарэю*, паперку дый толькі, і на табе — лічы, што дармовы “Акіян”».

Ці ня ў той жа дзень ледзь ня ўся вёска мела ў кішэнях тыя цудадзейныя *лятарэі*. Але аблом быў вялікі — *лятарэйнае* шчасьце на гэты раз наш кут абмінула. Лаяліся людзі й сьмяяліся — і сьмех і грэх, як той казаў.

Але сьмех неўзабаве перарос у рогат, калі ад разьюшанай жонкі «Хахла» дазналіся, што п’яны прымак, каб набыць дзьве сотні *лятарэйных* білетаў, пусьціў у распыл ці ня ўсё, што ашчадная маладзіца гады два цішком адкладвала.

«*Лятарэйшчык*» жа бедаваў ня дужа — на астачу добра абмыў выйгрыш: маўляў, такое бяды, што выйграў толькі адзін білет, затое як выйграў — «Акіян»!!!

Вясковыя дасьціпнікі хутка падлічылі, што кошт *лятарэйнага* «Акіяна» стаўся для «Хахла» ці ня ў дзесяць разоў даражэйшым за сапраўдны. Тады й зьявіўся ў вёсцы досьціп, які пераржыў і «Хахла», і ягонае няўклюднае *лятарэйнае* шчасьце: «Выйграў, як «Хахол» у *лятарэю*».

Раз-пораз прыгадваючы гэты досьціп, згадваю й тое, што слова *лятарэя* ў народнай сьвядомасьці трывала атаесамляецца са словам *халява*. Гаворка, зразумела, не пра тыя халявы, па якіх, згодна зь вядомай прымаўкай, пазнаюць пана. Тут вядзецца пра магчымасьць атрымаць нешта задарма ці, як той казаў, на дурніцу. А тут, куды ні глянь, заклікаюць, заахвочваюць. На кожным канале тэлевізіі вам прапануюць ня толькі набыць *лятарэю*, а й наабяцаюць столькі

*халяўнага* шчасьця, колькі лаўцам *лятарэйнай* удачы й ня сьнілася.

І знаходзіцца чарговы «Хахол» і, гуляючы ў *лятарэю*, пачынае гуляцца дабрабытам ці нават лёсам ня толькі сябе любімага, а то й жонкі ды дзетак.

Дык то ў сям'і малой. А што, калі паглядзець на сям'ю вялікую? Колькі ў сваёй гісторыі беларусы станавіліся закладнікамі разнаітых, ня намі зладжаных *лятарэяў*. Колькі разоў нас выйгравала то адна імпэрыя, то іншая. Колькі разоў ці той «прымак», ці іншы спрабаваў пагуляцца намі ў *лятарэю*. Заўсёды была, ёсьць і будзе спакуса нешта выйграць *на халяву*. Вось толькі каб не апынуцца нам усім разам у незайздросным стане таго, які «выйграў, як «Хахол» у *лятарэю*».

## Мабільнік

*Вячаслаў Ракіцкі*

Як толькі зьявіўся сотавы тэлефон, на абсягах былога Савецкага Саюзу ён атрымаў слэнгавы назоў — *мабільнік*. Час «новых рускіх» у 1990-я гады меў свае слоўніцтва, і ўсё новае, што ўваходзіла ў іхны побыт, атрымлівала іхныя назовы. *Мабільнік* быў прыкметай абраных часам новых багацеяў. Для іншых — такі самы прадмет зайздрасьці, як калісь джынсы ці транзыстары. А на шчасьлівых уладальнікаў *мабільнікаў* нават палявалі дробныя рабаўнікі.

Народжаны ў імклівы час, *мабільнік* нашмат

хутчэй трапляў у кожную кішэню, чым у 60-я гады ўваходзіў у кожны дом тэлевізар ці магнітафон. Патэлефанаваць лёгка навучыліся і пэнсіянэры, і дзеці. *Мабільнік* злучыў са сьветам і беларусаў на хутарох, якія дзесяцігодзьдзямі чакалі тэлефанізацыі.

*Мабільнік* — яскравы прыклад таго, як тое, што ствараецца дзеля дабра, становіцца злом. Навукоўцы даказалі, што выпраменьваньне сотавых тэлефонаў можа прывесьці да шматлікіх хваробаў, улучна з ракам. Карыстаньне ж *мабільнікам* у часе кіраваньня аўтамабілем становіцца прычынай шматлікіх аварыяў. Няспыннае павелічэньне функцыяў тэлефона спрыяе залежнасьці людзей ад таго, што стваралася ўсяго толькі для тэлефоннай сувязі. Амэрыканскі пісьменьнік Стывэн Кінг нават напісаў раман «*Мабільнік*» (Cell), у якім людзі ад размоваў па сотавым тэлефоне становяцца мабілапсыхамі.

*Мабільнік* мае й «шпіёнскія» функцыі: лёгка праслухоўваюцца размовы і вызначаецца месца знаходжаньня ўладальніка апарата, чым і карыстаюцца беларускія спэцслужбы ў сачэньні за апазыцыянэрамі. А напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году беларускія ўлады замовілі дарагую спэцыяльную тэхніку ў галоўнай тэлекамунікацыйнай кампаніі Швэцыі і Фінляндыі TeliaSonera. З дапамогай той тэхнікі апэратары мабільнай сувязі «адсканавалі» плошчу Незалежнасьці, дзе адбываўся мірны пратэст супраць фальсыфікацыі выбараў, і паводле выяўленых там у часе падзеі нумароў *мабільнікаў* перадалі праваахоўным органам інфармацыю, хто знаходзіўся на плошчы. Пачаліся новыя допыты і арышты.

У тым, што сотавыя тэлефоны праслухоўваюцца, беларускае грамадзтва перакананае. Па *мабільніках* апазыцыянэры, журналісты, людзі літаратуры і мастацтва, бізнэсоўцы — усе, каго баіцца і за кім сочыць улада — цяпер размаўляюць намёкамі і абавязкова ўжываюць фразу «толькі не па *мабільніку*». А ў офісах, у кватэрах, гатэлях, калі людзі хочуць, каб іхная размова засталася канфідэнцыйнай, адключаюць тэлефоны ці нават вымаюць акумулятары. *Мабільнік* вучыць пільнасьці і кансьпірацыі. Засьцерагае: «Не балбачы лішняга!»

## Нафта

*Андрэй Лапцёнак*

*Нафта* — слова не беларускае, але, прамаўляючы яго, з Плініюсам Старэйшым мы б паразумеліся. Рымскі пісьменьнік-эрудыт, аўтар «Натуральнай гісторыі» яшчэ ў I стагодзьдзі абазваў так гаручую вадкасьць. Праўда, у імпэрыю слова трапіла ад грэкаў, тыя ў сваю чаргу запазычылі яго ад пэрсаў. Слова ад пачатку матэрыялізавалася, але праз стагодзьдзі і для Ірану, і для эўрапейцаў набыло канкрэтны кошт. Дажыві Плініюс да сёньня, у сваім жа ж вядомым крылатым выразе in vino veritas ён пэўна зрабіў бы істотную папраўку на карысьць нафты.

«Чорнае золата», «кроў зямлі» — мэтафары, прыдуманыя не беларусамі.

За адным — актуалізацыя часам: чорныя рабы, зярняты кавы, чакаляда, вугаль, нарэшце,

*нафта*. За другім — кроў, крывацёк, рана, барацьба, энэргія, выкрыцьцё, несправядлівасьць.

У такім разе і лепшым назовам для галівудзкай кінастужкі пра *нафту*, якая намінавалася на «Оскара» ў 2008-м, магла стаць дакладная цытата зь Бібліі: «There will be blood» — «І будзе кроў». А «крывавыя» калізіі канца XX стагодзьдзя гісторыкі так і назавуць эпохаю барацьбы за *нафту*.

У наш час *нафта* ня толькі дала зручную падставу падыскутаваць з харызматычнымі народамі на Блізкім Усходзе, Каўказе ці ў Паўднёвай Амэрыцы, але й займела амаль сакральны сэнс. Часам праяўляецца і двухсэнсоўнасьць. Нават з канкрэтным коштам, *нафта* — больш умоўнасьць. Барацьба ідзе за людзей, электарат, тэрыторыю. Нават за тую, дзе сваёй *нафты* няма. Вось і яшчэ адзін сэнс гэтага слова — «незалежнасьць».

Беларусы, натхнёныя правадырамі, гатовыя шукаць «залатую арганіку», каб здабыць эканамічную моц для краіны. Пакуль шукаем, маем шанец з чужой *нафты* рабіць някепскі бэнзін. З гэтага жывуць ня толькі работнікі найбольшых ва Ўсходняй Эўропе НПЗ у Наваполацку і Мазыры. Ці шмат у беларусаў сваёй *нафты*? Маленькія паклады знойдзеныя, аднак беларусы вераць, што знойдуць, «каб хапіла і ўнукам». За кошт веры і выжываюць. Хутчэй бы знайсьці, каб аднойчы не зьдзівіцца, што на *нафце* ўжо і ня езьдзім, што машыны электрычныя, а самалёты на вадародзе, што *нафта*, як калісьці і вугаль, пачынае выпадаць з найноўшай чалавечай гісторыі, а завязана ўсё цяпер на прыродны газ.

## Незалежнасьць

*Зянон Пазьняк*

У беларусаў ёсьць тры скарбы, якія вызначаюць іхняе існаваньне ў сьвеце: *беларуская мова*, *незалежнасьць* (незалежная дзяржава) і *гісторыя* (гісторыя культуры). На гэтых трох кітах трымаецца беларуская нацыя.

*Незалежнасьць* дае магчымасьць рэалізавацца мове, культуры і асобе як носьбіту гэтай мовы й культуры.

*Незалежнасьць* дае магчымасьць людзям працаваць на сябе і стацца заможнымі.

*Незалежнасьць*, як і свабода, не існуе асобна, але ў сэрцах людзей. Яе дасягаюць і маюць тыя, хто хочуць *незалежнасьці*.

Рэвалюцыйныя падзеі 25 жніўня 1991 году, калі *незалежнасьць* Беларусі была дасягнутая ў выніку перамогі ў парлямэнце дэпутацкай Апазыцыі БНФ (пры падтрымцы народу) над камуністычнай большасьцю, — вымоўна пацьвярджаюць гэтую праўду гісторыі.

## Палітэмігрант

*Сяргей Навумчык*

Заўважана: хто пакідае Радзіму змушана, спадзяецца, што пакідае яе на кароткі тэрмін. І гісторыя народаў Эўропы мінулага стагодзьдзя сапраўды мае прыклады, калі *эмігранты* вярталіся даволі хутка, і часам — як Масарык

у Чэхіі — на прэзыдэнцкія пасады. Некаторыя заснавальнікі БНР таксама праз ня вельмі працяглы час вярнуліся ў Савецкую Беларусь — каб быць забітымі ў Курапатах і ГУЛАГу. Наступныя пакаленьні беларускіх *палітэмігрантаў* клаліся ўжо ў зямлю на чужыне.

Юрыдычнае адрозьненьне *палітычнага эмігранта* ад эканамічнага — палітычны ня можа прыехаць на Радзіму. Сутнаснае адрозьненьне — ён марыць туды вярнуцца. Не турыстам і ня госьцем прыехаць, а вярнуцца так, як вяртаюцца ў свой дом, вярнуцца назаўсёды. Жывым, а не ў зямлю.

## Паркінг

*Сяргей Харэўскі*

Савецкае начальства ня мысьліла сабе, што аўтамабілі могуць быць і ў звычайных людзей. Таму ходнікі для пешаходаў пры сацыялізьме рабіліся ў Беларусі шырокія. А двары, рыхтык паркі, засаджваліся дрэвамі. Пасьля пад вокнамі выраслі яшчэ бэзы, рабіны ды акацыі. Зрэшты, і сапраўднаму паркабудаўніцтву ў БССР аддавалася вялікая ўвага. Высаджвалі кучаравыя клёны й прысвойвалі пасадкам штогод некучаравыя імёны: 70-годзьдзя, 55-годзьдзя, 45-годзьдзя ды гэтак далей. Пра іх назвы мы сталі згадваць толькі цяпер, калі іх сякуць пад паркоўкі, *паркінгі* ды якое іншае будаўніцтва.

Вядома, былі свае месцы і для аўтамабіляў начальства — дыхтоўныя гаражы ці хоць бы індывідуальныя лапікі асфальту ў прыкметных

месцах непрыкметных двароў. Машын, аднак, станавілася ўсё болей. Нават і ў звычайных людзей. І каравыя гаражы, з бэтоннага хламу й жалеза, пачалі паўставаць паўсюдна там, дзе, здавалася б, самае месца паркам. У гаражах народ абсталёўваў сабе і майстэрні, і бульбасховішчы. Але нават тады ўжо некаторыя задумляліся пра большае. Гэтак узьнік салідны будынак аўтатранспартанае гаспадаркі Савету міністраў БССР — паводле праекту Марата Гроднікава. Гмах незвычайнага цыліндрычнага выгляду патрапіў у розныя савецкія часопісы ды кніжкі, а архітэктар здабыў некаторую нават славу.

Сёньня тое, што калісь называлі шматузроўневымі стаянкамі або проста гаражамі,ператварылася ў *паркінгі*. І ставіць іх пачалі акурат на месцы колішніх паркаў ды сквэраў. Спачатку ў іх не было нават сьценаў, як ля менскага Камароўскага рынку. Было, што й машыны зь іх валіліся. Без спачуваньня з боку тамтэйшае публікі. А пасьля паўсталі *паркінгі* і ацепленыя. Са сьценамі. Вакол іх абляпілі рознымі крамкамі-яткамі. Нават не адразу сьцяміш, што гэта перадусім гмах для часовага зьмяшчэньня аўтатраспартных сродкаў. За грошы. Шкада, што ім не прысвойваюць імёны, як савецкім паркам. Не адразу ўцяміш, пра што гаворка. Балазе іх пакуль нямнога. Але, як ні назаві гэтыя спаруды, ахвочых плаціць за іх да сёньня няшмат. Бо, як высьветлілася, нават у самых цесных дварах знойдзецца ўсё ж месца. Бясплатна. І рэч не ў тарыфах і кошце. Але такая ўжо нашая беларуская завядзёнка. Не плаці, калі можаш! Дый *паркінг*, згадзіся, усё ж не гараж! Бульбы туды не складзеш.

# Перапіс

*Кастусь Бандарук*

Адразу некалькім людзям, у тым ліку Чэрчылю, прыпісваюць крылатую фразу: «Існуе хлусьня, страшэнная хлусьня і... статыстыка». Да гэтых трох ступеняў хлусьні я дадаў бы *перапіс* насельніцтва. У адным я ўдзельнічаў, і браць удзел у наступным ужо не хацелася б.

Цягам вясны 2011-га на Падляшшы зьбіралі інфармацыю пра жыхароў, прычым чатырма спосабамі: па тэлефоне, праз аналіз зьвестак з розных установаў кшталту ЗАГСаў, празь перапісчыкаў, што хадзілі па кватэрах, і, нарэшце, упершыню мэтадам *самаперапісу* па інтэрнэце — да такога спосабу людзей, дарэчы, актыўна падахвочвалі. Трэба было адказаць альбо на 16 агульных пытаньняў, альбо — прыблізна кожнаму пятаму — амаль на сто падрабязных пытаньняў. Цікавіліся таксама нацыянальнасьцю, веравызнаньнем і моваю хатніх зносінаў.

У бюлетэні цераз інтэрнэт мая жонка і я з прыроднай шчырасьцю напісалі, што мы — беларусы і мова наша — беларуская, а дома мы размаўляем, а то й спрачаемся па-беларуску і па-польску. Аднак аказалася, што па ўсёй краіне перапісчыкі апыталі толькі 20% жыхарства, а там, дзе меншасьцяў меней чым 10%, іх ігнаравалі. У некаторых беларускіх вёсках ніхто перапісчыка наагул не бачыў. Яшчэ ў іншых цалкам не пыталі пра нацыянальнасьць, а калі нехта цікавіўся, як яго запісалі, то мог пачуць адказ: «Ну, вядома, паляк. Жывем жа ў Польшчы, дык усе мы палякі».

Зьвесткі *перапісу* засакрэчаныя, і я не магу даведацца, кім мяне запісалі. Хвалююся, што на старасьці гадоў я зусім іншы, чым я думаў. Я мог быць у статыстыцы пазначаны як паляк і ў выніку ня быць далучаным нават да тых 47 тысяч беларусаў у Польшчы — такую лічбу паказаў гэты *перапіс*. Баюся нават горшага. У выніку *перапісу* я мог стаць будыстам, нежанатым, непісьменным, беспрацоўным, бамжом, які ніколі не бываў за мяжою, гэта значыць, што мяне ніколі не было у чэскай Празе. Калі ў Варшаве ўсё самі лепей ведаюць, у тым ліку й хто я, дык навошта праводзіць *перапіс*?

## Плошча

*Валянцін Акудовіч*

Калі згарнуць усю прастору існаваньня чалавека да першаасновы, дык перадусім трэба вылучыць *Поле* і *Плошчу*. На *Полі* чалавек адпрацоўвае сваё жыцьцё, а на *Плошчы* яго сакралізуе. Урэшце, фэрма, фабрыка, завод — гэта накрытае дахам *Поле*. А царква, тэатар, катэдра — тая ж *Плошча*, адно што са сьценамі.

Дарэчы, на *Плошчу* чалавек прыходзіць ня жыць, а надаваць жыцьцю сэнс. Гэтак было і ў сакавіку 2006 году, калі маладыя людзі разгарнулі на *Кастрычніцкай плошчы* змагарныя намёты. Іх дзея па сутнасьці нічым ня розьнілася ад містычных рытуалаў, якія нашы першапродкі ладзілі на вытаптаным у гушчары лапіку вольнай прасторы. Альбо ад рэлігійных містэрый,

што інсцэнізаваліся ў сьценах сярэднявечных касьцёлаў Беларусі. Бо на *Плошчы* яны не намёты паставілі, а трагічную драму, у якой распавядалася пра свабоду як сэнс жыцьця. І гэта была надзвычай прыгожая дзея, паколькі няма нічога больш прыгожага за мужнасьць. Магчыма, толькі там, на Плошчы, я зразумеў, што мужнасьць — катэгорыя перадусім эстэтычная.

Потым мне казалі: сапраўды, спэктакль быў прыгожы. Але ён скончыўся, і што?

Дык гэта ж зусім неістотна, што ён хутка скончыўся. Істотна, што ён быў і што быў прыгожы. Колькі можна вымяраць змаганьне за свабоду адно палітычным вынікам? Сакавіцкая *Плошча* падарыла нам такую прыгажосьць беларускага духу, якая мае вартасьць большую за хоць якую палітычную перамогу. Глыбока памыляецца той, хто лічыць, быццам усе праблемы Беларусі завязаныя на ўладзе. Асноўная праблема палягае зусім у іншым, а менавіта ў тым, што Беларусь яшчэ для шмат каго не настолькі прыгожая, каб яе можна было палюбіць усім сэрцам.

Я ніколі так моцна не любіў сваёй краіны, як тады, калі *Плошча* трагічна апусьцела.

## Рэстаўрацыя

*Алег Дзярновіч*

Дзякуючы працэсам паўставаньня нацыяў, якія ў XIX стагодзьдзі паўсюдна апаноўвалі Эўропу, помнікі мінулага сталі лічыцца дакумэнтамі гісторыі нацыі і сымбалямі калектыўнага

гонару. Помнікі пачалі масава ахоўваць і аднаўляць. Для гэтага працэсу з позьняе лаціны быў запазычаны адмысловы тэрмін — *restauratio*.

Для Беларусі *рэстаўрацыя* мае яшчэ дадатковае гучаньне — менавіта з праблемамі ўратаваньня і аднаўленьня помнікаў архітэктуры зьвязанае зараджэньне грамадзкай актыўнасьці найноўшага часу. 20 сакавіка 1988 году ў Менску на пляцы Волі адбыўся адзін зь першых неафіцыйных мітынгаў, як казалі самі арганізатары-«талакоўцы» — «у інтэнцыі абароны Верхняга гораду». Праблема заключалася ў тым, што пад архітэктурнымі аб’ектамі гэтай гістарычнай часткі Менску мела прайсьці другая лінія мэтро, будаўніцтва і эксплюатацыя якога беспасярэдне пагражала стану помнікаў. Між іншым, тады ўлады ўлічылі патрабаваньні грамадзкасьці і часткова скарэктавалі праект менскай падземкі.

1990-я, а яшчэ ў большай ступені 2000-я гады сталі пэрыядам актывізацыі *рэстаўрацыйнай* працы ў Беларусі. Ня варта зусім удавацца ў нігілізм, але ў гэтым працэсе былі і ёсьць свае набыткі ды свае страты. У гэтую сфэру прыходзяць новыя інвэстыцыі, але вельмі часта незваротна зьнікае аўтэнтыка. Адчуваньне каштоўнасьці апошняга так і ня стала агульнапрынятым — забудоўнікі і архітэктары-канфармісты давядуць вам пра кепскі стан захаванасьці старажытных муровак і слабасьць падмуркавых канструкцыяў… Свой жа прафэсійны і людзкі абавязак *рэстаўратараў* яны не гатовыя выканаць спаўна.

Як і дваццаць гадоў таму, праблемы *рэстаўрацыі* вырываюцца па-за свой адмысловы прафэсійны кантэкст і застаюцца раздражняльнікамі

для грамадзтва. Часам права на захаваньне якой-небудзь камяніцы ў нашых гарадох і мястэчках прыходзіцца адстойваць праз публічныя акцыі, як тое ўжо здаралася ў Горадні. Няўжо мы прасунуліся так зусім недалёка?

## Самазьнішчэньне

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Сынонімы: *самагубства*, *самагвалт*, *самабой*.

*Самазьнішчэньне* — працэс, расьцягнуты ў часе. Узьнікае пры поўнай або частковай страце зроку — невідушчасьці. Ня столькі фізычнай, колькі мэнтальнай. Уласьцівы бальшыні прадстаўнікоў *homo sapiens*, але адольны й рэгуляваны пры наяўнасьці прарока ў сваёй Айчыне. Абвастрэньне хваробы звычайна зьвязанае з узьнікненьнем ілжэпрарокаў.

Апошнім Прарокам у Беларусі быў герой аднайменнага вершу Купалы. Непачутага, невядомага, незразумелага, а значыць, не ўспрынятага бальшынёй. Разгубленасьць, страта арыенціраў і, як вынік, сьляпая вера ілжэпрарокам, якія лічаць сябе сапраўднымі прарокамі, паглыбляе працэс самазьнішчэньня, які мае магчымасьць перарасьці ў цяжкую форму *самазьнішчэньня*.

Каб гэтага не адбылося, трэба ўсяго толькі прачнуцца.

## Санкцыя

*Аляксандар Лукашук*

Слова, якое спатыкаецца пасярэдзіне, каб пераліцца ў невыразны канчатак жаночага роду. *Акцыя*? *Санацыя*? *Санкт*...

Пыл, які ўздымаецца, калі бразнуць старым томам Крымінальнага кодэксу па стале — *санкцыя* на арышт.

Расьцягнутыя непаслухмяныя губы міліцэйскага чына, якому выдалі даўкі сынонім будучага гумавага пагрому: «Грамадзяне, разыдзіцеся, гэтае мерапрыемства *несанкцыянаванае*...»

І раптам — *санкцыі* ЗША. *Санкцыі* Эўразьвязу. Палітычныя, эканамічныя, візавыя. За фальсыфікацыю выбараў, за расправу над іншадумцамі, за палітвязьняў. Супраць пракурораў, судзьдзяў, рэктараў, дырэктараў, рэдактараў, алігархаў, міністраў і іх начальніка.

*Санкцыі* абароны, дапамогі і падтрымкі.

*Санкцыі* салідарнасьці.

*Санкцыі* надзеі.

## Сеціва

*Сяргей Шупа*

Хто б яшчэ гадоў дваццаць таму — у канцы XX стагодзьдзя — мог сабе ўявіць, што ўсё ў нашым сьвеце — людзі, супольнасьці, арганізацыі, краіны, структуры, машыны, прылады,

думкі, мары і памкненьні — так усёабдымна і ўсёпранікальна, узаемазьвязна і ўзаемазалежна, непазьбежна і безнадзейна спляцецца, запляцецца і перапляцецца ў адну вялікую сетку ўсіх сетак — *Сусьветнае Сеціва*?

Але вось сёньня ў *сеціва* перанеслася амаль уся камунікацыя, там мы кантактуем між сабою — лістамі, паштоўкамі, тэлеграмамі, размовамі ў чатах, *мэсэнджарах*, *скайпах*, *форумах*, *дыскусійных дошках* і *сьпісах рассылак*, у *лайвджорнэлах*, *фэйсбуках*, *фкантактах*, *аднаклясьніках*, *твітэрах*.

У сеціве мы праводзім фінансавыя апэрацыі — аплачваем рахункі, купляем кнігі і дыскі, білеты ў кіно, на цягнікі і самалёты. У *сеціве* мы слухаем радыё — без прымача! — глядзім тэлевізію — без тэлевізара! — або проста глядзім усё, што толькі можна або й нельга глядзець у *ютубе*.

У *сеціве* мы чытаем кнігі, газэты і часопісы, прычым пошук выданьня, аўтара, назвы або й проста згаданага недзе слова, імя, прозьвішча займае ў нас непараўнальна менш часу, чым калісьці трэба было патраціць на гэта ў бібліятэцы.

Урэшце, калі нам трэба атрымаць любую інфармацыю амаль пра ўсё што заўгодна — як адрамантаваць прымус, як дастаць з азадка кляшча, як заквасіць капусту — наагул любое што, дзе, калі, як, чаму і за што — варта націснуць на пару клявішаў, і застанецца толькі выбраць патрэбны зь мільёнаў адказаў.

У *сеціве* і празь *сеціва* ўжо й сёньня людзі знаёмяцца, сябруюць, сварацца, займаюцца сэксам, жэняцца і ўрэшце паміраюць.

Усё гэта яшчэ гадоў дваццаць таму было цяжка сабе ўявіць. Як цяжка ўявіць сабе цяпер усю тую неверагодную безьліч новых пэрспэктываў, якая зьявіцца яшчэ праз дваццаць гадоў — у сярэдзіне XXI стагодзьдзя.

Сетка Сетак, Міжсецьце, Сусьветнае Павуціньне — *Вялікае Сеціва* злучае нас у адзін вялікі арганізм. Усе мы — клеткі гэтага сусьветнага цела. Адсутнасьць выразнай герархіі і субардынацыі робіць *сеціва* неабмежаваннай прасторай Свабоды — з усімі яе магчымасьцямі і небясьпекамі.

Слова *сеціва* было выдумана ў самым канцы XX стагодзьдзя, яно ня мае пэўнай дэфініцыі, яно ня так тэрміналягічна выразнае, як *інтэрнэт* або *world wide web*, але сёньня «Гугл» на запыт *сеціва* дае 129 000 вынікаў.

Часам здаецца, што ў *Сеціве* мы ўжо і жывем. Важна не паддацца гэтай ілюзіі і не забыцца, што жывем мы ўсё ж *у рэале*.

## Страх

*Антаніна Хатэнка*

У страху вочы вялікія... Настрашыў мех, дык і торба страшная... Баязьліваму й корч — мядзьведзь... Хто баіцца, таму ўваччу дваіцца...

Здавалася б, куды ўжо шырэй за гэты неабдымны злыдзень-*страх*, што быў выкрыты народам у вякох і загнаў бядотнае чалавецтва ў псыхозы й дэпрэсіі, у самагубствы й сьляпы алькагалізм! Аж ня тут тое было. *Страх* нахаб-

нее, мацнее, тлусьцее з нашай жыцьцябоязі, а затым падпільноўвае каторага нягегліка, ашчапервае халоднымі кіпцюрамі й абцугова трымае ва ўчэпістых абдоймах. Пакуль не за*стра*шыць астатніх. Пакуль не запануе ў цэлым навакольлі, не залезе гідкімі дрыжыкамі пад кожную сьвітку. Пакуль не набярэцца людзтва таго *страху*, як жаба мулу, і не нагоніць *страху* да самага даху.

*Страх* множыцца, як прусакі, засяляе ўсю прастору, скручвае ў спружыны час. *Страх* бярэ за шкірку й выкідае палахліўца з двара й зь лёсу. *Страх* ператварае гарачае сэрца ў лядашчы камень. *Страх* спыняе жывы крыватоk і навальваецца цямнотнай хмарай на слых і зрок, на думку й любоў. *Стр*ах *стр*аляе ў самае сэрца, асыпаецца здрадным *стр*онцыем, *стр*асае апошні спадзеў, адмяняе чаканую су*стр*эчу, апранае сьмяртэльны *стр*ой. Бо *страх* ўсёўладны і ўсярадны. *Страх* налаўчыўся *стр*ыгчы ўсіх нароўна. Такая ў яго *стр*ашэнная ўплывовасьць!

І вось ужо венцаносны ўладар сьвету стаіць, як пень у белы дзень, ні сьцяты ні павешаны, а так сабе спалатнелая здань. І здань гэтую пад *страхам* расправы куды хочаш вядзі й за што хочаш прадавай!

Так і краіна мая за доўгую гісторыю — набралася *страху* пад пахі ды мляўка шамоча каторы век: «абы ціха», «абы вайны не было». А тым часам застрашанае *«абы»* абышло ўжо ўсе абшары, усе абсягі ды ўсюды свой застыглы сьлед пакінула. І з *«абы»* павырасталі гарбы.

Клыпае па зямлі гарбаты й нязбыўна баіцца *стр*аты. *Стр*аты здароўя, жыцьця, жытла, працы, наедку, спакою, мілоты. І нават *стр*аты

*страху*. Бо што ён тады будзе калыхаць так улюбёна на сваім гарбе, калі ўчыніць хоць нешта не за *страх*, а за волю, з адказнасьці?! Гэта як у дзіцячых *стр*ашылках, што поўнілі й сілкавалі некалі піянэрскія лягеры: *страх* уганяе ў *страх*, а той прыцягвае яшчэ адну *страх*отку — і няма ад іх ратунку.

*Страху* ж якраз таго й трэба: цёпла і ўтульна яму пад нашай *страх*ою. Пад*страх*аваны *страх* і ўладай, і звадай.

Таму жывецца тут бяс*стр*ашна. І спамінаецца ў краі *стр*ашнага бяс*стр*ашша вялікі псыхіятар Карл Юнг: чалавека складаюць Эга й Цень. Што з боязі загнана ў падсьведамасьць і стала Ценем, тое насамрэч можа абярнуцца ў Харобрасьць. Вось тады са страху й пабяжыць *страх*, падцяўшы хвост, шукаць сабе іншую *страх*у й новую *страх*оўку.

## Суд

*Анатоль Вярцінскі*

*Суд* па-беларуску, беларуская *Фэміда* — зьява своеасаблівая, бо зьвязаная гістарычна са шматпакутным лёсам народу, зь няпраўдай і несправядлівасьцю. І таму даводзіцца гаварыць ня столькі пра станоўчы досьвед, згадваць, прынамсі, Судзебнік 1468 году (Статут Казіміра) ды статуты Вялікага Княства Літоўскага, у якіх былі зроблены першыя спробы сфармуляваць прэзумпцыю невінаватасьці і зазначалася неабходнасьць «слушнага караньня», колькі мець

на ўвазе *суд* скоры і няслушны, згадваць такія творы «сялянскага адваката» Францішка Багушэвіча, як «У *судзе*», «Кепска будзе» і «Ў астрозе» («Ото ж і завуць мяне на той *суд* — вучыць шанаваць і начальства, і кнут»), або купалаўскі верш-прыпавесьць, які так і называецца, зноўтакі, «*Суды*» і дзе судзяць нявесту-Беларусь.

На *суды* павялі яе, зьвязанай,
Сэрца вырваўшы зь белых грудзей,
І *судзіці* давай — як там сказана
Ў гэтым хітрым законе людзей.
Абіралі судзьдзёй ночку цёмную,
Ночку-мачыху сумнай зямлі,
Сьведкай крыўда была векапомная,
Сон і заламы стражай былі.
Прыгавор прачыталі над беднаю,
Не спытаўшы граху, віны.
Гэй, хаўтурную песьню пабедную
Над ёй сьпелі праметнай сыны...

Сёньня можам сказаць, што пясьняр у сваёй алегорыі ня толькі сьведчыў, хацеў паказаць свой час, але і прадвяшчаў. Прадвяшчаў па сутнасьці чорны трыццаць сёмы год, год вялікага тэрору — зь яго злавеснымі *квазісудамі* і жорсткімі *прысудамі*. Як бы прадказаў нашу сёньняшнюю рэчаіснасьць, калі *правасудзьдзе* падмяняецца *правам сілы*, пад выглядам *закону* чыніцца *беззаконьне*, калі беларуса *судзяць* за яго імкненьне «ня быць скотам», а звацца чалавекам, быць вольным грамадзянінам вольнай краіны... За гэта *судзяць*.

А *судзьдзі* хто? Ды ўсё тыя ж «сыны цёмнай апраметнай», усё тыя ж крыху «мадэрнізаваныя» ворагі беларушчыны.

# Сход

*Валянціна Мароз*

Назоўнік *сход* паводле словаўтварэньня ўзыходзіць да 15-ці значэньняў дзеяслова *сыходзіць/сысьці:*

дух сьвяты ‘спусьціўся’ *сышоў* на зямлю; ноч ‘наступае’ *сыходзіць* на лугі, палі, лясы; спакой ‘авалодвае’ *сыходзіць* на душу; сьнег ‘зьнікае’ *сыходзіць* з паверхні зямлі; навалы ‘мінаюць, завяршаюцца’ *сыходзяць*; у пільнай патрэбе любая прылада ‘прыдасца’ *сыдзе*; зьняверанаму хлусьня ‘будзе прынятая’ *сыдзе* за праўду; тэрмін ‘канчаецца’ *сыходзіць*; пасажыр ‘высаджваецца’ *сыходзіць* зь цягніка; чалавек ‘пакідае сваё месца’ *сыходзіць* з дому; кватарант ‘на нейкі час пакідае свой прытулак’ *сыходзіць* на працу; нерашучы ‘саступае’ *сыходзіць* з дарогі; добрыя спэктаклі рана ці позна ‘перастаюць ставіцца’ *сыходзяць* са сцэны; так і акторы ‘завяршаюць творчую дзейнасьць’ *сыходзяць* з падмосткаў; вада ‘выцякае’ *сыходзіць* па трубах і г.д. і г.д.

*Сход* — спуск, месца спуску, сумеснае паседжаньне, арганізацыйны збор, сустрэча, схіл.

Так па слоўніку.

*Сход*, сходка, зборка.

Сумеснае, калектыўнае вырашэньне спраў (у нас — аж ад часоў Полацкага веча).

У нядаўнім мінулым, тлумна-зафармалізаваным, адгукнулася ў Пімена Панчанкі пратэставым: «З-за турбот і *сходаў языкатых* // Беззваротна страцілі мы ўсе // Тысячы палаючых закатаў // І сьвітаньні трацім пакрысе...».

А ў Янкі Купалы *сход* нешта іншае: «За годам год, за родам род, // Што хвалі хмар, што плесьні вод, // Па зьменах зьмен, на ўсход, на *сход*, // Ідзе-брыдзе на быт, на звод... // За бытам быт, за стогнам стогн, // За сьмехам сьмех, за сконам скон, // За векам век, за звонам звон, // За мглою мгла з усіх старон...».

Гэта пра Сталыпінскую рэформу, пра масавае перамяшчэньне беларускіх сялян на «вольныя» землі Сібіру — аж да Ўсурыйскага краю.

*Сход*, сыход, зыход.

Адно і тое слова *сход* тоіць неаднолькавыя настроі, зьявы, вобразы: ад рухавасьці — да панурасьці, ад дзеяньня — да бязьдзейнасьці, ад МЫ — да НІХТО.

## Трэш

*Ігар Бабкоў*

Што такое *трэш*, я ня ведаю: ён глядзіць на нас адусюль і ў той жа час хаваецца, унікае ад дакладнага вызначэньня.

Само слова перакладаецца як «сьмецьце», «хлуд», але пераклад перадае толькі палову сэнсу. *Трэшам* насамрэч можа быць што заўгодна.

Звычайная плястыкоўка з каўнага аўтамата, пра якую забываеш амаль адразу, і «Мачэтэ» Радрыгеса: кіно з прэтэнзіяй на арт-гаўз, у якім антыбуржуазны сацыяльны мэсыдж расказаны з дапамогай «цытатаў» з галівудзкіх фільмаў катэгорыі B.

Аднаразовыя рэчы, якіх становіцца ўсё больш

і больш і якія жывуць *так мала*, — і мова, на якой размаўляе з намі новая эпоха.

Пэрсанажы Вольскага і Прылуцкага, што гавораць на трасянцы і элегантна гуляюцца ў калдыроў, — і калдыры з БТ, што гавораць без акцэнту і спрабуюць гуляцца ў мілых гламурных пэрсанажаў, якіх усе любяць.

*Трэш* прыйшоў у культуру: па-сур'ёзнаму і надоўга.

Больш за тое, ён стаў модным рэфлексіўным прыёмам, які мае нам дазволіць адчуць рэальнасьць такой, як яна ёсьць. Неапрацаваны, сыры матэрыял рэальнасьці, які раздражняе і прыцягвае адначасова.

Часам здаецца, што сьвет незаўважна ператварыўся ў адну вялікую сьметніцу, з каптуром набітую *трэшам*.

І пытаньне даўно ня ў тым, што некаторыя рэчы схаваныя, а іншыя даступныя, нешта высокае і недасяжнае, а іншае пад нагамі.

Больш няма аніякіх герархіяў. Усё скінута ў адну купу і барукаецца разам, у брудзе і аблоках, — рэдкае і звычайнае.

У такія часы, магчыма, адна з задачаў творцы — ствараць *асобныя месцы*. Месцы ўзвышэньняў. Паколькі важныя, высокія рэчы тонуць у *трэшы*, у «дыскурсе», менавіта таму яны й патрабуюць *асобнага*.

Асобнай прасторы, *двойчы абароненай*. І ад *трэшу*, і ад сваёй уласнай абароненасьці.

***

Вось мы й падышлі да самага істотнага.

Твор мастацтва ў эпоху *трэшу*: *абароненае*, але *безабароннае*.

# Турма

*Міхась Скобла*

Мовазнаўцы паходжаньне слова *турма* тлумачаць дваяка. Аўтар айчыннага «Слоўніка іншамоўных словаў» Аляксандар Булыка не сумняваецца, што беларуская *турма* паходзіць ад нямецкага *Turm*. А вось ягоны нямецкі калега Макс Фасмэр абачліва спасылаецца на яшчэ аднаго імавернага продка *турмы* — старажытнацюрскае *türma*, без праблемаў падшукаўшы сугучныя адпаведнікі ў татарскай і кіргіскай мовах. Магчыма, абодва мовазнаўцы маюць рацыю — азіяцкая *турма* магла спачатку пранікнуць у Нямеччыну (як сёньня туды праніклі і абжыліся там сотні мячэцяў), а ўжо потым разьляцецца па разнамоўнай Эўропе.

Іншамоўнай *турме* ўжо некалькі стагодзьдзяў спрабуе супрацьстаяць уласнабеларуская *вязьніца*. Але, нягледзячы на высілкі беларускіх пісьменьнікаў, якія ахвотна прапісвалі *вязьніцу* ў сваіх творах (Л. Геніюш, Р. Барадулін, А. Сыс), напорыстая *турма* ўсё ж перамагла, хоць, магчыма, і не канчаткова. Прынамсі, сучасныя акадэмічныя слоўнікі на *вязьніцу* дружна забыліся, падаючы месцам зьняволеньня адну-адзіную *турму*.

У дэмакратычных краінах *турма* даўно перастала атаясамлівацца з глухімі сутарэньнямі з прыкутымі да сьценаў шкілетамі. Прыкладам, у Францыі дзень узяцьця *турмы Бастыліі* адзначаецца як нацыянальнае сьвята. Тыя ж прадпрымальныя французы *турму* на сонеч-

ным востраве *Іф* ператварылі ў атракцыён для турыстаў і на поўным сур'ёзе (за 10 эўра!) пускаюць асабліва цікаўных пасядзець у камэру, дзе нібыта быў зьвязьнены Дантэс (ня пушкінскі забойца, а выдуманы герой раману Дзюма «Граф Монтэ-Крыста»).

Беларуская *турма* гучыць па-ранейшаму злавесна — пачынаючы з тых часоў, калі ўся Беларусь была зьвязьненая ў *турме народаў*, як называлі ў асьвечанай Эўропе Расейскую імпэрыю. Нашы нацыянальныя героі Касьцюшка і Каліноўскі сядзелі ў *расейскіх турмах*. Паэты Максім Танк і Валянцін Таўлай, паводле вобразнага вызначэньня аднаго зь іх, «*пілавалі вершам турэмныя краты*» ў польскіх Лукішках. Вязень савецкай турмы Міхась Чарот страшнай перадрасстрэльнай ноччу з 29 на 30 кастрычніка 1937 году проста на сьцяне турэмнай камэры выдрапаў верш «Прысяга», дзе крычма крычаў пра сваю невінаватасьць, але хіба можна нешта растлумачыць катам?

У лукашэнкаўскай Беларусі на *турэмныя нары* стала магчымым трапіць за што заўгодна: за вывешаны на навагодняй елцы бел-чырвона-белы сьцяг, за верш, які камусьці падаўся заклікам да тэрарыстычнага акту, за тачку гною, вывернутую каля рэзыдэнцыі прэзыдэнта, за сьпяваньне на Плошчы вядомай песьні «*Разбуры турмы муры*!», за спробу стаць прэзыдэнтам...

Кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году паэт Уладзімер Някляеў, седзячы ў *турме-амэрыканцы* (народная назва сьледчага ізалятару КДБ), напісаў пранізьлівую паэму «*Турма*», адкуль можна выпісваць гатовыя прыказкі і афарызмы: «турма найперш у чалавеку // ламае

не хрыбет, а дух», «навошта нам турма бяз волі, //навошта воля без турмы», «турма — ня сьцены, для турмы // не камяні сабраны — мы».

*Турма* містычна і бесцырымонна ўмешваецца ў жыцьцё на волі. Паэтка Сьвятлана Явар за тры тыдні да сваёй загадкавай сьмерці ўлетку 2011-га расказала на радыё «Свабода», як яе бацьку Барыса Сачанку (на той час — галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская энцыкляпэдыя») аднойчы тэрмінова выклікалі ў адміністрацыю прэзыдэнта і запатрабавалі прыбраць з энцыкляпэдычнага даведніка інфармацыю пра тое, як кіраўнік краіны ў свой час працаваў турэмным наглядчыкам...

Па ім *турма плача* — гаворыць беларуская прыказка. І неяк нават недарэчна задавацца гэмінгуэеўскім пытаньнем: па кім?

## Хакей

*Генадзь Бураўкін*

Хакей, як вызначае тлумачальны слоўнік, — спартыўная камандная гульня з клюшкамі і шайбай на лёдзе або зь мячом на траве.

Гэта так ува ўсім сьвеце. А ў нас, у гордай і незалежнай Беларусі, апошнім часам хакей стаў ня проста гульнёй, якую калектыўна палюбілі высокія чыноўнікі, а нават прыкметным чыньнікам дзяржаўнай палітыкі і ледзь ня сымбалем моцы і здароўя нацыі. Усёмагутныя гарадзкія і раённыя вэртыкальнікі могуць доўгія гады цягнуць з будаўніцтвам школ ці паліклінік, але

хай толькі паспрабуюць не забясьпечыць своечасовага ўводу ў строй лядовых палацаў — не пабачаць тады ні службовага росту, ні чаканых узнагарод.

У нядаўні фінансавы крызіс чаго толькі ні скарачалі ў нас — і льготы інвалідам, і штаты ў міністэрствах, і аўтобусныя маршруты ў вёсках, а вось на лядовыя арэны (дарэчы, ой якія нятанныя!) ніхто і замахнуцца не асьмеліўся ні ў мудрым урадзе, ні ў грозным камітэце народнага кантролю.

Хакей — сьвятое. У яго рэгулярна гуляе галоўны спартсмэн краіны, і для яго заўсёды павінна быць забясьпечана магчымасьць трэніравацца ў кожным абласным горадзе ці раённым мястэчку. Іначай у час сваіх бесьперапынных інспэкцыйных паездак ён можа страціць спартыўную форму, і непераможная прэзыдэнцкая хакейная каманда неспадзявана ня здолее выйграць чарговы міжнародны калядны турнір. Гэта нанясе балючы ўдар па іміджы і самай спартыўнай, як сьцьвярджаюць мясцовыя тэлекамэнтатары, краіны, і самага харызматычнага і нястомнага, як не сумняваюцца заўзятары з афіцыйных моладзевых арганізацый, лідэра.

Так што ўсю бюджэтную ласку, усю ідэалягічную жарсьць, усю ўладную кемнасьць — яго вялікасьці Хакею, спорту мужных, няўступчывых, настойлівых мужчын!

І хай ня зьдзекуюцца заморскія слабакі, калі раптам на новым беларускім гербе замест былых сярпа і молата зьявяцца дзьве перакрыжаваныя клюшкі. Беларусь жа — хакейная краіна...

# Чэр

*Ян Максімюк*

У дзяцінстве ад мае бабці і мамы я чуў выраз *сухі як чэр*. Як падляшучкі, мае бабця і мама вымаўлялі слова *чэр* з дыфтонгам: *чыэр*. На вельмі сухое сена можна было сказаць: *сухое як чэр*. Або, напрыклад, на высахлы летам мох у лесе. Як ні дзіўна, але тады я ні разу не пацікавіўся, што азначае гэты *чэр*. *Чэр* хутчэй за ўсё ўяўляўся мне нейкай расьлінай, якая можа рассыпацца на дробную пацяруху, калі яе крануцца або раздушыць у пальцах.

Так наогул дзіця вучыцца жывой мовы, калі чуе яе ўпершыню ад мамы або бабці. Спачатку засвойвае словы як нейкія «гукавыя плятонаўскія ідэі», якія існуюць па-за прасторай і часам. Усьвядомленыя значэньні пад словы падкладаюцца значна пазьней.

Канкрэтнае значэньне пад слова *чэр* мне ўдалося падкласьці толькі ў XXI стагодзьдзі, праз сорак з гакам гадоў пасьля сьмерці маёй бабці. Маёй маме цяпер 80 гадоў, і яна яшчэ помніць выраз *сухі як чэр*. Але яна ўжо ня помніць, што значыць *чэр*. І ніхто ў маёй роднай ваколіцы на Падляшшы таксама ня помніць.

Так наогул пачынае паміраць мова — калі носьбіты застаюцца сам-насам з усё большым сьпісам «гукавых плятонаўскіх ідэяў», пад якія ўжо ня могуць падкласьці ні канкрэтнага значэньня, ні нават прыблізнага ўяўленьня пра іх сутнасьць.

Нешта такое ў пачатку XXI стагодзьдзя адбы-

ваецца з роднай мовай беларусаў Беласточчыны. Я маю на ўвазе як беларускія гаворкі, так і падляскія. Адыходзіць у забыцьцё ўсё больш словаў, якія былі *жывымі* для нашых прабабцяў, бабцяў і мамаў. Калі нехта зь сёньняшніх дваццацігадовых беларусаў на Падляшшы і ведае беларускую мову на больш-менш прыстойным узроўні, ён ведае яе перш за ўсё паводле падручнікаў і слоўнікаў. Пра веданьне падляскіх гаворак няма чаго і гаварыць, бо адпаведных падручнікаў і слоўнікаў проста няма.

Значэньне слова *чэр* я знайшоў у 2011 годзе ў пятым томе «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (Менск, 1979—1986). *Чэр* — гэта *высушаная губа*, інакш грыб, які расьце на дрэвах. Запісалі гэтае слова ў вёсцы Лука на Беласточчыне, кілямэтраў за трыццаць ад маёй роднай мясьціны. «*Красадло бралі, крэмень, чэр — грыб выраблялі такі спэцыяльна — і выкрасалі агонь*», — неяк так гаварылі людзі ў той Луцэ.

У другой палове XX стагодзьдзя Луку і яшчэ чатыры іншыя вёскі, у якіх людзі ведалі значэньне слова *чэр*, дзяржава затапіла. Сёньня на месцы гэтых вёсак знаходзіцца гэтак званае Семяноўскае вадасховішча. Людзей з затопленых вёсак перасялілі ў панэльныя блёкі на ўскрай вадаёму. Я думаю, яны ўжо ня ведаюць, што такое *чэр*. Хутчэй за ўсё, і выразу *сухі як чэр* у тых панэльных блёках ужо не ўжываюць.

Калі каму трэба, у гэтым мясцовым затапленьні слова *чэр* можна бачыць і сымбаль нечага значна шырэйшага.

Ды ўсё ж слову *чэр* пашанцавала — яно нейкім цудам дажыло да XXI стагодзьдзя. Яно яшчэ

